

**Лідскі павятовы лекар у 1930-я гады Вітольд Стасевіч**
***(1900-1975 гг.)***

# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 1 ( 77 ) СТУДЗЕНЬ - САКАВІК 2017 г.


## У НУМАРЫ:



На першай старонцы выкладкі аграсядзіба “Гасціна” ў Песках Лідскага раёна. Студзень 2017 г. *Здымак С. Судніка.*



Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас: 231282, Ліда-2, п/с 7, або E-mail: naszaslowa@tut.by

Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў


Пасведчанне аб рэгістрацыі № 907 ад 18.12.2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Заснавальнік
**Валерый Васільевіч Сліўкін,**
старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, кандыдат геаграфічных навук.

Рэдактар
**Станіслаў Вацлававіч Суднік**

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
231293, Лідскі р-н, в. Даліна
АДРАС САЙТА:
http// naszaslowa.by

Наклад 300 асобнікаў
10 друк. аркушаў
Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Замова № 1040.
Часопіс падпісаны да друку 30.03.2017 г.
Часопіс надрукаваны 30.05.2017 г.

Падпісны індэкс 00257
Кошт падпіскі:
індывід. 3 мес. - 1,53 руб.
індывід. 6 мес. - 3,06 руб.
Кошт у розніцу: вольны.

ISSN 2218-1792






# Дзень роднай мовы і 10-я Агульнанацыянальная дыктоўка на Лідчыне

Міжнародны дзень роднай мовы і 10-я Агульнанацыянальная дыктоўка ў Лідскім раёне арганізоўвалася ў 2017 годзе на дзяржаўна-грамадскім узроўні. Праводзілі яе ўстановы адукацыі, культуры, грамадскія структуры. Усяго ў дыктоўцы прынялі ўдзел каля 6 000 чалавек. Асноўную масу (5008) чалавек далі ўстановы агульнай сярэдняй адукацыі. Дыктоўкі былі праведзены ў 20 населеных пунктах на 47 пляцоўках. Усяго напісана прыблізна 270 дыктовак. 270 разоў перад аўдыторыямі рознага ўзросту выходзілі настаўнікі, літаратары, сябры ТБМ. 270 разоў гучалі беларускія тэксты. Самыя юныя ўдзельнікі дыктовак - вучні 2-іх класаў, самыя сталыя - дзеці вайны, людзі якія нарадзіліся ў 30-я гады 20-га стагоддзя.

Такая масавая дыктоўка праводзіцца на Лідчыне ўжо ў другі раз. У адрозненне ад леташняга года сёлета дыктоўка ішла ў рамках праекту Лідскага райвыканкама “Беларусь - мая мова і песня”.

**Пачалі дыктоўку бібліятэкі.**

**18 лютага** пісала дыктоўку Мінойтаўская бібліятэка. Сюды прыйшлі вучні суседняй Мінойтаўскай СШ. Дыктоўка ў Мінойтах праводзілася ў другі раз, пісалі 10 чалавек.





Для дыктоўкі быў выбраны тэкст Янкі Брыля “Ўсмешка”. Чытала дыктоўку настаўніца беларускай мовы і літаратуры Мінойтаўскай школы Ганна Чаславаўна Енка.

Найлепшыя вынікі паказалі Надзея Мусатава, Марыя Шчалканогава, Данііл Чайка, Таццяна Навагран. Усе яны атрымалі призы (кніжкі лідскіх аўтараў) ад Лідскай арганізацыі ТБМ. Прызы ўручыў старшыня Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ Станіслаў Суднік.



**19 лютага**, пад Міжнародны дзень роднай мовы, чытачы Дварышчанскай сельскай бібліятэкі Лідскага раёна прынялі ўдзел у напісанні Агульнацыянальнай дыктоўкі па беларускай мове. Быў абраны адзін з прапанаваных тэкстаў - урывак з твора Янкі Брыля "Ўсмешка". Тэкст дыктоўкі прачытала бібліятэкар Марцінкевіч Людміла Ўладзіславаўна.



**21 лютага** прайшла 10-я Агульнанацыянальная дыктоўка ў Лідскай раённай бібліятэцы імя Янкі Купалы. У сценах гэтай бібліятэкі дыктоўкі пішуцца, пачынаючы з 2-й. Сёлета тэкст прадмовы Францішка Скарыны да кнігі “Эклізіяст” чытаў дырэктар бібліятэкі А.М. Мартынаў. Пісалі 35 чалавек: работнікі і чытачы бібліятэкі.



**21 лютага** літаратурную гасцёўню “Святло роднай мовы” адкрылі ў 6-м бібліятэчным філіяле г. Ліды, які носіць імя Валянціна Таўлая і размешчаны

па вул. Фурманава. У рамках гасцёўні была напісана 10-я Агульнанацыянальная дыктоўка. Дыктоўку тут пісалі ў другі раз. Прадмову Францішка Скарыны да кнігі "Эклізіяст" чытала бібліятэкар Луцыя Баляславаўна Яцэвіч. Прысутнічалі 17 чалавек, у асноўным чытачы бібліятэкі.



**21 лютага** ў бібліятэцы-філіяле № 1 прайшла гадзіна роднай мовы "Мова народа - яго святыня". У атмасферы добразычлівасці адбылася размова пра гісторыю ўзнікнення Міжнароднага дня роднай мовы. Прысутныя прынялі ўдзел у 10-й Агульнанацыянальнай дыктоўцы. Рыхтавала імпрэзу бібліятэкар Гушчынская Святлана Іванаўна.



Далучыліся да Міжнароднага дня роднай мовы і маленькія лідзяне. Для іх **21 лютага** ў 2-м бібліятэчным філіяле горада быў арганізаваны ўрок пад назвай "Прыгарніся ды роднага слова". Другакласнікі восьмай школы чыталі вершы і спявалі песні на беларускай мове, адказвалі на пытанні віктарыны. Рыхтавала імпрэзу гаспадыня бібліятэкі Рамук Алена Браніславаўна.




Імпрэзу "Беларус, роднай мовы сваёй не цурайся" ў Міжнародны дзень роднай мовы правяла бібліятэкар Тарноўскай бібліятэкі Ашмяна Таццяна Валянцінаўна.



**22 лютага** ў Лідскай гарадской дзіцячай бібліятэцы прайшла імпрэза да Міжнароднага дня роднай мовы. Арганізатар - Ягорава Тарэса Леанідаўна.



**25 лютага** 10-я Агульнанацыянальная дыктоўка прайшла ў лідскім бібліятэчным філіяле № 3. Традыцыйна сюды на дыктоўку збіраюцца сябры ТБМ, але сёлета аснову склалі вучні суседняй школы № 12. Прыйшлі шасцікласнікі. Ад ТБМ у дыктоўцы ўдзельнічалі Лявон Анацка, Станіслаў Суднік, Сяржук Чарняк.

Чытала дыктоўку бібліятэкар філіяла Алена Янаўна Паповіч. Для дыктоўкі быў падрыхтаваны тэкст "Партрэт першадрукара", прысвечаны Францішку Скарыну. У школьнай дэлегацыі найлепшы вынік паказала настаўніца (не беларускай мовы) Мікушава Рыта Эйноеўна. На другім месцы - Паліна Маскалёва, на трэцім - Зміцер Такненка.



**Гучна адзначыў Дзень роднай мовы Раённы палац культуры.**

**21 лютага**, у Міжнародны дзень роднай мовы, у малой зале Палаца культуры горада Ліды адбыўся творчы вечар лідскага барда і кампазітара, намесніка старшыні Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны Сяргея Чарняка "Пявучае роднае слова". Гэта быў другі па ліку сольны канцэрт знанага выканаўца песень, першы меў месца на гэтай жа сцэне гадоў дваццаць назад. Як адзначае сам Сяргей Чарняк, ён вельмі даўно не выконваў перад публікай столькі песень (каля дваццаці) ў адзін вечар, звычайна ўдзельнічаў у розных імпрэзах з дзвюма-трымя песнямі. А пяе Сяргей Чарняк з юнацкіх гадоў, стварае і выконвае песні на словы беларускіх (у тым ліку лідскіх) паэтаў.



Пачаўся творчы вечар, прысвечаны Міжнароднаму дню роднай мовы, з прадмовы да зборніка вершаў Францішка Багушэвіча "Дудка беларуская", тэкст якой



зачытаў перад аўдыторыяй мастак-пастаноўшчык Лідскага народнага драматычнага тэатра Алег Лазоўскі. Шмат гаварылася ў час імпрэзы пра беларускую мову як частку гісторыі і культуры беларускага народа, яго душы, галоўны нацыянальны скарб беларусаў ў выступах Міхася Мельніка і Станіслава Судніка.

Любоўю да роднай мовы пра-





сякнута і творчасць Сяргея Чарняка. Са сцэны ў яго (і не толькі ў яго) выкананні гучалі беларускамоўныя песні на словы Янкі Купалы, Максіма Багдановіча, Ларысы Геніюш, Рыгора Барадуліна, Хрысціны Лялько і многіх іншых паэтаў мінулага і сучаснасці, у тым ліку лідскіх паэтаў Міхася Мельніка і Станіслава Судніка. Асобныя песні, музыку да якіх напісаў Сяргей Чарняк, выконвалі ў той вечар салісты Палаца культуры, навучэнцы Гарадзенскага дзяржаўнага каледжа мастацтваў, а таксама хор ветэранаў "Майскія зоры". Пад канец канцэрту разам з Сяргеем Чарняком спявалі і гледачы.

**Падтрымалі клубы і музей.**

На працягу лютага ў сельскіх установах культуры ДУ "Лідскі раённы цэнтр культуры і народнай творчасці", да Міжнароднага дня роднай мовы, рэалізоўваўся праект "Успомнім мову і карані свае". Кожная ўстанова выбірала на свой густ форму правядзення - адсюль іх разнастайнасць. Так, у філіяле "Мажэйкаўскі Дом культуры" сумесна з бібліятэкай прайшоў тэматычны вечар "Гімн роднай мове". Паміж вучнямі Крупаўскай сярэдняй школы і Гудскай школай-садам на базе "Гудскага цэнтра творчасці і вольнага часу" прайшла віктарына "Дакраніся да роднага слова".



Гадзіна паэзіі "Радком сваім, яны Беларусь праслаўвілі", прайшла ў Голдаўскім клубе-бібліятэцы, дзе чыталіся вершы пра мову Пімена Панчанкі, Ніла Гілевіча, Рыгора Барадуліна, Ларысы Геніюш. Філіял "Ганчарскі Дом культуры", разам з сярэдняй школай гэтай вёскі, правялі літаратурна-музычную віктарыну "Самая мілагучная, самая трапная, самая пявучая…". Свой талент, у літаратурнай частцы, раскрылі ўдзельнікі фальклорнага аматарскага аб'яднання "Крынічка" названай установы. Госцем на мерапрыемстве быў гісторык-краязнавец Мікалай Дзікевіч.

У філіяле "Дзітвянскі Дом культуры" прайшло мерапрыемства з назвай "Родная мова, цудоўная мова! Ты - нашых думак уток і аснова!". Гледачы з задавальненнем адказвалі на пытанні Дзеда Ўсяведа, слухалі беларускія народныя песні, байкі, вершы ў выкананні ўдзельнікаў аматарскіх аб'яднанняў установы. Вучні пачатковых класаў чыталі таксама вершы пра родную мову, з уласцівай ім непасрэднасцю, чым заваявалі сімпатыю ў гледачоў.



Шмат дзе ва ўстановах пісалі дыктоўкі на роднай мове. Так, удзельнікі аматарскага аб'яднання "Вяртанне да вытокаў " філіяла "Беліцкі Дом культуры" ДУ "Лідскі раённы цэнтр культуры і народнай творчасці" пісалі дыктоўку па тэксту з рамана Якуба Коласа "На ростанях" (першая частка "У палескай глушы"). Таксама быў праведзены ўрок-гульня "Як жылі нашы продкі".

А дзякуючы Таварыству беларускай мовы, кожны ўдзельнік праекту атрымаў памятную паштоўку з выявай Лідскага замка і помніка Францішку Скарыну, на фоне якіх напісаны словы: “Краіна, Дзяржава, Радзіма, Бацькаўшчына”.

Дзень роднай мовы "Роднай мовы гук чароўны" правялі супрацоўнікі ГДК г. Бярозаўкі сумесна з Бярозаўскай дзіцячай бібліятэкай. Да свята бібліятэкары аформілі кніжна-ілюстацыйную выставу "Мову матчыну шануйце" і правялі квэст-гульню з прыпынкам "Ужываем фразеалагізмы", а таксама агляд літаратуры, размешчанай на выставе.



**22 лютага** падчас тыдня роднай мовы ў лідскім Доміку Таўлая прайшоў чарговы ўрок у рамках праграмы “Ў школу да Цёткі”. Урок быў прысвечаны ўнікальнай літары беларускага алфавіту “Ў нескладовае”. На ўрок прыехалі каля 25 чалавек са школы № 12 г. Ліды. Школа знайходзіцца далёка, часу на дарогу патрэбна шмат, таму кожная хвіліна ўрока выкарыстоўвалася напоўніцу. Дзеці паслухалі пра гісторыю ўнікальнай беларускай літары, асаблівасці яе выкарыстання на пісьме. Потым выконвалі розныя заданні, разгадвалі красворды з выкарыстаннем ***ў***. Слухалі музычныя кліпы і глядзелі відэасюжэты па тэме. Тэхзабяспячэнне тут выдатнае.



Сама тэма ўрока кожны месяц мяняецца, але любы папярэдні ўрок можна замовіць, і ён будзе паўтораны.

**Асноўны ўклад унеслі ўстановы адукацыі.**

Літаратурна-музычная імпрэза да Дня роднай мовы прайшла ў Лідскім прафесійна-тэхнічным ліцэі **20 лютага**. На імпрэзу былі запрошаны сябры лідскага літаб'яднання "Суквецце" - паэты Алесь Хітрун, Станіслаў Суднік, паэтэса, салістка ансабля польскай песні "Красавяцы" Жанна Сянкевіч, бард Сяржук Чарняк.



10-ю Агульнанацыянальную дыктоўку пісалі 28 чалавек. Тэкст Янкі Брыля "Ўсмешка" чытала выкладчыца беларускай мовы і літаратуры Кіслая Галіна Андрэеўна. Лепшыя вынікі па дыктоўцы паказалі: Каркозаў Арцём (ні адной памылкі, ні адной праўкі), на другім месцы адразу трое - Лукусь Аляксей, Хартановіч Яўген, Міцкевіч Максім. Для "тэхнароў" проста бліскуча. Пасля дыктоўкі пайшла менавіта літаратурная частка імпрэзы.

Лідскі каледж рэгулярна прымае ўдзел у мерапрыемствах, прысвечаных Міжнароднаму дню роднай мовы. Так навучэнцы 1 курса гуманітарнага аддзялення правялі гульню "Размаўляем па-беларуску", якая вельмі папулярная на сучасны дзень паміж школьнікаў і навучэнцаў. У гэты дзень у каледжы заняткі па большасці прадметаў вяліся на роднай мове, а таксама ў час перапынкаў гучала беларуская гутарка.

У гэтым годзе праводзілася юбілейная 10-я Агульнанацыянальная дыктоўка. Актыўны ўдзел у мерапрыемстве прынялі і навучэнцы Лідскага каледжа. Дыктоўку пісалі юнакі і дзяўчаты 1-4 курсаў гуманітарнага і будаўнічага аддзяленняў, аддзяленняў механікі і электронікі. Агульная колькасць пісаўшых



дыктоўку склала 280 чалавек. У асноўным навучэнцы пісалі тэкст "Усмешка" Янкі Брыля.

Сёлета да напісання дыктоўкі далучыліся выкладчыкі і работнікі каледжа, якія пісалі прадмову Францішка Скарыны да кнігі "Эклізіяст". Хочацца адзначыць, што большасць выкладчыкаў напісала дыктоўку на "выдатна".

Штогод **21 лютага** ва ўсіх установах агульнай адукацыі Лідскага раёна адзначаецца Сусветны дзень роднай мовы, праводзяцца розныя акцыі: "Гавары са мной па-беларуску", "Мае любімыя беларускія словы", "Напішы СМС па-беларуску", "Вітаемся па-беларуску", "Мы за родную мову" і інш.

З мэтай папулярызацыі і падтрымкі беларускай мовы на класных гадзінах настаўнікамі беларускай мовы і літаратуры, класнымі кіраўнікамі ўстаноў адукацыі праведзена дыктоўка, у якой прынялі ўдзел 5008 вучняў II - XI класаў.

Дыктоўкі прайшлі ў 33 установах адукацыі раёна. Некаторыя школы ўдзельнічаюць у дыктоўцы трэці раз (Ходараўцы), а асноўная маса - у другі.



Найбольш масавыя дыктоўкі прайшлі ў СШ № 17 - пісалі 585 чалавек; у СШ №12 - пісалі 529 чалавек; СШ № 1 - пісалі 405 чалавек; СШ № 15 - пісалі 342 чалавекі; СШ № 9 - пісалі 336 чалавек і г.д.

У гімназіі № 1 г. Бярозаўкі, бярозаўскіх СШ № 2 і СШ № 3 у дыктоўцы ўдзел узяла прыкладна роўная колькасць вучняў: 127, 118 і 121 чалавек адпаведна.

Сярод сельскіх школ 181 чалавек пісаў дыктоўку ў Першамайскай СШ, 179 чалавек - у Дзітвянскай СШ, 101 чалавек - у Ёдкаўскай СШ; 92 чалавекі - у Ваверскай СШ і г.д. Дыктоўкі праводзіліся па класах, магчыма, недзе ў сельскіх школах класы аб'ядноўвалі, але ў цэлым у школах прайшло каля 240 дыктовак. Другі год школьная Лідчына ў агульнабеларускую скарбонку дадае 5 тысяч удзельнікаў дыктоўкі.

Акрамя дыктоўкі традыцыйным ва ўстановах адукацыі Лідскага раёна стала правядзенне ў лютым Тыдня беларускай мовы. У планы святочных мерапрыемстваў ва ўсіх установах адукацыі ўключаюцца разнастайныя тэматычныя вечарыны; конкурсы на лепшага дэкламатара твораў, прысвечаных роднай мове; віктарыны; завочныя экскурсіі; вусныя часопісы, прысвечаныя творчасці беларускіх пісьменнікаў і





мовазнаўцаў; кніжныя выставы. У кабінетах беларускай мовы і літаратуры арганізаваны выпуск насценных газет, прысвечаных жыццю і творчасці беларускіх пісьменнікаў, пытанням развіцця беларускай мовы і культуры. У бібліятэках пастаянна дзейнічаюць кніжныя выставы рознай тэматыкі.

**Давяршылі грамадскія арганізацыі.**

**19 лютага** ў Бярозаўскай гарадской бібліятэцы Лідскага раёна пісалі дыктоўку сябры Бярозаўскай арганізацыі ТБМ. Дыктоўку ў Бярозаўцы пісалі ў дзявяты раз. Пісалі прадмову Францішка Скарыны да кнігі "Эклізіяст". Чытаў старшыня Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ Станіслаў Суднік.



Найлепшы вынік паказаў старшыня Бярозаўскай арганізацыі ТБМ Сяргей Дычок, другое месца заняў Андрэй Ашурак, на трэцім - Юрась Дзяшук. Пераможцы атрымалі прызы (кнігі Леаніда Лаўрэша).

Міжнародны дзень роднай мовы ў літаратурным аддзеле гістарычна-мастацкага музея **19 лютага** пачалі адзначаць "дзеці вайны". У гэты дзень яны пісалі 10-ю Агульнанацыянальную дыктоўку па ўрыўку з апавядання "Ўсмешка" двойчы ветэрана вайны Янкі Брыля. Пераможцамі сталі куратар ваенна-гістарычнай гасцёўні Каладзяжная Анастасія Аляксандраўна (І месца), Букоўская Таццяна Георгіеўна (ІІ месца), Ганевіч Любоў Васільеўна (ІІІ месца).



**22 лютага** ў Доміку Таўлая ў Лідзе пісалі 10-ю Агульнанацыянальную дыктоўку лідскія літаратары, сябры літаб'яднання "Суквецце", у асноўным паэты, таму быў узяты верш Пімена Панчанкі "Родная мова". Чытаў дыктоўку выдатнік адукацыі Беларусі, першы старшыня Лідскага ТБМ паэт Міхась Мельнік.



**26 лютага** адну з апошніх дыктовак на Лідчыне пісалі сябры Ёдкаўскай суполкі ТБМ на аграсядзібе "Гасціна" ў в. Пескі Траццякоўскага сельсавета.

Чытаў прадмову Францішка Скарыны да кнігі "Эклізіяст" старшыня Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ Станіслаў Суднік. Найлепшы вынік паказала Ксенія Міхалевіч, па адукацыі выкладчык французскай мовы. На другім месцы Юрась Дзяшук, карэспандэнт Радыё Рацыя.



10-я Агульнанацыянальная дыктоўка на Лідчыне - важны і ўзорны этап на шляху беларускага народа да роднай беларускай мовы.

***Яраслаў Грынкевіч.***

# КРОНІКА ЛІДЫ






У канцы 2016 года артыкул пра Народны ансамбль народнай музыкі **“Гудскі гармонік”** Лідскага раёна ўключаны ў энцыклапедычны даведнік “Беларускія народныя музычныя інструменты”.



Цераз 13 гадоў, у 2016 годзе, Ліда не толькі аднавіла свой статус статысячнага горада, але і ўмацавала яго. Калі ў пачатку года ў Лідзе было зарэгістравана 100 443 жыхары, то ўжо ў кастрычніку - 101 164. Зараз у Бярозаўцы жыве 10 426 чалавек, у сельскай мясцовасці - 20 752. У цэлым колькасць жыхароў Лідскага раёна складае 132 342 чалавекі.

Акрамя ўмацавання пазіцый Ліды ў статусе 100-тысячніка, у 2015 годзе стаў прыкметным, а ў 2016-м упэўнена ўмацаваўся такі паказчык, як перавага нараджальнасці над смертнасцю, г. зн. натуральны прырост насельніцтва. У 2016 годзе аддзелам ЗАГС Лідскага райвыканкама былі зарэгістраваны 1722 смерці, а нараджэнняў на 104 больш - 1826.

13 студзеня на 86-м годзе пайшоў з жыцця мастак дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, выбітны майстар мастацкага шкла **Ўладзімір Мурахвер**.



Новы аперацыйны блок адкрыты 15 студзеня ў траўматалагічным аддзяленні Лідскай ЦРБ. На рамонт і пераабсталяванне памяшкання, дзе размясціўся новы аперацыйны блок, затрачана больш за 4 мільярды недэнамінаваных рублёў з мясцовага і 1 мільярд 250 мільёнаў рублёў з рэспубліканскага бюджэтаў, а таксама спонсарскія сродкі ААТ "Лідскае піва".





16 студзеня ў Лідскім раёне ўведзены ў эксплуатацыю комплекс па прамысловай вытворчасці прадукцыі з мяса індыкоў. Рэалізуе інвестыцыйны праект група кампаній з літоўскім капіталам Arvi, якая аб'ядноўвае больш за 20 прадпрыемстваў у Літве, Латвіі, Расеі, Румыніі, Украіне, Харватыі. Кошт праекту склаў звыш 30 млн еўра, значная частка яго была прафінансавана са сродкаў ААТ "БПС-Ашчадбанк".

Акцыянернае таварыства "Лідскае піва" цалкам абнавіла свой сайт - ад 24 студзеня ён стаў беларускамоўным, а таксама змяніў адрас - **lidskae.by**. Беларуская мова стала карпаратыўнай і камунікацыйнай мовай Лідскага піўзавода.





9 лютага ў цэнтры Ліды пачаў работу першы ў раёне дзяржаўны **хостал**. Хостал адкрыты на базе Лідскага раённага цэнтра турызму і краязнаўства вучнёўскай моладзі на вул. Паўліка Марозава ў цэнтры горада. У крокавай даступнасці ад яго не толькі аўта- і чыгуначны вакзалы, але і многія славутасці горада.




У лютым у выдавецтве “ЮрСаПрынт”, г. Гародня выйшла кніга Л**еаніда Лаўрэша** “Маламажэйкаўская царква. Гістарычны нарыс”. 114 ст. 90 ас.



17 сакавіка ў 17.00 у Лідскім гістарычна - мастацкім музеі адбылася прэзентацыя гістарычнага партрэта-карціны “Вайдыла і княжна Марыя”.

Аўтар карціны **Ўладзімір Мельнікаў**.



# Лідчына ў 2016 годзе

**Выступ старшыні Лідскага райвыканкама М.К. Карповіча 24.02.2017 г. на ўрачыстым сходзе, прысвечаным падвядзенню вынікаў 2016 года**



Паважаныя ўдзельнікі сходу і госці!

Па традыцыі, якая ўжо склалася, сёння мы падводзім вынікі сацыяльна-эканамічнага развіцця раёна ў 2016 годзе. Вынікі года, насычанага найважнымі падзеямі, якія адбыліся як у краіне, так і ў раёне.

Галоўнай палітычнай падзеяй 2016 года стаў Пяты Ўсебеларускі народны сход. У працы гэтага форуму прынялі ўдзел 45 дэлегатаў Лідчыны.

На высокім узроўні намі праведзены выбары дэпутатаў у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь. Лідчыну даверана прадстаўляць Андрэю Навумовічу, Валянціну Міхневічу, Вользе Папко. А ў Савеце Рэспублікі - Інэсе Белуш.

У сваім выступе хачу адзначыць, што немагчыма ахапіць увесь спектр праблем, якія вырашаліся ў раёне летась. Аднак неабходна падкрэсліць відавочную думку - дзейсным інструментам развіцця раёна з'яўляецца аб'яднанне ўсіх узроўняў мясцовага самакіравання, прадпрыемстваў усіх формаў уласнасці і грамадскасці ў адзіную сістэму дзеянняў.

У цэлым, калі сцісла ацаніць вынікі мінулага года, то 2016 год быў для раёна цяжкім.

Але менавіта ў нашым раёне ў мінулым годзе рэалізаваны шэраг значных праектаў у самых розных сферах. Галоўнай нашай мэтай было і застаецца - зрабіць умовы для жыцця і працы людзей у раёне больш камфортнымі.

Зараз, пра канкрэтныя вынікі, у аснове якіх ляжыць годная праца жыхароў раёна.

Падмурак эканомікі Лідскага рэгіёна складае прамысловы комплекс, у якім занята больш за 35% ад агульнай колькасці працаўнікоў ва ўсіх сферах.

Прамысловымі арганізацыямі раёна за 2016 год выраблена прадукцыі на суму 804 мільёны рублёў. Тэмп росту склаў 116 %.

З 30 арганізацый раёна павялічылі выпуск прадукцыі 10.

Гэта "Лідскі ліцейна-механічны завод", завод "Конус", Шклозавод "Нёман", Торфабрыкетны завод "Лідскі", "Лідскі ветсанутыльзавод", Мінойтаўскі рамонтны завод, завод "Каскад", Лідская ЖКГ, "Лідскае піва", Фудпак.

У аб'ёмах вытворчасці Лідскага раёна найбольшую ўдзельную вагу займае вытворчасць прадуктаў харчавання, напояў, хімічных прадуктаў, вылічальнай, электроннай і аптычнай апаратуры.

Рост аб'ёмаў прамысловай вытворчасці забяспечаны за кошт рэалізацыі інвестыцыйных праектаў на Адкрытым акцыянерным таварыстве "Лідскае піва", Шклозаводзе "Нёман", заводзе "Конус". Арганізацыя выпуску шклаваты забяспечыла рост аб'ёмаў вытворчасці ў параўнанні з 2015 годам у 1,6 раза. Рост аб'ёмаў аказання паслуг па ацынкаванні ў параўнанні з 2015 годам склаў 119 %.

На "Белмедпрэпаратах" адкрыты новы цэх па вытворчасці стэрыльна пафасаваных антыбіётыкаў.

"Арвібелагра" пачаў працэс па прамысловай вытворчасці мяса індыкоў.

Для большасці нашых прамысловых прадпрыемстваў 2016 год быў неадназначным. На многіх з іх летась паўсталі сур'ёзныя праблемы. Дасягнутыя імі вынікі нас не задавальняюць.

Зніжэнне аб'ёмаў вытворчасці адзначана ў шэрагу арганізацый: "Лакафарба", "Лідсельмаш", "Лідскі завод электравырабаў", "Лідаграпраммаш", Завод "Оптык", "Лідскія харчовыя канцэнтраты", "Лідабудматэрыялы", "Лідабудканструкцыя" і іншых.

На канец 2016 года на складах прамысловых арганізацый раёна знаходзілася рэштак гатовай прадукцыі на суму 76 мільёнаў рублёў, удзельная вага якіх склала 114 %, што з'яўляецца дапушчальным.

Па-ранейшаму, ключавым паказчыкам эфектыўнасці развіцця раёна з'яўляецца знешнеэканамічная дзейнасць. Знешнегандлёвы аварот тавараў арганізацый раёна за 2016 год склаў 374 мільёны даляраў ЗША. Сальда вонкавага гандлю таварамі склалася дадатнае. Удзельная вага экспарту арганізацый Лідскага раёна ў экспарце вобласці складае 16 %.

Нарасцілі аб'ёмы экспарту: "Лідскі ліцейна-механічны завод", "Лідская абутковая фабрыка", Завод "Оптык", "Шклозавод "Нёман", Торфабрыкетны завод "Лідскі", "Лідскі малочна-кансервавы камбінат", "Мінойтаўскі рамонтны завод", "Лідахлебапрадукт", "Лідскі ветсанутыльзавод", "Лідскае піва".

За 2016 год зарэгістраваны аб'ёмы экспартна-імпартных аперацый з 78 дзяржавамі свету. Гандлёва-эканамічнае супрацоўніцтва ажыццяўляецца з 73 рэгіёнамі Расійскай Федэрацыі. Гэта на 11 рэгіёнаў больш, чым у 2015 годзе.

Упершыню экспартавана прадукцыя "Лакафарбы" ў Бразілію, шклозавода "Нёман" - на рынак

Катара, Сербіі, Славакіі, Аб'яднаных Арабскіх Эміратаў, "Белтэкс Оптык" - у Бангладэш, М'янму, "Лідскае піва" - у Балгарыю, Ізраіль, "Лідахлебапрадукт" - у Гвінею, Венесуэлу.

Ліда стала пляцоўкай для бізнэс-сустрэч рознага ўзроўню. Наш рэгіён наведалі дэлегацыі Міжнароднага банка рэканструкцыі і развіцця, прадстаўніцтва Сусветнага банка ў Беларусі, амбасадары замежных дзяржаў у Рэспубліцы Беларусь. У Лідзе прайшоў беларуска-літоўскі эканамічны форум. Адбылася міжнародная сустрэча арганізацый - чальцоў Асацыяцыі польскага бізнэсу. Як вынік, у горадзе адкрыты візавы цэнтр Польшчы.

У справаздачным годзе прамысловыя прадпрыемствы працягнулі тэхнічнае пераабсталяванне і мадэрнізацыю вытворчасці, рэалізацыю пачатых інвестыцыйных праектаў, а таксама працу па прыцягненні фундатараў у эканоміку раёна.

Аб'ём паступлення прамых замежных інвестыцый на чыстай аснове ў 2016 годзе склаў каля 14 мільёнаў даляраў ЗША - пры заданні ў 12,5 мільёнаў даляраў ЗША.

Рэалізаваны два найбуйныя інвестыцыйныя праекты з прыцягненнем замежных інвестыцый: створаны вертыкальна-інтэграваны комплекс па прамысловай вытворчасці прадукцыі з мяса індыкоў - "Арвібелагра". Рэалізуецца праект "Тэхнічнае пераўзбраенне, рэканструкцыя і павелічэнне магутнасцяў прадпрыемства па ўтылізацыі адыходаў жывёльнага паходжання" на базе Лідскага ветсанутыльзавода.

Найбольшую ўдзельную вагу адгружанай інавацыйнай прадукцыі забяспечылі: "Лідскі ліцейна-механічны завод", Шклозавод "Нёман", "Лідсельмаш", Завод "Оптык", "Лідскі завод электравырабаў", "Лакафарба", "ЛІПЛАСТ-Спб", "Белтэкс Оптык".

Па выніках 2016 года лепшымі таварамі Рэспублікі Беларусь стала прадукцыя Лідскіх харчовых канцэнтратаў, "Бел-Пласта", завода электравырабаў.

Званне "Народная марка" па выбары беларусаў прысвоена прадукцыі ААТ "Лакафарба", "Лідахлебапрадукт", "Лідскае піва", "Лідахарчканцэнтратаў".

Прэміяй Садружнасці Незалежных Дзяржаў адзначана прадукцыя Лідскага малочна-кансервавага камбіната.

На працягу многіх гадоў Лідскі раён - пераможца рэспубліканскіх аглядаў-конкурсаў утрымання і тэхнічнага стану жыллёвага фонду, санітарнага стану і добраўпарадкавання населеных пунктаў.

Хачу падзякаваць працоўным калектывам і канкрэтным працаўнікам прадпрыемстваў, якія ўнеслі значны ўклад у дасягненне эканамічных паказчыкаў рэгіёна.

Па выніках працы за 2016 год пераможцам спаборніцтва працоўных калектываў раёна за дасягненне высокіх паказчыкаў у эканамічным і сацыяльна-культурным развіцці ў сферы прамысловасці прызна-ны працоўны калектыў адкрытага акцыянернага таварыства "Лідскае піва" - генеральны дырэктар Аўдрыюс Мікшыс. У 2016 годзе "Лідскае піва" забяспечыла тэмп росту экспарту ў 106 %. Кампанія выпусціла пяць новых гатункаў піва і заваявала знакавую для сябе ўзнагароду - 140-вы медаль у год свайго 140-годдзя. Прадпрыемства ўваходзіць у тройку лідараў па аб'ёмах продажаў сярод беларускіх вытворцаў.

Калектывы Лідскага малочна-кансервавага камбіната - генеральны дырэктар Эйсымонт Андрэй Адамавіч, і Мінойтаўскага рамонтнага завода - дырэктар Гейштаўт Багдан Вацлававіч таксама дамагліся высокіх вынікаў, унеслі годны ўклад у прамысловае развіццё рэгіёна.

Тэмп росту экспарту прадукцыі Лідскага малочна-кансервавага камбіната склаў 110 %. Прадукцыя прадпрыемства адзначана дыпломамі пераможца ў конкурсе "Лепшая прадукцыя года - 2016" у пяці намінацыях.

Мінойтаўскі рамонтны завод выпрабляе прадукцыю, запатрабаваную як унутры краіны, так і за яе межамі. Прадпрыемствам павялічаны выпуск прадукцыі. Доля экспарту вырасла ў 1,4 раза.

Нельга сёння пакінуць без увагі імёны лепшых працаўнікоў прамысловасці нашага раёна. Гэта:

Вінча Вячаслаў Казіміравіч - наладчык абсталявання "Белтэкс Оптык";

Жукоўская Алена Люцыяноўна - шліфоўшчыца шкла і шклавырабаў Шклозавода "Нёман";

Каўчуга Іосіф Францавіч - электраслесар па рамонце абсталявання Лідскіх электрычных сетак;

Сапоцька Міхаіл Міхайлавіч - слесар завода "Лідаграпраммаш";

Карчэўскі Міхаіл Адасевіч - наладчык кантрольна-вымяральных прыбораў Шклозавода "Нёман";

Мікіянец Ганна Вітольдаўна - аператар пульта кіравання элеватара "Лідахлебапрадукт";

Урбановіч Іосіф Іосіфавіч - апаратчык ААТ "Лакафарба";

Яновіч Генадзь Іванавіч - начальнік вытворчасці завода "Лідсельмаш".

Галко Крысціна Казіміраўна - укладчыца-пакавальніца "Лідскіх харчовых канцэнтратаў";

Кулеш Антаніна Іосіфаўна - оптык Завода "Оптык";

Луцэвіч Марыя Іванаўна - шліфоўшчык "Лідскай мэблевай фабрыкі";

Носаў Уладзімір Аляксандравіч - такелажнік унітарнага прадпрыемства "Конус";

Сазановіч Дзяніс Іосіфавіч - машыніст Торфабрыкетнага завода "Лідскі";

Сасім Ірына Станіславаўна - кладаўшчык "Лідскага хлебазавода".

Эфектыўная і надзейная праца пасажырскага, грузавога і чыгуначнага транспарту забяспечваецца транспартнымі арганізацыямі раёна.

Чыгуначныя перавозкі займаюць перадавыя пазіцыі на рынку транспартных паслуг. Надаецца вялікая ўвага падвышэнню якасці абслугоўвання пасажыраў, абнаўленню рухомага састава.

Транспартнымі арганізацыямі ў поўным аб'ёме выконваюцца сацыяльныя стандарты абслугоўвання насельніцтва. Агульны поспех галіны ў значнай сту-

пені залежыць ад чалавека працы, сярод якіх нямала людзей з вялікім вытворчым досведам.

Лепшымі па выніках мінулага года прызнаны:

Белянчук Іван Станіслававіч - кіроўца аўтобуснага парку № 2 г. Ліды;

Палавінка Павел Феліксавіч - кіроўца-экспедытар "Лідаспецаўтатранс".

Дарагія сябры!

У 2016 годзе ў Лідскім раёне будаўнічымі аргані-ацыямі ўведзена ў эксплуатацыю 70 тысяч квадратных метраў жылля. 767 сем'яў адзначылі навагоднія святы ў новых кватэрах у мікраранёне Індустрыяльны, па вуліцах Куйбышава, Машэрава, Кірава.

Часткова праведзены рамонт акружной дарогі. Уздоўж аўтамабільнай трасы абсталявана пешаходная зона на ўчастку ад мікраранёна Маладзёжны да аграгарадка Крупава.

Будаўнічымі арганізацыямі вядуцца работы па будаўніцтве і мадэрнізацыі аб'ектаў за межамі Лідскага раёна. Па выніках працы за год лепшай арганізацыяй у будаўнічай галіне прызнаны філіял "Будаўніча-мантажнае кіраванне № 2" адкрытага акцыянернага таварыства "Будаўніча-мантажны трэст "Белпалівабуд" - дырэктар Рыхтар Уладзімір Анатолевіч.

Словы падзякі сёння гучаць у адрас:

Каласоўскага Андрэя Іванавіча - страхара будаўніча-мантажнага трэста № 19;

Рудзевіча Аляксандра Мікалаевіча - электрагазазваршчыка ААТ "Будвектар";

Дзяшкевіча Івана Ўладзіміравіча - цесляра Лідскай ПМК-169;

Караленкі Сяргея Ўладзіміравіча - трактарыста дарожна-эксплуатацыйнага кіравання № 55.

На тэрыторыі Лідскага раёна гандлёвае абслугоўванне ў 2016 годзе ажыццяўлялася больш, чым аднай тысячай аб'ектаў рознічнага гандлю, сямю гандлёвымі цэнтрамі і 90 аб'ектамі грамадскага харчавання. Аб'ём рознічнага тавараабароту гандлю склаў 513 мільёнаў рублёў. У мінулым годзе адкрыта 18 новых гандлёвых аб'ектаў і 7 аб'ектаў грамадскага харчавання.

Побытавыя паслугі на тэрыторыі Лідскага раёна аказваюць больш за 500 суб'ектаў гаспадарання ўсіх формаў уласнасці. За 2016 год у раёне зарэгістравана 59 новых суб'ектаў. Цалкам выкананы нарматывы забяспечанасці насельніцтва сеткай комплексных прыёмных пунктаў па прыёме замоў на аказанне побытавых паслуг у сельскай мясцовасці.

Пераможцамі раённага спаборніцтва сярод працоўных калектываў у сферы гандлёвага і побытавага абслугоўвання ў 2016 годзе прызнаны:

унітарнае камунальнае прадпрыемства крама №1 "Дом гандлю" - дырэктар Касяк Валер Генрыхавіч

і адкрытае акцыянернае таварыства "Лідскі камбінат побытавых паслуг" - дырэктар Дыска Святлана Віктараўна.

Менавіта ад паўсядзённай і парой незаўважнай працы працаўнікоў гандлю і паслуг шмат у чым залежыць настрой, якасць жыцця і рашэнне надзённых праблем кожнага з нас. Сёння мы называем імёны лепшых - гэта:

Бештань Ніна Раманаўна - аператар пральнага абсталявання Лідскага камбіната побытавых паслуг;

Ступакевіч Ганна Іосіфаўна - кухар кафэ "Гранд" ГВФ "Ліда";

Валюк Ірына Іосіфаўна - кандытар крамы "Родны кут";

Мялкунас Галіна Мікалаеўна - кандытар гандлёвага цэнтра "Патсдам".

Паважаныя ўдзельнікі сходу!

2016 год быў складаным для працаўнікоў сельскай гаспадаркі. Аб'ём сельскагаспадарчай вытворчасці склаў 71 мільён рублёў ці 88,5% да ўзроўню 2015 года. Гадавое заданне не выканана ніводнай з гаспадарак раёна. А менавіта гэта з'яўляецца галоўным крытэрам пры падвядзенні вынікаў працы сельскагаспадарчых арганізацый. Таму было прынята рашэнне не вызначаць пераможца ў сферы сельскай гаспадаркі.

Аб'ёмы вытворчасці валавай прадукцыі раслінаводства зніжаны ў раёне на 28 %, жывёлагадоўлі на 1,3 %. Найбольшае зніжэнне тэмпаў росту валавай прадукцыі сельскай гаспадаркі дапушчана КСУП "Беліца-Агра", КСУП "Бердаўка-Агра", КСУП "Пескаўцы", КСУП "Ваверка-Агра".

Нягледзячы на неспрыяльнае надвор'е, недахоп аваротных сродкаў, сельгаспрадпрыемствамі было нарыхтавана травяных кармоў на 26 % больш да 2015 года, што склала 25 цэнтнераў кармавых адзінак у разліку на 1 умоўную галаву жывёлы.

Нязначна павялічылася валавая вытворчасць малака. Самая высокая прадуктыўнасць дойнага статка забяспечана ў філіяле "Дзітва" ААТ "Лідахлебапрадукт" і РСУП Саўгас "Лідскі". Рост рэалізацыі малака забяспечаны філіялам "Дзітва" ААТ "Лідахлебапрадукт", КСУП "Ходараўцы-Агра" і РСУП Саўгас "Лідскі".

У раёне актыўна падтрымліваюцца праграмы падтрымкі малых формаў гаспадарання ў аграрным сектары - стварэнне сялянска-фермерскіх гаспадарак. У чалавека павінен быць выбар - працаваць на прадпрыемстве або займацца сваім бізнэсам. Яркі прыклад паспяховай дзейнасці ў развіцці малога і сярэдняга бізнэсу - сялянская фермерская гаспадарка Шарыча В.І. (кіраўнік Шарыч Валер Іванавіч), стаўшая пераможцам спаборніцтва працоўных калектываў раёна ў 2016 годзе.

Выказваю словы падзякі нашым хлеbabам, жывёлагадоўцам, працаўнікам перапрацоўчых прадпрыемстваў за іх нялёгкую працу і самааддачу. Сярод іх:

Бучынская Алена Рамуальдаўна - аператар машыннага даення Саўгаса "Лідскі";

Верамеевіч Міхаіл Яўгенавіч - трактарыст-машыніст КСУП "Ёдкі-Агра";

Расюк Зміцер Канстанцінавіч - трактарыст-машыніст з ЛРСУП "Мажэйкава";

Варанюк Людміла Раманаўна - аператар па

дагадоўванні буйной рагатай жывёлы філіяла "Дзітва" ААТ "Лідахлебапрадукт".

Дарагія сябры!

Ліда - гэта рэгіён з шырокай сеткай паспяхова працуючых устаноў адукацыі, аховы здароўя, культуры, фізічнай культуры і спорту.

І цяпер - пра ўнёсак тых, у чыіх руках інтэлект, здароўе, культура і бяспека Лідчыны.

Вынікі 2016 года не могуць не цешыць сістэму адукацыі Лідчыны. Па шэрагу пазіцый дасягнуты высокія вынікі.

На абласной і рэспубліканскай алімпіядах па навучальных прадметах лідскімі навучэнцамі заваявана 75 і 18 дыпламоў адпаведна.

45-ці навучэнцам уручаны атэстаты пра агульную сярэднюю адукацыю адмысловага ўзору з узнагароджаннем залатым і срэбным медалём. Стобальныя сертыфікаты атрымалі 5 выпускнікоў.

Педагог дадатковай адукацыі Лідскага раённага цэнтра творчасці дзяцей і моладзі Вераціла Сяргей Яўгенавіч стаў пераможцам рэспубліканскага конкурсу прафесійнага майстэрства "Педагог установы дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі" і ўзнагароджаны нагрудным знакам "Выдатнік адукацыі".

Па выніках працы за 2016 год дзяржаўная ўстанова адукацыі "Сярэдняя школа №1 г. Ліды" - дырэктар Фанасаў Сяргей Анатолевіч, прызнана лепшай у раёне.

Годныя вынікі ў спорце дасягаюцца дзякуючы выразна выбудаванай сістэме падрыхтоўкі спартовага рэзерву. Аснова для гэтага на Лідчыне створана і дае адпаведныя вынікі. Лідскі раён заняў 2-е месца ў абласным аглядзе-конкурсе па падрыхтоўцы спартовага рэзерву і развіцці спорту.

У 2016 годзе сталі пераможцамі і прызёрамі міжнародных спаборніцтваў - 2 чалавекі, рэспубліканскіх - 126 чалавек, абласных - 542 чалавекі. Выканалі нарматывы: майстра спорту - 10 чалавек, кандыдата ў майстры спорту - 36 чалавек. У спіскавым складзе зборнай Рэспублікі Беларусь знаходзіцца 51 спартовец.

"Лідсельмаш" стаў трохкратным чэмпіёнам Беларусі па міні-футболу і двухразовым уладальнікам Суперкубка Беларусі.

У 2016 годзе ў сярэдняй школе № 13 адкрыта зала адзінаборстваў для выхаванцаў СДЮШОР № 3 Лідскага раёна. Рыхтуецца да адкрыцця зала боксу.

Па выніках абласнога агляду-конкурсу на лепшую арганізацыю спартова-масавай і фізкультурна-аздараўленчай працы Лідскі раён стаў пераможцам.

2016 год у Рэспубліцы Беларусь быў абвешчаны Годам культуры.

На Лідчыне Год культуры адзначыўся правядзеннем больш, чым пяці тысяч культурных мерапрыемстваў.

Больш за дзвесце ўзнагарод прывезлі дахаты ўдзельнікі абласных, рэспубліканскіх, міжнародных творчых конкурсаў. Адзначаны прэміяй адмысловага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі 15 лідскіх навучэнцаў.

Ліда працягнула правядзенне штогадовага свята горада і фэсту "Лідбір". Лідскі замак пацешыў рыцарскімі турнірамі.

Пры падвядзенні вынікаў рэспубліканскага конкурсу "Горад культуры ў Год культуры" Ліда была названа пераможцам сярод гарадоў раённага падначалення.

Неацэнны ўнёсак у гэтую перамогу працаўнікоў Лідскай жыллёва-камунальнай гаспадаркі. Іх клапатлівымі рукамі ствараецца парадак, камфорт і выгоды ў нашым горадзе.

Падводзячы вынікі Года культуры на Лідчыне, шчыра дзякую тым, хто абраў для сябе справай жыцця служэнне культуры і мастацтву. Сярод іх:

Марозава Святлана Генадзеўна - настаўнік Лідскай дзіцячай музычнай школы мастацтваў;

Пушкіна Галіна Барысаўна - кіраўнік практыкі Лідскага музычнага каледжа;

Спірына Алена Мікалаеўна - дырэктар Лідскай дзіцячай школы мастацтваў;

Тур Ірына Эдуардаўна - дырэктар Палаца культуры горада Ліды.

Паважаныя ўдзельнікі сходу!

Хачу шчыра падзякаваць працаўнікам Лідскай цэнтральнай раённай бальніцы. Гэта самая буйная ўстанова аховы здароўя ў Рэспубліцы Беларусь сярод раённых бальніц. Сёлета яна адзначыць сваё 95-годдзе.

Вынікам сістэмнага падыходу ў працы структурных медыцынскіх падраздзяленняў стаў натуральны прырост насельніцтва. За 2016 год у раёне нарадзілася адна тысяча 853 дзіцяці.

У амбулаторна-паліклінічных установах зроблена каля 2-х мільёнаў наведванняў, хуткай дапамогай абслужана больш за 46 тысяч выклікаў, у аддзяленнях дзённага знаходжання пралечана 5 з паловай тысяч чалавек, у стацыянарах на хаце - 2 тысячы чалавек, у кругласутачных стацыянарах - больш за 32 тысячы чалавек.

Першамайская ўчастковая бальніца названа лепшай у вобласці па якасці і культуры медыцынскага абслугоўвання.

Усе дзяржаўныя сацыяльныя стандарты ў вобласці аховы здароўя выкананы ў поўным аб'ёме. Фінансаванне аховы здароўя за 2016 год склала больш за 32 мільёны рублёў, гэта больш за 25 % мясцовага бюджэту.

У 2016 годзе набыта новае медыцынскае абсталяванне. Уведзена ў эксплуатацыю аперацыйная траўматалагічнага аддзялення. Хоць сфера аховы здароўя ніколі не заставалася без нашай увагі, але тут нам трэба зрабіць яшчэ нямала. І мы ўсе пра гэта ведаем і, несумнеўна, зробім.

Паважаныя ўдзельнікі сходу!

Мы жывём у мірнай і спакойнай краіне, дзякуючы згуртаванай працы асабовага складу сілавых струк-

тур Лідскага раёна: аддзела ўнутраных спраў, аддзела па надзвычайных сітуацыях, вайсковых частак.

Лідскі раённы аддзел унутраных спраў дасягнуў высокіх паказчыкаў працы па папярэджанні і раскрыцці злачынстваў і прызнаны лепшым у вобласці і рэспубліцы.

Давайце скажам дзякуй тым, хто абраў сваёй прафесіяй справу аховы і выратавання жыццяў:

Юркевіч Кацярыне Анатольеўне - лекару-неанатолагу Лідскай цэнтральнай раённай бальніцы;

Бернат Івану Іванавічу - намесніку начальніка пажарнай аварыйна-выратавальнай часткі № 1 Лідскага РАНС;

Дапіры Алене Аляксандраўне - загадчыку станцыі хуткай медыцынскай дапамогі;

Зінкевічу Зміцеру Ўладзіміравічу - начальніку аддзела вайсковай часткі 1234;

Кораневай Ірыне Чаславаўне - лекару-кардыёлагу Лідскай цэнтральнай раённай балініцы;

Лазар Марыне Міхайлаўне - медыцынскай сястры Першамайскай участковай бальніцы;

Рабушку Мікалаю Віктаравічу - старэйшаму ўчастковаму інспектару міліцыі.

Паважаныя ўдзельнікі сходу!

Аб усіх падзеях рэгіёна аператыўна і дакладна паведамляюць нам раённыя сродкі масавай інфармацыі: "Лідская газета" і "Лідскае тэлерадыёаб'яднанне". У 2016 годзе завершана рэалізацыя праекту па арганізацыі тэлевяшчання ў пакеце інтэрактыўнага тэлебачання ЗАЛА. Пачало вяшчанне "Твае радыё". Сайт "Лідскай газеты" стаў інфармацыйным брэндам у Гарадзенскай вобласці.

Дарагія сябры!

Усе пералічаныя сёння канкрэтныя справы - гэта вялікая праца жыхароў нашага раёна. Праз некаторы час на гэтую сцэну для ўзнагароджання выйдуць лепшыя з лепшых, перадавікі розных сфер вытворчасці.

Хачу падзякаваць усім удзельнікам сходу, кіраўнікам прадпрыемстваў, арганізацый, устаноў за сумесную плённую працу, актыўную жыццёвую пазіцыю і важкі ўнёсак у захаванне сацыяльнай стабільнасці ў рэгіёне.

Спадзяюся, вынікі нашай сумеснай працы будуць спрыяць далейшаму развіццю Лідскага краю.

Наступіўшы 2017 год не абяцае быць лёгкім. Але, добра ведаючы праблемы рэгіёна, абапіраючыся на назапашаны досвед і кадравы патэнцыял, мы будзем вырашаць і вырашым пастаўленыя задачы

Я жадаю кожнаму з вас здароўя, сямейнага дабрабыту, дабра і поспехаў.

Дзякуй вам за вашую працу!

# ЛІДСКІ РАЁННЫ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ
# РАШЭННЕ

**20 лютага 2017 г. № 163** **г. Ліда, Гродзенская вобл.**

## Пра вынікі спаборніцтва працоўных калектываў раёна за дасягненне высокіх паказчыкаў у эканамічным і сацыяльна-культурным развіцці ў 2016 годзе

Абмеркаваўшы вынікі працы арганізацый і ўстаноў Лідскага раёна за 2016 год, Лідскі раённы выканаўчы камітэт ВЫРАШЫЎ:

1. Прысудзіць Ганаровы дыплом І ступені Лідскага раённага выканаўчага камітэта з выдачай памятнага знака і грашовай прэміі ў памеры 30 (трыццаць) базавых велічынь, у тым ліку кіраўніку - 7 (сем) базавых велічынь за першае месца сярод арганізацый:

за дасягнутыя поспехі ў развіцці прамысловасці - адкрытаму акцыянернаму грамадству "Лідскае піва" (генеральны дырэктар Аўдрыюс Мікшыс);

за дасягнутыя поспехі ў будаўнічай галіне - філіялу "Будаўніча-мантажнае кіраванне № 2" адкрытага акцыянернага таварыства "Будаўніча-мантажны трэст "Белпалівабуд" (дырэктар Рыхтар Уладзімір Анатолевіч);

за дасягнутыя поспехі ў гандлёвым абслугоўванні - унітарнаму камунальнаму прадпрыемству крама № 1 "Дом гандлю" (дырэктар Касяк Валер Генрыхавіч);

за дасягнутыя поспехі ў адукацыі і выхаванні моладзі - дзяржаўнай установе адукацыі "Сярэдняя школа № 1 г. Ліды" (дырэктар Фанасаў Сяргей Анатолевіч).

2. Прысудзіць Ганаровыя дыпломы ІІ ступені Лідскага раённага выканаўчага камітэта з грашовай прэміяй у памеры 15 (пятнаццаць) базавых велічынь, у тым ліку кіраўніку - 5 (пяць) базавых велічынь за першае месца сярод арганізацый:

за дасягнутыя поспехі ў ахове здароўя - аддзяленню гнойнай хірургіі ўстановы аховы здароўя "Лідская цэнтральная раённая бальніца" (загадчык Шкрэд Яраслаў Яраслававіч);

у пастаноўцы ідэалагічнай працы ў працоўным калектыве - даччынаму ўнітарнаму вытворчаму прадпрыемству "Конус" рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Навукова-практычны цэнтр Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі па механізаванні сельскай гаспадаркі" (дырэктар Жамойда Андрэй Пятровіч);

за дасягнутыя поспехі ў працы ўстаноў культуры - дзяржаўнай установе "Лідскі раённы цэнтр культуры і народнай творчасці" (дырэктар Вайцюкевіч Наталля Міхайлаўна);

за дасягнутыя поспехі ў развіцці фізічнай

культуры, спорту і турызму - установе "Лідская спецыялізаваная дзіцяча-юнацкая школа алімпійскага рэзерву "Лакафарба" (дырэктар Яновіч Сяргей Рыгоравіч).

3. Прысудзіць Ганаровыя дыпломы II ступені Лідскага раённага выканаўчага камітэта з грашовай прэміяй у памеры 15 (пятнаццаць) базавых велічынь, у тым ліку кіраўніку - 5 (пяць) базавых велічынь за другое месца сярод арганізацый:

за дасягнутыя поспехі ў развіцці прамысловасці - адкрытаму акцыянернаму таварыству "Лідскі малочна-кансервавы камбінат" (генеральны дырэктар Эйсымонт Андрэй Адамавіч).

4. Прысудзіць Ганаровыя дыпломы III ступені Лідскага раённага выканаўчага камітэта з грашовай прэміяй у памеры 10 (дзесяць) базавых велічынь, у тым ліку кіраўніку - 3 (тры) базавыя велічыні за першае месца сярод арганізацый:

за дасягнутыя поспехі ў развіцці малога і сярэдняга бізнэсу - сялянскай фермерскай гаспадарцы Шарыча В.І. (кіраўнік Шарыч Валер Іванавіч);

за дасягнутыя поспехі ў адукацыі і выхаванні дашкольнікаў - дзяржаўнай установе адукацыі "Санаторны яслі-сад № 2 для дзяцей хворых сухотамі" (загадчык Карэйва Аксана Эдуардаўна);

за дасягнутыя поспехі ў побытавым абслугоўванні - адкрытаму акцыянернаму таварыству "Лідскі камбінат побытавых паслуг" (дырэктар Дыска Святлана Віктараўна).

5. Прысудзіць Ганаровыя дыпломы III ступені Лідскага раённага выканаўчага камітэта з грашовай прэміяй у памеры 10 (дзесяць) базавых велічынь, у тым ліку кіраўніку - 3 (тры) базавыя велічыні за трэцяе месца сярод арганізацый:

за дасягнутыя поспехі ў развіцці прамысловасці - даччынаму прадпрыемству "Мінойтаўскі рамонтны завод" Гарадзенскага ўнітарнага прадпрыемства "Аблсельгастэхніка" (дырэктар Гейштаўт Багдан Вацлававіч);

6. Занесці на раённую дошку Пашаны працаўнікоў арганізацый і ўстаноў раёна, якія дамагліся найлепшых паказчыкаў па выніках года, з уручэннем грашовай прэміі ў памеры 3 (тры) базавыя велічыні:

Белік Алену Мар’янаўну - намесніка дырэктара па выхаваўчай працы дзяржаўнай установы адукацыі "Сярэдняя школа № 1 г. Ліды";

Белянчука Івана Станіслававіча - кіроўцу аўтамабіля 1 класа філіяла "Аўтобусны парк № 2 г. Ліды" адкрытага акцыянернага таварыства "Гроднааблаўтатранс";

Берната Івана Іванавіча - намесніка начальніка пажарнай аварыйна-выратавальнай часткі № 1 Лідскага раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях установы "Гарадзенскае абласное кіраванне Міністэрства па надзвычайных сітуацыях Рэспублікі Беларусь";

Бешчэнь Ніну Раманаўну - аператара пральнага абсталявання пральні № 1 адкрытага акцыянернага таварыства "Лідскі камбінат побытавых паслуг";

Верамеевіча Міхаіла Яўгенавіча - трактарыста-машыніста камунальнага сельскагаспадарчага ўнітарнага прадпрыемства "Ёдкі-Агра";

Вінчу Вячаслава Казіміравіча - наладчыка абсталявання аптычнай вытворчасці 5 разраду замежнага прадпрыемства "БЕЛТЭКС ОПТЫК";

Жукоўскую Алену Люцыянаўну - шліфоўшчыка шкла і шклавырабаў цэха крышталю адкрытага акцыянернага таварыства Шклозавод "Нёман";

Зінкевіча Зміцера Ўладзіміравіча - начальніка аддзела баявой і мабілізацыйнай гатоўнасці вайсковай часткі 1234;

Каўчугу Іосіфа Францавіча - электраслесара па рамонце абсталявання размеркавальных прыстасаванняў 6 разраду службы падстанцый 35 кв і вышэй філіяла "Лідскія электрычныя сеткі" Гарадзенскага рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства электраэнергетыкі "Гроднаэнерга";

Каласоўскага Андрэя Іванавіча - страхара 4 разраду адкрытага акцыянернага таварыства "Будаўніча-мантажны трэст № 19";

Кораневу Ірыну Чаславаўну - лекара-кардыёлага (загадчыка кардыялагічнага аддзялення) ўстановы аховы здароўя "Лідская цэнтральная раённая бальніца";

Крывеню Ірыну Васільеўну - трэнера-выкладчыка Лідскага філіяла Ўстановы адукацыі "Гарадзенская дзяржаўная вучэльня алімпійскага рэзерву";

Мартэм’янаву Вольгу Мікалаеўну - аператара машыннага даення філіяла "Дзітва" адкрытага акцыянернага таварыства "Лідахлебапрадукт";

Ашмяну Тарэсу Аляксандраўну - старасту вёскі Дзмітраўцы Мажэйкаўскага сельсавета;

Палавінку Паўла Феліксавіча - кіроўцу-экспедытара 2 класу адкрытага акцыянернага таварыства "Лідаспецаўтатранс";

Пугач Наталлю Мікалаеўну - паштальёна 5 разраду аддзялення паштовай сувязі Ліда-6 Лідскага раённага вузла паштовай сувязі Гарадзенскага філіяла рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства паштовай сувязі "Белпошта";

Рудзевіча Аляксандра Мікалаевіча - электрагазазваршчыка адкрытага акцыянернага таварыства "Будвектар";

Рыбальчанка Валянціну Гедымінаўну, старшыню Савета грамадскага пункта аховы правапарадку;

Рабушку Мікалая Віктаравіча - старэйшага ўчастковага інспектара міліцыі аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі міліцыі грамадскай бяспекі аддзела ўнутраных спраў Лідскага райвыканкама;

Сапоцьку Міхаіла Міхайлавіча - слесара механазборачных работ 5 разраду цэха вырабу пасяўной тэхнікі адкрытага акцыянернага таварыства "Лідаграпраммаш";

Спірыну Алену Мікалаеўну - дырэктара дзяржаўнай установы адукацыі "Лідская дзіцячая школа мастацтваў";

Стэпуль Андрэя Генрыкавіча - інжынера лінейных збудаванняў сувязі і абаненцкіх прыстасаванняў лінейна-тэхнічнага ўчастка гарадской тэлефоннай сувязі Лідскага занальнага вузла электрасувязі Гарадзенскага філіяла рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Белтэлеком";

Ступакевіч Ганну Іосіфаўну - кухара 6 разраду кафэ "Гранд" адкрытага акцыянернага таварыства Гандлёва-вытворчая фірма "Ліда";

Ясюкайціса Рыгора Альфрэдавіча - слесара-рамонтніка 4 разраду вытворчасці вадаправодна-каналізацыйнай гаспадаркі Лідскага гарадскога ўнітарнага прадпрыемства жыллёва-камунальнай гаспадаркі;

7. Узнагародзіць Ганаровай граматай Лідскага раённага выканаўчага камітэта:

Бучынскую Алену Рамуальдаўну - аператара машыннага даення раённага сельскагаспадарчага ўнітарнага прадпрыемства Саўгас "Лідскі";

Васілец Алену Іванаўну - загадчыка вытворчасці сталовай дзяржаўнай установы адукацыі "Сярэдняя школа № 13 г. Ліды" ўнітарнага камунальнага прадпрыемства "Камбінат школьнага харчавання";

Вераціла Сяргея Яўгенавіча - педагога дадатковай адукацыі дзяржаўнай установы адукацыі "Лідскі раённы цэнтр творчасці дзяцей і моладзі";

Дапіру Алену Аляксандраўну - лекара хуткай медыцынскай дапамогі (загадчыка станцыі хуткай медыцынскай дапамогі) ўстановы аховы здароўя "Лідская цэнтральная раённая бальніца";

Дзяшкевіча Івана Ўладзіміравіча - цесляра 4 разраду даччынага будаўнічага ўнітарнага прадпрыемства "Лідская ПМК-169";

Карчэўскага Міхаіла Адасевіча - наладчыка кантрольна-вымяральных прыбораў і сістэм аўтаматыкі службы метралогіі і аўтаматызацыі адкрытага акцыянернага таварыства Шклозавод "Нёман";

Мікулку Аляксандра Янавіча - рабочага зялёнага будаўніцтва 5 разраду вытворчасці вадаправодна-каналізацыйнай гаспадаркі Лідскага гарадскога ўнітарнага прадпрыемства жыллёва-камунальнай гаспадаркі;

Мікіянец Ганну Вітольдаўну - аператара пульта кіравання 5 разраду элеватара адкрытага акцыянернага таварыства "Лідахлебапрадукт";

Пазняк Тамару Іванаўну - сацыяльнага работніка аддзялення сацыяльнай дапамогі на хаце дзяржаўнай установы "Лідскі раённы тэрытарыяльны цэнтр сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва";

Расюка Зміцера Канстанцінавіча - трактарыста-машыніста Лідскага раённага сельскагаспадарчага ўнітарнага прадпрыемства "Мажэйкава";

Тур Ірыну Эдуардаўну - дырэктары дзяржаўнай установы "Палац культуры горада Ліды";

Урбановіча Іосіфа Іосіфавіча - апаратчыка цэнтрыфугавання цэха па вытворчасці лакаў на кандэнсацыйных смолах адкрытага акцыянернага таварыства "Лакафарба";

Яновіча Генадзя Іванавіча - начальніка вытворчасці адкрытага акцыянернага таварыства Кіравальная кампанія холдынгу "Лідсельмаш".

8. Узнагародзіць Падзячным лістом старшыні Лідскага раённага выканаўчага камітэта:

Ашэйчыка Яўгена Іосіфавіча - слесара па рамонце аўтамабіляў 5 разраду дарожна-эксплуатацыйнай вытворчасці Лідскага гарадскога ўнітарнага прадпрыемства жыллёва-камунальнай гаспадаркі;

Валюк Ірыну Іосіфаўну - кандытара 6 разраду крамы "Родны кут" Лідскага філіяла Гарадзенскага абласнога спажывецкага таварыства;

Варанюк Людмілу Раманаўну - аператара па дагадоўванні буйной рагатай жывёлы філіяла "Дзітва" адкрытага акцыянернага таварыства "Лідахлебапрадукт";

Галко Крысціну Казіміраўну - укладчыка-пакавальніка ўчастка "Геркулес" адкрытага акцыянернага таварыства "Лідскія харчовыя канцэнтраты";

Каралёнка Сяргея Ўладзіміравіча - трактарыста 6 разраду філіяла "Дарожна-эксплуатацыйнае кіраванне № 55" рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства аўтамабільных дарог "Гродааўтадор";

Краўцову Разалію Рыгораўну - педагога дадатковай адукацыі дзяржаўнай установы адукацыі "Лідскі раённы дзіцяча-юнацкі фізкультурна-аздараўленчы цэнтр";

Кулеш Антаніну Іосіфаўну - оптыка цэха № 4 адкрытага акцыянернага таварыства Завод "Оптык";

Лазар Марыну Міхайлаўну - медыцынскую сястру (старэйшую) Першамайскай участковай бальніцы ўстановы аховы здароўя "Лідская цэнтральная раённая бальніца";

Луцэвіч Марыю Іванаўну - шліфоўшчыка па дрэве 5 разраду ўчастка вырабу мэблі адкрытага акцыянернага таварыства "Лідская мэблевая фабрыка";

Марозаву Святлану Генадзеўну - настаўніцу дзяржаўнай установы адукацыі "Лідская дзіцячая музычная школа мастацтваў";

Мялкунас Галіну Мікалаеўну - кандытара 6 разраду ўнітарнага камунальнага прадпрыемства Гандлёвы цэнтр "Патсдам";

Носава Ўладзіміра Аляксандравіча - такелажніка 2 разраду рэспубліканскага даччынага ўнітарнага вытворчага прадпрыемства "Конус" рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Навукова-практычны цэнтр Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі па механізаванні сельскай гаспадаркі";

Пушкіну Галіну Барысаўну - кіраўніка практыкі ўстановы адукацыі "Лідскі дзяржаўны музычны каледж";

Сазановіча Дзяніса Іосіфавіча - машыніста машын па здабычы і перапрацоўцы фрэзернага торфу адкрытага акцыянернага таварыства Торфабрыкетны завод "Лідскі";

Сасім Ірыну Станіславаўну - кладаўшчыка філіяла "Лідскі хлебазавод" адкрытага акцыянернага таварыства "Гроднахлебпрам";

Стасюлевіч Ірыну Віктараўну - настаўніцу беларускай мовы і літаратуры дзяржаўнай установы адукацыі "Дзітвянская сярэдняя школа";

Юркевіч Кацярыну Анатольеўну - лекара-неанатолага аддзялення для нованароджаных дзяцей установы аховы здароўя "Лідская цэнтральная раённая бальніца".

9. Прэміяванне ў памеры 9039,00 (дзевяць тысяч трыццаць дзевяць) рублёў зрабіць за кошт сродкаў, прадугледжаных на правядзенне мерапрыемстваў Лідскага раённага выканаўчага камітэта паводле каштарысу выдаткаў (прыкладаецца).

9. Кантроль за выкананнем гэтага рашэння ўскласці на намесніка старшыні Лідскага раённага выканаўчага камітэта Пранюка В.Ф.

Першы намеснік старшыні М.В. Клімук.
Кіраўнік справамі І.І. Юч.

# Установа інфармацыі “Выдавецкі дом грамадскага аб’яднання “Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны” (2007 - 2017)

## *Гістарычны нарыс з нагоды 10-годдзя*

Неабходнасць незалежнага друку была ўсвядомлена ў Лідзе яшчэ за савецкім часам на хвалі перабудовы. Побач з некаторай дэмакратызацыяй дзяржаўнай газеты “Ўперад” з’явілася ідэя выдання недзяржаўнай газеты. Пра некаторую дэмакратызацыю мы гаворым аб’ектыўна. Была дэмакратызацыя, бо з’яўляліся палемічныя і перабудовачныя матэрыялы. Некаторая - гэта значыць, што газета трымала нос па ветры, напрыклад, падчас путчу 19 жніўня 1991 года газета выпусціла нумар у падтрымку ДКНС (ГКЧП), які потым спешна знішчалі ў Лідскай друкарні.

Група грамадскіх актывістаў, у т. л. былых журналістаў, арганізавала выданне газеты “Народная трыбуна”. Пазней выйшаў “Голас з Ліды”, які быў ператвораны ў “Голас Ліды”.

Газета “Голас з Ліды” паспела прыняць удзел у выбарчай кампаніі 1995-96 гг. Адразу пасля гэтага рэгістрацыі газеты была анулявана. Пачаліся спробы рэгістрацыі газеты “Рокаш”, якая працягнула б справу казахстанскага “Рокаша”. Але ўсе спробы атрымаць дазвол на рэгістрацыю поспехаў не мелі.

У 1997 годзе ў Менску спыніла выхад газета ТБМ “Наша слова”. Пад ударам ужо знаходзілася гарадзенская “Пагоня”. На грані закрыцця была “Свабода” (закрыта 24 лістапада 1997 года). У Лідзе ж грамадскі рух быў на пад’ёме. У тым ліку былі матэрыяльныя ўмовы. Рашуча падтрымаў пераход “Нашага слова” ў Ліду холдынг “Руслан” (дырэктар Ігар Валянцінавіч Русак). Па дамове з І.В. Русаком і была зроблена заяўка на перайманне газеты “Наша слова” ў Ліду. Былі прыцягнуты фірма “Прагрэс-2” (дырэктар Мікалай Мікітавіч Сцепасюк) і фірма “Шлях” (дырэктар Валерый Васільевіч Сліўкін). Рэальна фірма “Шлях” была толькі шырмай, ні адной фінансавай аперацыі не правяла.

Летам 1997 года ў Ліду прыехаў Алесь Казак (наш лідскі хлопец), які прапанаваў падтрымаць выданне краязнаўчага часопіса.

Восенню 1997 года прайшлі перамовы з дырэктарам друкарні сп. С. Лучко, па выніку якіх было прынята рашэнне пра выданне газеты “Тэлескоп”.

Першым стартаваў “Лідскі летапісец”. Нумар 1 выйшаў у жніўні 1997 года, на часопісе пазначаны час выхаду “верасень”. Рэдкалегія С. Суднік, В. Сліўкін, А. Казак. Другі нумар выйшаў за кастрычнік, трэці - за лістапад-снежань.

17 верасня 1997 года фірма “Оникс” выдала першы нумар часопіса “Оникс”. Галоўны рэдактар Сяргей Гейль, наклад 1000 асобнікаў. Часопіс быў заангажаваны, як штомесячны.

Першы нумар лідскага “Нашага слова” выйшаў 24 кастрычніка 1997 года, на газеце пазначана 1-15 лістапада, таму традыцыйна лічаць, што першы нумар “Нашага слова” выйшаў 1 лістапада 1997 года. Рэдактар С. Суднік.

Першы нумар “Тэлескопа” выйшаў 24 снежня 1997 года. Нягледзячы на тое, што мы актыўна ўдзельнічалі ў заснаванні газеты, і я прыдумаў назву, я быў адсунуты ад газеты адразу з 1-га нумара, а В. Сліўкін - з другога. Лідская друкарня паставіла свайго рэдактара.

5 ліпеня 1998 года выйшаў першы нумар літаратурна-мастацкага часопіса “Ад лідскіх мУроў”, рэдактар С. Суднік.

Дадаўшы дзяржаўную “Лідскую газету”, былую “Ўперад” атрымліваем лідскае медыйнае поле 1998 года.

Па меры развіцця грамадскай супольнасці з’яўляліся і знікалі маленькія газеткі: “Бярозаўскія навіны”, “Лідар”, “Сяброўка”, “Мастоўскія навіны”, “Мястэчка” (Радунь), “Прадмова” (Лідскі каледж) і г.д.

Потым з’явяцца “Прынёманскія весткі”, “Лідскі экспрэс”, закрыецца і тры разы адновіцца “Тэлескоп”, які ніяк не хацеў паміраць, і яшчэ і сёння ёсць у планах, як лідская вячэрняя інтэрнэт-газета.

Выданне газеты - гэта не толькі падбор матэрыялаў, іхняе рэдагаванне і паленіка з менскімі інтэлектуаламі, ад якіх мы пачулі пасля першага нумара: “Чым такая газета, то лепш ніякай”. Выданне газеты - гэта яшчэ тэхнічная работа, і гэта - фінансаванне ды бухгалтэрыя ад першага нумара. Пачаў аплочваць друк газеты холдынг “Руслан”. Ён паспеў аплаціць тры нумары, і да іх, як кажуць, “прыйшлі”. “Руслан” спыніў афіцыйныя праплаты, але прадоўжыў падтрымку газеты. На пярэдні план вывелі “Прагрэс - 2”. Гэтая фірма павяла бухгалтэрыю газеты. “Прагрэс - 2” адпрацаваў гады два. Далей не змог. Выданне “Нашага слова” ўзяла на сябе Лідская гарадская арганізацыя ТБМ імя Ф. Скарыны. Недзе з год ці больш мы працавалі без афіцыйнага бухгалтара, але ж бухгалтэрыя вялася. Бухгалтэрыю газеты вяла галоўны бухгалтар аддзела культуры Лідскага гарвыканкама Валянціна Мікалаеўна Пятрэнка. Наборшчыцай з 1998 года працавала Ванда Адольфаўна Мацулевіч. Гады праз два яе змяніла Рыта Мікалаеўна Крупкіна. Экспедытарам была Надзея Цвіркун. Усе яны працавалі як сябры ТБМ.

Але патрабаванні да суб’ектаў гаспадарання пастаянна ўзмацняліся. Мы вымушаныя былі ўзяць афіцыйнага бухгалтара ў Лідскую гарадскую арганізацыю ТБМ - Аўгусцін Дануту Пятроўну, спачатку на грамадскіх пачатках, потым на паўстаўкі. Такім чынам сфармавалася выдавецкая структура ТБМ, якая перыядычна выклікала пытанні ў кантрольных органаў, але

фармальна прыдрацца не было да чаго.

Тым часам у краіне ішла актыўная законатворчасць, і быў прыняты закон, паводле якога грамадская арганізацыя, як такая, не магла быць выдаўцом газеты. Трэба было засноўваць гаспадарчую структуру. У канцы 2006 года была заснавана Установа інфармацыі "Выдавецкі дом ТБМ". У гэты час газета была ў вялікай небяспецы. Адмова ў рэгістрацыі Выдавецкага дома - і газета, і часопіс перастаюць выходзіць. Але афармленне дакументаў у Лідскім райвыканкаме і рэгістрацыя ўстановы ў Гарадзенскім аблвыканкаме прайшлі надзвычай гладка. На Пасведчанні аб рэгістрацыі № 804 стаіць дата 12.12.2006 г. Рэальна Выдавецкі дом ТБМ пачаў працу з 1 лютага 2007 года, паколькі пасля рэгістрацыі патрэбны быў яшчэ цэлы шэраг мерапрыемстваў: адкрыццё рахунка, пастаноўка на ўлік у падаткавай інспекцыі, атрыманне УНП, афармленне юрыдычнага адраса і г.д.

Сёння можна ўжо гаварыць, што газета была пад пастаянным кантролем ідэалагічнага аддзела Гарадзенскага аблвыканкама, але трэба сказаць і тое, што гэты самы аддзел самым непасрэдным чынам падтрымліваў газету. Можна назваць прозвішчы і сп. Біруковай, і сп. Амелькі, якія не адзін раз выручалі газету. Чаго вартыя словы сп. Амелькі дырэктару друкарні С. Лучко з нагоды аднаго з нашых вострых палітычных матэрыялаў: "Паласу зняць, Судніку перадаць - мы яму закрыць "Наша слова" не дазволім". Паласу замянілі, газета пайшла далей.

Трэба назваць і сп. Гурэцкага з Міністэрства інфармацыі, які таксама вельмі добразычліва ставіўся і да газеты, і да "Лідскага летапісца". Калі паўстала пытанне, што газеце трэба аб'яўляць папярэджанне, то ён замест пісьмовага, што цягне пэўныя наступствы, узяў і аб'явіў папярэджанне вуснае. Калі ж з-за ўнутранага канфлікту ўзнікла перспектыва закрыцця часопіса, сп. Гурэцкі сказаў: "Мы зробім усё, каб закрыцця не дапусціць. "Лідскі летапісец" - ужо брэнд".

Асобным сегментам дзейнасці і папярэдніх нашых выдавецкіх структур, і Выдавецкага дома ТБМ было выданне кніг. Пра гэта ніколі не пісалася, бо на пэўным этапе развіцця беларускага заканадаўства друк на рызографе прыраўноўваўся да паліграфічнай дзейнасці, а для таго, каб займацца апошняй патрэбна была ліцэнзія. Таму мы імкнуліся нічога не парушаць, друкавалі кніжачкі на правах рукапісу, малымі накладамі, праводзілі цераз іншыя выдавецтвы, перадавалі для друку ў іншыя друкарні. Зараз рызограф прыраўняны фактычна да ксеракса.

Першая кніга, якая была зроблена ў Лідзе, гэта "Расейска-беларускі вайсковы слоўнік", 1997 г., аўтары Станіслаў Суднік, Сяржук Чыслаў, 252 ст., 1300 асобнікаў. Вярстаў кнігу ў Лідзе Валяр'ян Пільчук. Кнігу правялі цераз менскае выдавецтва "Белфранс" і надрукавалі ў Лідскай друкарні з гатовых дыяпазітываў. Кожнае прозвішча ў выходных дадзеных гэтай кнігі - гэта прозвішча асобы нацыянальнага адраджэння.

Наступная кніга "Мой Грунвальд" Станіслава Судніка. Вёрстка Максіма Судніка. 1999 г., 120 ст. 250 ас. Кнігу надрукавала гарадзенская "Ратуша".

Першая вялікая кніга, якую я вярстаў, гэта кніга "Аняменне". Вярстаў няўдачна, кнігу перараблялі ў Менску. Асноўны ўкладальнік кнігі - Людміла Майсеня, рэдактар - Міхась Скобла. Мне пакінулі ў выходных звестках кампутарны набор. Кніга выйшла ў Вільні ў выдавецтве "Gudas" у 2000 г., 320 ст., 500 ас.

Ну і прыйшла чарга Ліды.

Магчыма першым быў надрукаваны "Статут Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны", 1999 г.

Далей пайшлі:

"Беларускі спеўнік", складальнікі Яўген Петрашэвіч, Алесь Місцюкевіч, 2002 г., 96 ст., наклад 299 ас.

Вольга Іпатава, "Задарожжа", 2004 г., 100 ст., 299 ас.

Алег Трусаў, "Падсумаванне", 2004 г., 72 ст., наклад 299 ас.

Мікола Котаў, "Народныя гульні", 2004 г., 36 ст., 299 ас.

Алесь Нічыпар, "Паўночная песня", 2005 г., 120 ст., 299 ст.

"Летапіс ТБМ, 1989 - 2004", 2005 г., 96 ст., 299 ас.

"Спадчына - 3. Да 155-годдзя з дня нараджэння Першага Прэзідэнта Чэхаславаччыны Томаша Масарыка", 2005 г., 90 ст.

Людміла Дзіцэвіч, "Беларуска - ірландскі дзённік", 2006 г., 108 ст., наклад 250 ас.

Васіліса Пазнухова, "Мілавіца", 2006 г., 76 ст., 250 ас.

Лявон Лаўрэш, "Генерал Кіпрыян Кандратовіч", 2007 г., 44 ст., наклад 250 ас.

Анатоль Крупа, "Пакінуць след на зямлі", 2007 г., 76 ст., наклад 250 ас.

Смарагд Сливко, "Продлись мгновенье...", 2007 г., 120 ст, наклад 250 ас.

Эдвард Войнилович, "Воспоминания", 2007 г., 380 ст., наклад 250 ас.

"Яго чакала Беларусь чатыры стагоддзі. Мікола Ермаловіч", Зборнік дакументаў і матэрыялаў да 85-годдзя з дня нараджэння Міколы Ермаловіча. Укладальнікі А. Белы, А. Валахановіч, Н. Сармант, 2007 г., 360 ст., наклад 150 ас.

І.Я. Лепешаў, "У пошуках ісціны", 2007 г., 196 ст. наклад 100 ас.

Станіслаў Суднік "Лідскія скрыжалі", 2008 г., 92 ст., наклад 299 ас.

Алеся Бурак, "Прастора дабрыні", 2008 г., 108 ст, наклад 150 ас.

"Шануйце роднае слова". Анталогія твораў лідскіх літаратараў пра беларускую мову. Укладальнік Міхась Мельнік, 2008 г., 96 ст., 299 ас.

"Летапіс ТБМ, 1989 - 2009", 2009 г., 164 ст., 299 ас.

Міхась Мельнік, "Лодка жыцця", 2009 г. 60 ст., наклад 100 ас.

С.В. Суднік, "Стэнаграфія", Навучальны дапаможнік, 2009 г., 224 ст., наклад 250 ас.

Статут Грамадскага аб'яднання "Таварыства

беларускай мовы імя Францішка Скарыны", 2009 г., 20 ст., 250 ас.

Беларускі перакідны краязнаўчы каляндар на 2010 год (на матэрыяле Гродзеншчыны), 2009 г., 188 ст., наклад 200 ас.

Матэрыялы канферэнцыі "Сучасны стан беларускай мовы і дзейнасць грамадскіх аб'яднанняў па яго паляпшэнні", 2010 г., 152 ст., наклад 250 ас.

Рычард Груша "Беларуская зорка". Песні для голасу ў суправаджэнні фартэпіяна. 2010 г. 146 ст. Фармат А-4, наклад 200 ас.

Іван Гушчынскі, "Ідзі і вяртайся", 2010 г., 60 ст., наклад 100 ас.

Смарагд Сливко "Радужное сияние", 2010 г., 104 ст., наклад 150 ас.

Виктор Бочаров, "Птица из Персидского залива", 2010 г., 88 ст., наклад 40 ас.

Беларускі перакідны краязнаўчы каляндар на 2011 год (на матэрыяле Гродзеншчыны), 2010 г., 188 ст., наклад 200 ас.

Станіслаў Суднік, "Літва", 2011 г., 216 ст., 250 ас.

Валерий Мацулевич, "Струны души", 2011 г., 60 ст., наклад 100 ас.

Уладзімір Гарачоў, "Калі ласка", Зборнік песень, 2011 г., 84 ст., наклад 100 ас.

Уладзімір Бурак, "Дарогі розныя бываюць", 2011 г., 72 ст., наклад 100 ас.

Беларускі перакідны краязнаўчы каляндар на 2012 год (на матэрыяле Гродзеншчыны), 2011 г., 188 ст., наклад 200 ас.

"Сучасны стан беларускага краязнаўства і валанцёрскі рух", Матэрыялы Рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі (г. Мінск, 16 красавіка 2012 г.), 2012 г., 224 ст, наклад 250 ас., Лідская друкарня.

Беларускі перакідны краязнаўчы каляндар на 2013 год (на матэрыяле Гродзеншчыны), 2012 г., 188 ст., наклад 200 ас.

Яніна Догель, "На дасвецці", 2013 г., 24 ст.

Беларускі перакідны краязнаўчы каляндар на 2014 год (на матэрыяле Гродзеншчыны), 2013 г., 188 ст., наклад 200 ас. (надрукаваны ў Гародні)

"Летапіс ТБМ, 2009 - 2014", 2014 г., 168 ст., 240 ас.

Валерый Мацулевіч, "Чалавек са свечкай", 2014 г., 72 ст.

Беларускі перакідны краязнаўчы каляндар на 2015 год (на матэрыяле Гродзеншчыны), 2014 г., 188 ст., наклад 200 ас., (надрукаваны ў Гародні).

Зборнік матэрыялаў Міжнароднай практычнай канферэнцыі "Моўныя правы і іх абарона", 28 сакавіка 2015 г., т. 1, 2015 г., 264 ст., наклад 250 ас.

Зборнік матэрыялаў Міжнароднай практычнай канферэнцыі "Моўныя правы і іх абарона", 28 сакавіка 2015 г., т. 2, 2015 г., 220 ст., наклад 250 ас.

Алесь Мацулевіч, "Леў і ключы", 2015 г., 92 ст., наклад 100 ас.

Беларускі перакідны краязнаўчы каляндар на 2016 год (на матэрыяле Гродзеншчыны), 2015 г., 188 ст., наклад 200 ас., (надрукаваны ў Гародні).




Беларускі перакідны краязнаўчы каляндар на 2017 год (на матэрыяле Гродзеншчыны), 2016 г., 188 ст., наклад 200 ас., (надрукаваны ў Гародні).

Акрамя таго мы аказвалі дапамогу Таварыству польскай культуры ў выпуску шэрагу кніг з серыі "Знакамітыя лідзяне", дапамагалі менскаму клубу "Спадчына" і гарадзенскаму музею Васіля Быкава.

Безумоўна, што нешта прапушчана, але гэта першая падборка. Важна тое, што гэта зроблена. Ніхто такога ўліку раней не вёў.

Што тычыцца лідскай кнігі ў гэты перыяд наогул, то шмат кніг выдадзена аўтарамі самастойна, у розных выдавецтвах, але гэта ўжо тэма іншага даследвання.

Выдавецкі дом ТБМ выдаваў яшчэ календары, буклеты, паштоўкі. Усе яны друкаваліся ў Лідскай друкарні.

Такім чынам УІ "Выдавецкі дом ТБМ" ужо ў гэтай новай структуры адпрацаваў 10 гадоў. Усяго восенню будзе 20 гадоў нашай выдавецкай дзейнасці. Усе гэтыя гады мы друкавалі сваю перыядычную прадукцыю толькі ў Лідскай друкарні. За гэты час Лідская гарадская арганізацыя ТБМ і выдавецкі дом ТБМ выдалі:

- амаль 1000 асобнікаў "Нашага слова";
- 76 нумароў "Лідскага летапісца";
- да сотні нумароў "Тэлескопа";
- 8 нумароў альманаха "Ад лідскіх муроў";
- каля 50 тытулаў кніг;
- шэраг календароў, буклетаў і паштовак.

***Дырэктар УІ "Выдавецкі дом ТБМ"***
***С. Суднік.***

# Лідскія юбіляры 2017 года

## 95 гадоў з дня нараджэння Янкі Жамойціна



Беларускі пісьменнік-публіцыст, літаратурны крытык, грамадскі дзеяч Янка Жамойцін нарадзіўся 28 студзеня 1922 года ў мясцовасці Клімавічы (каля вёскі Голдава, Лідскі раён). Вясковая сям'я, якая вярнулася з бежанства незадоўга да нараджэння Янкі, мела мянушку "Бацяны". Маці была краўчыхай, бацька ў няпростых умовах вёў гаспадарку. У сям'і было 6 дзяцей, адзін з якіх - Андрэй - пазней стаў святаром. На пачатку 1930-ых бацька быў пазбаўлены невялікай пасады, і сям'я зазнала нястачу. Сам Янка захварэў на жаўтуху, якая дала вельмі негатыўныя наступствы, хлопчык ледзь не памёр.

Пачаў вучыцца Жамойцін у польскай пачатковай школе ў суседніх Ігнаткаўцах. У 1929-36 г. вучыўся ў школе ў Скрыбаве і Шчучыне. У Шчучыне ён жыў у настаўніка-беларуса па прозвішчы Гулько, школа была ў кляштары піяраў. У 1936-39 вучыўся ў польскай гімназіі ў Варшаве, вучыцца там было вельмі цяжка, жыў у інтэрнаце. На вакацыях дома нечакана даведаўся, што выключаны з варшаўскага праваслаўнага мітрапольнага інтэрната. У 1939-41 гадах вучыўся у савецкай дзесяцігодцы ў Лідзе. Там жа напісаў свой першы артыкул у газету "Ўперад".

У час другой сусветнай вайны на акупаванай гітлераўцамі тэрыторыі займаўся арганізацыяй навучання дзяцей на беларускай мове ў Лідскай акрузе. Працаваў настаўнікам у вёсцы Касілаўцы, быў дырэктарам чатарохкласнай беларускай школы. У верасні 1942 паступіў на апошні курс сярэдняй школы ў Навагрудку. Там знайшоў сабе сапраўдных сяброўаднадумцаў. У 1943-ім кіраўніцтвам Беларускай незалежніцкай партыі накіраваны ў Саюз беларускай моладзі. Удзельнічаў у працы Другога Усебеларускага кангрэсу ў Менску.

У ліпені 1944 г. пакінуў Беларусь, быў у Германіі ў розных лагерах - на ўскрайку Берліна, у Кёльне, у канцы вайны быў у Дэсаў. У 1945 пераехаў у Польшчу, жыў у Рыпіне. Арыштоўваўся ў лістападзе 1945 органамі МГБ, быў зняволены, падвяргаўся катаванням. Потым неспадзявана і нечакана быў адпушчаны на волю. Паехаў у гарадок Пшэворск, дзе быў рэпатрыяцыйны пункт. Пазней закончыў у Лодзі прафесіянальны інстытут права і адміністрацыі (1949). У той час ажаніўся з дзяўчынай паходжаннем з Югаславіі, у сям'і нарадзіўся хлопчык, якому далі імя Леслаў. Жамойцін планаваў выехаць у Югаславію. У снежні 1949-га арыштаваны ў Польшчы паўторна, вывезены ў Берасце, потым у Менск, дзе засуджаны на 25 гадоў савецкага канцлагера. Перад гэтым пракурор патрабаваў расстрэлу. Этапаваны ў канцлагер пад Акмолінскам, потым у Караганду. Вызвалены з ГУЛАГу толькі ў 1956-ым. Пераехаў у Варшаву ў 1957-ым. Скончыў Варшаўскі ўніверсітэт (1970), атрымаў ступень магістра адміністрацыі. Жыў і працаваў у Варшаве.



Пісаў на беларускай і польскай мовах. Дэбютаваў як літаратурны крытык на старонках "Нівы" ў 1965 годзе. Яго пяру належаць шматлікія публікацыі пра паэзію беларускамоўных аўтараў Польшчы, артыкул-даследаванне "Шляхам "Іліяды" Гамера" - пра зроблены Браніславам Тарашкевічам пераклад гэтага твора на беларускую мову, шмат рэпартажаў, эсэ, крытычных артыкулаў. Яны друкаваліся ў "Ніве", "Беларускім календары", іншых выданнях у Польшчы. Апублікаваў у 1996 годзе біяграфічную аповесць "З перажытага".

Памёр Янка Жамойцін 25 красавіка 2003 года пры незвычайных абставінах. Калі ён ехаў у Беларусь, на памежным пераходзе ў Кузніцы сэрца патрыёта спынілася. Пахаваны Жамойцін у Варшаве.

***Вікіпедыя.***

**На фота:** Янка Жамойцін; Янка Жамойцін з Сакратам Яновічам.

*Янка Жамойцін*

# З перажытага

**Мой родны кут**

Клімавічы невялічкая вёсачка, усяго 16 сядзібаў, забытых Богам і людзьмі пасярод разлеглага балота. Груд на ўскраіне дрыгвяністай абалоны вызначыў асаблівы расклад вёсачкі. Сядзібы вяскоўцаў уладзіліся не так, як наогул у іншых вёсках, абапал адной вуліцы - яны неяк прытуліліся да сябе, утвараючы заселенае кола, якое пераразалі дзве вуліцы накшталт літары "Т". Пачынаючы з паўднёвага захаду, ад асновы літары да яе папярочкі, былі сядзібы Радзюжоў, Сямашкаў і аднаго Давідовіча; правы рукаў, з цэнтру на паўднёвы ўсход, засялялі Клімовічы, Жамойціны, Саўрасы і адзін Сямашка; з сярэдзіны на паўночны захад ішлі сядзібы Клімовічаў і Здановіча.

Вуліца, што ішла на паўднёвы захад, канчалася невялікай грэбляй і мосцікам, адразу за якім была вёска Губяйкі, а далей - Сямашкі каля чыгункі. Паўднёва-ўсходнім рукавом вуліца выходзіла ў поле і нейкіх паўкіламетры далей упіралася ў балацявінку, цераз якую драўляная кладачка спалучала Клімавічы з Ігнаткаўцамі. Усё заплечча клімавіцкай літары "Т", з паўднёвага ўсходу па паўночны захад, займала балота з невялікім алешнікавым зараснікам, які называлі купнікам. Фактычна, вольхі раслі на купінах. Балота разляглося на добрых 10 квадратных кіламетраў. За балотам былі вёскі Голдава і Цвербуты ды пасёлак Вайнаполе.

Вуліца, што выходзіла на паўночны захад, за вясковым выганам і магілкай невядомага жаўнера з І сусветнай вайны знаходзіла свой працяг у палявой дарожцы. Яна лёгкім пад'ёмам даходзіла да мясцовага ўзвышша, на якое ўсе казалі Горка, а потым раптоўна спускалася ў "садок" з грэбляй. "Садком" у нас называлі поплаў, які доўгім на два кіламетры клінам урэзваўся ў груд на ўскраіне дрыгвяніку. За грэбляй дарожка лагодна падымалася ўверх між палёў ажно да чыгункі, якая пераразала Праходы - так называлі клімавіцкі лес. За лесам быў санлівы чыгуначны паўстанак з поштаю, дрымоту якога толькі зрэдчас парушалі цягнікі маршруту Варшава - Ліда.

У Клімавічах, як і ва ўсіх іншых вёсках у ваколіцы, насельніцтва было амаль выключна карэннае. Хлопцы жаніліся перш за ўсё з дзяўчатамі са свае вёскі, або з суседніх, з якімі знаёміліся на царкоўных святах ці на вечарынках. Такім чынам сваяцтва завязвалася паміж жыхарамі наогул аднаго царкоўнага прыходу. Межы такога прыходу і вызначалі абсяг вядомага свету для большасці прыхаджанаў, калі не лічыць тых хлопцаў, якіх бралі ў войска.

Мой час, пра які тут гутарка, пачаўся пад канец другога дзесятка гадоў гэтага стагоддзя, калі ў роднай старонцы на змену расейскаму рэжыму прыгнёту прыйшоў польскі. Людзі апынуліся ў іншай дзяржаве, але гэта не займела вялікага ўплыву на іхні лёс, унутраны свет, працу ад зары да зары, іх адвечныя звычаі, турботы і ўцехі. Праўда, людзі хапілі бяды, прычыненай вайною і бежанствам ды самаволяй салдатні і бандытызмам. Край быў знішчаны, але народ, разагнаны па свеце бежанствам ці схоплены ў салдаты, вяртаўся ў свае гнёзды, каб нанава наладзіць сваё немудрагельнае бытаванне. Дзе-нідзе прыходзілі весткі ад адзіночных сем'яў у Расеі, якія, напалоханыя чуткамі аб самаўпраўстве польскіх легіянераў, пастанавілі заставацца на чужыне. У асноўным, аднак жа, вясковы люд вярнуўся ў сваёй натуры не зменены, хоць і здаралася чуць пра выпадкі прыгнечаных ліхалеццем бежанцаў.

Частцы клімавіцкіх сем'яў удалося ўхіліцца ад бежанства перад немцамі і стрываць вайну на месцы; іншыя вярнуліся дахаты пасля пяцігадовага бадзяння па расейскіх абшарах. З'яўленне ў вёсцы некага чужога ставалася небывалай падзеяй, чуткі пра якую ішлі далёка за ваколіцу. Нешта такое прыдарылася і ў Клімавічах, калі з вайны вярнуўся Ўладзюк Саўрас, прыхапіўшы сабе дзеўку недзе ажно з Падмаскоўя. Дзеўка тая ніяк не змагла навучыцца нашай "простай" мовы і гаварыла ўвесь час мала ўцямнай маскоўскай "скороговоркой". Дастала яна за гэта мянушку Маскоўка і ніхто не азываўся пра яе інакш, відаць, і не ведаючы яе сапраўднага імя. Уладзюк жа з таго часу значыўся Саўрасом адно ў метрыцы, бо для вёскі стаўся ён Маскалём. У гэтым, дарэчы, не было нічога дзіўнага, бо мянушкі мелі амаль усе вяскоўцы. Іншых называлі "рыжымі" ці “рыжакамі", яшчэ іншых - "газванамі", "бэлдыкамі", "смецюхамі"... Наша сям'я мела мянушку “Бацяны”, ад таго, магчыма, што на высознай і разгалістай ліпе каля нашае хаты абсталявала сабе гняздо бусліная - бацяновая - сям'я. Цікава, што самую птушку людзі ў вёсцы называлі буслам, нас жа ахрысцілі "бацянамі".

Апрача Маскоўкі была яшчэ адна адметная жанчына - жонка Карпуся Давідовіча, якую не называлі інакш як Карпусіхай. Была гэта адзіная жанчына ва ўсім прыходзе, якая курыла тытунь; да таго - гандлявала ў краме, пакуль не абанкруцілася. Іншыя вяскоўцы былі "ўсе свае" і вылучаліся хіба што звычкамі ці здольнасцямі. Цікава, несумненна, і тое, што ў вёсцы не было ніводнага п'яніцы. Зрэшты, цана гарэлкі не заахвочвала да яе спажывання, а пагроза 2-гадовага зняволення абмяжоўвала вытворчасць самагонкі.

Цвёрды сялянскі лёс яднаў усіх вяскоўцаў у поглядах на лад і ўклад жыцця. Калі хто выбіваўся з агульнапрызнанага сялянскага кругавароту, яго лічылі не зусім каб нармальным. Быў у нас такі адзін, Тодар Радзяк, які, пакінуўшы клопат аб гаспадарцы брату, хапіўся за рамяство. Людзей ён найбольш здзівіў самакатам - бліскучым, на двух колах, першым гэткім дзівам у вёсцы. Катаўся ім на выгане, захапляючы смургеляў і выклікаючы зайздрасць у падлеткаў. А Іван Саўрас, празываны ў нас Смецюхом, які таксама шмат якія штукі патрапіў вырабіць, узяўся і сам змайстраваў самакат, каб не ўступіць Тодару. Іван ужыў дзеля гэтага два калаўроткавыя колы і яшчэ нейкія іншыя часткі з хатняга спрату. Цяжка, мабыць, у гэта паверыць, але самакатам можна было ездзіць. Дальбог...

Тэхнікі ў той час у заходнебеларускай вёсцы не было амаль ніякай. З новай, "панскай" уладай не прыйшла нейкая новая цывілізацыя. Найхутчэй прыйшлі судовыя

экзекутары, каморнікі і каланісты. Асноўнымі прыладамі сялян далей былі серп, каса і цэп. Праўда, курныя хаты зніклі з сельскага краявіду, жалезныя плугі заступілі драўляныя сохі, а бароны займелі жалезныя зубы. Лучына, якою паўсюдна асвятлялі хаты, цягам часу ўступіла месца газоўкам. Аднак газа была дужа дарагая сялянам, таму яшчэ і ў пачатку 30-х гадоў старэйшыя клімавічане запасілі на зіму сасновую лучыну, якой свяцілі не толькі ў хаце, але і калі на додніцы хадзілі малаціць. Лучыну ўтыркалі ў старанна падраўнаваныя і звязаныя слупікі жытняй саломы і запальвалі яе з другога канца. Усе малацілі цапамі, і толькі самы багаты гаспадар у вёсцы, Аляксандар Клімовіч, меў конны манеж, які служыў рухавіком для сячкарні і малатарні. Збожжа ён касіў касою, у той час як усе іншыя жалі сярпамі, упэўненыя, што каса абівае зерне і марнуе яго. Прытым, як усе лічылі, з абмалоту з-пад касы нельга было звязаць добрых кулёў, ці то каб пашыць стрэху, ці накрыць яміну з бульбай на зіму, ці хоць асмаліць вепрука перад свежаваннем. Адсутнасць тэхнікі і наогул прагрэсу ды зацікаўлення "крэсовым" землеробствам з боку ўладаў пакідала сельскую гаспадарку на ўзроўні дзевятнаццатага стагоддзя. Сяляне цяжка працавалі на свой мізэрны быт, здабываючы грошы на падаткі, газу і соль за выручку з продажу збожжа ці жывёлы, альбо за паўдармовую працу ў мясцовых абшарнікаў і каланістаў.

Праца вяскоўцаў на ўласных гаспадарках вызначала ўвесь кругаварот вясковага жыцця. Пасля абмалотаў наступаў зімовы перапынак у мужыцкай працы, за якім ішла трывожная і наогул галодная пара прадвесня, калі вёска рыхтавалася да вясны. Тады якраз рабіліся ўсе ўзгадненні: калі выпускаць жывёлу ў поле; з якога канца вёскі вызначыць чаргу пасьбы жывёлы; калі выйсці ў поле з плугамі; калі пачынаць сяўбу ярыны; калі садзіць бульбу. Неўзабаве пасля веснавога клопату пачыналіся сенакосы. На досвітку ўсю вёску будзіў звон менчаных на палосках аселіцы косаў, які ў мяне нязменна выклікаў уражанне нейкага светлага і радаснага ўздыму сярод усіх жыхароў. Дасюль не магу ўразумець, як кожнаму гаспадару ўдавалася беспамылкова трапіць на сваю вузкую палосачку сенакосу, якія ж не былі аддзелены ніякімі асаблівымі пазнакамі ці межамі. Не прыгадваю, каб гэта давяло да якога большага канфлікту ці сваркі. Калі і здаралася каму "падкасіць" у суседа, перапросіны наступалі адразу. Пасля сенакосаў у адзін час для ўсяе вёскі пачыналася сярповае жніво, якое звычайна канчалася дажынкавымі песнямі і нярэдка сціплым застоллем. А потым ішла асенняя пара з капаннем бульбы і сяўбою жыта, ажно да малацьбы, і кругаварот паўтараўся.

Гаспадыні была адведзена не менш істотная роля ў гаспадарцы, хоць традыцыя стаўляе яе заўсёды на другі план. Няпісаным абавязкам гаспадыні было накарміць сям'ю, апрануць, утрымаць парадак у хаце і чысціню ды яшчэ пасабляць ў гаспадарскіх і палявых занятках. Тэхніка і цывілізацыя і ў гэтых адносінах таксама амаль не прысутнічалі. Каб утрымаць сякую-такую чысціню, трэба была падрыхтаваць "лугавую ваду" - настойку з попелу, залітага варам. У гэтым "лузе" з дадаткам крынічнай вады мыліся кожную суботу дарослыя і дзеці, а таксама ўжываўся ён для мыцця бялізны. У гэткі спосаб людзі ашчаджалі дарагое ў той час мыла.

У полі серп быў выключна жаночай прыладай. Мужчыны амаль не дакраналіся да яго; іх абавязкам падчас жніва было вязаць снапы, сушыць іх у "дзесятках", звозіць у гумны і малаціць ды перасейваць. Гаспадыня даставала муку, з якой ёй трэба было ўмець рабіць адмысловую закваску, рашчыняць і пячы хлеб, які павінен быў захоўвацца адносна свежым на працягу двух тыдняў або нават даўжэй. Выраб бялізны і іншае вопраткі вымагаў самага складанага ўмельства ў працы вясковай жанчыны. Пачыналася ўсё ад лёну, утрымаць чысты палетак якога лічылася гонарам кожнае гаспадыні. Большасць далейшых натугаў у апрацоўцы лёну была праводжана талакою, значыць калектыўна, усёй вёскай. Лён трэба было вырваць, абмалаціць сем'е ручнымі пранікамі на таковішчы ў клуні, разаслаць на поплаве і высушыць, звязаць у кулі, перасушыць у сушарні, сцерці на церніцах дзеля аддзялення валакна ад кастрыцы, патрапаць валакно на трапачках і вычасаць. Талака пры апрацоўцы лёну была выклікана перш за ўсё наяўнасцю толькі аднае сушарні на ўсю вёску і неабходнасцю сцерці лён на церніцах неадкладна пасля перасушкі і абтрапаць яго з рэштак кастрыцы. Ільняное валакно, прызначанае на палатно, вымагала дакладнага вычасання на часалках, якія былі зроблены з цвікоў адпаведна ўбітых у дошку, што прымацоўвалася на "козлах". Зрэбныя тканіны - на рабочую вопратку, мяшкі - не вымагалі ажно так роўнай і тонкай пражы, як палатно.

Пража ачышчанага валакна - кудзелі, прымацаванай да прасніцы - адбывалася штодзённа: на додніцы, да таго як рыхтаваць снеданне сям'і і карміць жывёлу, а таксама вечарамі. Калаўроткі былі цудам тэхнікі, з якім старэйшыя жанчыны ніяк не маглі звыкнуцца, а таму яны сваю пражу круцілі на верацёнах, якія вымагалі спрыту, амаль як у жанглёраў. Дзяўчаты збіраліся са сваімі кудзелямі на вечарыны, штодня ў іншай, ды пралі, спяваючы песні, жартуючы з хлопцамі, ці слухаючы іхняе балаканне. Далей трэба было зматаць пражу на матавілах, потым у клубкі, а потым аснаваць на асноўніцах і выткаць на кроснах. Так мінала жанчынам зіма. Апошняй дзеяй у гэтым надта складаным працэсе было бяленне палатна, калі веснавыя паплавы ўсціlаліся доўгімі палатнянымі дарожкамі.

**Дзяцінства прайшло ў Клімавічах**

Я нарадзіўся 28 студзеня 1922 г. неўзабаве пасля вяртання сям'і з бежанства. Мама - здольная і працавітая краўчыха, акрамя звычайных заняткаў, звязаных з доглядам дзяцей і рыхтаваннем ежы, шмат шыла і вучыла шыццю і крою іншых дзяўчат, што дапамагло ў пачатковы перыяд пасля вяртання з бежанства ўтрымаць сям'ю ды ў далейшым не раз ратавала з розных нявыкрутак. Іншымі гаспадарскімі справамі займалася бабка Куліна і асірацелая пляменніца Стэпка, якая таксама належала да сям'і. Калі яны памерлі, усе абавязкі зваліліся на маміны плечы. Бацька мой закончыў усяго прыходское вучылішча, але меў даволі шырокія зацікаўленні, якія стараўся пашырыць яшчэ больш саматугам. Гаспадарка ва ўсім гэтым цікавіла яго найменш, хоць кіраваў ёю сумленна. Часткова нашу гаспадарку абраблялі іншыя людзі ўзамен за маміны кравецкія паслугі. Бацька энергічна ўзяўся кіраваць сеткай вясковых крамаў кааператыва "Сполэм" ды таксама дзейнічаў ва ўправе вясковай (ці мо гміннай) крэдытнай касы Стэфчыка. Апрача гэтага ён быў заўсёды заняты бескарыслівай дапамогай аднавяскоўцам у іхніх праблемах з войтам, паліцыяй, прыходскім святаром ці судамі. Сам ён таксама час ад часу не мінаўся з каморнікам за незаплачаныя падаткі ці страхоўку, ці за нейкія банкавыя

няўплаты, у чым яго мусіла выручаць мама. Нямала часу і грошай ён патраціў на судовыя справы за фальварак каля сотні гектараў з лесам, які ягоны слабадумны пад старасць дзед запісаў у тастаманце свайму работніку, кавалю, калі бацька з сям'ёй быў у бежанстве. Судзіцца з кавалём, да таго ўласнікам такога маёнтка, было ў Рэчы Паспалітай безнадзейнай справай. Аднак жа гэта каваля-памешчыка, а не майго бацьку за той фальварак "вызваліцелі" ў 1940 годзе адправілі ў Сібір. Ці то ад удзячнасці для лёсу, ці то ад пачуцця маральнай перавагі над колішнім судовым праціўнікам, бацька, па намове мамы, тайком пасылаў кавалю на выгнанні крупы на кашу, каб той з сям'ёю не прапаў ад галоднай смерці.

Нарадзіўся я ў тыповай хаце на дзве сям'і, у так званай хаце "ў два канцы" з уваходам цераз ганак у супольныя сені. Адзін "канец" належаў нашай сям'і, а ў другім жыў дзед Юстын (дзядзька майго бацькі) з бабкай Марыяй ды сынам Касцюком і братанічам Аляксандрам, ведамым як Шурка. Шурка быў солтысам са стажам роўным узросту ІІ Рэчы Паспалітай з працягам на пазнейшыя савецкую і нямецкую акупацыі (ягонае салтысаванне закончылася яму дзесяцігадовым побытам у ГУЛАГу). У цэнтры нашай хаты стаяла вялізная печ з прыпечкам. Хата, з уваходам з сеняў праз кухню, была падзелена на чатыры памяшканні: кухню (з дадатковым "чорным ходам"), "вялікую хату" і дзве спальні, называныя "бакоўкамі".

Дваццатыя гады былі часам дастатняга сямейнага жыцця.

Мама - увасабленне жаночай уражлівасці - была нашай, дзяцей, заступніцай перад бацькам. Баба Куліна запамяталася мне асобай, вечна нечым занятай, якая ўсё шаптала пацеры, а калі не, дык у нечым усё нас, малечу, папракала, або нешта загадвала нашаму сабачку Галасу, або клікала коціка, прыяцеля майго малодшага брацікa. Стэпка, пасля хатняга занятку, прысядала да прасніцы з калаўроткам, дзе хутка і засынала, зморaная працай.

Бацька часта падарожнічаў сваёй каляровай брычкай, у якой любіў сабе падрамаць у даўжэйшыя выезды. Наш гнядач заўсёды надзейна дастаўляў гаспадара на свой панадворак. Частыя бацькавы адлукі ад дому, тым не менш, не замінaлі паступовому павялічванню сям'і.

Сястра Людміла, старэйшая за мяне на сем гадоў, нарадзілася ў бежанстве. Па мне, больш-менш кожныя два-тры гады, з'явіліся ў свет Аляксей, Андрэй, Таіса і, крыху пазней, Алег. Люда закончыла беларускую гімназію ў Вільні і педагагічны інстытут ды стала настаўніцай; Андрэй выбраў сабе сан святара; Лёня і Алік закончылі тэхнічныя школы і працавалі майстрамі слесарскіх цэхаў на фабрыцы. Усе браты ўдаліся музыкальнымі, іграюць на розных інструментах. Таіса, здольная і энергічная асоба, стала шэрым кардыналам лідскага шырспажыву.

Стыль бацькавага жыцця вымагаў кантактаў, перш за ўсё з мясцовымі знакамітасцямі, якіх бацька час ад часу запрашаў на паляванне або суботамі ў лазню (якая ўвосень была сушарняй лёну). Хоць сам бацька не быў вялікі ахвотнік да выпівання, то для сваіх гасцей ён ладзіў вячэры за кошт мамінай працы. Гаспадар лішняй чаркі не выпіў, але гасцям не скупіўся з напоямі, ажно пакуль застольная гамана не пераходзіла тую мяжу, за якой канчалася маміна цярплівасць. Здаралася часамі і "культурная дзейнасць" падчас тых застолляў. Людка, якой тады споўнілася 12 ці 13 гадоў, падрыхтавала мяне і Лёню (чатыры гадкі) да "эстраднага" выступлення. Апрануўшы нас у белыя кашулі ды абуўшы ў юхтавыя хадакі на ваўняныя белыя самаробная шкарпэткі, яна выпіхнула нас з бакоўкі да банкетнікаў якраз у той момант, калі псаломшчык, не зважаючы на прысутнасць свайго шэфа, дабрачыннага айца Мацея Яцкевіча, забасаваў:

С вином мы родились,
с вином мы помрём...

Мой брацік, у якога быў незвычайны слых, пераступіўшы цераз парог, заінтанаваў (а я за ім):

Ой гарэліца мая,
што ты вычаўпляеш,
ты над намі мужыкамі
літасці не маеш!

Госці замоўклі на такую нечаканасць, а мы, убачыўшы бацькава нахмаранае аблічча, счэзлі з ягонага поля зроку. Воплескі гасцей, якія паляцелі нам наўздагон, супакоілі бацьку, а мама палічыла наш "нумар" нялішняй антыалкагольнай прапагандай.

Наступствы грамадоўскага ўздыму, як і ўсё іншае на свеце, адчуліся ў нашай вёсачцы са спазненнем у некалькі гадоў, але ўсё ж не мінулі яе. Паколькі наш бацька быў адным з штандаровых актывістаў, дык яго і закранула рэакцыя ўладаў. На пачатку 30-х ён быў пазбаўлены кіраўнічай пасады ў вясковых кааператывах "Сполэм", а пасля і адхілены ад удзельніцтва ва ўправе Стэфчыкавай касы, ды яшчэ з якімісьці прыдуманымі, на яго погляд, абвінавачаннямі ў матэрыяльным злоўжыванні.

Сям'я пачала адчуваць нястачу, якая з цягам часу ставала ўсё больш невыноснай. У дадатак да гэтага я цяжка захварэў пасля нявылечанай да канца жаўтухі. Перыядычныя наведванні лекараў у Лідзе і Шчучыне, адлеглых ад вёскі на 25 кіламетраў, не далі ніякіх вынікаў. Хвароба мяне знемагала крок за крокам, арганізм на працягу аднаго года аслабеў настолькі, што я не меў сілы ўстаяць на нагах, часта трызніў і страчваў прытомнасць. Крызіс прыйшоў у пачатку 1931 года. Апрытомнеўшы, я ўбачыў заплаканую маму і сумнае аблічча бацькі. На стале каля маёй пасцелі стаяла грамнічная свечка ў шклянцы з жытнім зернем. Запомнілася адчуванне задаволенасці, што мой лёс выклікаў спагаду не толькі бацькоў, але і ўсёй сям'і. Потым мне апавядалі, што, не вычуваючы пульсу, усе падумалі, што я ўжо памёр. Адзін бацька, як заўсёды, не здаваўся. Хутка пабег на лыжах да настаўніка Юнга ў суседнія Ігнаткаўцы і прынёс укол, які сам мне зрабіў, пабуджаючы, праўдападобна, дзейнасць аслаблага дашчэнту сэрца. Адсюль пачалося павольнае перасільванне хваробы і доўгачаканае паляпшэнне здароўя.

Ачуняўшы канчаткова ад хваробы вясною 1932, я з неспакоем пачаў думаць пра школу, у якую не хадзіў звыш года. Школьныя заняткі неразрыўна спалучаліся з "лапамі" (сцябаннем прутком па далонях) і стаяннем на каленях для ўсяго класа. Гэткім чынам пан навучыцель Юнг дапамагаў нам засвоіць падставу ідэалагічнага ўзгадавання ў польскай дзяржаве - вершык "Кто ты естэсь? Поляк малы..." Пайшоўшы ўвосень 1931 г. у чацвёрты клас, я ўбачыў, што атмасфера ў школе стала іншай.

Школьныя сябры (у тым ліку, праўдападобна, і я сам) падраслі. Большасць заняткаў у нашым класе вяла настаўніца, жонка кіраўніка школы пана Юнга, Марыя Юнг. Пані Марыя паходзіла з Віленшчыны (ейны муж быў з Велькапольшчы) і была добрай настаўніцай, якая знаходзіла паразуменне з вучнямі і абуджала іх давер і сімпатыю. Яе адносіны да нас былі важнейшыя за якія-небудзь іншыя ўзгадавальныя метады. Дзеці, пераканаыя сваёй настаўніцай у багацці, красе і сусветным значэнні

Польшчы - іх ойчызны - захапляліся гераічным рыцарствам, слаўнымі каралевамі і абагаўляным Першым Маршалкам, які адваяваў з нявoлі тую ойчызну, ды ўспрымалі геаграфічныя і гістарычныя навукі сваёй пані як дзівосны, казачны свет.

Незалежна ад усяго, найбольшыя эмоцыі ў школьным жыцці выклікаў канец заняткаў, якія завяршаліся супольнай малітвай “Дзенкі Ці Божа за святлосьць тэй навукі...”. Тут наступала "ідэалагічнае" спаборніцтва. Групка шарачковых шляхцюкаў з калоніі Станкевічы, якія былі "польскай веры" (іх было намнога менш, чым нас, "рускіх"), гарлапаніла на ўсю моц: “Вымя Ойца і Сына і Духа Свянтэга аман”. Мы, каб не паказаць сябе горшымі, хоць і "рускія", можа не так прарэзліва, але дружна падтаквалі: “Воймяца і Сына і Сьтага Духа амін”. Пасля гэтага рытуалу, "польскія" і "рускія", змяшаўшыся ў адну грамаду і адчуваючы павеў свабоды, усе аднолькава загаворвалі "па-просту" і разбягаліся кожны ў свой бок, у той неказачны, басанoгі, зрэбна-шарачковы свет.

Такім чынам у галовах чацвёртакласнікаў замацоўвалася ўяўленне аб двух светах. Першы з іх быў школьным, заможным, панскім светам з панскай уладай, панскай мовай, панскімі маёнткамі і паліцыяй, якой пужалі дзяцей. Другі - гэта іх хатні, штодзённы свет, падпарадкаваны таму першаму, перад якім бацькі здымалі шапкі і адчувалі страх. Гэта і было дастатковай адукацыяй выпускнікам чатырохкласнай школы ў Ігнаткаўцах, каб пасеяць у іх душах комплекс непаўнацэннасці і неабходнасць пакорлівага падпарадкавання.

Не лічачы маёй асобы, толькі два сябры з ігнаткаўскай чатырохкласнай школы былі высланы бацькамі ў пяты і пасля шосты класы школы ў Скрыбаве, адлеглым на сем кіламетраў па простай лініі, гэта значыць, напрасткі цераз дрыгвяны поплаў. З сябрам Барысам Паваргам мы штодзённа перамервалі туды і назад, палову шляху подбегам і палову маршавым крокам. На зіму бацькі кватаравалі нас абодвух у нейкай цёткі, якая жыла побач школы, разам з тым трэцім сябрам, шляхцюком Вацлавам Кмітам. Скрыбаўская гмінная школа імя Пілсудскага, вялізная і новая, ставіла вучням большыя вымогі, а яе кіраўнік, пан Семяноўскі, дбаў пра належную дысцыпліну і ўзровень, неабходны для падрыхтоўкі выпускнікоў да далейшай навукі ў гімназіі.

Тым часам, у 1933 г., бацька адвёз сястру Людку ў Вільню і ўладкаваў у Віленскай беларускай гімназіі.

**З роднай хаты ў свет**

Дома жыццё паступова ўскладнялася. З году ў год нарастаў крызіс і павялічваліся нястачы, а тут яшчэ і мне трэба было шукаць якогасьці кірунку. Каб не марнаваць часу, прыйшлося прадоўжыць навуку ў сёмым класе, праграма ў якім была задумана, як падрыхтоўка да практычнага жыцця для тых, хто на гэтым канчаў сваю адукацыю. Найбліжэйшая ад Клімавіч сямікласная школа была ў Шчучыне, мястэчку адлеглым на 25 кіламетраў. Туды і завезлі мяне бацькі ды пакінулі на кватэры ў знаёмага настаўніка Гулько, шчырага беларуса. Спадар Гулько быў яшчэ не стары сямейны чалавек, але чамусьці пазбаўлены настаўніцкай пасады. Сям'ю, відаць, утрымоўваў з нейкае сціпленькае пенсіі. Сям'я ў яго была не малая, ды маладая. Наймалодшаму Яўгену было шэсць гадоў, потым ішлі Галя, Ліда і Люда, якая, здаецца, была гады два малодшая за мяне. Жонка ў яго была кабета вясковая, практычная і, па неабходнасці, ашчадная. Непарушнае мяню на вячэру складала ў яе тоўчаная бульба, скупавата палітая нейкім соўсам з цыбуляю. На такім наедку не растлусцееш. Ды справа ўвогуле была ў тым, каб дзеці не дужа балюча галадалі.

Да мяне адносіліся, як да сямейніка. Дома мы разам вучыліся, аднолькава карысталіся дапамогай спадара Гулько ў падрыхтоўцы ўрокаў, разам гулялі і разам хадзілі ў школу, якая месцілася ў кляштары айцоў піяраў каля парку князёў Друцкіх-Любецкіх. У нядзелькі слухмяна наведвалі царкву, дзе па загаду бацькі я стаў прыслужваць айцу Прытыцкаму падчас літургіі. Справа была ў тым, што бацька даведаўся аб існаванні праваслаўнага мітрапольнага інтэрната ў Варшаве, дзе можна было дастаць стыпендыю і накіраванне ў гімназію. Дзеля гэтага трэба было выканаць наступныя ўмовы: а) падпісаць заяву на тэалагічную падрыхтоўку ў інтэрнаце ды на навуку ў тэалагічным ліцэі і далей, ажно да сану святара; б) даслаць пасведчанне аб здадзеным уступным экзамене ў адной з вызначаных гімназій у Польшчы (у маім выпадку - у Гародні); в) даслаць рэкамендацыю ад святара; г) забяспечыць кандыдата дзвюма гімназічнымі ўніформамі, двума плашчамі, адпаведным абуткам і бялізнай. Бацька пастанавіў выканаць усе ўмовы, нягледзячы ні на якія кошты.

Самым далікатным момантам быў экзамен у гімназію, ад якога залежала ўсё далейшае. Маё падарожжа цягніком у Гародню, упершыню ў гэткі свет, было адзінокае і трывожнае. Праўда, раней мне даводзілася адольваць пехатою 25 кіламетраў са Шчучына дахаты на Вялікдзень ці Каляды, але тут была новая сітуацыя: я ехаў у невядомае. Бацька не стрываў напружанасці ў чаканні выніку майго экзамену. Пазычыўшы самакат у настаўніка Юнга, ён адолеў на ім 100 кіламетраў і нечакана з'явіўся ў гімназіі. "Прыклаўшыся да манкета" ксяндзу, дырэктару гімназіі, ён даведаўся, што асноўны мой экзамен, па польскай мове, - праца на тэму "Кім хачу быць у жыцці?" - быў ацэнены вельмі добра. Гэта бацьку супакоіла, хоць ксёндз-дырэктар адзначыў пры тым, што па геаграфіі я не адказаў на адно пытанне: "Што такое белы вугаль і дзе яго найбольшае скупішча?" Фактычна, я не мог на яго адказаць, бо дагэтуль не чуў такой дзівотнай назвы сібірскай драўніны. Гэта, на шчасце, не перашкодзіла мне атрымаць прамоцыю ў гімназію.

Сам я перажываў тыя падзеі, пэўна, не менш за бацьку, бо запамятаўся мне ўбачаны ў часе вакацыяў сон, як быццам Божая Маці прыслала мне два белыя пантофлі, якія прынёс анёл і павесіў на штыкецінах перад вакном. Сон той найбольш усцешыў маму, бо з яго яна гадала памыснае заканчэнне ўсяе справы.

Мой паспяховы экзамен у гімназію ўсцешыў і сястру Людку. На яе думку, у інтэрнаце я апынуся ў асяроддзі блізкім да нашай беларускай культуры. Гэта пад яе ўплывам пачала абуджацца ўва мне беларуская свядомасць. З кожным сваім прыездам з Вільні Людка прывозіла адпаведную сялянскім зацікаўленням літаратуру на беларускай мове, перш за ўсё - беларускія календары. Маім абавязкам было распаўсюджваць іх сярод сялянаў. Спачатку справа ішла надта нясмела; адно лічаныя вяскоўцы былі ў змозе адшкадаваць залатоўку на каляндар. Але звестка пра яго ўсё ж разыходзілася па сёлах, і праз год гаспадары (і асабліва гаспадыні) самі запрашалі мяне дахаты і прасілі каляндар ці кніжку, а то і прыходзілі да нас, каб іх купіць або заказаць. Настаўнік Гулько са Шчучына быў другой асобай, якая істотна прычынілася да майго нацыянальнага ўсведамлення...

*(Працяг у наступным нумары.)*

# Да 80-годдзя - выхад чарговай кнігі Ўладзіміра Васько "Зігзагі лёсу"

Лідчына - край талентаў, які нарадзіў і ўзрасціў шматлікіх творцаў, што сваімі набыткамі праслаўляюць не толькі прынёманскія мясціны, але вядомыя і далёка за іх межамі. Сярод яркіх асоб на літаратурнай Лідчыне вызначаецца паэт, празаік, журналіст Уладзімір Гаўрылавіч Васько.

За яго плячыма пакінута не адна сотня вёрстаў, дзе шляхі неаднаразова разыходзіліся, пакуль не сышліся ў адну і вельмі ўдалую дарогу, па якой яго лёс і вядзе да гэтага часу. Уладзімір Васько вялікую частку свайго жыцця прысвяціў літаратурнай справе. Таму не дзіўна, што шаноўны творца, да свайго 80-гадовага юбілею (нарадзіўся 2 студзеня 1937 г.) выдаў новую кнігу "Зігзагі лёсу", пятую па ліку.

Выданне пазначаецца як навукова-папулярнае і выйшла накладам 120 паасобнікаў у выдавецтве "ЮрСаПрынт" у горадзе Гародні, налічвае 216 старонак. Кніга апавядае пра асабісты жыццёвы шлях аўтара, яго эмацыянальнае і разумовае ўспрыняцце людзей, з якімі сустракаўся, а таксама пра хараство прыроды і навакольнага свету тых мясцін, дзе была пакінута ім жа пэўная частка жыцця. Налічваецца 68 раздзелаў з фотаздымкамі.

Як пазначае У. Васько, памяць у яго прачнулася вельмі рана. Ён памятае нават, што ў маленстве не мог заснуць без матчыных песень, што з калыскі любіў разглядаць сучкі ў бярвеннях сцяны. Ён з'яўляецца сведкам таго, як ў час Вялікай Айчыннай вайны яго сябар Шурык у спіцах задняга кола ровара, на якім ехаў немец, заблытаў пугу. Але маленне жанчыны да немца выратавала хлопчыка ад жахлівага расправы. Нават яго айчым, Іосіф Сямёнавіч Васько, у хатняй каморцы, дзе жыла сям'я, выратаваў маленькага габрэя ад нямецкага расстрэлу. У. Васько, узгадваючы пра сваё дзяцінства, не забывае падзяліцца і пра забелены смачны і духмяны крупнік, наліты яму бабуляй Дамянікай. Васько - адзін з тых, хто наталяўся водарам ракі Нёман, з якой піў ваду, непадалёку жывучы ў вёсцы Шаршні і Ліпічанка. Захаваўся ў памяці аўтара і той выпадак, калі за збанок малака атрымаў ад салдатаў цэлую кішэню цукру, пры тым, не ведаючы, што па-руску гэта будзе “сахар”. Уладзімір Васько яшчэ да школьнай вучобы ўжо ведаў нямала вершаў і ўмеў чытаць. Не ўтойвае пісьменнік і асаблівасці школьнага жыцця. Ён дзеля таго, каб дагадзіць настаўніку, прыносіў доўгі дубец, ад якога, як прызнаецца, прыпадала найболей яму самому. Гэты чалавек адзін з тых, каму цяжка атрымлівалася размаўляць па-руску, але ж з прымусам настаўніка, змог. У. Васько бываў і закаханым, першае каханне - Ліда Халадцова. Аб ім, а менавіта аб ёй, часта ўзгадваецца ў кнізе. Ён нават меў перапіску з класікам рускай літаратуры Аляксандрам Твардоўскім. А першы верш "Песня о советской жизни", які быў напісаны па-руску, быў змешчаны ў Жалудоцкай раённай газеце "За Радзіму" за 12 красавіка 1956 года ў № 12.




Пад час службы ў войску працаваў на цаліне ў саўгасе "Маладая гвардыя" Кзылтускага раёна Какчатаўскай вобласці, а разам з тым, знаходзіў час і на адпачынак (хадзіў на танцы і знаёміўся з дзяўчатамі), прымаў удзел у літаратурных мерапрыемствах, змяшчаў рускамоўныя вершы ў газеце "Красная звезда". Раней дэмабілізаваўся па прычыне здачы экзаменаў у БДУ на факультэт журналістыкі, куды па пэўных абставінах так і не змог паступіць. Атрымаўшы ў войску спецыяльнасць радыёрэлейнага механіка, У. Васько змог папрацаваць у Жалудку станцыйным наглядальнікам, а затым невялікі час - у раённай жалудоцкай газеце "За Радзіму".

1960 год - гэта чарговае паступленне Ўладзіміра Васько. На гэты раз яго паклікаў Гарадзенскі дзяржаўны педінстытут імя Янкі Купалы. У гэтыя ж студэнцкія гады ён знаёміцца з Данутай Бічэль, Аляксеем Дземідовічам, Сяргеем Габрусевічам, Уладзімірам Шурпам, Міхасём Васільком, Аляксеем Пяткевічам, Апанасам Цыхуном, Яўгенам Петрашэвічам, Аляксеем Карпюком, Васілём Быкавым. Як сведчыць факт, Быкаў частаваў яго і іншых студэнтаў сухім малдаўскім віном у кавярні, якая размяшчалася непадалёку ад інстытута. (Падобна як Купала ў сакавіку 1940

года частаваў у Лідзе лідскіх маладых паэтаў). Акрамя гэтага, Васько прымае ўдзел у літаратурных сустрэчах, у паездках з названымі вышэй пісьменнікамі. Але ж у гэты студэнцкі перыяд зноў трапляе на цаліну - у Фурманскі раён Уральскай вобласці. Пасля вучобы накіроўваецца на працу ў Дзятлаўскі раён - у школу вёскі Хвіневічы, дзе працуе настаўнікам гісторыі, арганізоўвае філіялы гэтай школы ў якасці школаў рабочай моладзі ў Разважы і Накрышках. Пазней - не доўга - працуе ў Меляхавічах. Потым знаходзіць месца працы ў рэдакцыі дзятлаўскай раённай газеты "Перамога" і працуе на пасадзе загадчыка аддзела пісем на працягу пяці гадоў. Вядома, што Васько меў сяброўскія адносіны і з Міколам Аўрамчыкам, Алегам Лойкам, Янкам Брылём, Петрусём Гранітам, Максімам Танкам.



***Уладзімір Васько і Алесь Хітрун, 2017 г.*** *Здымак С. Судніка.*

Асобна адзначаецца, што Ў. Васько прыехаў у Ліду ў жніўні 1972 года і застаўся тут назаўсёды. Ён уладкоўваецца на працу ў рэдакцыю лідскай раённай газеты "Ўперад" на пасаду адказнага карэспандэнта прамысловага аддзела. У кнізе змяшчаецца інфармацыя пра мінулых і сённяшніх журналістаў "Лідскай газеты", працу яго ў выданні, камандзіровачныя паездкі з калегамі. 1974 год - гэта той год, які злучыў два лёсы ў адзін - Уладзімір Гаўрылавіч Васько жэніцца з Марыяй Францаўнай Акавіцкай.

1981 год - гэта год выхаду першай кнігі "Прасветленасць". 22 лютага 1988 года пісьменнік прызначаецца на пасаду намесніка рэдактара газеты "Ўперад", пасля Мікалая Кучынскага - адказнага сакратара газеты "Ўперад", які ўкладваў літстаронку, на месца кіраўніка літаб'яднання прызначаецца У. Васько і працуе на гэтай пасадзе да 2003 года; ён жа і прыдумаў назву "Суквецце". Не забывае аўтар кнігі "Зігзагі лёсу" і пра цесную сувязь з супрацоўнікамі абласной газеты "Гродзенская праўда" Юркам Голубам і Іосіфам Багіным. Асобна пералічвае і лідскіх творцаў, якія гуртаваліся і гуртуюцца ў "Суквецці" да сённяшняга часу.

2007 год - гэта год прыняцця Ўладзіміра Васько ў Саюз беларускіх пісьменнікаў. Пад час выхаду на пенсію працаваў вартаўніком ў СШ № 13 (1 год), у музычнай школе (3 гады), вартаўніком і электрыкам у лідскай бальніцы (8 гадоў). Як пазначае творца, увесь працоўны яго стаж складае больш як паўстагоддзя.

Вынікі сваёй літаратурнай творчасці ён уклаў у кнігі паэзіі "Прасветленасць" (1981), "На схілах берагоў" (1997), "Кругаварот жыцця" (2011), прозы "Лясная рапсодыя" (2013), "Зігзагі лёсу" (2017). Друкаваўся ў калектыўных зборніках "Галасы", "Дзень паэзіі", "Краю мой Нёман", "Бацька наш Нёман", "Дзень паэзіі", "Роднасць", "Ад лідскіх муроў", газетах "ЛіМ", "Звязда", "Знамя юности", "Чырвоная змена", "Сельская новь", "Гродзенская праўда", "Беларуская ніва", "Наша слова", часопісах "Маладосць", "Беларусь", "Лідскі летапісец" і іншых. Яго вершы пакладзены на музыку, у прыватнасці "Добры дзень, горад Ліда" (аўтар Яўген Петрашэвіч).

Прачытаўшы кнігу "Зігзагі лёсу" і ведаючы асабіста яе аўтара, бясспрэчна можна сказаць, што Ўладзімір Гаўрылавіч Васько пакінуў значны след у гісторыі рэгіянальнай сучаснай беларускай літаратуры, з'яўляецца самым актыўным і ганаровым сябрам літаратурнага аб'яднання "Суквецце". Вядома, што ў творчым багажы Ў. Васько налічваецца яшчэ не адзін дзесятак ненадрукаваных твораў. Хочацца спадзявацца, што ў хуткім часе яны зноў зоймуць месца пад кніжнай вокладкай і гэтым жа папоўняць асабістыя паліцы яго шматлікіх прыхільнікаў, у тым ліку і бібліятэчныя фонды горада, раёна, згойдуць чытачоў і за іх межамі. А пакуль ёсць магчымасць наталяцца творчым набыткам Уладзіміра Васько - гэта чытаць і радавацца кожнаму змешчанаму яго радку, у якім захоўваецца і душа пісьменніка.

***Алесь Хітрун,***
*кіраўнік літаратурнага аб'яднання "Суквецце" пры рэдакцыі "Лідскай газеты",*
*навуковы супрацоўнік літаратурнага аддзела Лідскага гістарычна-мастацкага музея.*

*Міхал Шымялевіч*

# Нататкі да манаграфіі Жалудка

**1**

Край, заключаны паміж ніжняй Віслай і Нёманам, абапёрты на паўночным захадзе на Балтыйскае мора, з паўднёвага ўсходу непраходнымі балотамі і палескімі пушчамі адгароджаны ад Русі, з найдаўнейшых часоў быў заселены вольнымі і нікому непадлеглымі, працавітымі і спакойнымі плямёнамі яцвягаў, борцяў, судзінаў і інш., вядомых пазней пад агульнай назвай прусаў. Аднак ад часоў, калі нямецкі ордэн на падставе бяспраўных даўніх княжацкіх, каралеўскіх і папскіх данацый ды прывілеяў стаў названым уладаром і панам значнай часткі гэтага абшару, распачаўся найбрутальнейшы прыгнёт жыўшай тут вольнай люднасці, уярменне яе ў клешчы нявольніцкага падданства і безаглядная эксплуатацыя гэтага беднага безабароннага люду. Ад крыжакоў не адставалі рускія і мазавецкія князі і ўслед за нямецкімі рыцарамі рабавалі і нявольлілі безабаронных яцвягаў, злінцаў, крысьменцаў, пакенцаў і невядома яшчэ якой назвы язычнікаў. Абвяшчалі ў тыя часы, што тыя лагодныя плямёны ёсць самыя найдзікія і крыважэрныя паганцы, адбываліся на іх цэлыя крыжовыя паходы і вынішчалі іх без найменшай літасці. І гэта ўсё пад знакам крыжа і пад лозунгам распаўсюджання хрысціянства. Няроўнае змаганне трывала некалькі дзясяткаў гадоў. Шмат пагінула прусаў, борцяў і яцвягаў ад голаду, хвароб і зброі наезнікаў, нямала відавочна скончыла сваё жыццё ў вязніцах і на шыбеніцах, шмат паддалося сіле наезнікаў і сагнула карк пад ярмом няволі, але немалая іх колькасць, ратуючы волю і жыццё, з жонкамі, дзецьмі і сваімі правадырамі выбраліся на ўсход у пабрацімскую Літву і тут асела на вольных землях пад апекай літоўскіх князёў. Пра тое перасяленне, якое з розным напружаннем цягнулася не толькі ў XIII стагоддзі, але праяўлялася таксама і ў XIV стагоддзі, захавалася шмат звестак у нямецкіх і польскіх кроніках, а таксама ў рускіх летапісах. У пошуках тых уцекачоў штогод высылала крыжацкая вярхушка збройныя аддзелы на літоўскія землі - за Нёман. Аддзелы тыя найчасцей бязкарна ўрываліся ў Жмудзь, Аўкштоту, нават у Крывіцкую Русь, даходзілі сяды-тады да Крэва, Наваградка і Ліды, вылоўлівалі, як гаварылі, сваіх уцекачоў, а найчасцей тутэйшую люднасць і масава выводзілі яе са здабычай, жанчынамі і дзецьмі ў Прусію. Здаралася, што самыя адважныя літоўскія князі і паны гналіся за выводжанымі людзьмі і нават урываліся ў найаддаленейшыя закуткі крыжацкай тэрыторыі і аддзячвалі крыжакам вывадам іхняй люднасці. На гэтым фоне праз два стагоддзі цягнулася зацятая барацьба паміж Літвой і немцамі, якая перарывалася сяды-тады перамір'ямі, умовай якіх заўсёды было непрынядцце ўцякачоў.

Для абароны перад крыжацкімі выправамі ўвесь сярэдні і ніжні Нёман быў натапыраны літоўскімі замкамі, супроць якіх крыжакі будавалі свае замкі. Кожны літоўскі замак над Нёманам меў перад сабой у кірунку крыжацкіх паселішчаў вузкі, доўгі адрэзак тэрыторыі. На тым адрэзку пад аховай замка літоўская люднасць пасвіла сваю жывёлу, лавіла рыбу, палявала ў пушчы на звера і збірала мёд з борцяў. След такога падзелу Сувальшчыны захаваўся ў межах каралеўскіх пушчаў, апісаных у 1558 г. панам Рыгорам Валовічам. У XIII - XIV ст. над Нёманам былі вядомыя літоўскія замкі: Гародня, Пералом, Мерач, Аліта, Дарсунішкі і інш., за якія пастаянна ішла барацьба паміж крыжацкім ордэнам і вялікімі князямі літоўскімі. Апошні канец тым стасункам паклаў нарэшце Грунвальд, і нашчадкі прускіх уцекачоў назаўсёды засталіся ў межах уладанняў вялікіх князёў літоўскіх. Вядомыя яны да сённяшняга дня пад назвай борцяў або борсяў і жывуць над Нёманам у Шчучынскім павеце і ў ваколіцах Радуні і Эйшышак у Лідскім павеце. Некалі паселішчы борцяў вядомыя былі над Віліяй у ваколіцах Кернава і над Клевай у Ашмянскім павеце. Таго ж самага паходжання ёсць і пасяленні прускай люднасці ў ваколіцах Здзецела (Дзятлава, *С.С.*). Да сённяшняга дня захавалася досыць шмат геаграфічных назваў у раёне Верхняга Нёмана, якія нагадваюць імя вынішчанага племені яцвягаў: добры Ятвеск у Шчучынскай гміне, асада Ятвеск і фальварак Ятвеск Гульмары ў Каменскай гміне, вёска Ятвезь у Мсцібоўскай гміне, вёска Ятвезь у Біскупскай гміне, сяло Ятвеск і добры Ятвеск у Свіслацкай гміне, вёска Ятвезь у Косаўскай гміне, дзве вёскі Ятвезь у Здзецелаўскай гміне, фальварак Ятвезь у Раготненскай гміне і г.д. Няма ніякага сумнення, што і гэтыя назвы паўсталі ў эпоху праследу яцвягаў у іх родным краі і ў сувязі з высяленнем іх, як і борцяў, на ўсход. Яшчэ ў XVI ст. жылі тут яцвягі і захоўвалі сваю пэўную адметнасць. У пачатку XIX ст. Тодар Нарбут бачыў надпіс пры царкве ў Скідалі (паміж Гародняй і Шчучынам), выразаны царкоўнымі літарамі на кавалку бэлькі для сядзення ў бабінцы, наступнага зместу: *"...аўнік Барфатоей к. с. хрышчэнню п. паганых яцвягаў, жывучых без ... Божага нараджэння 1552 індыкта..."*. Надпіс гэты пераконвае нас, што яшчэ ў гэтым годзе Барталамей, напэўна парах гэтай царквы, хрысціў тут яцвягаў, якія спакойна пражылі ў сваім паганстве да паловы XVI ст. Мацей Стрыйкоўскі, пішучы гісторыю *"яцвягаў, пабрацімаў і аднародцаў літоўскіх"*, пісаў у сваёй Кроніцы, выдадзенай першы раз у 1582 г.: *"Сёння ёсць яны яшчэ часткова каля Наваградка Літоўскага, таксама каля Райгорада і Істарборка ў Прусах"*.

**2**

У даўнія вякі галіцка-валынскія князі часта

наязджалі на літоўскія землі і здзіралі тут нейкую ліхую даніну. У першай палове XIII ст. пра аднаго з тых князёў гаварылі: *“Рамане! Ліхам жывешы, літвою гарэшы!”* Пасля нашэсця татараў на Русь літва скінула з сябе ярмо рускай няволі, і верхні Нёман ад Гародні і аж да вусця р. Сэрвачы стаў мяжою ўладанняў князёў літоўскіх і валынскіх. У Іпацеўскім летапісе пад 1278 г. захаваўся запіс: *“Прыйшлі прусы са сваёй зямлі, уцякаючы ад няволі нямецкай, да Трайдзеня, ён іх прыняў і пасяліў частку ў Гародні, а частку ў Слоніме. Уладзімір (князь валынскі) паразумеўшыся з братам сваім Львом паслаў войска сваё на Слонім і ўзяў яго, каб яго землі не займалі. Пасля чаго Трайдзень паслаў брата свайго Сырпуця, і той ваяваў каля Каменя. Узаемна выслаў супраць Трайдзеня войска Ўладзімір і ўзяў у яго (Трайдзеня) Турыйск на рацэ Нёмане і сёлы каля яго (Турыйска). Потым гэтыя князі памірыліся і пачалі жыць у вялікай любові”.* Аднак у наступным годзе валынскія князі, злучыўшыся з татарамі, здзейснілі выправы на Гародню, і, калі іхнія войскі зайшлі за Ваўкавыск і сталі на ноч, напалі на іх прусы і борцi з Гародні, адных пабілі, а другіх пабралі да няволі і завялі ў горад. Спрабавалі валынскія князі здабыць Гародню, але не маглі, бо доступ да горада бараніўся з мураванай вежы Высокай, у якой зачыніліся прусы.

Ёсць гэта найстарэйшыя храналагічныя весткі пра наднёманскі край, заключаны паміж Гародняй, Лідай, Наваградкам, Слонімам і Ваўкавыскам, у самым сяродку якога квітнее сярод паселішчаў прускіх уцекачоў борцяў вельмі старое паселішча Жалудок.

**3**

Земскія добры і мястэчка Жалудок размешчаны ва ўсходняй частцы Шчучынскага павета, у мясцовасці, якая да нядаўніх часоў называлася Панямоннем, як размешчаная ўздоўж правага берага ракі Нёман. У час упарадкавання трыангуляцыйнай сеткі даўняй Гарадзенскай губерні ў 40-х гадах мінулага стагоддзя (XIX ст. - *С.С.*) афіцэры Тапаграфічнага дэпартамента геаграфічнае становішча Жалудка (вежа касцёла кармелітаў) акрэслілі пад 53°36`10.2`` паўночнай шыраты і 42°38`27`` усходняй даўгаты. Пакроўскі ў “Археалагічнай карце Віленскай губерні” (1893 г.) становішча Жалудка абазначыў як 53°36` - 42°39`.

Ваколіцы Жалудка маюць наогул характар раўніны. Найвышэйшымі пунктамі тых ваколіц ёсць: Купры - 169,2 м, Вялікае Сяло - 168,8 м і Багданаўцы - 158,1 м над узроўнем мора. Ад тых мясцовасцяў тэрыторыя паніжаецца ў кірунку на ўсход - у бок ракі Лебяды і пад Дзікушкамі спадае да 120, 5 м, у Лапішках - да 136,1 м, а над Нёманам пад Ваўчкамі - да 114 м над узроўнем мора. Паўднёва-ўсходняя частка мястэчка Жалудка размешчана на раўніне вышынёй 138,7 м, маёнтак Жалудок - 139 м, даліна паміж тымі пасяленнямі - на 127 м.

У кірунку спаду тэрыторыі ваколіц Жалудка з захаду на ўсход праразаюць яе некалькі ручаёў, якія, злучыўшыся ў адзін вялікі ручай, зліваюць свае воды ў рэчку Лебяду - правы прыток Нёмана. Лахніцкі, апісваючы Жалудоцкую парафію ў 1817 г, як галоўную ў той парафіі называе рэчку Жалудзянку і зазначае, што *“ёсць яшчэ там чатыры малыя рэчкі без назвы і шэсць ставаў”*. Рэчка Жалудзянка або Жалудка, паводле апісання Лідскага павета Пятра Лаўрова, мае пачатак свой каля вёскі Вялікае Сяло, бяжыць у нешырокай даліне да маёнтка Жалудок, а потым сярод разлеглых лугоў упадае насупраць вёскі Папераўцы ў Лебяду. У той час рака Жалудка была слаўная шматлікасцю рознага роду рыбаў, у асаблівасці - карасёў і лінёў. Пад гэтай назвай вядома Жалудка ўжо ў палове XVI ст. У памежным акце добраў Жалудка і Мажэйкава ад 28 траўня 1558 г. сказана: *“Пачаўшы ад вусця ракі Красулі, дзе яна ўпадае ў Жалудку, адтуль уверх ракой Красуляй да канца”*. 7 верасня 1559 г. Юры Быкоўскі, дваранін караля Жыгімонта Аўгуста ўвёў пана Скуміна Львовіча Тышкевіча, маршалка гаспадарскага ў людзі і землі ў Барцянскай воласці на Панямонні *“на рацэ Жалудцы”*. З левага боку ўпадае ў Жалулку р. Ішчална або Дзікушанка з некалькімі меншымі прытокамі, Красуля і Брост або Бераст, з правага боку - адзін большы прыток, які цячэ ад вёскі Купры, без назвы.

Глеба ваколіц Жалудка глініста-пясчаная, належыць да найлепшых у тым краі. У раёнах, прылеглых да ракі Лебяды і Нёмана пераважаюць землі раўнінныя. Гміна Жалудок у 1904 г. займала наданых зямель 7651 дзесяціну, у тым ліку няўдобіцы ледзь толькі 121 дзесяціна і лясоў 12 дзесяцін, а таксама зямель дворных 8268 дзесяцін, у тым ліку няўдобіц 447 дзесяцін і лясоў 3038 дзесяцін. У 1908 г. стан залясення Жалудоцкай гміны акрэслены як: дзяржаўных лясоў - 119 дзесяцін і прыватных лясоў - 2600 дзесяцін, разам - 2719 дзесяцін, што складала 13 % ад агульнай паверхні гміны. Такі невысокі працэнт няўдобіц і залясення Жалудоцкай гміны сведчыць пра высокую ступень сельскагаспадарчай культуры гэтага закутка.

**4**

Назва Жалудка першы раз згадваецца ў актах Літоўскай Метрыкі пад канец XV стагоддзя. Ёсць дапушчэнні, што ў крыжацкім дарожніку, апублікаваным у Scriptores rerum Prussiacarum, быў Жалудок пазначаны на пераломе XIV - XV пад назвай Стагавілендорф (Stegewillendorf) і што належаў ён тады нейкаму Стагавілу - літоўскаму баярыну. Ад сябе можам дадаць, што, калі перапісчыкі дарожнікаў не зрабілі пісарскай памылкі, перарабляючы прозвішча пазнейшага жалудоцкага цівуна Стырнела на Стагавіла, тым апошнім мог быць Стрыгаіл Карыконаў, названы ў спісе пралатаў, князёў, паноў, шляхты, абывацеляў, зямель літоўскіх і рускіх на далучэнне да Кароны, выдадзеным у Вільні 18 студзеня 1401 г. Тая адасабовая назва Жалудка, можа быць названая крыжацкім чыноўнікам выпадкова, з-за невядомасці сапраўднай назвы, аднак жа не ўтрымалася, і Жалудок захаваў сваю арыгінальную і больш старую назву аж да сённяшняга дня.

Найбліжэйшым зыходным словам назвы Жалудка ёсць канешне па-беларуску *“жолуд”*, памяншальнае *“жалудок”*. Ласіцкі распавядае, што калі ліцвін

маліўся да сваёй багіні Лайбегельды, то дадаваў таямнічыя словы: *"Вы, багіня, паслалі нам усе насенні, зерне ў лусцы жолуда"*. Дуб, па літоўску *ужуолас*, язычнікі ліцвіны залічвалі да святых дрэваў, у гмінных літоўскіх аповесцях ёсць, паведамляе Нарбут, згадка пра тое, што людзі елі жалуды, печаныя ў попеле або гатаваныя з попелам. Кс. Ладоўскі найбольш доказна сцвярджае, што "жалуды" прыдатныя для фарбавання на чорна, і імі харчуюцца свінні. Падчас голаду беднякі харчуюцца імі заміж хлеба. Даўней прызнавалі жолуд за прадукт не апошняй вартасці, які меў сваё месца як у рэлігіі, так і ў хатняй гаспадарцы. Ліндэ пад выразам дадаў уступ з "Эканомікі" Гаўрылкевіча: *"Прыбытак з жолуда называецца жыроўкай, якая ўваходзіць у даход дзедзіча"*. Вынікае з гэтага, што жолудавая даніна, прынамсі ў стасунках падданых з дзедзічамі, практыкавалася ў некаторых мясцовасцях яшчэ ў XVIII стагоддзі. Таму няма нічога непраўдападобнага ў сцверджанні нашага шаноўнага Стрыйкоўскага, што калі *"русакі ліцвінаў пасля доўгіх з імі цяжкасцяў зняволілі, то прымусілі даніну даваць: лыка, венікі для лазняў, жалуды і іншыя рэчы, каб толькі адчувалі над сабой уладу, бо тыя ў сваіх пустых мясцінах не мелі чаго іншага даць"*.

Вядомыя прыклады надання мясцовых назваў ад роду даніны, якую з зямель і, наогул, у той ці іншай мясцовасці бралі. Так назва Зобя (у Навадворскай гміне, Шчучынскім павеце) паходзіць ад аўсянай даніны, Мыто (у Ваверскай гміне, Лідскім павеце) - ад аплаты за пераезд цераз грэблю і мост на рацэ Дзітве і г.д. На наяўнасць дубовых лясоў у даўнія часы ў ваколіцах Жалудка паказваюць назвы вёсак - Дамброва і Дубелі, а таксама засценак Дуброва - усе ў Жалудоцкай гміне, не менш і ўрочышча "Галышышкі Жалуды" каля вёскі Вангі Беліцкай гміны. З гэтага ўсяго вынікала б, што назва Жалудка магла паўстаць у сувязі з жалудовай данінаю, якой некалі, можа ў XIII стагоддзі, гэтая тэрыторыя была абкладзена. Аднак не выключана, што Жалудок мог атрымаць гэтую назву ад прозвішча свайго ўладальніка або дзяржаўцы. Вядомы шырока распаўсюджаныя на тэрыторыі Лідскага і Шчучынскага паветаў "раслінныя" родавыя прозвішчы: Дода (кветка, на праславянскай мове - *С.С.*), Кветка, Капуста, Сніціч, Канапелька, Рута, Рэцька, Піпір, Сасна, Шышка, Каштан, Груша, Жолуд, Каласок, Колас, Аўсяны, Аўсянік, Авіжэнь, Бурак, Грыб, Баравік і інш. Нясецкі ў шэрагу шляхецкіх прозвішчаў называў: *"Жолуд гербу "Сыракомля"* з тлумачэннем: *"Гэтыя з княства Літоўскага ў тыя краі (ваяводства рускае) выехалі, калі квітнелі ў людзях рыцарскіх"*.

**5**

Найсучаснейшая дакументальная згадка пра Жалудок паходзіць з канца XV стагоддзя. Жалудок - двор і валасць, да складу якой у той час належалі таксама двары Мажэйкаў і Гігушкі або Дзікушкі або Бінкушкі, складаў уласнасць роду вялікіх князёў літоўскіх і знаходзіўся ў кіраванні жалудоцкага цівуна Юшка Стырнэля, пра якога згадвае запіс у кн. IV Літоўскай Метрыкі пад 1486 г. *"Віленскаму мешчаніну Матфею 10 бочак пшаніцы і дзве бочкі гароху ў Жалудку, у Ушка Стрынэля"*. Кіраваў Жалудком Юры Стырнэль яшчэ ў 1495 г., у якім в. кн. Аляксандр даў яму зямлю з людзьмі ў Крэўскім павеце ў 1501 г., а ў 1508 г. кіраваў Жалудком з тытулам каралеўскага намесніка Марцін Багданавіч Храптовіч, перад тым намеснік зблянскі. У 1502 - 1504 гг. быў Храптовіч акрамя таго падскарбіем дворным, у 1505 г. - канюшым і лоўчым і займаў тыя пасады яшчэ ў 1508 г. За ўдзел у змове Глінскага быў зняволены ў 1509 г. і пазбаўлены пасадаў. У 1510 г. намеснікам ожскім, пераломскім і жалудоцкім быў Мікалай Юр'евіч Пац або Пацовіч, лоўчы літоўскі, уладальнік суседняй Ражанкі, а ў 1511 г. - пан Шымка Кібартовіч: у тым годзе паведамляў яму, як намесніку жалудоцкаму, кароль Жыгімонт I, што пакідае Шымку Мацькавічу, падканюшаму віленскаму, зямельку пустую лёгкую Мажэйкаўшчыну, якую даў яму папярэднік пана Кібартовіча намеснік жалудоцкі пан Мікалай Пацовіч да волі гаспадарскай. У 1516 г. кароль заклаў за 600 копаў грошаў князю Васілю Палубінскаму двор свой Жалудок у Троцкім павеце з усімі людзьмі Жалудоцкай воласці, з іх службамі і падаткамі, а таксама з усякімі даходамі, якія паступалі на карысць караля з горада і воласці Жалудоцкай. Князь Васіль Палубінскі тытулаваўся дзяржаўцам жалудоцкім яшчэ ў 1534 г. Калі ў тым жа годзе збеглы з Масквы акольнічы Іван Васілевіч Ляцкі прыбыў на Літву, то, як паведамляе Мацей Стрыйкоўскі, кароль Жыгімонт I даў яму Высокі Двор і Жалудок у Троцкім ваяводстве, відавочна выкупіўшы гэты апошні з закладу ў князя Палубінскага. Пасля смерці акольнічага Ляцкага кароль Жыгімонт Аўгуст у 1552 г. даў Жалудок сыну яго Івану Ляцкаму, падляскаму ляснічаму, ленным правам. У 1567 г. пан *"Іван Іванавіч Лядскі, ляснічы падляскі, з маёнткаў сваіх: Жалудка ў павеце Лідскім, Высокага Двара ў павеце Троцкім, Чэмераў і Носава ў павеце Берасцейскім, з сёл размешчаных на Русі - з Болача і Очыча з прысёлкамі, а таксама з прыкупленых Міткаўшчыны, Страмбоўшчыны павінен быў ставіць на попіс 40 коней, але, памятаючы на каралеўскую ласку, паставіў 61 каня з вершнікамі ў панцырах і прылбіцах, узброеных сагайдакамі, шаблямі і рагацінамі, а звыш таго паставіў 30 драбаў з рушніцамі і сякерамі. Пра яго гэтак піша Нясецкі: "Муж ваенны і ў справах рыцарскіх спрактыкаваны, з Філонам Кмітам, старастам аршанскім, калі кароль Аўгуст быў пад Радашковічамі, мужна маскву граміў і землі іхнія пустошыў, уздоўж на 24 мілі, ушыркі на чатыры мілі; з Багданай Палубінскай нарадзіў дачку Тэадору, Эльяша Пельгрымоўскага, пісара літоўскага, жонку, незвычайна белагаловую, і сыноў двух - Рыгора і Тэадора, абодвaух праслаўленых справамі кавалерскімі"*.

**6**

Жалудоцкае Панямонне ад часу падзелу Вялікага Княства Літоўскага паміж Альгердам і Кейстутам (у 1345 г.) належала да складу Троцкага ўдзелу Кейстутавічаў. Пасля смерці князя Жыгімонта Кейстута-

віча ў 1440 г. і канчатковай адмены пэўнай адасобленасці гэтага ўдзелу Панямонне сталася часткай Троцкага ваяводства. У канцы XV і пачатку XVI ст. на Панямонні размяшчаліся ў шахматным парадку паміж сабой тры паветы Жалудоцкі, Барцянскі і Гарадзенскі. Пра Жалудоцкі павет мелася ў крыніцах там тых часоў некалькі згадак.

12 траўня 1494 г. вялікі князь Аляксандр даў Ваську Дарашкевічу, падканюшаму віленскаму, пустую зямлю Пліскаўшчыну ў Жалудоцкім павеце. У той жа час Мацька Андрушэвіч атрымаў ад таго ж вялікага князя зямлю Трашчэўшчыну, таксама ў Жалудоцкім павеце, якую потым у 1505 г. кароль Аляксандр пацвердзіў яго сыну Шымку Мацкевічу. У 1504 г. кароль даў на кармленне Міхалу Гагіну ў Жалудку дварэц Мажэйкаўскі з чэляддзю, жывёлаю і людзьмі, а калі Гагін прыстаў да бунту Глінскага і выехаў у Маскву, то ўжо кароль Жыгімонт І аддаў Мажэйкаў з Дзікушкамі пану Тышкевічу. Згадвалася вышэй, што жалудоцкі дзяржаўца пан Мікалай Пацовіч даў у Жалудоцкім павеце таму ж Шымку Мацкевічу пустую лёгкую Мажэйкаўшчыну.

На чале Жалудоцкага павета стаяў у тыя часы харунжы, падуладны жалудоцкаму намесніку. За тым харунжым у паспалітае рушэнне ішлі баяры, якія жылі ў раёне павета. Ухвала віленскага сойму 1 траўня 1528 г. пра вайсковую службу выдзеліла аж тры віды жалудоцкіх баяраў: 1) баяраў шляхту - Васіля Губара, Мітка, брата Сцяпанавага, Юхна Ясенскага і Фядору Дзючыну з сынамі; 2) баяраў путных жалудоцкіх, якія служылі конна - Палянскага, Аніськовіча, Велічковіча, Віляйтовіча, Нацэвіча і інш.; 3) баяраў жалудоцкіх, якія хадзілі на варту ў Троцкі замак - Рамашковічаў, Даўтаровічаў, Моцевічаў, Дмішэвічаў, Бівойнавічаў, Бабковічаў і інш.

З вышэйсказанага вынікае, што Жалудоцкі павет ахопліваў як абшары самога Жалудка, так і дварцоў Вялікага Мажэйкава, Малога Мажэйкава, Дзікушак, Красулі і інш. На ўсходзе гэты павет межаваў з паветам Зблянскім, на поўдні абапіраўся на раку Нёман, на захадзе прылягаў да Гарадзенскага павета. У шахматным парадку з Жалудоцкім паветам размешчаны былі землі, занятыя баярамі Барцянскага і Гарадзенскага паветаў, Барцянскі павет належаў да складу ўладанняў Ожы і Пералома, размешчаных над Нёманам на поўнач ад Гародні. Узаемна землі, якія належалі да складу Жалудоцкага павета, размешчаны былі пасярод зямель Гарадзенскага павета, у дадатак - у значнай адлегласці ад Жалудка. Адзін такі кавалак зямель быў размешчаны ў ваколіцы Ожы і Пералома, на поўнач ад Гародні, дзе ў дзвюх вёсках - Дзмішэвічах і Моцевічах - жылі ў пачатку XVI ст. жалудоцкія баяры Дзмішэвічы і Моцевічы. Другі кавалак жалудоцкіх зямель быў размешчаны на поўдзень ад Гародні ў ваколіцах мястэчка Вялікай Бераставіцы. Кароль Аляксандр 12 ліпеня 1506 г. у лісце, дадзеным пану Аляксандру Хадкевічу пісаў: *"Пажалавалі яго, далі яму сёлы нашыя ў Жалудоцкім павеце зназвамі Рудавальні, Паплаўчане, Спедзяловічы з усімі тых сёлаў людзьмі і тымі людзьмі, што сядзяць па Бераставіцы"*. Бліжэйшае акрэсленне размяшчэння таго кавалка завярае памежны акт, укладзены віленскім ваяводам панам Гаштольдам і пацверджаны каралём Жыгімунтам І - 20 снежня 1522 г. Паводле гэтага акту добры, нададзеныя пану Хадкевічу, былі абмежаваны: дарогай Ваўкавыскай, дарогай Мсцібоўскай і сцяной (мяжой) вёскі Ліхое Сяло, землямі якой валодалі жалудчане Мошні. Гэтая адасобленая частка Жалудоцкага павета пасля надання яе ў прыватную ўласнасць пану Хадкевічу цалкам страціла сваю сувязь з Жалудком.

Гэты адміністрацыйны падзел і дзіўны шахматны парадак паўсталі, відавочна, у сувязі з прыналежнасцю Панямоння ў XIII ст. да Гарадзенскага княства, не менш вынікам перасялення ў тыя ваколіцы борцяў і яцвягаў, тут жа ў выніку збройных сутычак за Панямонне паміж князямі літоўскімі і рускімі. Калі кароль Жыгімонт аддаў Жалудок Івану Ляцкаму, самастойны Жалудоцкі павет мусіў быць згорнутым і распаўся паміж суседнімі паветамі. Паводле попісу 1567 г. Красуля і Станкевічы ўваходзілі ў склад Васілішскага павета, а Лукавіца, Макрэц, Дзеражно, Раманавічы, Ваўкавышчына (Ваўчкі), сяло Вайдвілавіча Лебяда (каля Жыжмы) - у павет Гарадзенскі. Тагачасныя ўладальнікі добраў малога Мажэйкава, Дзікушак, Ліпічна і інш. ставілі свае почты незалежна ад баярскіх паветаў. У тым жа 1567 г. тая частка Гарадзенскага павета (на ўсход ад р. Тур'і), роўна як і ўвесь Васілішскі павет, разам з некалькімі іншымі дробнымі баярскімі паветамі была ўключана ў склад новаўтворанага вялікага Лідскага павета. Калі і якім чынам Жалудок выйшаў з-пад улады Ляцкіх і чыёй уласнасцю быў аж да канца XVII ст., ніякіх звестак не маю. Міхал Балінскі коратка адзначыў: *"Жалудок, некалі дзедзічнае мястэчка Сапегаў"*, а старая энцыклапедыя Орльгельбрандта, а за ёй Геаграфічны слоўнік згадку Балінскага пацвердзілі, паведамляючы, што Сапегі атрымалі Жалудок ад Рэчы Паспалітай за заслугі, і што Ганна Сапяжанка прынесла яго ў дом Франчкевічаў Радзімінскіх з пасагам. З Нясецкага вядома, што Міхал Франчкевіч Радзімінскі, вялікі ваяр у часы караля Стэфана, полацкі падкаморы, *"злучыўся быў пажыццёва з Ганнай Сапяжанкай, драгічынскай старасцянкай, сястрой Льва Сапегі, ваяводы віленскага і канцлера"*; але ніякай згадкі пра ўнясенне ёю Жалудка ў дом Франчкевічаў Радзімінскіх ані ў Нясецкага, ані ў новых геніялагістаў - Банецкага і гр. Урускага не знаходзіцца.

Аселы ў XVII ст. на Лідчыне род Франчкевічаў Радзімінскіх займаў тут разлеглыя зямельныя добры, карыстаўся асаблівай павагай сярод тутэйшага жыхарства і займаў найвышэйшыя павятовыя пасады. Аднак геральдысты і генеалагісты захавалі пра той род і не шматлікія, і не дакладныя звесткі. Я выпадкова атрымаў аркуш даўнейшай паперы, на якім у характары XVII ст. запісаны шэраг нататак, якія датычаць канкрэтна чальцоў жалудоцкай лініі гэтага роду. Хочучы, наколькі можна, удакладніць і спрасціць падаваныя ў ім звесткі, дакумент гэты публікую з дакладным захаваннем яго транскрыпцыі.

*"Laus Deo.*

*З ласкі Пана Бога ўсемагутнага, ажаніўся ў 1607 годзе ў дзень Трох каралёў, 7 (!) студзеня.*

*Аннуся нарадзілася ў тым жа годзе 1607 за*

*шэсць тыдняў да Новага года.*

*Міхал нарадзіўся ў 1611 годзе.*

*Крыштаф нарадзіўся ў 1613 годзе.*

*Януш нарадзіўся ў 1614 годзе.*

*Леанора нарадзілася ў 1616 годзе.*

*Ежы Францкевіч Радзымінскі.*

*Суддзя земскі лідскі, староста мядзельскі.*

*Laus Deo.*

*У 1636 годзе 9 жніўня ўзяў у жонкі яе мосць панну Кляноўскую, дачку полацкага стольніка, у Вільні. Дабраславі Божа ў Тройцы адзіны нас усіх.*

*Міхал Францкевіч Радзымінскі.*

*Стольнік полацкі.*

*Laus Deo.*

*З ласкі Найвышэйшага ў Вільні ў сядзібе Ўрудзянскага нарадзіла мне жонка сына 1 сакавіка ноччу незадоўга перад 9 гадзінай у 1638 годзе, назаўтра па поўні пад знакам Панны. А паколькі ўрачыстасць святога Казіміра прыпала на чацвер, а ён нарадзіўся ў панядзелак, з-за таго яму дадзена імя Казімір.*

*У 1640 годзе, 31 студзеня ў аўторак а поўдні ў Селішчах з ласкі Бога ўсемагутнага нарадзіла жонка мне сына. У той дзень была першая квадра лютага. Гэтаму сыночку далі імя Аляксандр. Хрысціў яго ксёндз бернардынец Банавентура Кесянеўскі.*

*У 1646 годзе, 21 траўня а 8 гадзіне раніцы ў Селішчах даў нам Пан Бог сына, якому пры хрышчэнні далі імя Юзаф. Хрысціў яго езуіт з Полацкага калегіюма.*

*У 1647 годзе, 6 ліпеня, у першую квадру, а 8 гадзіне перад паўднём даў нам Пан Бог сына ў Селішчах у новым доміку, якому далі імя Давід. Дай, Езус, шчасліва дачакаць з яго пацехі".*

Згаданы тут Казімір Францкевіч Радзімінскі, сын Міхала і ўнук Юрыя, *"найперш, - як паведамляе Нясецкі - цівун вякснянскі, староста крэўскі, потым падскарбі надворны літоўскі, староста лідскі, з сойму 1690 г. камісар кароннага скарбу, быў спачатку падкаморым лідскім у 1674 г.; з жонкай сваёй Ганнай Нарушэвіч, дачкой падскарбія надворнага літоўскага, фундаваў айцоў кармелітаў у добрах сваіх дзедзічных жалудоцкіх, што дазволіла канстытуцыя 1685 г.; тры разы прэзідыюваў маршалкам у трыбунале літоўскім, г. зн. у 1682, 1688 і 1693"*. Быў гэта пан моцны, бо валодаў Жалудком, Ішчалнай, Нявішай, Галавічполем, Заполлем пад Лідай, дваром у Лідзе і іншымі добрамі. Пайшоў з гэтага свету бяздзетным, а перад смерцю 22 жніўня 1694 г. падпісаў у Жалудку доўгі тастамант, арыгінал якога я маю ў руках. Не адважваюся казаць, ці гэта пакора праўдзівая хрысціянская, ці пыха магнацкая гаварылі на смяртэльным ложы падскарбія, калі ва ўступе свайго тастаманта пісаў:

*"З цела майго грэшнага, як з зямлі вылепленага, мае быць зямлі аддадзена даніна паводле абраду Божага касцёла і веры маёй каталіцкай пры найбольшым зборы капланаў і жабракоў такім парадкам, які быў пры пахаванні с. п. егамосці пана ваяводы троцкага яснавяльможным у Богу найправялебнейшым егамосцем кс. біскупам віленскім праведзеным у Вільні, без катафалка і без градусаў, а на зямлі няхай будзе пастаўлена труна мая. І пра тое прашу, каб цела маё не абмывалі і як палатном не абкручвалі, а толькі твар бессаромны і рукі непрыстойнасцю замазаныя свянцонай вадой няхай будуць абмытыя. Пахаванне цела майго няхай будзе як найхутчэй пасля смерці ў Жалудоцкім касцёле ў мураванай капліцы, г. зн. у склепе для гэтага падрыхтаваным пры новым заснаванні Кармеліцкага ордэна бясспрэчна абачліва фундушам апісаным"*. У найчулліўшых і найдалікатнейшых выразах падкрэсліў пажыццёвую вернасць і каханне сваёй жонкі пані Аляксандры з Нарушэвічаў, дачкі падскарбія надворнага ВКЛ, на карысць якой запісаў на Жалудку суму 50 000 злотых, *"якую маімі маёмасцямі - як пісаў - грашыма, прадаўшы Лаўкозу ў в. егамосці пана Зяновіча акупіў. Бо вечнасць тога маёнтка Жалудка як роднаму брату егамосці пану Давыду Францкевічу Радзымінскаму, цівуну вякшнянскаму, так і дзецям стрыечнага брата нашага ягамосці пана Караля Францкевіча Радзымінскага належыць, ад якой не магу егамосцяў адпрэчыць, але нядаўна за бытнасць у сябе егамосці п. Браніслава Францкевіча Радзымінскага, стрыечнага пляменніка майго ў Жалудку, пастанавіў, што in sortem suam і роднага свайго егамосці пана Тэадора vigore, так і за выкуп закладу Жалудка паловы, як і на выплату віннай сумы ад адышоўшага егамосці пана Караля Францкевіча Радзымінскага, стрыечнага нашага і бацькі гэтых, фальваркам Савоўшчына, які ад егамосці пана Яна Лімонта, канюшага лідскага і самой яе мосці акупіць меў з вёскай Купрамі, і ад мяне прыдадзенай Вялікай Вёскай, меў кантэнтаваць не належнымі ўжо да закладу паловы Жалудка і да яго вечнасці... Каб мілая жонка мая ўсіх спаўна пяцідзесяці тысяч на Жалудку пэўная была, на гэтай маёмасці пажыццёва мілай маёй жонцы запісваю, пэўны буду, што і за душу маю будзе дабро чыніць - пра што пільна прашу".*

Пасля смерці Казіміра Францкевіча Радзымінскага, падскарбства надворнае літоўскае дасталася Бенедыкту Паўлу Сапегу, брату магутнага Казіміра Яна, ваяводы віленскага і гетмана вялікага літоўскага. Меў ласку ў егамосці дабрадзея новага пана падскарбія нейкі дзялок Стэфан Грыневіч, чэснік лідскі; а паколькі надворнае падскарбства неяк неаднаразова звязвалася з валоданнем Жалудком, таму Грыневіч дапамог свайму дабрадзею ўвайсці ў 1694 (а значыць неадкладна пасля смерці Францкевіча Радзымінскага), *"у кантакт за Жалудок"*. Пра тое, што і як сталася з Жалудком прыпомніла праз некалькі гадоў пані падскарбіна Аляксандра Францкевіч-Радзімінская, пішучы 8 ліпеня 1706 г. у Абеліцы свой тастамант: *"А маёмасць другую, галоўную, названую Жалудок, у тым жа Лідскім павеце размешчаную, альбо з пэўных прычын, або з прымушэння сумы маёй на ёй па праву слушнаму належнай, уступіла яснавяльможнаму егамосцю пану Бенедыкту Паўлу на Чарэі Сапегу, падскарбію вялікаму ВКЛ, будучы ўпэўненай у егамосці асаблівым рэверсальным запісам і за пажыццёвае ўладанне мне меў выплачваць, але потым ні адной рэчы мне за тое пажыццёвае права да мяне не дайшло, але per potentiat*

*ад мяне адабралі, з-за чаго я гадоў колькі таму назад у Лідзе, каб дабіцца таго пажыццёвага права ва ўсіх маіх да той маёмасці Жалудка прэтэнзіях, якія маюць моц на пісьме або іншых і не чытаўшы на асобу вяльможнага егамосці пана Казіміра Франчкевіча Радзімінскага, суддзі земскага лідскага, нічога за тое ад егамосці не ўзяўшы, а пры тым і той самы рэверсал даць мусіла, за які моцаю права ад мяне дадзеным за праводамі праўнымі ім атрыманымі тыя ўсе маёнткі Жалудка названы егамосць пан сабе забраў, заехаў і датуль распараджаецца, аб чым і пратэстацыю на егамосця занесла і судзіцца за тое з ім задумала была, а паколькі ўжо да самай смерці маёй да таго ўжо не дойдзе, таму вельмі ўпрошваю егамосцяў паноў прыяцелеў суму на рукі таго ж егамосці пана Валя, старасты фрамбурскага, як экзекутара таго майго тастаманта без цяжкасці і судовых разбораў аддаць і выплаціць, а егамосць пан Валь тую суму, адабраўшы яе, на тры касцёлы, г. зн фарны і кармеліцкі жалудоцкія і трэці ішчалнскі за душу маю раздаць і на іншыя даўгі, якія пасля паўстануць накіраваць павінен будзе".*

Відавочна пані падскарбіна ўступіла Бенедыкту Паўлу Сапегу запісаныя ёй мужам 50000 злотых на Жалудку, а таксама ўступіла яму і права свайго пажыццёвага валодання. Але не доўга ўтрымаўся падскарбі на тых добрах. Згаданы чэснік Грыневіч пішучы "Праўдзівае апісанне набыцця і захавання Голдава ў тыя злыя часы" (бо і Голдава дапамагаў набыць свайму дабрадзею ад Невяроўскіх), паведамляе: *"А затым у 1698 годзе і 9-тым наступіла замяшанне ў Айчыне, паколькі егамосць дабрадзей (падскарбі Сапега) пачаў жыць у Вільні і бываць на сойміках у Ашмяне, дзе я, трымаючы Салечнікі, сабе ўзятыя даручэннем ад егамосці пані Качаноўскай, паведаміў егамосцю дабрадзею de suo, як гэта (сцвярджае) рэгістр егамосці пана Адынца, пісаны і падпісаны, што застаўся мне вінаваты егамосць дабрадзей чатыры тысячы польскіх злотых. Пры тым ехаўшаму егамосцю дабрадзею на вяселле свайго сына егамосці пана пісара ВКЛ наяўных грошай даў пад распіску талераў 540 і меў за тую суму вінную квоту з Жалудка адбіраць 10 працэнтаў, але пасля наступлення Алькеніцкага няшчасця... кводы ні ад каго не браў".* З малой рэчы - вайсковага пастою ў біскупскіх добрах - паўстала грамадзянская вайна, марна загінуў пасечаны ў Алькеніках раз'ятранай шляхтай пляменнік падскарбяга, а некалькітысячны натоўп той шляхты там жа пад Алькенікамі ў лістападзе 1700 г. завязаў збройную канфедэрацыю і падпісаў грозны маніфест: *"Каб усіх праціўнікаў Рэчы Паспалітай, а менавіта князёў Сапегаў і іх прыхільнікаў не дапускаць ні да якіх пасад і тытулаў, таксама дамы іхнія абшукваць, добры канфіскоўваць і г.д."* Сапегі і іхнія прыхільнікі змушаны былі ратавацца эміграцыяй за мяжу, а на добры іхнія абрынуўся разгром. Дальшы, але і больш адважны крэўны падскарбія Франчкевіча Радзімінскага таксама Казімір Франчкевіч Радзімінскі, лідскі земскі суддзя, з вельмі вялікім гвалтам наехаў на Жалудок і забраў яго ў сваё ўладанне, а, хочучы легалізаваць учынены факт, атрымаў ад пазбаўленай улады падскарбіны Франчкевіч Радзімінскай 17 чэрвеня 1702 г. акт на Жалудок.

Як потым скончыўся выніклы паміж Франчкевічам Радзімінскім і Сапегам судовы працэс за Жалудок, я звестак не маю.

**8**

Суддзя Казімір Францкевіч Радзымінскі меў адзіную дачку панну Аляксандру і выдаў яе замуж за Міхала Тызенгаўза, будучага пісара вялікага літоўскага. Адтуль валодала Жалудком аж шэсць пакаленняў Тызенгаўзаў. Род Тызенгаўзаў уласнага гербу "Буйвал" вельмі старажытны і пачаткамі сваімі бярэцца з Германіі, адкуль два яго прадстаўнікі яшчэ ў XII стагоддзі прыбылі ў Інфлянты. Тут у 1269 годзе Ян Тызенгаўз меў атрымаць ленным правам з рукой Зофіі, княжны полацкай, наддзвінскі замак Какенхаўз. У Інфлянтах гэты род распаўся на некалькі ліній. Нашчадак адной з тых ліній Райнгольд Тызенгаўз, падстолі дэрпцкі, у 1633 г. перабраўся на Літву. Пра заслугі яго для Рэчы Паспалітай памяталі яшчэ ў сярэдзіне XVIII ст. Экзулянскі соймік Старадубскага павета ў інструкцыі, дадзенай сваім паслам на Гарадзенскі сойм 21 жніўня 1752 г. даручыў нагадаць соймавым станам, што значныя так праз гераічныя справы, як праз утрату пазасталых добраў у шведскіх Інфлянтах, вяльможных іх мосцяў паноў Тызенгаўзаў заслугі не ўнялі словам найяснейшых манархаў і Рэчы Паспалітай - наказваў перад ад'ездам рэалізацыі прывілею караля Яна Казіміра ад дня 16 красавіка 1667 г. выдадзенага Тызенгаўзам на Купіскае староства. Унук Райнгольда Стэфан Тызенгаўз, у 1700 г. наваградскі ваявода, быў бацькам чатырох сыноў: Яна, ваяводы мсціслаўскага, Міхала, пісара вялікага літоўскага, Станіслава і Юрыя, старасты дыяментскага. Пасля Міхала Тызенгаўза засталіся сыны: Бенедыкт, староста шмелтынскі, Антоні, езуіт (1726 г.) і Казімір, лоўчы інфлянцкі, а таксама дачка Тарэса Аскерка.

Пасля Казіміра Францкевіча Радзімінскага, суддзі земскага, валодалі Жалудком дачка і зяць суддзі Аляксандра і Міхал Тызенгаўзы, пасля якіх Жалудок перайшоў у валоданне Бенедыкта Тызенгаўза, старасты шмелтынскага. Бенедыкт Тызенгаўз жанаты з Ганнай Бяганскай, пакінуў пасля сябе трох сыноў і аж сем дачок. Гэтыя тры браты - Міхал, Антоні і Казімір Тызенгаўзы 25 студзеня 1755 г. падпісалі акт падзелу паміж сабой дзедзічных добраў, і ў сілу таго падзелу Жалудок перайшоў у валоданне Міхала Тызенгаўза, старасты пасольскага.

Антоні Тызенгаўз (1733-1785 гг.) увайшоў у гісторыю як слаўны падскарбі надворны літоўскі, адміністратар каралеўскіх сталовых добраў, які з мэтай павелічэння даходнасці тых добраў рухаў у іх землеробства, прамысловасць, гандаль, асвету, а нават і грамадскую культуру. Але супраць яго дзейнічала дыпламатыя захопнікаў, падрывала давер да яго і прывяла яго да ўпадку. Памёр Антоні Тызенгаўз у Гародні, а пахаваны быў у Жалудку.

З двух сыноў Міхала Тызенгаўза, старасты пасольскага, Жалудок пасля смерці бацькі ўспадкаваў Ігнацы. Граф Ігнацы Тызенгаўз, шэф літоўскай гвар-

дыі, кавалер ордэнаў Белага Арла, св. Станіслава, а таксама залатога крыжа Ганаровага легіёна быў панам у поўным значэнні гэтага слова. Воласці свае, якія займалі дзясяткі тысяч гектараў і мелі тысячы мужыцкіх душ, меў размешчаныя ў паветах: Шавельскім, Вількамірскім, Віленскім, Дзісненскім, Вілейскім, Ашмянскім, Лідскім, Гарадзенскім, Слонімскім, Наваградскім і Пінскім і па чарзе пераязджаў з адной воласці ў іншую, распараджаючыся і кантралюючы сваіх адміністратараў. Пад старасць меў досыць клопатаў, частку добраў тых выдзеліў дарослым ужо сынам: гр. Рудольфу - Жалудок, Савоўшчыну, Лесішча, Спушу, Дзембраў, Бычкоўшчыну, графства Каменку, Буцень, Злотаў, Дзяткавічы і Дражна, графу Канстанціну - графства Паставы з фальваркамі: Гуртаў, Саўчын, Курапаль, Зосін, Гальбей, Антонаў, Полаў, Белая, Варапаеў, Далуга, Дзяткаў і Давідаўка. Гр. Ігнацы Тызенгаўз памёр у Вільні пад канец 1822 г.

Гр. Рудольф Тызенгаўз стала жыў у Жалудку, аддаючыся грамадскай і гаспадарчай працы. Ажаніўшыся з Генавэфай Пуслоўскай, дачкой маршалка слонімскага, меў з ёй тры дачкі: Германцыю, Юзэфу і Эльфрыду.

Памёр гр. Рудольф Тызенгаўз 17 сакавіка 1830 г. Велізарныя добры гр. Ігнацыя Тызенгаўза, апроч выдзеленых у 1815 г. для сыноў, заставаліся ў супольным валоданні гр. Канстанціна і дачок гр. Рудольфа, аж пакуль усе тры не выйшлі замуж: Германцыя - за гр. Севярына Ўрускага, Юзэфа - за гр. Канстанціна Патоцкага, Эльфрыда - за гр. Аўгуста Замойскага. Нарэшце 6 ліпеня 1843 г. у Вільні быў падпісаны акт падзелу тых добраў, у сілу якога гр. Канстанцін Тызенгаўз у папаўненне сваёй спадчыны - графства Пастаўскага - атрымаў Ракішскае графства з мястэчкам Ракішкамі і фальваркамі: Інсалін, Ведароўшчына, Высокі Двор, Лукшты, Скемяны, Ракішкі, Скробішкі, Камаі, Петрашышкі і Літвінішкі з землямі, азёрамі, пушчамі, вёскамі і 3782 душамі падданых. Пазасталыя добры падзялілі паміж сабой на тры часткі дочкі гр. Рудольфа, пры чым на частку гр. Германцыі Ўрускай былі выдзелены: 1) добры Жалудок з мястэчкам і фальваркам Жалудок, а таксама з вёскамі: Фарны Канец, Забалоцце, Багданаўцы, Кукіны, Вялікая Вёска, Скірсі, Баяры і засц. Ваўчкі ў Лідскім павеце, туды ж вёска Даброўка ў Слонімскім павеце; 2) добры Ліпічно з фальваркамі Хацяёўшчына і Генавэфін, мястэчкам Арлова і вёскамі з правага боку Нёмана: Ліпічанка, Прэцім, Доўгая, Корсакі, Лапаты, Крупелі, Галынка, Старынка, Дварчаны, Бранцы, Шымкі, Шасцілы, Стукалы, Галубы і Ярчакі; 3) Каменкаўскае графства ў паветах Гарадзенскім і Лідскім з фальваркам і мястэчкам Каменка і вёскамі: Аздобіы, Скарушкі, Клочкі, засц. Кісялі, Пясклукі, Навасёлкі, Белкі, фальф. Пратасоўшчына з вёскамі Староўшчына і Пялоўцы, фальв. Лесішча з вёскамі Прудцы, фальв. Спуша з вёскамі Старая Спуша, Новая Спуша, Савічы, Хамоўшчына, Востраў і Красная; фальв. Бычкоўшчына з вёскамі Карашава, Ройшы, Зюкі, Цяпы, Ляцэвічы; фальв. Ельна з вёскай Ельна; на частку гр. Юзэфы Патоцкай: 1) паезуіцкія добры Рэпіхаў з фальваркамі Туховічы, Востраў, Баканаў, Шчарбінаў, Малькавічы і Радзялавічы; 2) Хатынічы і 3) Трышкі, а таксама камяніца ў Вільні пры вул. Нямецкай і на частку гр. Эльфрыды Замойскай - Івейскае графства з фальваркам Іўе і мястэчкамі Мікалаеў, а таксама вёскамі Ганчары, Дындылішкі, Збойск, Лукошын, Падзянеты, Шаптуны, Стрызынеты, Саўгуці, Урцішкі, Цівановічы, Лотаўка, Бараў, Чапун, засц. Ганоўшчына, фальф. Хаваншчына з вёскамі Місюкевічы, Паўлавічы, Геленаў, Геленашка, Яславічы, фальв. Рубакоўшчына з вёскай Пятровічы, фальф. Красоўшчына з вёскамі Лубянеты, Дунай, Карповічы, Дробышы, Кеўры, фальв. Галімшчына, Барадыны, Саковічы, Вігушкі, Казенцы і Вадолі.

Кіраўніцтва ўправай абшырных воласцяў гр. Германцыі Ўрускай узяў у свае рукі муж яе, малады, здольны і энергічны гр. Севярын Урускі (нар. 1817 г.), уладальнік добраў ва Ўсходняй Малапольшчы і на Люблiншчыне, у пазнейшы час чалец галіцыйскіх штатаў і варшаўскі губернскі маршалак шляхты, таемны дарадца, гофмайстар царскага двара, аўтар-эканаміст, дзеяч эпохі адмены прыгону. Развязванне стасункаў паншчыны ў жалудоцкіх добрах наступіла якраз за часы гр. Германцыі Ўрускай і было праведзена найбольш спакойна з наданнем сялянам поўных надзелаў і нізкім акрэсленнем выкупных цэнаў. З добраў Жалудка былі забяспечаны наступныя вёскі:

мястэчка Жалудок - 23 дымы, 281,29 дзесяціны;
вёска Фарны Канец - 24 дымы, 240,09 дзесяціны;
вёска Забалаць - 12 дымоў, 187,08 дзесяціны;
вёска Кукіні - 11 дымоў, 186,23 дзесяціны;
вёска Вялікае Сяло - 26 дымоў, 435,24 дзесяціны;
вёска Купры - 12 дымоў, 189,00 дзесяцін;
вёска Скерсі - 20 дымоў, 213,00 дзесяцін;
вёска Занюкі 21 дым, 288,96 дзесяціны;
вёска Баяры I - 19 дымоў, 316,73 дзесяціны;
засценак Ваўчкі - 1 дым, 8,87 дзесяціны.
Разам: 169 дымоў, 2346,49 дзесяціны.

Маю ў руках старадрук - асобнік урадавага раскладу пабору 10 прац. ад даходу з польскіх маёнткаў Лідскага павета, ці прасцей кажучы, кантрыбуцыі, накладзенай генерал-губернатарам Мураўёвым за 1863 г. З гэтага раскладу вынікае, што найбольшыя квоты штогадовай кантрыбуцыі выплачвалі ў Лідскім павеце добры: Гарадзенка Людвіка і Юзэфы Кабылінскіх - 1797 руб., Вялікі Мажэйкаў Рафала Грабоўскага - 1346 руб. 75 кап., Шчучын кн. Любецкіх - 2491 руб., Гародна гр. Патоцкага - 3844 руб. і Жалудок Германцыі Ўрускай - 4809 руб.

Гр. Севярын Урускі памёр у Пізе ў 1890 г., а гр. Германцыя Ўруская - у Парыжы ў 1891 г.

Пасля смерці гр. Германцыі Ўрускай добры Жалудок забрала ў сваё ўладанне, як спадкаемца па праву, яе дачка Марыя княгіня Святаполк-Чацвярцінская.

**9**

Пачатак рыма-каталіцкага касцёла ў Жалудку сягае праўдападобна ў часы вялікага князя Вітаўта,

да ўласнасці якога Жалудок належаў. У 1392 г. Вітаўт пісаў сваім ваяводам, намеснікам і ўсім цівунам, каб у выпадку прыезду да іх біскупа зграмадзілі для ахрышчэння літву, якая яшчэ не была ахрышчана: *"А дзе сам біскуп не хоча ехаць, а прышле сваіх папоў, і тых так слухайце, як самога біскупа"*.

Новы драўляны касцёл адбудаваў па загаду кар. Казіміра каля 1490 г. жалудоцкі цівун пан Юшка Стырнель. Кароль Казімір на ўтрыманне пробашча вызначыў палі, лугі, агароды і грашовую даніну. Пасля спалення татарамі ў 1506 годзе касцёла з дакументамі і новага яго адбудавання кар. Жыгімонт І, на просьбу жалудоцкага пробашча кс. Мацея Баптысты лістом, выдадзеным у Вільні ў дзень св. Юрыя 1529 г., пацвердзіў для жалудоцкага касцёла наданні сваіх продкаў, як зямлі на 9 бочак высеву, чатырох прыгонных, тры карчмы, дзесяціну снапоў, апроч аўсу, з каралеўскіх маёнткаў Жалудка, Мажэйкава і Гігушак, два лугі пры касцёле на 40 вазоў, гай за ракой, млын, вольную лоўлю рыб малой сеткай у ставах і звыш таго дадаў ад сябе тры пусташы: Мячкоўшчыну, Кароўшчыну і Стаякоўшчыну, а таксама дзве балейкі мёду.

Не вядомы лёс гэтага касцёла аж да паловы XVII ст. Вядома толькі, што ён знаходзіўся каля сённяшняй вёскі Фарны Канец, на тым месцы, на якім пазначаны на старой трохвярстовай расійскай мапе і на каторым ён стаяў да паловы XIX ст. У часе вайны пры Яне Казіміры ў 1655-1659 гг. маскоўскія войскі гэты касцёл спалілі, пасля чаго яго адбудаваў уласным коштам жалудоцкі пробашч кс. Андрэй Бурневіч, а кс. Мікалай Слупскі, біскуп грацыёнапалітанскі, суфраган віленскі, які візітаваў Віленскую дыяцэзію пасля заканчэння найжудаснейшай з войнаў, якая наведала наш край, касекраваў. Калі ў Жалудку пад канец XVII ст. паўстаў кляштар кармелітаў і пры ім кляштарны касцёл, гэты даўнейшы парафіяльны касцёл для адрознення пачалі называць фарай, а адтуль паўстала і новая назва даўняй вёскі Жалудка - Фарны Канец.

Крыштаф Завіша апавядае ў сваім дзённіку, як хочучы сцерці з паверхні зямлі швагра свайго Качаноўскага, дробнага шляхціца, які адважыўся ажаніцца з магнаткай, напаў у дзень свята Трох Каралёў 1702 г. на Мажэйкаў (Вялікі) і змусіў Качаноўскага да ўцёкаў аж да Жалудка. *"Там пан Качаноўскі самтрох схаваўся быў у касцельны склеп, з якога не сілай, але хутчэй са страху там жа згінуць, быў выправаджаны, нарэшце назаўтра найлепей прыгатаваным да смерці канец жыцця ўчыніў. Такі канец, хто жэніцца няроўна і спраўляецца з дастойнейшымі. Касцёл жалудоцкі замкнёны. Справа недатыкальнасці касцёла неяк закончылася (глядзі ніжэй)"*. Нажаль, Завіша пра тую справу нічога больш не напісаў.

"Валыняк" падае вестку пра не меней грознае здарэнне, якое мела месца ў тым жа касцёле. *"У 1736 г. прызвалі на тую пасаду* (прыёра кармелітаў у Жалудку) *а. Бенедыкта Кукулінскага (у свеце Марка), які згінуў у Жалудку вельмі трагічнай смерцю, пакольки быў застрэлены кс. Пенскім, мясцовым плябанам у фары! Дэталі гэтага надзвычай смутнага выпадку, злачынства, дакладна не вядомыя, ордэнскі некралог толькі паведамляе, што напаўжывога айца Кукулінскага здалелі яшчэ прынесці ў кляштар, агледзець святымі сакрамантамі і толькь потым, прабачыўшы свайму забойцу, дух выдыхнуў дня 1 сакавіка 1739 года, маючы гадоў 39, з іх у ордэне 13, на трэцім годзе свайго ўзвышэння. На капітуле ў 1739 г. сабраныя айцы складалі просьбу да мясцовага біскупа і нунцыятуры, каб учынілі дазнанне ў той справе (у гэты час кс. Пенскі знайходзіўся ў аа. бернардынаў у Вільні, не вядома ў якім статусе); не ведаю, чым тая справа скончылася"*. Касцёл гэты быў адбудаваны Міхалам Людвікам Тызенгаўзам у 1740 годзе.

Жалудоцкія пробашчы апрача ўласнай касцельнай бенефіцыі вялі сельскую гаспадарку і на чужых землях: у 1701 г. 10 траўня пані Аляксандра Францкевіч Радзімінская, падскарбіна, заставіла свой фальварак Чарноўшчыну за суму грошай кс. Антонію Мракоўскаму, жалудоцкаму плябану, а ў 1727 г. жалудоцкі пробашч узяў у дзяржанне ад князёў Радзівілаў іхнюю ліпічанскую вёску Карытніцу.

Паводле люстрацыі 1796 г. жалудоцкая плябань мела ў дзвюх вёсках 9 сялянскіх дымоў. У дадатак да таго да касцельнай бенефіцыі належалі маёмасці па тастамантах: Юрыя Палевіча Яманта з 1673 г. і інш. Пры касцёле з найдаўнейшых часоў утрымлівалі прытулак для старых жабракоў, ці так званы шпіталь, на які была запісана 25 жніўня 1750 г. спадчына Рафала Сяклюцкага ў суме 3000 зл., абапёртая на Беразаўцы і Альгоўцах. Як і ў кожнай парафіі, пры жалудоцкім касцёле працавала парафіяльная школа, у якой пачаткі навукі чытання і пісання, а можа і лічэня, даваў пад наглядам пробашча арганіст. У 1777 г. у гэтую школу хадзіла аж 24 дзіцяці, у 1781 - 9, у 1782 - 14, у 1804 - 10, у 1805 - 10 дзяцей. Школа гэтая, падобна, заняпала ў 1817 г, бо Ю.Э. Ляхніцкі ў "Статыстыцы Літоўска-Гарадзенскай губерні", выдадзенай у тым жа годзе, пра тую школу прамаўчаў.

Касцельная бенефіцыя разам з капіталамі і тастамантамі ў 1842 годзе была забраная ў дзяржаўны скарб. Касцёл гэты пасля пабудовы мураванага ў мястэчку Жалудку быў разабраны.

Парафія Жалудка паводле спісаў, спраўджаных на дэцэзіяльным сінодзе ў час біскупства кс. Сапегі ў 1669 г., а таксама біскупства кс. Зянковіча ў 1744 г., належала да складу Лідскага дэканата. У 1781 г. парафія гэтая налічвала 5962 рыма-каталіцкія душы. У 1796 г. ахоплівала земскія добры з прыгоннымі: Падлужжа, Ачкевічы, Хацееўшчына, Ваўчкі, Стрэліцу, Беразавец, Ліпічно, Стацалеўшчыну, а таксама Панямонскае войтаўства Барцянскага староства.

**10**

На добры Ішчалну, роўна з іншымі добрамі Лідскай зямлі абрынуўся ў 1655 і 1659 г. жудасны разгром, які тут учынілі наезды маскоўскіх войскаў, двор і воласць былі разрабаваныя і папаленыя, люднасць разбеглася або была выбіта наезнікамі ці вынішчана ў дадатак голадам і маравым паветрыем. Князь Канстанцін Крыштаф Вішнявецкі, ваявода брацлаўскі,

тагачасны ўладальнік Ішчалны, маючы пільную патрэбу ў грашах, аддаў яе ў 1662 г. у заклад пану Пятру Яну Паўпяце, войскаму мсціслаўскаму, а праз некалькі гадоў, калі пан войскі трохі ўзмацніўся фінансава, а князю патрабаваліся грошы і далей, прадаў яму Ішчалну на вечна. Не надарылася спаткацца з якімі-небудзь звесткамі, датычнымі мінулага войскага Паўпяты; дапушчальна, як войскі (*"бо з-за войскіх служба ваенная гіне"*), не быў ён жаўнерам, не быў на вайне, а мяркуючы па тым, што пасля такога жудаснага знішчэння краю меў наяўныя грошы, гойсаў у часе агульнага няшчасця па тылах войска, можа быць у ролі забеспячэнца або дзяржаўцы нейкіх даходных крыніц і (няхай прабачыць мяне цень яго, калі лгу) набіваў торбу. А паколькі кruціліся каля яго аа. кармяліты, прывілеем якіх было ратаванне душ грэшнікаў у чысццы, можна думаць, што наш войскі меў сумленне не зусім чыстае. Пасталелы ў гадах пан войскі Паўпята, *"як маладзён нежанаты"* вёў у Ішчалне жыццё самотнае і праз некалькі гадоў клапатлівага панавання на знішчаных добрах, пасля кароткай хваробы 16 снежня 1670 г. перабраўся тут у вечнасць. Пасля смерці пана Паўпяты віленскія кармяліты апублікавалі яго тастамант, завераны 15 верасня 1670 г., у якім выразна стаяла, што былы войскі ішчалнскі фальварак Талматоўшчыну, які перавышаў 6 валок, запісаў на вечна Марціну Квінце і жонцы яго Люкрэцыі Ліндорфаўне, а маёнтак Ішчалну з усімі яе прыналежнасцямі тэставаў на фундуш аа. кармялітам, агаворваючы, што кармяліты: *"Касцёл пад назвай Беззаганнага зачацця н. п. Марыі таксама з кляштарам для манаскага жыцця здатным і зручным з даходаў у Ішчалне збудаваўшы на славу Божую на тым месцы, дзе двор цяпер стаіць, паводле свайго густу, набажэнства адпраўленае і з сумы таго ж запісана ратуючы душу маю досыць чыніць будуць павінны вечнымі часамі"*.

У Заполлі пад Лідай, у двары пана Казіміра Францкевіча Радзімінскага, падкаморага лідскага, жыло некалькі бежанцаў выкінутых сюды ваеннай бурай з Белай Русі - Ян і Кацярына Паўпяцянка, муж і жонка Запольскія, а таксама Павел і Мікалай Янавічы Паўпяты, браты той апошняй, якія называлі сябе блізкімі крэўнымі памерлага мсціслаўскага войскага. Яны выступілі з акцыяй супраць кармялітаў, сцвярджаючы, што тастамант памерлага Паўпяты ні меней, ні болей як быў падроблены тымі ж кармялітамі. Пачаўся гучны на той час працэс. Дапытаны сведкі тастаманта: пан Дуброўскі, чэснік і пісар гродскі віленскі, а таксама пан Данілевіч, падстолі ашмянскі, пацвердзілі, што едучы трактам цераз Ішчалну на сойм у Варшаву, былі запрошаны да хворага Паўпяты і тут на чыстых аркушах паперы, падпісаных тым жа Паўпятой, пакінулі і свае подпісы, а прыцiснуты прысягай Марцін Квінта прызнаў, што і тастамант, і фундуш, і лісты на прызнанне былі на тых жа чыстых з подпісамі толькі аркушах сфабрыкаваны ўжо пасля смерці войскага 6 жніўня 1671 г. тымі самымі аа. кармялітамі з удзелам яго, Квінты. Пасля чатырох трыбунальскіх дэкрэтаў спрэчка была канчаткова развязана аж у 1678 г. на карысць крэўных Паўпяты, усе запісы яго прызнаны за нявbooжныя, Ішчална прызнана ўласнасцю Запольскіх і Паўпятаў, а віленскія кармяліты прыгавораны да ўплаты тым жа спадкаемцам 3 000 зл. за вывезеную з Ішчалны рухомасць і таксама да вяртання коштаў працэсу ў суме 4 315 зл.

Суды з кармялітамі бедныя спадчыннікі Паўпяты вялі і выйгравалі таму, што мелі за сваімі плячамі багатага пратэктара ў асобе пана Казіміра Францкевіча Радзімінскага, той жа добра стараўся з таго інтарэсу, што меў ужо прыхаваны ў скрыні гатовы акт продажу на яго карысць і яго жонкі ад тых жа спадчыннікаў усіх правоў на Ішчалну, падпісаны з лістамі на прызнанне 30 чэрвеня 1676 г. А калі завяршылі апошні дэкрэт, пан падкаморы Казімір Францкевіч Радзімінскі ўчыніў першы жэст у бок кармялітаў, менавіта як каталік, хочучы мець ад іх мосцяў ксяндзоў кармялітаў суфрагію душы сваёй, 22 траўня 1678 г. запісаў на віленскі кляштар таго ж ордэна суму 6296 зл., нейкую частку з той сумы ўнёс на маёнтку сваім Нявішы. На тым аднак справа не спынілася. Відавочна, дзейнічалі нейкія закулісныя сілы, бо той жа пан падкаморы Казімір Францкевіч Радзімінскі супольна з жонкай сваёй паняй Аляксандрай з Нарушэвічаў, задавальняючы ў пэўнай ступені памкненні духавенства, 7 снежня 1682 г. падпісаў эрэкцыйны акт, у сілу якога, хоць і не ў Ішчалне, аднак заснаваў канвент кармялітаў даўняй традыцыі - абутых - ва ўласным сваім мястэчку Жалудку, абавязваючыся пабудаваць тут дом для манахаў і касцёл, а на ўтрыманне гэтага канвента запісаў свой жалудоцкі фальварак Стацалёўшчыну з некалькімі прыгоннымі, а таксама пэўную суму грошай. Гэтую фундацыю зацвердзіла соймавая ўхвала 1685 г. і ўхваліў сваім лістом 12 лютага 1686 г. віленскі біскуп кс. Мікалай Аляксандр Катовіч.

Такая гісторыя заснавання канвента кармялітаў у Жалудку, пра якую аўтар паважнага твора "З мінулага кармялітаў на Літве і Русі" (Кракаў, 1918 г.), схаваны пад псеўданімам "Валыняк", відавочна, не ведаў. У свой час увесь той працэс, які складаўся з некалькіх пачкаў аўтэнтычных актаў з XVII ст. я знайшоў у Ішчалнскім скарбцы.

Землеўладальнікі даўней ахвотна размяшчалі ў сваіх добрах ордэнскія кляштары, бо такую фундацыю лічылі ў пэўнай ступені адпаведнай цікавосткай, якая сцягвала люд з дальшых ваколіц і падымала даходы ўладальніка. Кляштар і касцёл знаходзіліся на кляштарным пляцы пры вуліцы Касцельнай і былі драўляныя. Да касцёла была дабудавана мураваная капліца фундацыі Сяклуцкіх з сярэдзіны XVIII ст. Сам касцёл быў высвечаны пад назвай св. Казіміра, а капліца - Н.П.М. Шкаплернай. У 1820 г. у касцёле ў вялікім алтары быў абраз Н.П.М. Шкаплернай, прыкрыты выявай св. Казіміра, аздоблены вотамі, якія сведчылі пра атрыманыя ласкі. У касцельнай наве былі меншыя алтары: св. Магдалены дэ Пазі, пана Езуса Ўкрыжаванага (у капліцы Сяклюцкіх); са значнаю колькасцю вотаў, св. Юзафа Аблюбенца, св. Антонія і св. Эліяша. Пазней, калі той стары касцёл канчаткова зруйнаваўся, набажэнствы былі перанесены ў тую ж капліцу Сяклюцкіх. Пры капліцы было брацтва св. Шкаплера (добрай

смерці). Брацтву гэтаму св. айцец Бенедыкт XIV надаў 2 сакавіка 1741 г. поўнае адпушчэнне: душам братоў і сясцёр, на карысць якіх у Рэмінісцэнтную нядзелю будзе адпраўляцца св. імша пры алтары брацтва. Св. айцец звольніў ад мук чысцовых. Св. айцец Пій VI ў дзень 11 жніўня 1781 г. надаў таксама поўнае адпушчэнне ўсім верным, якія ў тым касцёле прыступаюць у дзень св. Казіміра да сакраманту пакуты, а таксама цела і крыві Панскай. У кляштары ўтрымлівалася 6 братоў. У 1820 г. кляштарны фундуш складаўся з фальварка Стацялоўшчыны і вёскі Дубелі - 11 дымоў, Малога Сяльца - 3 дымы і Логвіны - 3 дымы. Жалудоцкі канвент належаў паводле надання 1687 г. да Рускай правінцыі, а ад 1756 г. - да Літоўска-Рускай правінцыі.

Прыёрамі Жалудоцкага канвента або іхнімі наменікамі былі:

у 1684 г. - Калікст Дзюркевіч;
у 1698 г. - Серапіён Равускі (Ржавускі);
у 1717 г. - Казімір Дабрыцкі;
у 1720 г. - Бенедыкт Казлоўскі;
у 1721 г. - Гіларыён Яскалькоўскі (Яскулькоўскі);
у 1726 г. - Бенядыкт Маркевіч;
у 1730 г. - Юзаф Бедраз;
у 1730 г. - Пляцыд Гіглоўскі;
у 1736 г. - Бенядыкт Кукулінскі;
у 1739 г. - Герард Альшэўскі;
у 1748 г. - Сільвестар Гадоўскі;
у 1754 г. - Гадлеўскі;
у 1755 г. - Юры (Ежы) Курмін;
у 1766 г. - Ваўрынец Ляўкевіч;
у 1770 г. - Эліяш Курмін;
у 1772 г. - Кірыл Стацэвіч;
у 1773 г. - Януары Швабовіч;
у 1773 г. - Вінцэнты Пятрушэвіч;
у 1777 г. - Януары Швабовіч;
у 1781 г. - Юры Курмін;
у 1793 г. - Андрэй Мацкевіч;
у 1807 г. - Бруно Рымгайла;
у 1810 г. - Карнел Нойберг;
у 1816 г. - Лукаш Далінскі;
у 1825 г. - Андрэй Лібонскі.

Спіс гэты быў складзены на падставе дададзенай працы "Валыняка", а таксама ўласных матэрыялаў аўтара.

У 1832 г. кляштар быў скасаваны, а фундуш яго быў забраны на карысць дзяржаўнага скарбу.

**11**

Граф Рудольф Тызенгаўз, маючы намер вымураваць у мястэчку Жалудок маўзалей для сямейных пахаванняў, ужо быў пачаў у тым кірунку пэўную падрыхтоўку, але хуткая ягоная смерць не дала яму магчымасці выканаць гэты намер. Тым часам кармяліцкі кляштар быў закрыты, касцёл яго знішчаны, а сямейныя труны ў склепе пад знішчаным касцёлам вымагалі неадкладнага забеспячэння іхняй бяспекі. Для таго ў 1835 г. па распараджэнні графа Канстанціна Тызенгаўза адміністрацыя жалудоцкіх добраў каля кляштара распачала будаўніцтва капліцы. Але і фарны касцёл быў ужо ў такой ступені зруйнаваны, што трэба было падумаць пра будаўніцтва на месцы яго новага. У 1843 г., пры падзеле спадчынных добраў Юзэфа графіня Патоцкая і Эльфрыда графіня Замойская даплацілі Германцыі графіні Ўрускай па 1500 рублёў на вымураванне пахавальнай капліцы ў Жалудку і адначасова запэўнілі сястру, што калі яна вымуруе не капліцу, а новы касцёл, то даплацяць ёй звыш таго яшчэ пэўныя квоты грошай. За тыя грошы пры пахавальнай капліцы быў вымураваны касцёл, які ў 1853 г. быў высвенчаны пад назвай Унебаўзяцця Н. П. Марыі.

Праязджаючы ў 1862 г. праз Жалудок Эдвард Хлапіцкі пакінуў такія ўспаміны пра той новы касцёл: *"Касцёл кармялітаў, фундацыі Радзімінскіх-Францкевічаў ужо не існуе сёння, а на месцы яго пастаўлена новая мураваная, досыць прыгожай гатыцкай архітэктуры, святыня. Унутры яе, дзе апроч добрага абраза Трох Каралёў у бэтлемскай стаенцы, нічога цікавага мне не натрапілася, гола і бедна. А замураваная ў падзямеллях труна з парэшткамі слаўнага мужа Антонія Тызенгаўза згадваецца ў памяці землякоў і ў надмагіллі". "Мы вельмі хацелі з вуснаў мясцовага пробашча даведацца нешта асаблівае і пра маральна-разумовы стан тутэйшых жыхароў, але, нажаль, нейкі абедзік па суседстве ў хвілю нашага прыбыцця змёў спяшаўшагася на вёску айца парафіі, які пры ад'ездзе здолеў нам толькі сказаць, "што заснаваў у пробастве школку, і тая, хоць і не праслаўленая журналістамі, працуе сабе шчаслівa".*

Жалудоцкі касцёл валодае ўласнай зямельнай беняфіцыяй, нададзенай яму ў 1854 г. ад дзяржаўнага скарбу. Адсоткі ад даўнейшых наданняў, секулярызаваных на карысць скарбу ў 1842 г., штогод прыходзілі пробашчам, так званымі прыватнымі павіннасцямі з скарбовай палаты ў Вільні праз віленскую кансісторыю аж да 1915 г.

Жалудоцкая парафія ў 1897 г. налічвала 9 тысяч вернікаў, да 1915 г. колькасць тая паднялася да 11 тысяч.

22 траўня (3 чэрвеня) 1863 г. у Вільні быў расстраляны кс. Станіслаў Ішора, вікарый жалудоцкага пробашча, прызнаны вінаватым у абвяшчэнні ў гэтым касцёле маніфесту Нацыянальнага ўрада. Была гэта першая ахвяра новага генерал-губернатара Мураўёва. Жалудоцкім пробашчам доўгі час да 1898 г. быў кс. Антоні Пузёлевіч, пасля яго Матэвуш Лаеўскі, а ад 1907 г. кс. Баляслаў Сперскі, слаўны тым, што за сваю місіянерскую і патрыятычную працу быў сталым кліентам акруговага суда ў Пскове, і тым, што змушаны ў 1911 г. на выезд у Амерыку пры ад'ездзе сказаў знаёмым, што *"вернецца ў Жалудок хіба толькі з польскім войскам"*. Так і сталася.

Пасля кс. Баляслава Сперскага па чарзе былі пробашчамі ў Жалудку: кс. Віктар Каханскі, кс. Казімір Сталеўскі, кс. Эдвард Мікалаюн, кс. Казімір Кляйсноўскі, кс. Баляслаў Серафім, кс. Максіміліян Сарасек, ледзве 3 месяцы, і кс. Міхал Міхневіч, які застаецца да гэтай хвілі (1937 г., *рэд.*).

*Пераклад Станіслава Судніка.*

# Калона арханёла Рафаіла ў Жырмунах

У XVIII ст. маёнтак Жырмуны Завішаў перайшоў да Радзівілаў у якасці пасагу Барбары Завішы-Кезгайлы (1690-1762 гг.), якая ў 1710 г. выйшла замуж за князя Мікалая Фаўстына Радзівіла (1688-1746 гг.). Потым маёнтак дастаўся іхняму сыну Станіславу Радзівілу (1722-1787 гг.), краўчаму, падкамораму Вялікага Княства Літоўскага, генерал-лейтэнанту. Ён быў жанаты з Каралінай Пацей (1732-1776 гг.) і меў з ёй пяцёра дзяцей.

У другой палове XVIII ст. Станіслаў Радзівіл вырашыў пабудаваць у фальварку Жырмункі, які знаходзіўся недалёка ад маёнтка, палацава-паркавы комплекс (зараз былы фальварак Жырмункі - вёска Жырмуны Лідскага раёна, каля Вялікага Сяла). Ім былі пабудаваны прыгожая ўязная брама, два бакавыя двухпавярховыя афіцыны ў стылі класіцызму, прычым паўднёва-ўсходнюю афіцыну з багатым афармленнем унутраных інтэр'ераў, займалі самі Радзівілы; у паўночна-заходняй афіцыне жыла прыслуга. Былі пабудаваны таксама гаспадарчыя пабудовы, пасаджаны вялікі і прыгожы парк. Будаўніцтва самога палаца з-за смерці князя ў 1787 г. не было распачата. У 1914 і 1939 гг. сядзіба была разрабавана[1].

Да нашага часу захавалася ўязная брама, руіны афіцынаў і калона, якую ў народзе завуць калонай Святога Яна Хрысціцеля.

Некалькі гадоў таму я перакладаў вопісы Лідскага дэканата 1784 г. З той працы запомнілася дэталёвае апісанне *Жырмунскага двара Радзівілаў, у якім згадваецца "статуя лідскага Рафала на мураваным слупе"*. З-за каштоўнасці тэксту, прывожу яго цалкам

*"Жырмунка (Zyrtunki), фальварак тых жа яснавяльможных ягамосцяў князёў Радзівілаў, на захад чвэрць лёгкай мілі* (ад парафільнага касцёла -*Л.Л.*).

*Два двары: адзін мураваны палац, каля гэтага палаца мураваная афіцына, дзве іншыя драўляныя афіцыны атынкаваныя. Другі двор эканомскі, гаспадарскі з гумнамі, лядоўнямі, вазоўнямі, пад імі мураваныя склепы. Абора драўляная. Стайня фабрычная пры гумне, трошкі ў поле - ветраны млын, які не меле. Ідучы ад эканомскага двара, па правай руцэ статуя лідскага Рафала на мураваным слупе, па левай руцэ драўляныя кашары з мураванымі слупамі пастаўленыя для прыслугі і розных рамеснікаў. Тут жа пры кашарах знаходзіцца вялікая аўстэрыя з рознымі выгодамі, насупраць яе знаходзіцца драўлянае з мураванымі слупамі збожжасховішча, пад ім мураваныя склепы і лядоўня.*

*Мураваны двор з аднаго боку акапаны ровам стаіць над ставам. На гэтым ставе мураваны двухпавярховы млын, вакол млына дрэвы.*

*Мураваны бровар з усімі выгодамі, за ім будынак з усімі выгодамі для пратачак. Ідучы да бровара, каля двара альховы гай, які мае назву Мамоўшчына, тут у прыгожым месцы, у перспектыве бачны мураваны агароджаны палац, у якім розныя выгоды: кухня, студня і г.д., у гэтым жа гайку чатыры драўляныя замкі: адзін для княжат, другі для князя-палкоўніка, трэці для яснавяльможнага пана шамбеляна Шышкі, чацвёрты для бургграфа. Павярнуўшыся ад двара, па правай руцэ бачны ... мураваны з усімі выгодамі. ... за ім сені, на гары будка, па левым баку бачна другая перспектыва: альтанка на два паверхі фарбаваная зялёнай фарбай, далей рэчка, адкуль вада з крыніц паступае да студні пад кухняй"* [2].



Дадам, што ў Беларусі маецца яшчэ адна калона арханёла Рафаіла каля вёскі Скокі (зараз прыгарад Берасця), калона пастаўленая ў маёнтку, дзе ў 1758 г. нарадзіўся паэт і пісьменнік, ад'ютант Т. Касцюшкі Юльян Нямцэвіч[3].

Польскія гісторыкі лічаць, што падобныя калоны ставіліся пры канцы XVIII ст. ў гонар Канстытуцыі 3 Траўня, зараз ў Беларусі вядома 15 такіх калон. Але як бачым, калона з статуяй "лідскага" Арханёла Рафаіла ў Жырмунах існавала ўжо ў 1784 г.

Загадкай з'яўляецца, чаму статуя звалася "лідскай" - можа аўтар яе жыў Лідзе? Але для гэтага майстар павінен быў быць знакамітым мастаком, памяць пра якога захавалася б да нашага часу.

Другім, больш рэальным тлумачэннем, можа быць такое: да 1784 г. калона з Арханёлам Рафаілам з нейкай нагоды атрымала значную вядомасць на Віленшчыне і стала звацца "лідскай", каб адрозніць ад іншых.

Праз нейкі час калону маглі пачаць атаясамліваць і з ушанаваннем Канстытуцыі 3 Траўня.

Вядома, што яшчэ доўга пасля 1945 г. на калоне стаяла драўляная скульптура чалавека са скрыпкай, якога лічылі Святым Янам. Людзі да нашага часу называюць поле каля калоны "полем пад Св. Янам". Выбітны лідскі краязнавец і інжынер-будаўнік Станіслаў Ушакевіч дасканала вывучаў калону. Ён пісаў, што калона сур'ёзна рамантавалася, пра гэта сведчыць тое, што ў стары мур калоны ўмуравана шмат адносна новай цэглы меншага памеру (12х25 см). Магчыма рамонт адбыўся пасля 1897 г., пасля адмены царскага ўказу, які забараняў будаваць і рамантаваць каталіцкія святыні[4]. Верагодна, тады ж на калону была таксама пастаўлена і фігура Св. Яна.

Вось покуль і ўсё, што можна расказаць пра гэты цікавы помнік гісторыі і архітэктуры на Лідчыне.

***Леанід Лаўрэш.***

[1] Aftanazy Roman. Dzieje rezydencji na dawnych kresach Rzeczypospolitej. T. 4., 1993. S. 474-475.
[2] Rybak Andrzej. Dekanat lidzki w 1784 roku w swietle opisow parafii. Bialystok, 2004. S. 117.
[3] Скрабатун Уладзімір. Па ўсёй Беларусі стаяць загадкавыя калоны // Вольнае Глыбокае № 48 (869), 1 снежня 2016.
[4] Uszakiewicz Stanislaw. Mytlanski gosciniec i dworska droga // Ziemia Lidzka №2(45), kwiecien, 2001.

# Лёсы нашчадкаў Дзмітрыя Маўраса

Часам аказваецца, што гісторыі, пра якія мы чулі толькі ў авантурных або прыгодніцкіх раманах, адбываліся і на нашай зямлі. Некалькі з такіх гісторый - падзеі жыцця нашчадкаў колішняга ўладара Тарноўскага маёнтка - Дзмітрыя Маўраса.

Упершыню Тарнова ўзгадваецца ў гістарычных летапісах у 17 стагоддзі. Ёсць некалькі варыятаў трактавання назвы гэтай мясцовасці. Па-першае, паходжанне ад славянскага *tarnina* - церн, цярноўнік. Па-другое, ад прозвішча аднаго з уладальнікаў - Пятра Тарноўскага, які атрымаў паслелішча ў выніку шлюбу з Ганнай Завішай. Амаль два стагоддзі гэтыя землі належалі прастаўнікам роду Завішаў, а таксама іх нашчадкам Радзівілам. У 1808 годзе Мікалай Радзівіл закладае Тарноўшчыну Тадэвушу Андрэйкавічу, пасля судовой справы апошні становіцца яе паўнапраўным уладаром. У 50-я гады 18-га стагоддзя Тарнова купляе Канстанцін Кашыц. Яго бацька - Іосіф Кашыц - быў удзельнікам паўстання 1830 - 1831 гадоў. Канстанцін Кашыц у сваю чаргу прыняў удзел у паўстанні 1863 - 1864 гадоў, пасля задушэння якога вымушаны быў прадаць Тарнова за бясцэнак Дзмітрыю Маўрасу. Сам жа спачатку быў адпраўлены ў ссылку, у 1868 годзе атрымаў дазвол на жыхарства ў Рызе, затым вярнуўся на родную зямлю і быў пахаваны ў маёнку Абрыно (зараз пас. Першамайскі Карэліцкага раёна).

Граф Дзмітрый Мікалаевіч Маўрас - удзельнік крымскай (1853-1856) і руска-турэцкай войнаў (1877-1878). У 1884 годзе Маўрас будуе ў Тарнове маёнтак, вінакуранны завод, канюшню, ветраны млын, а таксама разбівае парк і дзве сажалкі. Бібліятэка Маўрасаў была, бадай, самай вялікай на тэрыторыі Віленшчыны і складалася з 9000 тамоў. У Дзмітрыя Мікалаевіча было 5 дзяцей - Марыя, Ганна (Ніна), Аляксандра, Лізавета, Мікалай. Як скалаліся іх лёсы?

Яго дачка **Ганна (Ніна)** (1857) пабралася шлюбам з Генрыкам Слізенем, сынам вядомага мастака, скульптара, рамантыка і блізкага сябра Адама Міцкевіча, Яна Чачота, Тамаша Зана - Рафаіла Слізеня - і была вялікай прыхільніцай краёвага (беларуска-польскага) нацыянальнага адраджэння.

**Аляксандра** ўзяла шлюб з нашчадкам роду знакамітых палкаводцаў Чапялеўскіх.

**Мікалай** (1862) стаў уладальнікам Тарнова пасля смерці бацькі (1896), але ў 1911 годзе, пасля смерці жонкі, быў прызнаны нядзеяздольным і вымушаны быў з'ехаць у Гатчыну да сваёй сястры Марыі.

**Марыя** (1854) пабралася шлюбам з генераламмаёрам асобнага корпуса жандараў баронам Фёдарам Карлавічам фон Эксе, ураджэнцам Вільні. У фон Эксе нарадзілася трое дзяцей: Уладзімір, Дзмітрый і Марыя. Аўдавеўшы, у 1899 годзе, Марыя Дзмітрыеўна з'язджае ў Гатчыну, дзе ў той час служылі яе сыны.

Барон **Уладзімір Фёдаравіч фон Эксе**, унук графа Дз. Маўраса, быў сынам генерала, і таму нядзіўна, што пасля атрымання адукацыі малады чалавек апынуўся ў шэрагах імператарскай гвардыі. Карнет кавалерыі быў залічаны ў лейб-гвардыі кірасірскі Яе Вялікасці полк, які насіў неафіцыйную назву "Сінія кірасіры". Полк базаваўся ў Гатчыне; шэфам палка з 1880 г. з'яўлялася імператрыца Марыя Фёдараўна, жонка імператара Аляксандра III і маці імператара Мікалая II. У гэтай элітнай частцы служылі выхадцы з бліскучых дваранскіх родаў, прадстаўнікі вышэйшай расійскай арыстакратыі, такія, як вялікі князь Міхаіл Аляксандравіч ці князь Уладзімір Трубяцкі.



***Барон Уладзімір Фёдаравіч фон Эксе***

Полк штогод удзельнічаў у летніх манеўрах Імператарскай гвардыі, якія праводзіліся ў Красным Сяле. Акрамя таго, штогод у канцы лютага ў Санкт-Пецярбургскім Манежы адкрываўся спартовы сезон Пецярбургскай вайсковай акругі, адкрываўся ён спаборніцтвамі гвардыі. Спаборніцтвы праводзіліся для ніжніх чыноў і афіцэраў "у рубцы", стральбе і скачках. Па выніках гэтых стралковых і конных спаборніцтваў тых, хто вызначыўся, узнагароджвалі: шараговы склад - знакамі "За выдатную стральбу", кішэннымі гадзіннікамі і, як ні дзіўна, шараварамі; афіцэры атрымлівалі грашовыя прэміі, каштоўныя падарункі і імянную зброю. Гатчынскія "сінія кірасіры" былі лепшымі кавалерыстамі ў гвардыі, але нават сярод іх юны карнет фон Эксе вельмі хутка зарэкамендаваў сябе адным з лепшых фехтавальшчыкаў і коннікаў ва ўсім рускім войску! Вось тады, заняўшы першае месца ў скачках, даказаўшы, што ён - самы лепшы



2-го ВЕРХНЕУДИНСКАГО ПОЛКА ЗАБАЙКАЛЬСКОЙ КАЗАЧЬЕЙ ДИВИЗІИ СОТН. В. Ф. ФОНЪ-ЭКСЕ. КОМАНД. ГОРНО-РАЗВѢД. КОМАНДЫ. Представленъ къ двумъ наградамъ.

кавалерыст расійскага войска, фон Эксе і атрымаў ад імператара ва ўзнагароду імянны карабін “вінчэстар” (наколькі можна меркаваць па дрэнным фота, мадэль 1892 года), які ён потым выкарыстоўваў у баях руска-японскай вайны.

У 1904 годзе мірная служба і спартовая кар'ера фон Эксе была перапынена - пачалася руска-японская вайна. Адважны гвардзейскі афіцэр не мог застацца ўбаку ад гэтай падзеі; але гвардыя не ўдзельнічала ў баявых дзеяннях, і тады барон падаў рапарт з просьбай перавесці яго з гвардзейскага кірасірскага палка ў Забайкальскія казачыя часткі. Так кірасір стаў сотнікам 1-й сотні 2-га Верхнеўдзінскага палка Забайкальскай казачай дывізіі. Ён кіраваў горна-выведвальнай камандай, якая складалася ў сваёй большасці з эвенкаў - прыроджаных паляўнічых і следапытаў. Менавіта таму, што нельга было пакідаць армейскіх слядоў, таму што трэба было неўзаметку, бясшумна падбірацца да варожых вартавых, каб браць "языкоў", выведнікі і насілі замест ботаў паляўнічыя поршні, якія нагадваюць па выглядзе сялянскія лапці (поршні - скураныя тапкі, што рабілі крок мяккім і бясшумным).

У выведках і бітвах сярод сопак Манчжурыі фон Эксе не раз вызначыўся (вось тут у бліжніх баях



*Барон фон Эксе з вінчэстарам і казакамі*



*Барон фон Эксе з вінчэстарам і яго разведчыкі*



ГОРНО-РАЗВѢДОЧНАЯ КОМАНДА СОТНИКА ФОНЪ-ЭКСЕ
1-й СОТНИ 2-ГО ВЕРХНЕУДИНСКАГО ПОЛКА ЗАБАЙКАЛЬСКАГО КАЗАЧЬЯГО ВОЙСКА.
СЪ ФОТОГРАФІИ В. БУЛЛА, СЪ ТЕАТРА ВОЙНЫ.

яму вiдавочна шматкроць спатрэбіўся імянны хуткастрэльны вінчэстар), за час вайны сотнік двойчы быў узнагароджаны ордэнамі. Пасля канца вайны герой не вярнуўся ў гвардыю; па яго просьбе есавул фон Эксе быў залічаны ў склад Данскога казачага войска (запісаны пры станіцы Ўсць-Хаперскай) і ўвайшоў склад 3-га Данскога казачага Ярмака Цімафеевіча палка.

У гэты перыяд барон займаўся не толькі службай і спортам. У яго з'явілася яшчэ адна, новая і вельмі важная справа. Фон Эксе заняўся выхаваннем падрастаючага пакалення. Уладзімір Фёдаравіч стаў адным з заснавальнікаў расійскага скаўцкага руху: у Вільні, дзе стаяў яго 3-ці Данскі казачы полк, барон стварыў адну з першых у Расіі так званых "пацешных" каманд - папярэдніцу ваенна-патрыятычнага дзіцячага клуба. У такіх камандах хлопчыкі 10-16 гадоў займаліся вайсковым шыхтам, харавымі спевамі вайсковых песень, вайсковай гімнастыкай, ружэйнымі прыёмамі і іншымі адмысловымі вайсковымі дысцыплінамі - пад кіраўніцтвам дзейных армейскіх афіцэраў. Рух распаўсюджваўся вельмі хутка. Армейскія і гвардзейскія палкі ўстанаўлівалі сваё шэфства над створанымі "пацешнымі" і прызначалі ў іх штатных афіцэраў-выхавальнікаў. І фон Эксе для развіцця "рускага скаўтызму" зрабіў вельмі шмат. Так, менавіта ён распрацаваў адзіную для ўсіх "пацешных" форму - авечую шапачку з верхам па колеры шэфскага палка, паўкафтан па ўзоры стралецкага, падперазаны

поясам, вольныя шаравары і боты. Але галоўнай яго справай у той перыяд стала стварэнне найсур'ёзнай педагагічнай літаратуры па гэтым пытанні. У 1911 г. фон Эксе выдаў сваю кнігу "Вілен-скае пацешнае войска ці Гасударава справа", у якой даваў "Адказы на ўсе пытанні ўладкавання і навучання войска па ангельскай сістэме, але ў духу расійскім". Гэтая кніга - бліскучы метадычны твор у вобласці па-трыятычнага выхавання моладзі, яна актуальная і дагэтуль!

Напачатку 1914 года палкоўнік фон Эксе атрымаў прызначэнне на пасаду… гарадскога паліцмейстара Таганрога. Мне невядома, як гэта адбылося; ці сам барон дамагаўся гэтай пасады, ці хтосьці з уладных людзей вырашыў для нечага зрабіць яго жандармам; цалкам магчыма, што ўспомнілі бацьку. Але вядома, што ў першыя ж дні знаходжання ў Таганрогу, знаёмячыся з яго побытам, новы паліцмейстар, які прывык да вайсковага парадку, быў здзіўлены брудам і неахайнасцю гарадскіх вуліц. Яшчэ больш уразіла ветэрана вайны расхлябанасць таганрогскіх паліцыянтаў, спазняўшыхся на службу, якія не выконвалі загады начальства, выходзілі ў патруляванне няўзброенымі… З гэтымі пачварнымі з'явамі фон Эксе тут жа пачаў непрымірымую барацьбу. Актыўнасць яркай асобы, стромкія, парой вельмі цвёрдыя меры былога выведніка ўскалыхнулі балота правінцыйнага горада: але выпраўляцца і штосьці рабіць ніхто не хацеў. У Пецярбург паляцелі паклёпы, фактычна ўсе абывацелі і паліцыя Таганрога ўступілі з новым паліцмейстарам у ідэалагічную вайну. Любое дзеянне палкоўніка тут жа высмейвалася ў мясцовых газетах, барон увесь час адчуваў непрыязнасць навакольных, утоены, маўклівы супраціў адной яго прысутнасці. У Таганрозе загаварылі пра вар'яцтва паліцмейстара, гэтыя гутаркі тут жа рэхам адгукаліся ў сталіцы… У гэтым становішчы і фон Эксе пачаў рабіць істэрычныя памылкі, падаграваючы чуткі пра вар'яцтва. Хоць, падобна, што ў яго сапраўды пачала развівацца душэўная хвароба - ці пад уплывам таганрогскай абструкцыі, ці гэта "вайна" проста паскорыла працэс, які распачаўся некалькі раней… Магчыма гэта ўсё ж спадчыннасць. Не будзем забываць, што вар’ятам быў прызнаны яго родны дзядзька Мікалай Маўрас. Неўзабаве фон Эксе быў зняты з пасады; фактычна гэта стала крахам яго кар'еры.

Далейшы лёс аднаго з лепшых кавалерыстаў расійскага войска растае ў смузе невядомасці. Падобна, што ён не ўдзельнічаў у 1-й сусветнай вайне, хоць дакладных звестак няма. Аднак, калі душэўная хвароба сапраўды мела месца, тады адсутнасць героя руска-японскай на палях 1-й сусветнай цалкам вытлумачальная. Але вядома, што пасля рэвалюцыі і грамадзянскай вайны фон Эксе не ўцёк за мяжу, а застаўся ў савецкай Расіі. Пражываў у Петрапаўлаўску (Казахстан) пад прозвішчам маці. Як жандармскі афіцэр 5 лістапада 1937 г. быў арыштаваны і асуджаны на 10 гадоў. Ён памёр у засценках НКУС у 1942 годзе. Рэабілітаваны ў 1999 годзе.

Малодшы брат Уладзіміра - **Дзмітрый** скончыў Пажскі корпус камер-пажам і пачаў службу ў Гатчынскім кірасірскім палку ў чыне карнета 10 жніўня 1902 года.

Стаўшы неўзабаве паручнікам, Дзмітрый, як і брат, браў удзел у штогадовых спаборніцтвах гвардыі, якія праводзіліся ў канцы лютага ў Пецярбургскім Манежы. Пазней Дзмітрый даказаў, што ён - адзін з лепшых кавалерыстаў не толькі ў рускім войску, але і ў Еўропе. Разам з іншым лепшым кавалерыстам палка кірасіраў М.М. Плешкавым Дзмітрый фон Эксе штогод адпраўляўся на міжнародныя спаборніцтвы ў Лондан і Вену, дзе яны дамагаліся выдатных вынікаў. Лічыўся адным з лепшых кавалерыстаў Еўропы.

Ротмістр Дз.Ф. фон Эксе - першы ў гісторыі пераможца кубка караля Вялікабрытаніі Георга V. У 1911 годзе па выпадку каранацыі караля Георга V быў



***Павел Радзянка, Міхаіл Плешкаў і Дзмітрый фон Эксе***

заснаваны новы пераходны прыз - залаты кубак Георга V "The King George V Gold Challenge Cup" з выявай святога Георгія, які забівае змея. Першым, хто ў 1911 годзе прыняў у свае рукі, толькі што адліты залаты кубак Георга V, з рук самога толькі, што каранаванага караля Георга V, быў рускі афіцэр ротмістр Дзмітрый фон Эксе.

Фатаграфія Дзмітрыя Эксе была змешчана 21 чэрвеня 1911 года ў газеце "Новы час". Подпіс да фатаграфіі абвяшчаў: *"Ротмістр л.-гв. кірасірскай Яе Імператарскай Вялікасці Гасударыні Імператрыцы Марыі Фёдараўны палка Дзм. Фёд. фон-ЭКСЕ, які выйграў галоўны прыз у 5000 р. на сваім кані "Пікала" на*



***Фатаграфія ротмістра барона Дз. Ф. фон Эксе ў газеце “Новы час”***




*Ротмістр Бертран і штабс-ротмістр Дзмітрый фон Эксе*

*міжнароднай выставе коней у Лондане. Конь фон-Эксе ўразіў усіх кемлівасцю, з якой ён браў перашкоды. Герцаг Тэк уручыў фон-Эксе прыз пры шумных воплесках публікі".*

Дзмітрый прыняў удзел у Алімпіядзе 1912 года.

Разам з іншымі рускімі наезнікамі - паручнікам Дзмітрыем Іваненкам (гусар), штабс-ротмістрам Міхаілам Плешкавым (калега Дзмітрыя па кірасірскім палку) і ротмістрам Паўлам Радзянкам (кавалергард) - Дзмітрый Эксе ў 1914 годзе заваяваў Кубак караля Эдуарда VII. У Лондане, у зацятай барацьбе з прадстаўнікамі Англіі, Бельгіі і Францыі, расейскія коннікі тры гады запар выйгравалі гэтыя спаборніцтвы- у 1912, 1913 і 1914 гадах. Ва ўзнагароду руская група атрымала з рук Караля Георга V кубак у сваю поўную ўласнасць!

Газета "Рускі спорт" так пісала: *"Прымаючы да ўвагі, што ў Вене паручнік Плешкаў атрымаў чатыры першыя прызы і адзін другі, а ў Лондане на самых цяжкіх конкурсах у свеце самы ганаровы прыз у гонар караля Георга V атрымаў штаб-ротмістр фон Эксе, рускія здабылі славу лепшых ездакоў Еўропы"*.

На спаборніцтвах на Кубак "Дэйлі Мэйл" у Лондане ў 1914 годзе Дзмітрый, выступаючы на кабыле "Кебела" завода Карыбут-Дашкевіча, перамог прызнаных сусветных чэмпіёнаў і выйграў першы прыз. Пяру Дзмітрыя Эксе належыць кніга "Асновы вайсковай язды і аб'езджвання па італьянскай сістэме", выдадзеная ў Пецярбургу ў 1910 годзе.

Напачатку 1910-х гадоў Дзмітрый Эксе скончыў афіцэрскую кавалерыйскую школу і стаў камандзірам 4-га эскадрона палка.

Напачатку 1914 года Дзмітрый быў звольнены ў запас гвардзейскай кавалерыі. Падчас Германскай вайны Эксе служыў у лейб-гвардыі драгунскім палку, у складзе якога ў жніўні-верасні 1914 года прыняў удзел ва Ўсходне-Прускай аперацыі; пазней служыў у гвардзейскім запасным кавалерыйскім палку.

Рэвалюцыю Дзмітрый Эксе не прызнаў, з'ехаў у Польшчу і стаў падданым гэтай краіны; служыў інструктарам кавалерыйскай школы. Жыццё яго скончылася трагічна: падвергшыся нападу рабаўнікоў, ён атрымаў раненні, ад якіх сканаў 7 лістапада 1943 года ў Варшаве.

Такім быў лёс сыноў старэйшай дачкі Дзмітрыя Маўраса.

Не менш цікава склаўся лёс сына малодшай дачкі Маўраса - **Лізаветы** (1861). У 1884 годзе дзяўчына пабралася шлюбам са сваім стрыечным братам Мікалаем Мікалаевічам Сымонічам. У 1887 годзе ў маладых нарадзілася дачка Марыя. А ў 1895 у Пецярбург быў накіраваны данос, таму што кроўныя шлюбы ў той час забараняліся, у 1898 годзе шлюб быў прызнаны незаконным, а маладыя былі прысуджаны да невялікага турэмнага зняволення. Праз некаторы час, Лізавета Дзмітрыеўна пабралася шлюбам са сваім суседам Міхаілам Міхайлавічам Скосыравым - адным з земскіх начальнікаў Лідскага павета, жыла ў Лідзе. У 1914 годзе Лізавета Скосырава была чальцом папячыцельскай рады Лідскай прыватнай жаночай гімназіі Навіцкіх.

У Скосыравых нарадзіўся сын - **Барыс**, адзін з найвядомейшых авантурыстаў XX стагоддзя. Ён атрымаў выдатную ўніверсітэцкую адукацыю, свабодна гаварыў па-польску, англійску, нямецку, французску. Дзе канкрэтна атрымаў адукацыю - невядома, але ўжо знаходзячыся ў эміграцыі распавядаў, што скончыў Оксфардскі ўніверсітэт, ліцэй Людовіка Вялікага ў Парыжы, у перыяд з 1920 па 1923 гады атрымаў доктарскую ступень ва ўніверсітэце Ены, аднак звесак, што маглі б пацвердзіць або аспрэчыць усе гэтыя факты, так і няма.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі Скосыраў апынуўся ў Еўропе, прычым існуе некалькі версій таго, як ён туды патрапіў.

Згодна з першай версіяй, падчас Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Расіі маці Барыса ўцякла ў Еўропу і папрасіла палітычнага прытулку ў Вялікабрытаніі. Там Барыс запісаўся ў войска і падчас Першай сусветнай вайны быў прыкамандзіраваны да брытанскага бронедывізіёна.

Па другой версіі, падчас Грамадзянскай вайны Скосыраў быў белагвардзейцам, служыў у арміі Дзянікіна і атрымаў званне штабс-капітана. Калі войска было разбіта, на апошнім караблі з'ехаў з Крыма ў Канстанцінопаль, адкуль патрапіў ужо ў Англію, дзе служыў у каралеўскіх ваенна-марскіх сілах.

У 1923 годзе Барыс Скосыраў становіцца грамадзянінам Нідэрландаў. Пра перыяд жыцця Барыса канца 1920-х і пачатку 1930-х звестак амаль няма. Згодна з некаторымі крыніцамі, у тым жа 1923 годзе ён накіроўваецца ў Калумбію, дзе самастойна вывучае іспанскую мову. Згодна з іншымі - падарожнічае па Еўропе. Вядома, што ў канцы 20 - пачатку 30-х гадоў Скосыраў часта падарожнічаў у Манака, дзе былі падатковыя ільготы, і ў скарб паступалі даходы ад турызму і казіно. У беларускага эмігранта ўзнікла ідэя

аналагічна рэфармаваць Андору, якая ў тыя часы лічылася адсталай правінцыяй Пірэнейскай паўвыспы. Канчатковы план рэформаў у пісьмовым выглядзе быў прадстаўлены парламенту 17 траўня 1934 года. Першым днём існавання каралеўства Андора і ўступлення Барыса ў правы манарха можна лічыць 11 ліпеня 1934 года. За кароткі тэрмін кіравання краінай кароль Барыс I выдае Канстытуцыю, якая складалася ўсяго з 17 пунктаў, але закранала асноўныя правы андорцаў, і падпісвае загады аб ліберальных рэформах. Хуткі старт пачатку рэфармавання краіны Скосыраву каштаваў кароны. Незадаволены біскуп Урхеля звярнуўся са скаргай да жандармерыі Каталоніі. 20 ліпеня 1934 скончылася 9-дзённае кіраванне караля Барыса I Андорскага. У краіну прыбылі 50 іспанскіх жандараў, якія акупавалі





Скосыраў у Андоры



Скосыраў падчас арышту ў 1934 годзе

сталіцу і арыштавалі караля. У кастрычніку 1934 года яму выносяць прысуд за нелегальнае перасячэнне мяжы і прыгаворваюць да года турмы, а паколькі частка тэрміну прайшла ў чаканні суда, праз паўгода ён выходзіць з турмы, затым яго дэпартуюць у Партугалію. Існуе меркаванне, што Барыс увайшоў ў гісторыю Андоры яшчэ і як першы чалавек, які прывёз у краіну тытунь, а дом дзе ён спыняўся, да сённяшняга дня ў народзе называюць "рускім". Падчас дэпартацыі ён некаторы час вандруе па Партугаліі, а ў канцы 1935 года вяртаецца ў Францыю да законнай жонкі Марыі-Луізы, якая, дарэчы, была старэйшая за яго на 10 год, кажуць, што Барыс ажаніўся з ёй толькі з-за грошай. У 1939 годзе Барыс быў арыштаваны паліцыяй і сасланы ў лагер для замежнікаў Ле-Верне каля Пірэнеяў, з якога быў вызвалены ў 1942 годзе нямецкімі войскамі. Пасля вызвалення Скосыраў і накі-







Карыкатуры на Скосырава




Скосыраў у форме Вермахта

роўваецца ў Берлін, дзе прымае прапанову сваёй стрыечнай сястры **Сафіі** і ўладкоўваецца на працу ў Вермахт. Французскія войскі ў восень 1946 года арыштоўваюць Барыса за працу на Вермахт. Але існуе версія, што ён быў арыштаваны савецкімі ўладамі і прыгавораны да 25 год зняволення. Увесь гэты час жонка Барыса Марыя-Луіза, якая ў той час пражывала ў Бопардзе, не ведае пра лёс мужа, застаецца ў горадзе і чакае ад яго хоць нейкіх звестак. Але праходзяць месяцы, за імі гады, а інфармацыя так і не з'яўляецца, пакуль у 1949 годзе да яе не даходзяць звесткі ад сяброў Барыса па службе ў нямецкім войску, што ён загінуў. У 1956 годзе адбываецца неверагоднае - ён вяртаец-




*"Чалавек у Ялце-сакрэтная місія Гітлера для Барыса Скосырава"- кніга ўспамінаў Скорысава пра ваенныя часы. Справа ў тым, што сам Скосыраў пускаў плёткі аб сваім супрацоўніцтве з сакрэтнымі органамі. Дакументаў, падцвярджаючых прысутнасць Скосырава на Ялцінскай канферэнцыі не засталося.*

DÉPARTEMENT des BOUCHES-DU-RHONE
ARRONDISSEMENT D'AIX-EN-PROVENCE
MAIRIE D'AIX-EN-PROVENCE
ÉTAT-CIVIL
N° 45
MARIAGE DE SKOSYREW ET DE PARAT

RÉPUBLIQUE FRANÇAISE

ACTE DE MARIAGE

Le vingt et un mars mil neuf cent trente et un

ENTRE :

M. Borys SKOSYREW

né le vingt quatre janvier mil neuf cent

à Wilno département d Pologne

fils de feu Michel SKOSYREW

et de Elisabethe MAWHUSOW sa veuve

ET :

Dame Marie-Louise Claire PARAT

née le vingt et un novembre mil huit cent quatre vingt

à MARSEILLE département d es B.D.R.

fille de feu Michel Marius PARAT

et de Marie Julie Joséphine GASSIER sa veuve

Divorcée de Paul BONNES

Déclaration relative au Contrat de Mariage :

SANS CONTRAT

Certifié conforme aux registres de l'État-Civil et délivré sur papier libre, pour le service ------

Aix-en-Provence, le quinze juin

mil neuf cent cinquante cinq

Le Maire

*Пасведчанне пра заключэнне шлюбу паміж Барысам Скосыравым і Марыяй-Луізай Пара дэ Гассе*





*Барыс Скосыраў у розныя часы*

Rhein-Zeitung

GOUVERNEMENT MILITAIRE EN ALLEMAGNE

QUESTIONNAIRE - FRAGEBOGEN

A. RENSEIGNEMENTS PERSONNELS / A. Persönliche Angaben

1. Für Sie in Frage kommende Stellung: HANDELSVERTRETER
2. Name VON SKOSSYREFF Boris 3. Andere von Ihnen benutzte Namen oder solche, unter welchen Sie bekannt sind NEIN
4. Geburtsdatum 13.1.96 5. Geburtsort WILNA
6. Größe 180 7. Gewicht 76 kg 8. Haarfarbe MELIERT 9. Farbe der Augen DUNKELBRAUN
10. Narben, Geburtsmale oder Entstellungen NARBE UNTER R. AUGE
11. Gegenwärtige Anschrift BOPPARD, KOBLENZER STR. 122
12. Ständiger Wohnsitz B/BAD SCHANDAU, LICHTENHAIN 46
13. Art der Ausweiskarte MG Nr. 6.4.45 14. Wehrpaß-Nr. 15. Reisepaß-Nr.
16. Staatsangehörigkeit DR 17. Falls naturalisierter Bürger, geben Sie Datum und Einbürgerungsort an.
18. Aufzählung aller Ihrerseits oder seitens Ihrer Ehefrau oder Ihrer beiden Großeltern innegehabten Adelstitel FREIHERR
19. Religion EV. 20. Welcher Kirche gehören Sie an? LUTHER 21. Haben Sie je offiziell oder inoffiziell Ihre Verbindung mit einer Kirche aufgelöst? NEIN 22. Falls ja, geben Sie Einzelheiten und Gründe an. NICHT BETR. 23. Welche Religionsangehörigkeit haben Sie bei der Volkszählung 1939 angegeben? EV. 24. Führen Sie alle Vergehen, Übertretungen oder Verbrechen an, für welche Sie je verurteilt worden sind, mit Angaben des Datums, des Orts und der Art. NICHT BETR.

B. EDUCATION SECONDAIRE OU SUPERIEURE / B. Grundschul- und höhere Bildung

| Name und Art der Schule | Ort | Wann besucht? | Zeugnis, Diplom oder akademischer Grad | Berechtigt Abitur od. Reifezeugnis zur Universitäts-Immatrikulation? | Datum |
|---|---|---|---|---|---|
| UNIVERSITÄT | JENA | 1920/1923 | Dr. rer. pol. | JA | |

25. Welchen deutschen Universitäts-Studentenburschenschaften haben Sie je angehört? SCHW. ADLER JENA
26. In welchen Napola, Adolf-Hitler-, NS.-Führerschulen oder Militärakademien waren Sie Lehrer? Angaben mit genauer Orts- und Zeitbestimmung. KEINE
27. Haben Ihre Kinder eine der obengenannten Schulen besucht? NEIN Welche, wo und wann? KEINE
28. Führen Sie (mit Orts- und Zeitbestimmung) alle Schulen, in welchen Sie je Vertrauenslehrer (vormalig Jugendwalter) waren. NICHT BETR.

C. EXAMENS TECHNIQUES ET PROFESSIONNELS / C. Berufs- oder Handwerksprüfungen

| Name der Prüfung | Ort | Resultat | Datum |
|---|---|---|---|
| KEINE | | | |

Best. 856
Nr. 190183

*Дакумент, які пацвярджае рэабілітацыю Скосырава ў 1957 годзе*



**_Першая жонка Скосырава - Марыя-Луіза Пара дэ Гассе_**

ца. Пасля вяртання Барыса Скосыравы жывуць даволі бедна. 2 чэрвеня 1965 года ў Бопардзе памірае Марыя-Луіза. Барыс, пахаваўшы яе, прадае дом у Бопардзе і пачынае вандраваць па Германіі. У красавіку 1969 года ў нямецкім Трэйс-Кардыне рэгіструе другі шлюб з жанчынай, якая была маладзей за Скосырава на 40 год, значна вышэй за яго ростам. Пасля разводу з ёй Скосыраў вяртаецца ў амаль ужо родны Бопард, дзе жыве ў пансіёне для састарэлых. Памёр Барыс Скосыраў 27 лютага 1989 года ў нямецкім пансіёне для састарэлых "Элізабет" і быў пахаваны на могілках Бопарда, там жа, дзе і яго першая жонка Марыя-Луіза. На надмагільнай пліце былога караля Андоры



**_Скосыраў і яго другая жонка Развіта_**




**_Надмагільная пліта па Скосыраву_**




**_Скрын са здымкаў Скосырава_**



**_Палац у Тарнове (наш час)_**

сціпла выбіты толькі прозвішча і гады жыцця - 1900 - 1989. Нават тут вялікі авантурыст XX стагоддзя пакінуў загадку, бо ва ўсіх дакументах дата яго нараджэння - 1896 г. Аднак, улічаючы тое, што шлюб яго маці Лізаветы з першым мужам Мікалаем Сымонічам быў прызнаны незаконным толькі ў 1898 годзе, усё ж такі можна лічыць, што менавіта 1900 год і з'яўляецца сапраўднай датай яго нараджэння.

У 1921 годзе Тарноўскі маёнтак аказаўся на польскай тэрыторыі, і апошнімі яго ўладальнікамі былі курляндскія бароны фон Кехле. А пасля 17 верасня 1939 года, з надыходам бальшавікоў, маёнтак быў амаль зруйнаваны і пераўтвораны ў саўгас. Бібліятэка Маўрасаў была перададзена Ленінскай бібліятэцы ў Маскве. І ў наш час ужо, здаецца, нічога не нагадвае пра колішнію веліч гэтых мясцінаў, што нарадзілі авантурных, смелых і рашучых сыноў Лідскай зямлі, якія ў сваю чаргу далі падмурак для напісання гэтага артыкула, таму яшто *"ўсё напісанае ў ім непаўторнае зараз і навекі, бо галінам роду, прысуджанага да ста гадоў адзіноты, не дадзена зноў паўтарыцца на зямлі"*.

**_Таццяна Садоха._**

***Леанід Лаўрэш***

# Ліда да 1914 г.

*Аўтар выказвае вялікую ўдзячнасць унучцы С. Каплана Алене Бурбе, за сканы газеты яе дзеда "Лідскае слова".*

**Грамадска-палітычнае жыццё**

У канцы 1912 г. лідзян усхвалявалі кошты на дровы. *"Дровы прадаюць па 3 рублі за воз! І адразу прадаецца не меней, чым воз. Гэты кошт вышэй не толькі за віленскі, але нават і за пецярбургскі!"* [1] - пісала газета "Лідскае слова" . Праз два месяцы прэса паведаміла, што на жаль газетнае аб'мераванне яшчэ больш распаліла апетыты прадаўцоў, і *"замах на кішэні гараджан стаў яшчэ больш арганізаваны. Справа ў тым, што ў Лідзе ўсяго два-тры прадаўцы паліўнага лесу, і таму ім лёгка было дамовіцца супраць нас. Сістэматычна яны прывозяць на рынак толькі адзін-два вазы дроў і адмаўляюцца гандляваць на куб, а гандлююць толькі на воз. Кошты пры гэтым казачныя ... 3 руб. 50 кап. за воз ... Здаецца, у Лідзе ёсць гарадская ўправа, куды гараджане на гэта ўжо жаліліся. Хай бацькі горада стаяць на варце. Ужо зараз вырасла колькасць прастудных хвароб сярод немаўлят ... Калі ж будзе наложана аброць на гэтую ... жахлівую эксплуатацыю?"* [2]

Справу з дровамі ўзяла на сябе лідская грамадскасць, аб'яднаная вакол газеты. 31 студзеня ў памяшканні Лідскага грамадскага кіравання адбыўся сход, які абмеркаваў арганізацыю ў Лідзе кааператыўнага склада дроў па танных коштах: *"Было створаная кааператыўнае таварыства, тайным галасаваннем абраны кіраўнічы камітэт, у які ўвайшлі: Навіцкі, Быхвіт, Андрушкевіч, Каплан, І. Ерухманаў, Гейштаўт і А. Ілютовіч"* [3].

Пасля дроў у горадзе чамусьці вырас кошт газы. І газета пачала ўздымаць гараджан на вырашэнне гэтага пытання: *"Не паспелі вырашыць пытанне з дровамі, як гандляры газай зацягваюць пятлю на шыі. Як можа быць такое, каб у павятовым горадзе, які знаходзіцца за 3 гадзіны язды ад губернскага цэнтра, кошт на газу быў вышэй, чым у метраполіі. У Вільні газа прадаецца па 1 руб. 90 кап., а ў нас - па 2 руб. 25 кап. за пуд. Фунтамі ж прадаюць па 6 кап. ці па 2 руб. 40 кап. за пуд. Фунтамі газу купляе звычайна бедная частка насельніцтва"* [4].

У 1913 г. шырока святкавалася 300-годдзе царавання дынастыі Раманавых. У апошні перадваенны год эканоміка была на ўздыме, жыццё паляпшалася, і здавалася, што рэвалюцыйны крызіс 1905-07 гг. перадолены, Расію пачалі лічыць канстытуцыйнай манархіяй, і ў цэлым грамадства мела нагоды для аптымізму.

У студзені 1913 г. віленскім губернатарам была прызначана дэпутацыя ад гарадскіх упраў Віленскай губерні для віншавання *"Гасудара Імператара з 300-годдзем царавання Дома Раманавых: віленскі гарадскі галава М. А. Вянслаўскі і гарадскія старасты: нававілейскі К.А. Мазэр і лідскі Л.П. Вісмант"* [5].

У сярэдзіне лютага лідская паліцыя распаўсюдзіла аб'яву: *"У сувязі з тым, што 21 лютага адбудзецца вялікае свята 300-годдзя царавання дома Раманавых, усім домаўладальнікам трэба набыць прыстойныя дзяржаўныя сцягі і прыбраць з вуліц і двароў смецце. Увечары запаліць святочную ілюмінацыю"* [6].

У нумары ад 22 лютага "Лідскае слова" пісала: *"19-га лютага святкаваўся дзень вызвалення сялян ад прыгону, а 21-га - дзень 300-годдзя дома Раманавых [...] 21 лютага па амністыі з-за 300-годдзя дома Раманавых з лідскай турмы былі вызвалены 80 чалавек [...] У дзень святкавання 300-годдзя дома Раманавых з раніцы горад прыняў урачысты і святочны выгляд. Дамы ўпрыгожаны сцягамі ... маставыя ўсыпаны жоўтым пяском. Па вуліцах гуляе шмат народу. У саборы Міхаіла Арханёла настаяцелем протаіерэем Каяловічам разам з іншымі святарамі адслужана літургія. У 12 гадзін дня хрэсны ход з сабора ў суправаджэнні ваеннага аркестра накіраваўся да Выгана, дзе ўжо сталі мясцовыя войскі. У адмыслова ўсталяванай і расфарбаванай альтанцы адслужаны малебен. Айцом Цэбрыкавым быў зачытаны Высачайшы маніфест. Камандзір палка Раманаў павіншаваў войска са святам, пасля чаго войска прайшло цырыманіяльным маршам, і хрэсны ход вярнуўся ў сабор.*

*Увечары горад быў ілюмінаваны. У замку адбылося народнае гулянне, былі запушчаны ракеты, феерверкі, граў аркестр ваеннай музыкі.*

*У 10 гадзін раніцы ў Вялікай сінагозе ў прысутнасці вялікай масы вернікаў і ўсіх вучняў іўдзейскага веравызнання горада адбыўся малебен. Грамадскі равін Д. Б. Дубоўскі расказаў пра смутныя часы пры ўступленні на прастол Міхаіла Раманава "першай зоркі з дому Раманавых" і ў яркіх фарбах раскрыў галоўныя моманты 300-гадовага царавання. У поўнай патрыятызму прамове заклікаў "зліцца ў адным пачуцці з дзясяткамі мільёнаў рускага народа, які зараз дасылае гарачыя малітвы да Ўсявышняга аб дабрадзействе дома Раманавых". Пасля выступу Дубоўскага стараста вялікай сінагогі Л. Пупко прачытаў Высачайшы маніфест, і кантар сінагогі адслужыў паніхіду па ўсіх памерлых царах.*

*Увечары ў гімназіі сп. Навіцкіх адбыўся вечар*

*прысвечаны святу трохсотгоддзя дома Раманавых. На вечарыне акрамя вучняў і настаўнікаў прысутнічала частка мясцовай інтэлігенцыі. У бліскучым па форме выступе сп. Навіцкі расказаў пра важнейшыя моманты царавання дома Раманавых, пра творчасць нацыянальнага духу і ахарактарызаваў галоўных гістарычных герояў, як, напрыклад, Мініна і Пажарскга, а таксама творцаў культуры і літаратуры і прыйшоў да высновы, што "рускія вялікія, шматлікія, багатыя і таленавітыя" і гэтым усім яны абавязаны дынастыі Раманавых і асабліва працы цяперашняга манарха Мікалая Аляксандравіча. Пасля рэферату былі спевы і дэкламацыі. Асабліва ўдалым і дарэчным было апавяданне В.С. Навіцкай "Саша", якое прачытаў акцёр. Вечар скончыўся спевам гімну"* [7].

24 лютага ў клубе пажарных у прысутнасці ўсёй пажарнай каманды і чальцоў праўлення адбыўся малебен, які правёў настаяцель мясцовага сабора. Потым была гутарка, прысвечаная гісторыі дынастыі Раманавых. У 17 гадзін адбыўся сяброўскі абед, увесь час іграла музыка[8]. У сувязі са святкаваннем 300-годдзя дома Раманавых бровар Я. Папірмайстра[9] бясплатна выдаў па бутэльцы піва кожнаму жаўнеру лідскага гарнізона[10].

Праз год цар Мікалай І кіне свой народ у бяссэнсавую бойню Першай сусветнай вайны, праз чатыры гады "ўдзячны" народ прагоніць яго ад улады, а яшчэ праз год уся царская сям'я будзе расстраляная ...

Адным з месцаў, дзе лідзяне адпачывалі і абмяркоўвалі свае праблемы, быў Лідскі грамадскі збор (ён жа - Дваранскі клуб). Першы вядомы будынак Грамадскага збору згарэў у 1891 г. Пры клубе былі гурток аматараў драматычнага мастацтва і бібліятэка. Бібліятэкарам і кіраўніком гуртка працаваў калежскі рэгістратар Іван Восіпавіч Пятроўскі[11]. Другое памяшканне збору месцілася каля рынку па Віленскай вуліцы, яно згарэла ў кастрычніку 1913 г. пад час пажару ў цэнтры горада[12].

*"20 лістапада ў грамадскім зборы адбыўся першы ў гэтым сезоне вельмі ўдалы танцавальны вечар. Шмат і ад душы весяліліся. За агульнай вячэрай лілася вясёлая, шчырая свабодная гутарка ....",*[13] - паведамляла прэса.

У грамадскім зборы выступалі заезджыя "зоркі" мастацтва і палітыкі. Напрыклад, на пачатку траўня 1913 г. было абвешчана, што *"ў зале Грамадскага збору (Дваранскі клуб) адбудзецца лекцыя былога таварыша старшыні 1-й Дзяржаўнай думы, прафесара Мікалая Андрэевіча Грэдзескула на тэму: "Роля інтэлігенцыі ў грамадскім жыцці""* [14]. Пасля выступу прафесара "Лідскае слова" дало вялікую справаздачу з лекцыі прафесара, шмат ў чым не згадзіўшыся з яго высновамі: *"Для нас, лідзян, гэта была падзея. Упершыню нас наведаў вучоны і выбітны грамадскі дзеяч ... і падзяліўся з намі сваімі думкамі аб інтэлігенцыі. У першай частцы лекцыі было шмат супярэчнасцяў, асабліва ў той частцы рэферату, дзе ён спрабаваў вызначыцца з тэрмінам "інтэлігенцыя" ... . Значна цікавей была другая частка лекцыі"* [15].

У 1913 г. газета "Лідскае слова" шмат ўвагі надала прыцягненню ўвагі грамадскасці да ідэі стварэння добраахвотнага таварыства па барацьбе з сухотамі "Белая кветка". У лютым адбыліся дзве вечарыны: 17 лютага - у Лідскім грамадскім зборы і 23 лютага - у Лідскім пажарным клубе (баль-маскарад), прысвечаныя арганізацыі грамадскасці для барацьбы з сухотамі[16].

Газета паведамляла: *"Паўсюдна арганізуюцца дні "Белай кветкі" для дапамогі хворым на сухоты. Праўленнем Лідскага аддзела Ўсерасійскай лігі па барацьбе з сухотамі шмат каму было разаслана запрашэнне прыйсці 7 траўня на збор грамадскасці для папярэдняга абмеркавання пытання пра абвяшчэння дня "Белай кветкі". Прыйшло 9 чалавек. Вырашана правесці мерапрыемства 2 чэрвеня. На 21 траўня прызначаны яшчэ адзін папярэдні збор тых, хто спачувае справе"* [17].

**Адукацыя, нацыянальна-культурнае і рэлігійнае жыццё**

Усё XIX ст. у Лідзе існавала павятовая вучэльня. Аднак на пачатку XX ст. *"існая павятовая вучэльня ў 1900/1901 навучальным годзе, згодна з пастановай гарадскіх упаўнаважаных ад 30 верасня 1899 г., пераўтворыцца ў гарадскую вучэльню, ... на наём памяшкання выдаткоўваецца 1000 руб. у год"* [18]. Новы будынак для вучэльні быў арандаваны на 6 гадоў у Мардуха Пупко[19]. Але, падобна, гарадская вучэльня пачала працаваць толькі з 1 ліпеня 1902 г.[20]

Вучыцца ў Лідскай гарадской вучэльні было складана, пра што ў 1907 г. пісала "Наша Ніва": *"Ліда. Нам пішуць, што тут вельмі цісnуць вучняў гарадскога вучылішча. Інспектар несправядліва выгнаў вучня Б. За нейкае глупства настаўнікі калечаць усё жыццё маладому хлопцу"* [21]. Інспектарам вучэльні ў гэты час працаваў Яўстафі Антонавіч Ганецкі[22].

Згодна з пастановай гарадскіх упаўнаважаных ад 31 студзеня 1906 г. на арэнду памяшкання для гарадской вучэльні выдаткоўвалася 800 рублёў. З 29 студзеня 1903 г. улады гатовыя плаціць за меркаванае вывучэнне нямецкай мовы ў гэтай вучэльні 50 рублёў у год[23].

З Памятнай кніжкі Віленскай губерні за 1914 г. бачна, што Лідская гарадская 4-х класная вучэльня была рэарганізаваная ў Лідскую вышэйшую пачатковую вучэльню, якая таксама складалася з чатырох класаў з гадавым навучаннем ў кожным класе. У Лідскай вышэйшай пачатковай вучэльні працавалі: *"Інспектар - калежскі асэсар А. Ф. Дубкоў. Законавучыцелі: праваслаўнага веравызнання а. І.І. Каяловіч, рыма-каталіцкага - вакансія. Настаўнікі: В.В. Шыла, Д.Д. Матусевіч, Г.А. Грынцэвіч, Н.В. Сямёнаў, спеваў І.І. Нядбайлік. Штатны лекар Э.Ф. Рэнерт, дантыст М.В. Стукатар, настаўнік гімнастыкі падпалкоўнік Аляксееў"* [24].

**Прыватная жаночая гімназія.** У дадатак да існых дзяржаўных, 7 кастрычніка 1901 г. у Лідзе была адкрыта прыватная жаночая трохкласная вучэльня з

падрыхтоўчым класам. Арганізавала і ўтрымлівала вучэльню Марыя Канстанцінаўна Навіцкая (у дзявоцтве Снітко) - выпускніца Віленскай вышэйшай Марыінскай вучэльні[25].

У красавіку 1906 г. *"прыватная жаночая школа ў Лідзе спадарыні Навіцкай хадайнічае аб пераўтварэнні ў прагімназію"* [26]. У верасні таго ж года М. Навіцкая і М. Палу *"падалі прашэнні куратару навучальнай акругі аб дазволе адкрыць у Лідзе 4-х класную прагімназію"* [27]. Вучэльня пераўтвараецца ў прагімназію[28], але 6 лістапада 1908 г. ад разрыву сэрца паміраe Марыя Канстанцінаўна Навіцкая - стваральніца Лідскай прыватнай жаночай прагімназіі, тым не менш назва "Прагімназія М.К. Навіцкай" нейкі час працягвае выкарыстоўвацца[29].

17 верасня 1910 г. "Кур'ер Літоўскі" напісаў, што *"25 жніўня ў Лідзе адкрыта прыватная гімназія Навіцкай з правамі дзяржаўнай школы"* [30].

Прэса паведаміла, што *"на падставе пастановы сходу ўпаўнаважаных ад 27 чэрвеня 1911 г. вырашана асігнаваць з гарадскіх сум Лідскай прыватнай жаночай гімназіі Ф.Л. і В.С. Навіцкіх*[31] *дапамогу на адкрыццё 8-га класа - 600 руб. Дапамога адмяняецца з-за таго, што 8 клас не з'явіўся"* [32].

У зале гімназіі ладзіліся вечарыны, выручка ад якіх ішла на карысць бедных вучняў. Такая вечарына адбылася 2 лютага 1913 г.: *"у суботу, ў зале сп. Навіцкіх ... літаратурна-вакальная вечарына на карысць бедных вучняў і вучаніц"* [33]. Потым прэса паведаміла, што з вечарыны 2 лютага *"даход 191 руб. 60 кап., расход 53 руб. 45 кап. Камітэт арганізацыі вечарыны выказвае ўдзячнасць Грыншыяну, Гінзбургу і Стукатару, якія прынялі ўдзел ў арганізацыі вечарыны. Асаблівая ўдзячнасць спадарству Навіцкім за шчодрае ахвяраванне ў выглядзе бясплатнага памяшкання для вечарыны"* [34].

Зала гімназіі з'яўлялася месцам, дзе рэгулярна праходзілі гастролі артыстаў. Напрыклад, паведамлялася, што ў нядзелю 31 сакавіка *"ў зале сп. Навіцкіх адбудзецца канцэрт вядомага гумарыста і аўтара, артыста СПБ тэатраў Д. Багемскага. Разам з ім ў канцэрце прымуць удзел тэнар Д.А. Растан, лірычныя песні і цыганскія рамансы выканае О.В. Мірава, акампанемент на піяніна Г.З. Зіноўеў. Квіткі можна набыць у краме "Труд""* [35].

"Памятная кніжка Віленскай губерні на 1914 год" друкавала інфармацыю пра Лідскую прыватную жаночую гімназію Ф. Л. і В. С. Навіцкіх": *"Існуе з 21 чэрвеня 1910 г. Папячыцельная рада гімназіі. Сталыя чальцы: заснавальнік гімназіі Фёдар Людвігавіч Навіцкі і Вера Сяргееўна Навіцкая. Старшыня рады Лідскі павятовы прадвадзіцель дваранства, граф Людвіг Уладзіслававіч Грабоўскі. Чальцы: удава сапраўднага стацкага дарадцы Ніна Георгіеўна Смальян, Елізавета Дзмітрыеўна Скосырава, Екацярына Пятроўна Пятухова, Эміль Сцяпанавіч Буткевіч, калежскі дарадца Яўген Аляксандравіч фон Гротэ дэ Буко, надворны дарадца Леў Вісмант.*

*Настаўнікі гімназіі: старшыня педагагічнай рады, выкладчык гісторыі і геаграфіі, ганаровы грамадзянін горада Ліды, калежскі дарадца Фёдар Людвігавіч Навіцкі, начальніца гімназіі Вера Сяргееўна Навіцкая, законанастаўнікі: праваслаўнага веравызнання, святар а. Іаан Якаўлевіч Цэбрыкаў, рыма-каталіцкага - ксёндз Франц Ратынскі, іўдзейскага - Абрам Маркавіч Шэйнгольд. Выкладчыца рускай мовы і гісторыі Аляксандра Васільеўна Абаімава, выкладчык матэматыкі і фізікі Віталій Дамінікавіч Булат, выкладчыца рускай мовы ў малодшых класах Антаніна Вітальеўна Павецкая, выкладчыца французскай мовы Людміла Ўладзіміраўна Кузьмінская, выкладчык нямецкай мовы Элізабет Карлавіч Вігандо, выкладчыца ручной працы Ганна Гаўрылаўна Ярмаловіч, выкладчык чыстапісання Мікалай Васільевіч Сямёнаў, класныя назіральніцы: Аляксандра Кіпрыянаўна Лебедзева, Ганна Пятроўна Цэбрыкава, Антаніна Іванаўна Павецкая, Ганна Гаўрылаўна Ярмаловіч, вакансія настаўніка музыкі не занятая"* [36].

**Вера і Фёдар Навіцкія.** Пра Веру Сяргееўну Навіцкую (1873? - 19??) вядома вельмі мала і яшчэ зусім нядаўна не было вядома нічога. Вера Навіцкая, народжаная Шыльдэр-Шульднер (з рускіх, віцебскіх, немцаў), каля 1890 г. скончыла Ліцейную жаночую гімназію ў Пецярбургу. Выйшла замуж за Аляксандра Уладзіміравіча Махцэвіча, які служыў у 107-м Траецкім пяхотным палку ў Вільні, у 1899-м г. выйшаў у адстаўку і з 24 кастрычніка таго ж года пачаў служыць Лідскім паліцэйскім спраўнікам - менавіта ў гэты год адбылося першае знаёмства Веры Сяргееўны з горадам Лідай. Амаль што адначасова, з 3 лістапада 1899 г., яе будучага другога мужа - Фёдара Людвігавіча Навіцкага, выпускніка Віленскай настаўніцкай вучэльні, з пасады настаўніка Свянцянскай 3-х класнай гарадской вучэльні, з павышэннем, пераводзяць на пасаду штатнага наглядчыка і выкладчыка рускай мовы і гісторыі ў Лідскую 2-х класную павятовую вучэльню.

Пазнаёміліся яны гэтай восенню? Ці прабегла паміж імі першая іскра менавіта тады? Магчыма, бо ўжо праз год прэса паведаміла: *"Рэзалюцыяй губернскага праўлення ад 18-га лістапада (1900 г. - Л.Л.) лідскі павятовы спраўнік, надворны дарадца Махцэвіч, з-за пераводу на службу ў Віцебскую губерню выключаны з ліку асоб ..., якія служаць ... у Віленскай губерні"*. У 1901-1903 гг. Махцэвіч - спраўнік Рэжыцкага павета, у 1903-1905 гг. - паліцмайстар горада Дзвінска.

Як бы там ні было, да 1905 г. Махцэвічы перастаюць жыць разам, і Вера Сяргееўна пасяляецца ў Пецярбургу, вуліца Басейная, 17. У адраснай кнізе Пецярбурга яна запісана адна, без мужа, але як жонка калежскага дарадцы. Свае дзве першыя кнігі яна напісала і выдала менавіта тут, у Пецярбургу, імя аўтара на вокладцы - Вера Махцэвіч ("Хорошо жить на свете! Из воспоминаний счастливой девочки. СПб, 1906" і "Веселые будни: Из воспоминаний гимназистки. СПб, 1906").

У Лідзе, яшчэ ў 1901 г. жонка штатнага наглядчыка Лідскай павятовай вучэльні Марыя Навіцкая адкрывае прыватную 3-х класную жаночую вучэльню з падрыхтоўчым класам. Па сумяшчальніцтву ў ёй выкладае і Фёдар Людвігавіч. Хутка прыватная жаночая школа становіцца прагімназіяй, а потым і прыватнай жаночай гімназіяй.

Каб мець права трымаць гімназію, трэба мець вышэйшую адукацыю, і Ф.Л. Навіцкі паступае ў Санкт-Пецярбургскі ўніверсітэт. Ці сустракаўся ён ў Пецярбургу з Верай Сяргееўнай? Так, бо як раз там яны складаюць хрэстаматыю для падрыхтоўчых і першых класаў сярэдніх навучальных

устаноў "Куткі жыцця", якая была надрукавана ў 1908 г. у Пецярбургу. Вера Сяргееўна вяртаецца ў Ліду і са жніўня 1908 года становіцца памочніцай начальніцы ў жаночай прагімназіі М.К. Навіцкай. Таму на хрэстаматыі пазначана: *"Склалі выкладчыкі Лідскай мужчынскай і жаночай прагімназій Ф.Л. Навіцкі і В.С. Махцэвіч"*.

У кнізе Н. Дзмітрыева "Нацыянальная школа", якая ўбачыла свет у 1913 г., маецца такая рэцэнзія на гэтую хрэстаматыю: *"Кніга мае 5 частак: любоў, вера, праца, абавязак і "стракатыя старонкі". Найбольш шырокае месца адведзена першаму раздзелу - любві; тут апавяданні і вершы пра любоў да Бога, да радзімы і чалавека, з іх шмат добрых ... Няма неабходных патрыятычных вершаў, айчыне не надаецца належнай увагі; але затое ёсць прыстойныя апавяданні ў раздзелах: праца і доўг, хоць і не ўсе, і асабліва ў раздзеле "вера"; супраць апошняга раздзела нічога не маем запярэчыць. Агульнае ўражанне аб кнізе было б добрае, калі б не было названых галоўных недахопаў кнігі"*.

6 лістапада 1908 г. ад разрыву сэрца памірае стваральніца Лідскай прыватнай жаночай прагімназіі Марыя Навіцкая, у сувязі са смерцю жонкі, Фёдар Людвігавіч Навіцкі і выкладчыца гісторыі Вера Сяргееўна Махцэвіч звярнуліся 1 снежня 1908 г. да папячыцеля Віленскай навучальнай акругі з прашэннем пакінуць навучальнай установе назву "Прагімназія М.К. Навіцкай" з размеркаваннем абавязкаў; Ф.Л. Навіцкаму аддаць агульную адміністрацыйную ролю, г. зн. старшынства ў педагагічнай радзе, запрашэнне на работу выкладчыкаў, вядзенне канцылярыі і гаспадаркі, а В.С. Махцэвіч - вядзенне і кіраўніцтва навучальна-выхаваўчай часткай у прагімназіі.

У 1909 г. Вера Сяргееўна ўзяла шлюб з Фёдарам Людвігавічам Навіцкім, а ў канцы лістапада таго ж года Навіцкі здаў іспыты ў Санкт-Пецярбургскім універсітэце і атрымаў годнасць настаўніка гімназій з правам выкладаць гісторыю і геаграфію, пра што яму выдадзена пасведчанне за № 702 ад 8 сакавіка 1910 г.

Менавіта ў Лідзе, паміж 1909 і 1914 гг., Вера Сяргееўна піша большасць сваіх кніг. Усе яны друкуюцца ў Пецярбургу: "Заветные уголки: рассказы для детей" (1911), "Безмятежные годы" (1912), "Первые грезы" (1913), "Басурманка" (1914), "Наташа Славина" (1914), "Галя" (1914). Вера Сяргееўна пісала ў пару, калі адцвіталі апошнія кветкі сімвалізму, яго ўплыў не абышоў і яе. Вера Сяргееўна Навіцкая пісала ясныя, чыстыя і на першы погляд немудрагелістыя кніжкі - дзеянні іх адбываюцца ў своеасаблівым дзіцячым раі. У наступных кнігах фон трохі змяняецца - гераіня паступае ў гімназію, вучыцца, наведвае оперу, спасцігае жыццё.

Вера Сяргееўна Навіцкая супрацоўнічала з дзіцячым часопісам "Крыніца", дзе друкаваліся яе апавяданні. Апошнім часам усе кнігі лідскай аўтаркі перавыдадзены. Кніга "Хорошо жить на свете! Из воспоминаний счастливой девочки" ў 2016 годзе перакладзена на беларускую мову Станіславам Суднікам. Адзіны асобнік знаходзіцца ў Лідскай раённай бібліятэцы імя Янкі Купалы.

Памятная кніжка Віленскай губерні на 1915 год друкуе апошнюю інфармацыю пра Лідскую прыватную жаночую гімназію Ф.Л. і В.С. Навіцкіх: *"Існуе з 21 чэрвеня 1910 г. ...: заснавальнікі гімназіі Фёдар Людвігавіч Навіцкі і Вера Сяргееўна Навіцкая. Настаўнікі гімназіі: старшыня педагагічнай рады, выкладчык гісторыі і геаграфіі, ганаровы грамадзянін горада Ліды, калежскі дарадца Фёдар Людвігавіч Навіцкі, начальніца гімназіі Вера Сяргееўна Навіцкая ..."*.

Летам 1915 г. гімназія эвакуюецца з Ліды на ўсход, і Навіцкія губляюцца ў вірах Сусветнай вайны і рэвалюцыі. Але ў віленскай прэсе 1930 г. мне ўдалося знайсці інфармацыю пра Ф.Л. Навіцкага - ён жыў у Маскве і праз пасярэдніка прадаў будынак Лідскай гімназіі (вул. 3-га Траўня, 45) адвакату Слаўцілу за 3 000 долараў. Ці жыла яшчэ ў гэты час Вера Сяргееўна - невядома.

**Прагімназія Палу.** 31 жніўня 1906 г. гарадскія ўлады прынялі на сябе абавязак на працягу двух гадоў, пачынаючы з 1907 г., выдаткоўваць дапамогу прыватнай мужчынскай прагімназіі, калі тая адчыніцца, у памеры 300 рублёў у год . Памятная кніжка на 1914 г. дае наступную інфармацыю пра гэтую навучальную ўстанову: *"Лідская 4-х класная мужчынская прагімназія І.М. Палу з правамі для вучняў. Утрымальнік прагімназіі: тытулярны дарадца Іван Мартавіч Палу. Законанастаўнікі: праваслаўнага веравызнання - святар а. Іаан Якаўлевіч Цэбрыкаў, рыма-каталіцкага - кс. Ян Мароз, іўдзейства - Д.Б. Дубоўскі. Выкладчыкі: Аляксандр Рыгоравіч Траўскі, Яўген Аляксандравіч Палу"* [38].

Прэса пісала, што ўначы з 22 па 23 лістапада 1912 г. у мужчынскай прагімназіі сп. Палу скралі класныя журналы 3-га і 4-га класаў, *"падазраюць вучняў"* [39].

**Мужчынская дзяржаўная гімназія**. Газета "Лідскае слова" ў лістападзе 1912 г. паведаміла: *"Пацвердзіліся чуткі аб адкрыцці ў Лідзе мужчынскай гімназіі. Лідскі стараста атрымаў афіцыйны зварот ад папячыцеля Віленскай вучэбнай акругі А. Астравумава: "Сп. міністр Народнай асветы 5 лістапада зваротам № 44155 паведаміў, што ў 1913 г. вырашана адкрыць мужчынскую гімназію ў г. Лідзе і даручыў зрабіць неабходныя захады для гэтага. Прымаючы да ўвагі, што Лідскае грамадскае кіраванне пастановамі ад 27 студзеня 1911 г. і 13 чэрвеня гэтага года абавязалася: а) у выпадку, калі будзе дазволена адкрыць мужчынскую гімназію, выдзеліць участак зямлі для пабудовы гімназічнага гмаха; б) асігнаваць 10 000 руб. на пабудову гэтага гмаха і гэтыя грошы перадаць ва ўправу акругі; в) на тры гады задарма перадаць у карыстанне цалкам абсталяванае школьнае памяшканне для пяці класаў ..."* [40]

У рэдакцыйным артыкуле "Лідскае слова" пракаментавала адкрыццё мужчынскай гімназіі: *"Мара, якую гэтак доўга песцілі жыхары горада - мець у Лідзе дзяржаўную мужчынскую гімназію, хутка ажыццяўвіцца. Першыя крокі ўжо зроблены. Зараз трэба выканаць абавязацельствы, узятыя на сябе Гарадской управай ... . Управа сама выканаць абавязацельствы не ў стане і мае патрэбу ў падтрымцы з боку насельніцтва. Не трэба шмат казаць пра значнасць гімназіі для Ліды. Бацькі атрымаюць магчымасць даць сваім дзецям сярэднюю адукацыю і гэтым задаволяць свае запаветныя мары і цалкам зразумелыя пажаданні. Гімназія можа ўскосным чынам значна паўплываць на жыццё горада ў культурным і матэрыяльным сэнсе. ... Зразумела, не ўсе з аднолькавай радасцю сустрэнуць весткі пра адкрыццё гімназіі. Вялікая частка насельніцтва, пастаўленая ў адмысловыя ўмовы працэнтнай нормай*[41] *і яе строгім прымянен-*

*нем, не будзе мець магчымасці вучыць сваіх дзяцей. Але гэта - вынік дзяржаўнай палітыкі, і таму не час і не месца пра гэта тут пісаць"* [42].

На працягу ўсяго свайго нядоўга часу існавання "Лідскае слова" стала інфармавала пра падзеі вакол адкрыцця мужчынскай гімназіі ў Лідзе. У канцы 1912 г. Лідскі гарадскі стараста атрымаў ліст ад папячыцеля вучэбнай акругі, у якім паведамлялася, што ў верасні 1913 г. у Лідзе будуць адкрыты два першыя класы Лідскай мужчынскай гімназіі (з падрыхтоўчым класам)[43].

"Лідскае слова" ў рэдакцыйным артыкуле пракаментавала падрыхтоўку да адкрыцця гімназіі: *"Прыбліжаецца час адкрыцця гімназіі. А між тым, мы не бачым ніякай зацікаўленасці з боку тых, каму гэта гімназія неабходна. Толькі зрэдку да нас даходзяць чуткі, што адзінкавыя навакольныя абшарнікі-мецэнаты прысылаюць ахвяраванні. Больш за тое: вядома, што калі б было хадайніцтва ... аб адкрыцці 3, 4, 5 класаў, дык без сумневу былі бы атрыманы дазвол. Бо гэта важна для многіх. Між тым не бачым ніякай ініцыятывы ... Гэта вынік нашай пасіўнасці"* [44].

4 сакавіка 1913 г. у Ліду прыехаў акруговы інспектар Віленскай вучэбнай акругі Счасліўцаў. Цэлы тыдзень ён рэвізаваў мясцовыя навучальныя ўстановы і аглядаў памяшканні, якія былі прапанаваны для арэнды будучай гімназіі[45]. У выніку інспектар памяшканне выбраў і "Лідскае слова" паведаміла, што для мужчынскай гімназія будзе арандаваны дом доктара Янушкевіча па вуліцы Камерцыйнай[46].

У канцы сакавіка Віленскае губернскае па гарадскіх справах "присутствие" дазволіла Лідскаму гарадскому грамадскаму кіраванню пазычыць з гарадскога запаснога капіталу 10 000 руб. на пабудову дзяржаўнай мужчынскай гімназіі[47].

Газета абвесціла перапіс будучых вучняў: *"У рэдакцыю "Лідскага слова" паступаюць заявы ад бацькоў пра неабходнасць хадайнічаць аб адкрыцці акрамя двух класаў гімназіі яшчэ і трэцяга. Для гэтага неабходна дастатковая колькасць хлопчыкаў, і таму прапануем бацькам даслаць у рэдакцыю інфармацыю аб узросце, веравызнанні і ўзроўні падрыхтоўкі хлопчыкаў"* [48].

У тым жа нумары газета паведаміла, што падрыхтоўчы клас, верагодна, не з'явіцца з-за недахопу ў гарадской управы 1 500 руб., службоўцы 15-га участка Палескай чыгункі сабралі 4 руб. 50 кап. для камітэта па зборах ахвяраванняў на карысць гімназіі і *"гмах для новай дзяржаўнай гімназіі будзе пабудаваны на горцы (Ферма). Гэта месца адведзенае Гарадской управай і ўхвалена кіраўніцтвам адукацыі"* [49]. Гэта месца прыкладна там, дзе зараз знаходзіцца падатковая інспекцыя.

Газета пракаментавала збор грошай на гімназію: *"Наколькі парадаваў факт збору грошай чыгуначнікамі, настолькі несуцяшальным з'яўляецца агульны вынік ахвяраванняў на гімназію. А здавалася б, мы жывём у Еўропе і павінны стаяць вышэй за папуасаў, якія мала вераць у адукацыю"* [50]. У тым жа нумары: *"Дырэктарам мужчынскай гімназіі будзе прызначаны інспектар віленскай рэальнай вучэльні сп. Бялькоўскі"*[51].

У сярэдзіне траўня Лідскі прадвадзіцель дваранства сабраў 1 000 руб. на карысць гімназіі, *"якая хутка адкрыецца ў горадзе"* [52]. Тады ж *"Пастановай сходу ўпаўнаважаных ад 13 чэрвеня 1912 г. вырашана асігнаваць з гарадскіх сродкаў 10 000 р. аднаразовай дапамогі на пабудову будынка Лідскай мужчынскай дзяржаўнай гімназіі, адкрытай ў 1913 г."*. Тады ж вырашана аплачваць за кошт горада навучанне 2-х выхаванцаў гэтай гімназіі на суму 300 рублёў [53].

Фінансавыя пытанні неяк вырашыліся і летам 1913 г. мужчынская гімназія ў Лідзе пачала працаваць: *"У Лідзе гэтай восенню адкрываецца гімназія для хлопцаў. Уступныя экзамены пачнуцца ад 20 жніўня. Просьбы аб прыняцці ад 1 жніўня прымаюцца ў канцылярыі гімназіі"* [54]. Горад плаціў за наём памяшкання і абсталяванне гімназіі, *"якая адкрываецца з 1 ліпеня 1913 г. - 2500 рублёў"* [55].

Адразу адкрыліся два класы гімназіі, у якія прыняты 74 вучні. У 1914 г. адкрыты 3-ці і падрыхтоўчы класы, колькасць гімназістаў вырасла да 167 чалавек. Як і паведамлялася, гімназія займала памяшканне ў цэнтры горада па вуліцы Камерцыйнай.

У 1914 г. гарадскія ўлады выдаткоўваюць на мужчынскую гімназію 2 500 рублёў, з разліку: наём памяшкання - 1 400 рублёў і абсталяванне памяшканняў мэбляй для адкрыцця наступных 3-га і 4-га класаў[56].

**Народныя вучэльні.** Пастановай сходу лідскіх ўпаўнаважаных ад 25 кастрычніка 1912 г. прызначаны 150 рублёў у год на арэнду памяшкання для мужчынскай народнай вучэльні[57]. Пэўна мелася на ўвазе Двухкласная мужчынская прыходская вучэльня, якая вучыла дзяцей чытанню, пісьму, арыфметыцы і закону Божаму.

На пачатку 1913 г. гарадская ўправа асігнавала 150 руб. на адкрыццё другой мужчынскай народнай вучэльні, а дырэкцыя народных вучэльняў звярнулася да гарадской управы з просьбай надаць ёй участак зямлі памерам 2 дзесяціны для будаўніцтва новага будынка[58].

2 лютага таго ж года ў памяшканні лідскай прыходскай вучэльні адбыўся з'езд народных настаўнікаў, на якім абмяркоўваліся педагагічныя пытанні. На з'ездзе было каля 40 настаўнікаў і настаўніц[59].

Пра наяўнасць у горадзе чыгуначнай вучэльні мы можам даведацца з паведамлення ў газеце: *"30 снежня (1912 г.) сябры гуртка чыгуначнай вучэльні ладзяць спектакль з канцэртным аддзяленнем на карысць сваёй вучэльні"* [60].

У снежні 1912 г. газета "Лідскае слова" прапануе стварыць у Лідзе "дзіцячы сад", маючы на ўвазе пад гэтым тэрмінам трошкі не тое, да чаго мы прывыклі: *"... дзіцячы сад ... мог бы мець вялікі выхаваўчы эфект. Арганізацыя розных гульняў, гімнастычных практыкаванняў пад кіраўніцтвам дасведчанай фрэбелічкі*[61] *дадасць новы струмень ў выхаванне*

*нашых дзяцей"* [62].

* * *

Грамадскасць горада хвалявалі праблемы аднаўлення ўніверсітэта ў Вільні, і мясцовая прэса дастаткова падрабязна пісала пра гэта.

Віленская гарадская ўправа вырашыла скарыстацца сьвяткаваннем 300-годдзя дома Раманавых і агульнай атмасферай свята і таму ўжо не першы раз паставіла пытанне аб адкрыцці ў Вільні ўніверсітэта. Яна была гатова асігнаваць для гэтага мільён рублёў і даць для гмаха ўніверсітэта кавалак зямлі ў 20 дзесяцін[63].

У сакавіку 1913 г. "Лідскае слова" паведаміла сваім чытачам: *"... пытанне пра адкрыццё ў Вільні ўніверсітэта вырашана адмоўна. Відочна, перамаглі нацыяналістычныя тэндэнцыі, якія мацней за здаровую логіку. Не дапамог нават грунтоўны даклад Віленскай гарадской управы, у якім статыстычныя дадзеныя пра колькасць вучэбных устаноў красамоўна кажуць пра неабходнасць універсітэта ў адным з нашых вялікіх цэнтраў. Гэты даклад, таксама аспрэчвае галоўны довад праціўнікаў універсітэта, што ў ім будуць панаваць студэнты-палякі. ... пры афіцыйным "нацыянальным" курсе наш край ніколі не атрымае гэтай найкультурнейшай установы"* [64].

Аднак грамадскасць краю працягвала барацьбу за ўніверсітэт. Газета пісала: *"У апошні час віленскі друк шмат увагі надае пытанню пра ўніверсітэт у Вільні. ... Для нас, лідзян, якія жывуць за тры гадзіны язды ад Вільні, тым больш павінна быць прыемна, што калі ўніверсітэт адкрыецца, дык выбітныя прадстаўнікі навукі - прафесары будучага ўніверсітэта змогуць часта наведваць наш горад, каб дзяліцца сваімі ведамі і думкамі"* [65].

Як альтэрнатыва, прапаноўваліся таксама Менск і Віцебск, абшарнікі абяцалі ўзяць на сябе ўсе выдаткі, але ўлады так і не дазволілі адкрыць універсітэт у нашым краі. Віленскі ўніверсітэт быў адноўлены адным з першых указаў Пілсудскага ў 1919 г. як польская навучальная ўстанова.

**Рэлігійнае жыццё.** 28 красавіка адбылася працэсія ў памяць 1600-годдзя Міланскага эдыкту[66]. *"Працэсія з Фарнага касцёла на могілкі, адтуль праз Ферму вярнулася ў касцёл"* [67].

У красавіку 1913 г. "Лідскае слова" паведаміла пра новы касцёл на Слабадзе: *"Праектуецца пабудова другога касцёла. Для гэтай мэты горад даў 3 дзесяціны"* [68].

**Бібліятэкі.** Вядома, што гарадская бібліятэка-чытальня пры чайной была адкрыта па рашэнні "Лідскага павятовага камітэта Папячыцельства аб народнай цвярозасці" 12 студзеня 1897 г.

9 сакавіка 1899 г. на паседжанні "Лідскага павятовага камітэта Папячыцельства аб народнай цвярозасці" было прынятае рашэння адкрыць бібліятэкі-чытальні ў 14 валасцях павета. Вырашана, каб удзел у выбары кніг для ўсіх бібліятэк прымаў штатны наглядчык павятовай вучэльні[70]. На паседжанні, якое адбылося 25 лістапада 1903 г. пад старшынствам лідскага павятовага маршалка І.Р. фон Вітэ ў складзе: протаіерэя Іосіфа Каяловіча, міравога пасярэдніка 2-га ўчастка Лідскага павета Ф.А. барона Шліпенбаха, наглядчыка 5-й акругі акцызных збораў Віленскай губерні А.С. Пятрова, падатквага інспектара па Лідскім павеце А.А. Іванова, лідскага павятовага спраўніка А.М. Вякшынскага, лідскага гарадскога старасты Л.Г. Стабінскага і інспектара Лідскага гарадскога вучылішча Ф.Л. Навіцкага, пры ўдзеле справавода С.Н. Львова, было вырашана:

- Асігнаваць на выплату друкарні Эпштэйна 6 р., каб надрукаваць бланкі для запісу кніг у бібліятэкі.

- Камітэт зацвердзіў: а) асігнаванне 19 р. 15 к. на даплату рэдакцыі часопіса "Земляроб" на выпіску 19 асобнікаў часопіса ў бібліятэкі-чытальні павета і ў лідскую бібліятэку Папячыцельства; б) Выдаткі справавода камітэта Львова, каб вярнуць яму скарыстаныя з уласных сродкаў 4 р. 70 к. на куплю амерыканскага пераплётчыка[71] для пераплёту кніг арыштантамі ў Лідскай турме для бібліятэк Папячыцельства і 7 р. на выплату сталяру Няпрахскаму за зробленыя ім 4 футаралы для чароўных ліхтароў[72]; в) Выдаткі на выплату начальніку Лідскай турмы Багданаву 28 р. 81 к. за пераплеценыя арыштантамі 731 кнігу бібліятэк Папячыцельства; г). Выдаткі на выплаты пераплётчыку Ратнэру за пераплёт 787 кніг для бібліятэк Папячыцельства.

- Камітэт пастанавіў: па прыкладу мінулага года, у 1904 г. выпісаць для ўстаноў Папячыцельства наступныя часопісы і газеты 1) "Свет", 2) "Виленский вестник", 3) "Паломник", 4) "Вокруг света", 5) "Нива", 6) "Школьное хозяйство", 7) "Деревня", 8) "Сельский вестник", 9) "Беседа"; для 10 існых бібліятэк: 1) "Школьное хозяйство", 2) "Вокруг света", 3) "Сельский вестник", 4) "Беседа", 5) "Деревня"; для 6 бібліятэк, якія адкрываюцца: 1) "Родина" і 2) "Беседа".

- Замест выбыўшага загадчыка бібліятэкі сп. Палу, з 1 ліпеня прыняць на гэтую пасаду сп-ню Львову з захаваннем ранейшага акладу ў 120 р.

- Камітэт выказаў падзяку за супрацоўніцтва народным настаўнікам у валасцях і вырашыў выплаціць ім па 10 р. за год і асігнаваў 3 р. для народнай настаўніцы з Беняконяў Марцюшавай на закуп газы, каб яна магла рабіць народныя чытанні з чароўным ліхтаром[73].

З пратаколу паседжання "Лідскага павятовага камітэта Папячыцельства аб народнай цвярозасці" ад 24 ліпеня 1912 г. бачна, што з 1906 па 1912 г. лідскі камітэт працаваў дрэнна, і гэта выклікала незадавальненне Віленскага губернатара. Прычына - недахоп грошай. З-за таго, што значная частка сродкаў Папячыцельства ідзе на падтрыманне чайных і сталовых, *"з якіх многія, нягледзячы на доўгачасовае іх існаванне, наведваюцца толькі вельмі нязначным лікам асоб"*, губернатар прапанаваў абмеркаваць мэтазгоднасць існавання кожнай канкрэтнай чайной.

Губернатар паведаміў, што ў 1912 г. будзе выдаткоўваць камітэту толькі 1 500 р. і таму прапанаваў прыняць меры па скарачэнні выдаткаў. З пратаколу:

*"пры асігнаваннях у апошнія гады з казны 4000 - 4500 р. у год камітэт марнаваў гэтыя грошы цалкам на свае ўстановы, і што, недаатрымаўшы ў 1905 г., 500 р., мае даўгі. Атрымліваючы 4000 - 4500 р. у год, камітэт ледзьве зводзіць канцы з канцамі і пры велічыні гадавой дапамогі ў 1 500 р. у год чайныя камітэта існаваць не могуць, бо яны працуюць са стратамі. Таму камітэтам вырашана: усе чайныя ў павеце закрыць; бібліятэкі-чытальні за адсутнасцю для іх памяшканняў скасаваць, пакінуўшы толькі бібліятэкі. Бібліятэчныя шафы перадаць у народныя вучылішчы, просячы настаўнікаў працягваць выдачу кніг, ... у будучыні пры наяўнасці новых асігнаванняў бібліятэкі могуць быць папоўненыя"* [74].

Пры складанні каштарысу на 1907 г. павятовы камітэт вырашыў адкрыць у Лідзе чайную з бібліятэкай-чытальняй, чытаннямі, хорам і нядзельнай школай. 18 верасня 1906 г. камітэт пастанавіў хадайнічаць аб асігнаваннях крэдыту ў памеры 2 150 руб. на арганізацыю і ўтрыманне чайной і іншага па наступным разліку: арэнда памяшканне з ацяпленнем - 600 р., асвятленне - 160 руб., жалаванне бібліятэкару - 300 руб., на прыслугу - 120 руб., на абсталяванне нядзельнай школы - 200 руб., на пісьмовыя прылады - 80 руб., на куплю кніг і часопісаў - 100 руб., загадчыку народнага хору - 300 руб., на ўзнагароджанне спевакоў - 50 руб. і на справаводства - 240 руб. Усяго 2 150 руб. Копія гэтай пастановы прадстаўлена ў губернскі камітэт 27 верасня 1906 № 239. Аднак губернатар даў толькі 750 руб.[75]

Лідская бібліятэка-чытальня з нядзельнай школай і чайной да Першай сусветнай вайны знаходзілася ў двухпавярховым доме, які зараз мае адрас: вул. Замкавая, 2, дом пабудаваны ў самым пачатку XX ст. Практычна адразу пасля пабудовы гэты гмах быў арандаваны "Лідскім папячыцельствам аб народнай цвярозасці", і тут пачаў працаваць Народны дом. Народныя дамы адкрываліся, каб адцягнуць народ ад п'янства, і звычайна складаліся з бібліятэкі-чытальні, чайной і розных гурткоў. Акрамя Ліды Народны дом захаваўся да нашага часу ў Гародні, ён быў пабудаваны ў 1904 г. паводле праекту Л. Лангада і М. Раманава. Такім чынам, у будынку, які захаваўся да нашых часоў месціўся першы ў горадзе народны клуб. У пачатку бурлівых 1920-х гг. тут былі штаб-кватэры розных палітычных партый, а з сярэдзіны 1920-х гг. магістрат горада.

Значную колькасць кніг перадаў бібліятэцы Народнага дома аптэкар Бэргман, "Лідскае слова" паведамляла ў канцы 1912 г.: *"Пяць гадоў таму ў Лідзе з вялікімі стараннямі і клопатамі была адкрыта бібліятэка. На самым пачатку яна мела ўсяго 600 тамоў, а зараз, праз пяць гадоў мае ўжо 2 000 тамоў. І якія кнігі, каго тут толькі няма! Талстой і Ібсен, Гюго і Гайнэ, Бялінскі і Дабралюбаў - і шмат іншых, з вялікім розумам і гарачым сэрцам напісаных кніг. ... Што чытаюць і хто чытае? Гімназісткі і іешыўнікі. Першыя зачытваюцца Вярбіцкай, а другія і чытаюць, і пытаюцца, пытаюцца і чытаюць Талстога, Даставеўскага і Тургенева. Галоўная ж маса лідзян ставіцца да бібліятэкі абыякава ..."* [76].

Мелася ў горадзе і некалькі кніжных крам. Акрамя агульнавядомай кніжнай крамы сп-ні Шкоп каля касцёла, у гасцініцы Быхвітаў "Варшава" месцілася кніжная і пісча-папяровая крама "Культура": *"... вялікі багаты выбар мастацкіх паштовак. На складзе маецца вялікая колькасць падручнікаў, класічная літаратура на рускай і яўрэйскай мовах"* [77] (дарэчы, тут жа ў гатэлі "Варшава" працавала аддзяленне Санкт-Пецярбургскага таварыства страхавання, агент па Лідзе і павеце Я. Л. Быхвіт[78]).

Мелася яшчэ кніжная крама "Труд", у якой у сераду 13 сакавіка 1913 г. вучань гарадской вучэльні Лагун знайшоў скрадзеную ў яго раней кнігу, крама аказвала і букіністычныя паслугі[79].

Для аматараў кнігі мелася пераплётная майстэрня Б.Я. Коткінда: *"Прымаюцца заказы на пераплётныя і футлярныя работы ўсялякага віду па самым умераным кошце"* [80].

Тое, што немагчыма было купіць у кніжных крамах, дазвалялася заказваць па пошце, напрыклад камплекты фрывольных паштовак: *"Сенсацыйная навіна для мужчын. Вельмі цікавая серыя з 20 здымкаў з жыцця французскага афіцэра з генеральскай дачкой у пікантных позах ... Кошт з перасылкай 3 руб. 40 кап."* [81].

**Яўрэйскае культурна-грамадскае жыццё.** "Лідскае слова" 28 снежня паведаміла: *"Учора пасля цяжкай хваробы на 65 годзе жыцця памёр Ісак Носелевіч Пупко. Нябожчык быў адным з выбітных грамадскіх дзеячаў г. Ліды і стаяў на чале яўрэйскай бальніцы, якая была пабудавана па яго ініцыятыве. ... Ён любіў свой горад і ў апошні час, калі хвароба забрала яго сілы і не дазваляла актыўна працаваць на карысць грамадства, пісаў шмат тэкстаў з гістарычнага мінулага нашага горада"* [82]. Вельмі цікава, чалавек займаўся краязнаўствам, але, баюся, мы ніколі не прачытаем яго тэксты.

Былы лідзянін Якаў Ілютовіч узгадваў Ісака Пупко - "Ізю Члена" ў сваіх успамінах: *"Усе ў Лідзе ведалі "Ізю Члена", сына заснавальніка ... бровара Носеля Шымона Пупко. Мянушка "Член" з'явілася таму, што ён быў членам самакіравання горада*[83] *і вельмі разумным яўрэем, адным з грамадскіх дзеячаў, якія аддалі сябе гораду. Адзін з яго сыноў ажаніўся з дачкой Моці Халерчыка (адкуль паходзіла прозвішча, ніхто не ведае*[84]*). Таксама ён меў зяця, якога ўсе звалі Яша-гой. Мянушку атрымаў, бо жыў у маленькім мястэчку сярод "гояў". Ізя жартаваў пра нявестку і зяця: "Халера схопіць "гоя""* [85].

У сакавіку 1913 г. газета паведаміла, што *"Студэнт І. Сольц прыязджае ў Ліду і аднаўляе прыём урокаў"* [86]. Справа ідзе пра сына Нафталі Сольца, лідскага домаўладальніка. Нафталі Сольц быў родам з Вільні, з вядомай сям'і Сольцаў, яго бізнесам былі паштовыя коні[87]. У тыя часы, калі яшчэ не было цягнікоў (а таксама пазней, у тых месцах, куды цягнікі не даходзілі), пасажыры ехалі, арандуючы коней ад адной пошты да другой. Мужчына сярэдняга росту, меў не вельмі

доўгую бараду. Ён хадзіў вакол свайго вялікага двара які прасціраўся ад Віленскай вуліцы амаль што да ракі і трымаў рукі на поясе штаноў. Любіў час ад часу пераплюць кілішак. Меў уплыў на ўлады. Калі яго прасілі паразмаўляць з уладамі, каб палепшыць бізнес ці вырашыць прыватную справу (калі гэта нікому не пашкодзіць), ён не адмаўляўся. Аднак не ўмешваўся ў кагальныя спрэчкі. На ўласным двары Нафталі Сольц пабудаваў невялікую сінагогу (сінагога Сольца), але сам не быў яе частым наведвальнікам. Сын Нафталі, адвакат, быў вельмі паважанай асобай у Лідзе. Ён памёр маладым пад час аперацыі апендыцыту[88].

У Лідзе меліся розныя яўрэйскія культурніцкія і грамадскія таварыствы, якія збіраліся ў розных залах горада. Адным з галоўных месцаў, дзе адбываліся яўрэйскія культурніцкія мерапрыемствы была так званая "Зала Ландо". Якаў Ілютовіч пісаў: *"У іншым месцы рынкавай плошчы знаходзілася карчма-рэстаран "Заезд". Яна была пабудавана пяцьдзясят гадоў да таго, у мінулым стагоддзя* (у сярэдзіне XIX ст. - *Л.Л.*) *Ісакам Ландо, род якога паходзіў ад вучоных яўрэяў Вільні, якія аднак не захацелі стаць рабінамі. У наш час уладальнікам яе быў Ісак Ландо, трэцяе пакаленне ад першага Ісака. Імем яго жонкі, Лейбы Ландо, быў названы гатэль. "Заезд" меў стойлы для коней уладальнікаў вазоў, а пазней і залу для ўрачыстасцяў, а яшчэ пазней нават сцэну для тэатральных пастановак"* [89].

У нядзелю 18 лістапада 1912 г. каля пад'езда тэатральнай залы сп. Ландо было знойдзена немаўля. Ніякай запіскі пры ім не было, дзіцё адпраўлена ў Віленскі прыют[90].

У панядзелак 26 лістапада ў зале Ландо яўрэйскай трупай Бярнштэйна паказаны спектакль на карысць таварыства "Мішмерэс-Хойлім". *"Была пастаўлена п'еса Я. Гордзіна "Дзі Швуе", якая прайшла з поспехам"* [91]. У нядзелю 30 снежня ў зале Ландо адбылася лекцыя А. Гальдштэйна на тэму "Найноўшая яўрэйская літаратура" [92].

У аўторак 16 красавіка 1913 г. у зале Ландо Лідскім яўрэйскім музычна-драматычным таварыствам пастаўлена п'еса "Брат і сястра" і "Дзівацтвы жонкі" М. Арэнштэйна. Пасля заканчэння спектакля адбыліся танцы[93]. У справаздачы "Лідскае слова" пісала: *"Хаця на сцэне фігуравалі асобы з яўрэйскімі імёнамі, але нічога спецыфічна яўрэйскага ў гэтых п'есах не было. Гралі акцёры-аматары. У п'есе "Брат і сястра" галоўную ролю Толі граў Падольскі. Сп. Зарцын граў тыповую фігуру яўрэя-экстэрна*[94]. *Неаднаразова выступаўшая на лідскіх падмостках мадэмуазель Юдзялевіч на гэты раз грала не сваю ролю. Ролю Ады добра, цёпла грала мадэмуазель Кенігсбергер. Але публіка мела святочны настрой і лепш успрыняла камедыю "Дзівацтвы жонкі". Камедыю глядзелі з жывой зацікаўленасцю, і таму акцёры гралі добра. Нашы аматары, сапраўды, паказалі сябе. Вельмі натуральна ролю Штэйн грала мадэмуазель Шалюбская - ад яе ігры веяла жыццём. А наш стары аматар сп. Палячак як заўжды граў цудоўна. Часам можна было падумаць, што на сцэне прафесіянал, а не аматар ..."* [95].

У зале Ландо адбываліся не толькі культурніцкія мерапрыемствы. 19 сакавіка 1913 г. тут праходзіў збор Лідскага пазыкава-ашчаднага таварыства. Прысутнічала 100 сяброў таварыства. Старшынём абраны Л. Стругач. З прачытанага З.І. Пупко даклада бачна, што да 1 студзеня 1913 г. у таварыстве было 623 сябры. Агульны аварот за год 428 619 руб. 86 кап., прыбытак 3 842 руб. 98 кап. Сябрамі таварыства з'яўляюцца дробныя гандляры (260), рамеснікі (248), прадстаўнікі вольных прафесій, павераныя, настаўнікі (50), заводчыкі і лесапрамыслоўцы (24), сяляне, гароднікі (23), домаўладальнікі (18)[96].

Для сваіх мерапрыемстваў яўрэйскай грамадой актыўна выкарыстоўваліся і іншыя пляцоўкі. Гэтак, 24 лістапада 1912 г. ў памяшканні Лідскага яўрэйскага музычнага таварыства адбыўся баль-маскарад[97]. А праз два тыдні, 8 снежня, ў Яўрэйскім музычна-драматычным таварыстве гастраляваў вядомы віяланчаліст А. Квікулькін і таленавіты піяніст Г. Ратасен (білеты прадаваліся ў краме братоў Вінаградавых). *"Здавалася б лідзяне наведаюць іх выступ, але прыйшлося чакаць да 10,5 гадзін вечара (канцэрты быў прызначаны на 9 гадзін), покуль сабралася хоць нейкая публіка. Тлумачыцца гэта ... адсутнасцю эстэтычных патрэбаў"* [98].

16 лютага 1913 г. у зале Лідскага яўрэйскага музычна-драматычнага таварыства адбылася лекцыя І. Маслінкоўскага на тэму "Сучасныя плыні ў яўрэйстве" [99].

Час ад часу сваю залу прадстаўлялі ўладальнікі жаночай гімназіі Навіцкіх. Гэтак, у суботу, 22 снежня 1912 г. у зале жаночай гімназіі Лідскае яўрэйскае музычна-драматычнае таварыства паказала спектакль, пастаўлена была новая драма маладога аўтара Барыса Аршанскага[100] ў 3-х частках "Ганна" *"пад наглядам і пры ўдзеле аўтара. У гэтай драме аўтар жывымі фарбамі малюе карціну жыцця сучаснай яўрэйскай інтэлігенцыі і кранае пытанне сямейнага побыту"* [101].

17 сакавіка адбыўся агульны сход таварыства дапамогі бедным яўрэям "Мішмерес-Хойлім". Прысутнічала 50 чалавек, старшынём сходу абраны Д.Л. Стругач: *"На 1 студзеня 1913 г. у таварыстве маецца 634 сябры, прыход 1203 руб., расход 782 руб. 60 кап. Медыцынскай дапамогай карысталіся 250 чалавек, адбылося 168 візітаў дактароў, выпісана 842 рэцэпты"* [102].

11 красавіка адбыўся ўстаноўчы сход дазволенага таварыства "Тойрас Эмэс", было абрана кіраўніцтва новага таварыства[103]. Газета адзначыла, што *"лідскім яўрэям удалося адкрыць таварыства Талмуд-Торы. Мэта - выхаванне дзяцей з бедных сямей"* [104].

Акрамя іешывы Рэйнеса, Тарбут-школы і іншых яўрэйскіх навучальных установ ў горадзе існавала яўрэйская жаночая прагімназія Э. Цыпкінай, на пачатку 1913 г. прагімназія надрукала аб'яву наступнага зместу: *"Прыёмныя іспыты ва ўсе класы пачынаюцца з 7 студзеня гэтага года"* [105].

**Эміграцыя яўрэяў.** Пра жыццё ў Амерыцы і амерыканскую палітыку з Нью-Ёрку ў "Лідскае слова" стала пісаў былы лідзянін М. Івенскі. У сваім лісце ад

14 (1) снежня 1912 г., ён расказаў пра жыццё эмігрантаў: *"Эміграцыйныя плыні вынеслі шмат маладых сіл з Расіі. ... Эмігранты прыбываюць штодзённа тысячамі і напаўняюць кварталы вялікіх герадоў Новага свету. Кожны горад рысы аседлаці мае свой зямляцкі звяз. Мэта гэтых звязаў - узаемадапамога. Калі зямляк захварэе ці патрапіць у крытычны стан, звяз аказвае шчодрую дапамогу. І наш горад тут не выключэнне. У шматлікіх гарадах ЗША ёсць лідскія звязы. А ў Нью-Ёрку ... малады лідскі звяз, заснаваны чатыры гады там прагрэсіўнымі элементамі ... Кожны год звяз ладзіць баль, на які з'язджаюцца землякі з усіх бакоў новага аграмаднага Вавілона - Нью-Ёрка. На гэтых балях часта паказваюць туманныя карціны* (слайды - *Л. Л.*) *роднага горада і цяжка перадаць тое захапленне, якое ахоплівае гледачоў пры відах роднага кута. Наогул, ва ўсіх нашых землякоў, як у старых так і маладых, захавалася сувязь з радзімай".*

Надрукаваўшы некалькі нарысаў пра амерыканскія справы, праз тры месяцы Іменскі зноў напісаў пра жыццё лідскіх эмігрантаў-яўрэяў: *"Самы стары лідскі зямляцкі звяз у Амерыцы - лідскі братэрскі саюз узаемадапамогі - быў заснаваны ў 1891 г. У гэты час яўрэйская эміграцыя набыла масавы характар. У звязе ёсць былыя лідзяне, якія жывуць у Амерыцы ўжо каля пяцідзесяці гадоў, яны былі першымі. Звяз існуе, квітнее і налічвае каля 300 сяброў. З справаздач бачна, што на дапамогу бедным лідзянам і іншую дабрачыннасць было выдаткавана каля 7 000 руб. Пазыковы фонд звязу мае 5 000 руб. Пазыкі памерам да 50 долараў, выдаюцца ўсім сябрам звязу. Звяз мае грошы з сяброўскіх складак, канцэртаў, тэатральных пастановак. Шмат хто з сяброў звязу быў сярод арганізатараў сінагогі "Аншэй Ліда". Сярод заснавальнікаў звязу вылучаюцца стары Гальданскі, Міркоўскі і Міндэс. Зараз старшынём звязу з'яўляецца сп. Лівай, Г. І. Літовіч - сакратар звязу з дня заснавання. Доктар звязу, былы лідзянін Д. М. Блок. 22 сакавіка звяз праводзіць грандыёзны баль-маскарад"* [106].

Эміграцыя з нашага горада сталася прыбытковай справай для параходных кампаній, і таму "Лідскае слова" стала друкавала аб'явы наступнага зместу: *"Рускае акцыянернае таварыства "Рускае паўночнаzаходняе параходства", віленскае агенцтва, лідскае аддзяленне. Штотыднёвыя тэрміновыя рэйсы з Лібавы ў Англію, а адтуль параходах лепшых англійскіх фірм ў Нью-Ёрк, Бостан, Філадэльфію ці парты Канады, без перасадкі ў Нью-Ёрк, акрамя таго ў Паўдзённую Амерыку, Афрыку і Аўстралію. Па падрабязную інфармацыю ... запрашаем звяртацца ў Лідскі аддзел да С. І. Вінаградава, уласны дом"* [107].

**Гарадскія паркі.** Трэба трошкі расказаць пра лідскія гарадскія паркі таго часу. Невядома, калі ў Лідзе на скрыжаванні вуліц Віленскай і Каменскай (сучасных Савецкай і Ленінскай) узнік гарадскі сквер, але добра вядома што ён існаваў яшчэ да вялікага пажару 1891 г. Гарадская ўправа 2 ліпеня 1881 г. надала тут Янкелю Германішскаму ўчастак зямлі для будаўніцтва *"будкі для продажу мінеральнай вады"*, і ў 1885 г. ён плаціць 6 руб. у год за гэтае месца ў гарадскі скарб[108]. У 1890 г. Германішскі гандлюе ў гэтым павільёне ўжо не мінеральнай вадой, а *"штучнымі водамі"*[109], магчыма мінеральныя вада была для лідзян занадта дарагой. Пасля пажару 1891 г. гарадскія ўлады выдзяляюць 80 руб. *"на пабудову плота вакол гарадского сквера з новага матэрыялу замест згарэўшага"* [110]. З 1912 г. газета "Лідскае слова" прадавалася ў кіёску скверу, на рагу Віленскай і Каменскай вуліц.

У 1900 г. з'явілася ідэя, захаваўшы стары сквер, стварыць новы парк на месцы, якое мела назву "Альховы гай" - прыкладна там, дзе зараз знаходзіцца кінатэатр "Юбілейны". Менавіта ў гэтым годзе ў каштарысе расходаў Ліды з'яўляецца артыкул: *"Асушыць Альховы гай і ператварыць яго ў парк, правесці новую вуліцу, якая з'яднала б Каменскую і Ферму. Зняць план - 300 руб."* [111]. Аднак горад не меў грошай, і таму гэты артыкул дубляваўся ў каштарысе яшчэ некалькі гадоў, у тым ліку і ў 1901 г.[112]

Да 1904 г. парк быў пабудаваны, і ў 1905 г. на стары сквер і новы парк выдадзена 50 руб. для *"прывядзенне ў належны стан гарадскіх паркаў па Віленскай і Каменскай вуліцах"* [113]. Акрамя гэтага ўлады выдзелілі 350 руб. на *"выпраўленне маставых на гарадскіх плошчах, а таксама ўтрыманне набярэжнай з ачысткай Каменскага ручая і пракопкай канаў"* [114]. Рака ці ручай Каменка цякла праз новы гарадскі парк і, як бачна на старой паштоўцы, упрыгожвала яго.

У 1906 г. лідзяне працягвалі паляпшаць свае *"гарадскі сквер і парк"*, выдаўшы на гэтыя мэты 100 руб., працягвалася і ачыстка Каменкі[115]. Тыя ж працы выконваліся і ў 1907 г.[116] У 1909 г. *"на прывядзенне ў належны стан і ўтрыманне гарадскога парку і скверу, а таксама на наём вартаўніка для назірання за паркам і скверам"* выдзяляецца 150 руб., горад працягвае траціць грошы на ўтрыманне набярэжнай і ачыстку *"Каменскага ручая"* [117].

Але гарадскія ўлады самастойна не спраўляліся з утрыманнем паркаў у належным стане, і таму па выраку сходу лідскіх ўпаўнаважаных ад 28 сакавіка 1911 г. гарадскі парк аддадзены ў 3-х гадовае арэнднае ўтрыманне Браніславу Міцкевічу з правам карыстання паркам на працягу двух гадоў бязвыплатна, пры ўмове правядзення неабходнага рамонту паркавых будынкаў за свае грошы[118].

4 лютага 1913 г. на коўзанцы ў гарадскім парку ўпала і зламала нагу вучаніца 6 класа мясцовай жаночай гімназіі, а 5 лютага на той жа коўзанцы зламаў левую руку нехта Кац[119].

Летні тэатр у гарадскім парку на Каменскай працаваў да 1939, а можа і да 1941 г. Парк быў любімым месцам адпачынку і забаў лідзян. Месцам тэатральных гастроляў улетку, быў Летні тэатр у гарадскім парку.

**Першыя кінатэатры горада.** У Расійскай імперыі першыя пастаянныя кінатэатры з'яўляюцца ў 1903-04 гг. пад назвамі "сінематографы", "біяскопы" або "ілюзіёны". За перыяд з 1903 па 1907 г. у іх дэманстраваліся толькі фільмы вытворчасці французскіх

фірмаў "Патэ", "Гоман" і інш. Часта ў адным сеансе паказваліся як гульнявыя, так і дакументальныя фільмы.

Паралельна з пастаяннымі кінатэатрамі існавалі і перасоўныя, якія пераязджалі з горада ў горад. Пра адзін з такіх кінатэатраў у Лідзе паведамляла прэса - у 1908 г. "Кур'ер Літоўскі" змясціў зацемку гараджаніна, пра, магчыма, першую дэманстрацыю кінематографа ў нашым горадзе: *"Ліда. (Глядач). Тэатр "Фантазія" ёсць сапраўдным адбіткам фантазій пана дарэктара кінематографа, якія зусім не стасуюцца з грамадскімі меркаваннямі. Вечарам 1 снежня у 21-30, я з кампаніяй знаёмых прыйшоў у гэтую "Фантазію", мы купілі квіткі, якія тут не танейшыя, чым у Варшаве, і не паспелі мы праглядзець усе 10 карцін, як раптоўна стала цёмна, і мы пачулі нечы голас, што сеанс закончаны. Не дапамаглі пратэсты нас і яшчэ некалькіх гледачоў, нехта сказаў: "Але ж гэта сапраўдная фантазія". Тыя карціны, якія мы паспелі разгледзець, былі зроблены так дрэнна і невыразна, што часам немагчыма было зразумець іх сэнс ... , часам выявы былі, як у тумане. Калі пан дырэктар кінематографа лічыць, што грамадскае меркаванне, як заўжды, не паспявае за прагрэсам, дык хай загадае не прадаваць білетаў тым "tarde venientibus"* (лаціна, "тым, хто спазняецца" - *Л.Л.*)" [120].

На пачатку XX ст. у Лідзе жыў і вучыўся ў мясцовай яўрэйскай школе-хедары будучы выкладчык і адзін з заснавальнікаў кіназнаўчага факультэта сучаснага Ўсерасійскага дзяржаўнага інстытута кінематаграфіі імя С.А. Герасімава Іосіф Далінскі. Менавіта ў Лідзе Далінскі першы раз убачыў тое, што потым стала ягонай прафесіяй: *"Ах, Ліда, Ліда, менавіта тут я стаў гарачым прыхільнікам новага мастацтва, якое, вядома, не магло не ўздзейнічаць на маё ўяўленне, на маю фантазію. Менавіта ў Лідзе пачалася мая кінематаграфічная жыццёвая адукацыя"*, [121] - пісаў ён. Дзякуючы мемуарам былога жыхара Ліды мы трошкі ведаем пра пачаткі кіно ў нашым горадзе.

Першы лідскі кінатэатр "Ілюзіён" з'явіўся ў 1909 г. Ён месціўся ў двары дома па адрасе: Віленская, 58, які належаў Фларыяну Длускаму (сучасная Савецкая, 16). "Ілюзіён" Яблонскага быў перароблены са стайні, зала не мела ніводнага акна, і пасля сеансаў у ёй было цяжкае і вільготнае паветра, адчуваўся пах неперагарэўгаша спірту ад спіртовых лямпаў, якімі кінатэатр асвятляўся, апаратны пакой з тонкіх дошчачак быў дабудаваны да гмаха былой стайні[122].

Далінскі пісаў: *"Вельмі рана, не памятаю, з якіх гадоў, я пачаў наведваць кінатэатр "Ілюзіён". У ім не было нават крэслаў, і, па меншай меры, у самых першых радах, мы, хлапчукі, сядзелі на лаўках. Каштаваў нам білет вельмі танна, усяго 5 капеек. Але як іх дастаць?Я пачаў прасіць у таты, ён быў - я адчуваў - вельмі добры, на цукеркі 2-3 капейкі. Я нічога не купляў або на 1-2 капейкі купляў цягучку і спецыяльна смактаў яе на вачах у таты, каб ён бачыў, як я марную яго грошы на прысмакі. Больш за тое, я дзяліў цягучку паміж сабой і братамі, цягучкі былі доўгія і салодкія. Астатнія грошы збіраў на "Ілюзіён". Калі збіралася 5 капеек, я днём ішоў у кінатэатр. "Ілюзіён" мне здаваўся даволі вялікім, з шырокім калідорам, вялікай доўгай глядзельнай залай. Уваходзілі мы туды нясмела, як у сінагогу: жарт сказаць, цуд, белы экран, і на ім раптам жывыя людзі, розныя звяры, вуліцы, лес, возера і нават дзіўнае бяскрайняе мора, тады мне абсалютна невядомае"* [123].

Помніць Далінскі і змест фільмаў пачатку мінулага стагоддзя: *"У змесце фільмаў усё ж разбіраўся. Памятаю: бацька і сын з сабакам адпраўляюцца на паляванне. У іх стрэльбы. Але ў лесе сын адстае ад бацькі, хоча самастойна пастраляць зайца, нават ваўка, і птушак. Паляўнічыя з сабакам паглыбляюцца ў лес. Сустракаюцца птушкі, заяц, воўк - паляўнічыя і сабака шукаюць іх, але сын хоча самастойна (я яму спачуваю) пастраляць. Ён апынуўся ўжо насупраць бацькі, але бацька яго не бачыць, і сын не бачыць бацькі. Нечакана раздаецца стрэл: сын страляе ў бок бацькі, але ні ў каго не трапляе. Бацька ... ужо забіў некалькі птушак ... апошні стрэл (ён думае, у зайца) трапляе і забівае насмерць сына. Страшнае ўражанне рабілі падзенне сына і момант, калі бацька паварочваецца і бачыць, што забіў яго. Гэта вельмі страшна для маленькіх гледачоў, якія ўжо разумеюць смерць: гібель чалавека ўспрымаецца як трагедыя. У мяне тады памёр дзед - бацька майго бацькі. Якая трагедыя ў маленькага гледача! Колькі перажыванняў! І нават ёсць патрэбная мараль: слухайся бацькі, а то здарыцца нешта сумнае, нават жудаснае. Запомніў і назву гэтай карціны "Трагічнае паляванне""* [124]. Фільма з такой назвай у каталогу фільмаў той эпохі няма, але вядома, што ў тыя часы адзін і той жа фільм нярэдка выпускаўся пад рознымі назвамі.

"Трагічная паляванне" моцна ўсхвалявала юных гледачоў: *"Мы, яшчэ маленькія хлапчукі, хаваліся пад лаўкамі ці за цёмнымі фіранкамі вокнаў і дзвярэй; заставаліся, каб паглядзець другі і трэці раз: а можа ў гэты раз бацька прамахнецца? Часам ўдавалася: мы вылазілі з таемных месцаў, калі зала пачынала запаўняцца новай публікай"* [125].

Паказваліся і камедыі: *"Памятаю і камічнае: бясконцыя пагоні, кіданні нейкіх прадметаў і нават цеста адзін у аднаго, нават у твар ... памятаю, што былі надпісы, якія мы ледзь паспявалі прачытаць, але гэта было не так важна. Змест мы ведалі часам загадзя ад іншых хлапчукоў або разумелі яго з першага кадра. Гэта была велізарная асалода, нейкае асаблівае, загадкавае бачанне ... Гэты кінатэатр, як я потым даведаўся, працаваў на газе ... Потым у двары мы гулялі ў нямыя карціны: мы бегалі адзін ад аднаго або штурхаліся, і заўсёды чамусьці ўсё канчалася пагоняй ... Гэта было самае ранняе дзяцінства"* [126].

Кінатэатр "Эдысон" у Лідзе адкрыў ў снежні 1910 г. Міхаіл Мікалаевіч Манастырскі. Да гэтага часу ён ўжо тры гады валодаў кінатэатрам у Сувалках[127]. Да 1914 г. Міхаіл Манастырскі валодаў яшчэ кінатэатрам ў Вільні[128].

У кастрычніку 1910 г. Міхаіл Манастырскі на імя Віленскага губернатара падаў прашэнне аб адкрыцці кінатэатра "Эдысон" у Лідзе па Віленскай ву-

ліцы, у мураваным аднапавярховым доме братоў Саламона Ілліча і Майсея Ілліча Вінаградавых па вузкай вулачцы-шчыліне Чырвонай (пачыналася паміж дамамі Крывабокава № 19 і братоў Вінаградавых № 21 па вуліцы Віленскай і заканчвалася паміж дамамі Пупко і Зальцштэйна па вуліцы Крывой). Гэты дом месціўся ў двары галоўнай двухпавярховай камяніцы Вінаградавых, якая мела адрас: Віленская, 21.

У снежні 1910 г. пасля вырашэння розных бюракратычных і тэхнічных праблем адкрыўся кінатэатр "Эдысон" на 118 месцаў. Кінатэатр уяўляў сабою аднапавярховы цагляны будынак, меў пярэдні пакой (4,3 х 2,1 м), глядзельную залу (11,8 х 6,3 м), два фае (9,5 х 6.3 м), будку для праектара, у якой падлога і столь былі абабіты азбестам і жалезнымі лістамі. Глядзельная зала і фае мелі вышыню 4 м., столь драўляная, бэлькі знутры абабіты дошкамі. Два выйсці, дзверы адчыняліся вонкі. Падлога драўляная. Месцы для публікі агароджаны адкіднымі драўлянымі балюстрадамі вышынёй каля 0,9 м. Праходы для публікі каля будкі з праектарам шырынёй па 1,5 м кожны. Сценкі ўсіх памяшканняў атынкаваныя. Памяшканні абаграваліся трымя круглымі бляшанымі печамі. Паветра вентылявалася праз адтуліну дыяметрам 35 см. Дах будынка крыты дахоўкай. Памяшканне для дынамамашыны ад глядзельнай залы аддзяляла цагляная сцяна ў 1,5 цагліны. Для асвятлення памяшканняў і сілкаванні токам рэфлектара ў асобным памяшканні мелася дынама-машына сталага току на 50 ампер пры 110 вольтах. Яна прыводзілася ў дзеянне праз пасавую перадачу газавым рухавіком на 7 к.с. "Отто-Дэйц". Электрычны дрот пракладзены на парцалянавых роліках. Памяшканні асвятлялі 21 танталавая 16-ці свечкавая лямпа напальвання, таксама меліся 2 лямпы ў 200 свечак і 98 2-х свечкавых лямпаў на 10 вольт кожная, якія складаліся ў слова "Эдысон" над уваходам.

Прафесар Далінскі пісаў пра гэты кінатэатр: *"Але вось я ўжо больш сталы. З'явіўся новы кінатэатр на галоўнай вуліцы ... Ля ўваходу буйна электрычнымі лямпачкамі назва - "Эдысон". Такая цікавая назва здзіўляе, дзівіць нават ... Туды ўваход каштаваў 10 ці нават 15 капеек. Бацька ўжо рэгулярна дае мне па 5 капеек. Я іх збіраю і бягу, задыхаючыся, у кінатэатр. Сюды часам хаджу бясплатна разам са сваім таварышам, бацька якога - адзін з гаспадароў "Эдысона". Тут крэслы і нават ложы. У фае развешаныя афішы, стаяць крэслы, маецца нават буфет. Фае спецыяльна для чакання: сеанс вялікі, гадзіну і больш. Мы ўваходзім у глядзельную залу ўжо не па-хлапечы, а як падлеткі. Мы абодва высокія, нас нават можна прыняць за юнакоў"* [130].

Кінематограф паступова пераўтвараўся ў новы від мастацтва, змяняўся рэпертуар кінатэатраў: *"Карціны тут (у "Эдысоне") "сур'ёзныя": па дзве драмы, па дзве камедыі, а напачатку абавязкова пейзажныя. У іх нейкія незнаёмыя рэкі, горы, вадаспады, моры бязмежныя, у іх вялікія хвалі, хвалі... Асабліва дзівяць вадаспады: з вельмі вялікай вышыні, з вялікім шумам (гэта перадаецца музыкай тапёра) падае велізарная, шырокая, імклівая бруя вады ... Кінематограф захапляе, здзіўляе, кліча да сябе; у ім можна нечакана ўбачыць тое, што ніколі не зможаш убачыць: усё далёкае, дзіўнае. Мастацкія любоўныя драмы ўзбуджаюць, выклікаюць нейкія незразумелыя пачуцці. Пацалункі, абдымкі дарослых, якіх не бачыш у жыцці, вельмі халодныя, але разам з тым яны тояць у сабе нешта прыцягальнае. Потым мы, хлопцы, гуляем (бегаем, ходзім) па экранных узорах. Асаблівае ўражанне пакінула карціна "Зігамар". Гэта ўжо не адна карціна, а серыя фільмаў, колькі - не памятаю. Але вельмі добра памятаю, што нашы гульні ў "разбойнікаў" пасля "Зігамара" напоўніліся больш канкрэтным зместам. Я нават у душы музыцыраваў, як у кіно"* [131].

**"Зігамар"** (1911 г.) - гэта адзін з фільмаў знакамітай французскай крымінальнай серыі па рамане Лявона Сазі, рэжысёр - Віктор Жасэ. Фільм апавядаў пра супрацьстаянне дэтэктыва Палена Бракэ і банды крымінальнікаў "Дзета". "Зігамар" быў вельмі папулярны ў розных краінах Еўропы, у тым ліку і ў Расіі. Цікава, што на адной са старых паштовак з выявамі горада Ліды, на плоце насупраць кінатэатра "Эдысон", якраз бачна афіша "Зігамара".

Думаю, трэба трошкі расказаць пра арганізацыю справы па расклейцы розных афіш у горадзе. У 1904 г. віленскі губернатар граф Пален выдаў пастанову, згодна з якой расклейка розных аб'яў і афіш у г. Лідзе дапускалася толькі на адмысловых прыстасаваннях (відавочна, шчытах), устаноўленых гарадскімі ўладамі (домаўладальнікам на сваіх хатах дазвалялася вывешваць аб'явы толькі аб здачы жылля ў наём). Пастанова ўступала ў сілу з моманту ўстаноўкі такіх прыстасаванняў[132]. 29 красавіка 1909 г. лідскі сход упаўнаважаных права расклейкі аб'яў і афіш перадаў Абраму Душману за плату ў 21 руб. 30 кап. у год[133]. Бізнес быў вельмі прыбытковы, і ў 1914 г. гэта права на тры гады было перададзена ўладальніку друкарні Падземскаму, але ўжо за 260 руб. і 50 кап. у год . У тым ліку гэта кажа аб папулярнасці кінематографа і гастрольных тэатраў у нашым горадзе.

Манастырскі перад Першай сусветнай вайной прадаў "Эдысон", і кінатэатр перасяліўся на месца каля перакрыжавання вуліц Віленскай і Каменскай (сучасныя Ленінская і Савецкая), у старую двухпавярховую камяніцу XIX ст., праз адзін дом ад Фарнага касцёла. У гэтым жа доме знаходзілася кавярня Маліноўскага (у 1930-я гг. - крама дамскай галантарэі). Уваход у кінатэатр быў са двара.

У "Эдысоне" праводзіліся розныя гарадскія мерапрыемствы. У студзені 1913 г. прэса паведаміла, што *"на днях у "Эдысоне" адбыўся сеанс на карысць мясцовага дамскага дабрачыннага таварыства. Сімпатычныя мэты гэтага таварыства прыцягнулі ў тэатр такую публіку, якая рэдка бывае на дабрачынных вечарах. Вечар адбыўся. Увесь даход, 150 руб. цалкам паступіў у касу таварыства"* [136]. У тым жа нумары газеты Лідскае дамскае дабрачыннае таварыства выказала ўдзячнасць *"уладальнікам тэатра "Эдысон" спсп. Яблонскаму і Сікорскаму, якія бясплатна прапанавалі залу "Эдысона", асвятленне, музыку і ахвяравалі 25 руб., асабліва сп. Яблонскаму*

*за яго ўдзел у арганізацыі вечара. А таксама сп. Вінаградаву за бясплатныя карціны і публіцы за спагадлівасць і ўвагу"* [137]. З тэксту бачна, што нават пасля пераезду "Эдысона" на новае месца браты Вінаградавы займаліся пракатам кінастужак.

А 6 чэрвеня 1913 г. у "Эдысоне" Лідскі аддзел добраахвотнага таварыства па барацьбе з сухотамі ладзіў *"бясплатны сеанс з навуковымі мэтамі"* [137].

Дзесьці перад ці падчас Першай сусветнай вайны кінатэатр "Ілюзіён" быў перназваны ў "Нірвану".

**Далінскі Іосіф Львовіч** (1900-1983), Нарадзіўся ў мястэчку Радунь у сям'і мукамола. Скончыў філалагічны факультэт Растоўскага ўніверсітэта. У 1925 г. скончыў Паўночна-Каўказскі ўніверсітэт у Растове. Пасля заканчэння ўніверсітэта Далінскі быў адным з ініцыятараў стварэння Растоўскага кінатэхнікума, у якім працаваў намеснікам дырэктара і загадчыкам вучэбнай часткі. Вучыўся ў аспірантуры УДзІКа (зараз - Усерасійскі дзяржаўны інстытут кінематаграфіі імя С. А. Герасімава) і ў 1940 г. паспяховая абараніў кандыдацкую дысертацыю. З 1937 г. выкладаў ва УДзІКу.

У гады Другой сусветнай вайны ваяваў, быў паранены. Пасля шпіталя зноў вярнуўся на працу ва УДзІК (дзе на працягу 10 гадоў быў дэканам рэжысёрскага факультэта). У канцы 1940-х ён разам з С.С. Гінзбургам і Н.А. Лебедзевым адкрыў кіназнаўчы факультэт УДзІКа, на якім потым доўгія гады чытаў лекцыі па гісторыі кінамастацтва. З 1960 г. - прафесар. Аўтар шэрагу кіназнаўчых прац.

Першае лідскае перыядычнае выданне, газета "Лідскае слова" з'явілася на свет 17 лістапада 1912 г. Памочнік прысяжнага паверанага Камёнскі І.Д. (Камионский И.Д.) разам з доктарам медыцыны Капланам С.А.[138] пачалі выдаваць на рускай мове штотыднёвую грамадска-палітычную газету. Адрас рэдакцыі: вул. Віленская, 13, кошт газеты 3 капейкі. Усе нумары друкаваліся ў друкарні Падземскага ("Віленская вул., у доме, дзе З'езд").

У першым нумары рэдактар пісаў: *"У жыцці кожнага горада бываюць такія дні, якія застаюцца памятнымі, незабыўнымі. І 17-га кастрычніка 1912 г. ёсць адным з такіх дзён. У гэты дзень доўгая, але бедная гісторыя роднага горада ўзбагацілася важкім фактам, у Лідзе ёсць газета, гэта значыць, што з гэтага часу Ліда атрымлівае адзін з магутных рухавікоў прагрэсу - прэсу. ... Ліда бедная ўражаннямі, але не патрэбамі. ... акрамя пытанняў пра тратуары і асвятленне, ёсць таксама пытанні больш далікатныя, пытанні духоўныя. ... Аб'яўляючы нашу газету беспартыйнай і незалежнай, мы упэўненыя, што ў мірным суіснаванні ўсіх нацый і гарманічным злучэнні культур ... палягаюць асновы існавання кожнага горада"* [139]. Ад пачатку газета прадавалася ў аптэкарскай краме М. Б. Стукатара, а з № 3 - яшчэ і ў кіёску на рагу Віленскай і Каменскай вуліц. У Вільні газету магчыма было купіць у вінных крамах М. Айзенштадта па вуліцы Завальнай і Садовай. Невядома, з якой перыядычнасцю, але з допісаў у газеце бачна, што "Лідскае слова" распаўсюджвалася таксама сярод лідскіх эмігрантаў у Амерыцы.

Газета выдавалася на чатырох старонках, у 1912 г. выйшла сем нумароў (№ 1 (17-XI) - № 7 (28-XII)), у 1913 г. яшчэ 21 (№ 8 (4-I) - № 28 (31-V)). У газеце публікаваліся справаздачы аб паседжаннях Дзяржаўнай Думы, асвятлялася дзейнасць гарадскога самакіравання, культурныя падзеі ў горадзе (адкрыццё гімназіі, канцэрты, лекцыі, аматарскія спектаклі). Друкаваліся вялікія, праблемныя артыкулы - напрыклад артыкул Ф.Л. Навіцкага аб сучаснай літаратуры друкаваўся ў шэрагу нумароў і выклікаў некалькі вялікіх артыкулаў-водгукаў чытачоў. Надрукавала газета і артыкул нашага гісторыка М. Шымялевіча пра піярскую школу ў Лідзе. Не абыходзілася без звычайных для газетчыкаў трагікамічных памылак, напрыклад, у *"хроніцы ў № 8 наша газета паведаміла пра смерць пісара ваеннага "присутствия" Пусько. Памёр не пісар, а яго брат"*[140].

У красавіку 1913 г. газета паведаміла: *"11 красавіка ў кватэры доктара Каплана ад неасцярожнага карыстання з агнём адбыўся пажар, які знішчыў рухомую маёмасць на 167 руб. Маёмасць застрахаваная"*[141]. З № 19 газеты Каплан перастаў падтрымліваць газету, і Камёнскі выдаваў яе аднаасобна.

Выдавалася "Лідскае слова" да 31 траўня 1913 г., апошні і перадапошні нумар, замест тыднёвага, выйшаў з двухтыднёвым перапынкам. Газета мела выразны памяркоўна-ліберальны кірунак, блізкі да кадэцкай партыі. Гэты кірунак ў Лідзе не мог мець вялікую колькасць прыхільнікаў. Сярод яўрэйскага насельніцтва дамінавалі сіяністы, для якіх галоўным было стварэнне сваёй дзяржавы ў Палесціне, другімі па ўплыве былі "бундаўцы" - сацыял-дэмакраты. Для абодвух плыняў ліберальны і арыентаваны на Расію дух газеты быў, калі не варожы, дык не цікавы. Другая, рыма-каталіцкая, частка насельніцтва Ліды, таксама не магла мець сентыментаў да гэткай газеты. Таму, думаю, закрыццё "Лідскага слова" з-за камерцыйных страт было наканавана.

### Гаспадарка Ліды

Па "Высочайшему" дазволу ад 15 лістапада 1872 г. горадам набыты ўчастак зямлі, які зваўся "Ферма" з аброчнымі артыкуламі за 5 606 рублёў. З гэтай сумы 1/4 выплачана адразу, а астатнія грошы растэрмінаваны на 37 гадоў па 269 рублёў 9 капеек у год[142]. Падобна, неабходныя сумы былі выплачаны раней, і 29 ліпеня 1904 г. Савет Міністраў канчаткова дазволіў далучыць да горада прылеглы фальварак "Ферма" - 34 дзесяціны і 1558 сажняў квадратных[143].

Яшчэ ў 1898 г. было вырашана забрукаваць вуліцу *"Каменскую ад вуліцы* (Віленскай - *Л.Л.*) да *гарадскога калодзежа"* [144]. У 1904 г. робіцца капітальны рамонт маста па Наваградскаму тракту і папраўка астатніх мастоў у горадзе[145]. У 1906 г. канчаткова ўпарадкавана Лідская вуліца да ракі. Пачынае будавацца памяшканне для грамадскіх вагаў на Рынку[146], будоўля закончаная толькі ў 1913 г.[147]

Пастановай сходу гарадскіх упаўнаважаных ад 19 сакавіка 1909 г. гарадскому старасце даручана забрукаваць Школьную вуліцу да Выгана і частку Замкавай плошчы, акрамя гэтага *"гарадскія масты на*

*рацэ Лідзейцы па Замкавай вуліцы і на ручаі Каменка падчас манеўраў, якія адбыліся ў жніўні 1909 г., ад частага руху артылерыі і кавалерыі зусім расхісталіся і патрабуюць новага насцілу, на што спатрэбіцца 400 рублёў"* [148].

26 траўня 1911 г. выдадзены грошы на куплю прыватных палос зямлі для правядзення дарогі да станцыі Ліда ад Дваранскай вуліцы да пераезду[149]. Справа ў тым, што прыкладна на месцы сучаснай вуліцы Труханава былі сельскагаспадарчыя землі Дварцовай слабады (зараз проста Слабады) і жыхары Слабады не жадалі, каб вуліца даходзіла да чыгункі, бо трацілі агароды. У 1913 г., не выкупіўшы зямлі, Гарадская ўправа пачала *"перамовы з тэхнікамі аб нівеляванні Дваранскай вуліцы* (зараз, бул. Гедзіміна - *Л.Л.*) *да шашы. За нівеляванне просяць 3 000 руб. З правядзеннем гэтай вуліцы згодна з планам да Слабады не згодныя сяляне, участкі якіх месцяцца за домам сп. спраўніка і не павінны адчужацца"* [150]. З гэтай зацемкі бачна, што лідскі спраўнік Яўген фон Гротэ дэ Буко меў дом па бульвары Гедзіміна, недзе насупраць сучаснага аўтавакзала.

У 1912 г. вырашана будаваць новы калодзеж на Ферме і адрамантаваць існыя калодзежы на Рынкавай плошчы і Каменскай вуліцы[151]. У 1913 г. вырашана наняць архітэктара для пабудовы дома для гарадского кіравання, на рамонт трох калодзежаў выдаткавана 47 рублёў[152]. Здаецца, менавіта тады калодзеж на Рынкавай плошчы атрымаў альтанку, якая праіснавала да 1941 г.

У 1910 г. гарадскія ўлады ўвялі падатак на сабак, 30 капеек з сабакі[153]. Усяго горад атрымліваў 30 рублёў у год - на ўліку мелася 100 сабак. Таксама дадатковым падаткам былі абкладзены лідскія піўныя[154]. Але ўжо ў 1914 г. "з сабак" узялі толькі 15 рублёў - горад страціў палову "чатырохногіх сяброў". Піва ж, здаецца, меней піць не сталі.

У красавіку 1911 г. "Кур'ер ..." пісаў: *"Да Ліды прылягаюць і складаюць з ёй адно цэлае наступныя прадмесці: Дварцовая слабада, Зарэчча, Каменка і Вісманты. Яны карыстаюцца ўсімі прывілеямі горада акрамя аднаго - паліцэйскага нагляду. Для далучэння іх да горада неабходна ўзяць на службу аднаго афіцэра, трох унтэр-афіцэраў і 8 шараговых паліцыянтаў. Афіцэр будзе штогод зарабляць 726 руб., 200 руб. кватэрных, 500 на канцылярыю - разам 1425 руб. Унтэр-афіцэр 400 руб. зарплаты і 100 кватэрных, шараговыя па 240 руб. зарплаты. У суме - 4846 руб. у год. У сувязі з гэтым Віленскі губернатар звярнуўся да гарадскіх уладаў з пытаннем, якую частку гэтай сумы яны могуць узяць на сябе"* [155].

У 1913 г. прэса паведамляла, што наймальнікі кватэр нашага горада жаліліся на рост арэнднай платы за кватэры: *"Шмат хто спадзяваўся на тое, што з перасяленнем войскаў у казармы кошты знізяцца. Але гэтага не адбылося. Прычына ў тым, што колькасць насельніцтва павялічваецца, а тэрыторыя горада не расце - з аднаго боку горад абмяжоўвае рака Лідзейка, а з другога інертнасць Гарадской управы. Ужо некалькі гадоў кажуць пра тое, што выган падзелены на ўчасткі, якія будуць прадавацца з гандляў. Але гэтага не робіцца"* [156].

**Аптэкі.** Першая аптэка з'явілася ў Лідзе ў 1626 г. На працягу XVIII ст. аптэкі ў Лідзе і Шчучыне мелі піяры. Вядома, што ў 1845 г. аптэка працавала пры Лідскім гарадскім шпіталі, лекі яна атрымлівала з Віленскай казённай аптэкі, але лекарскі вучань І. Ройша *"лекі, прызначаныя для карыстання ў гэтым шпіталі, адвольна раздае дахаты воінскім чынам"*. За гэтыя парушэнні вучань быў адхілены ад працы. У 1851 г. утрымальнік Лідскай шпітальнай аптэкі Зэдлер з 1 студзеня 1851 г. перадаў у летняе арэнднае ўтрыманне сваю аптэку правізару П.І. Юрцэвічу, які вывучаў фармацэўтыку ў Маскоўскім універсітэце. Медыкаменты ў аптэку па каталогу дастаўляліся з Віленскай казённай аптэкі ці вырабляліся з лекавых траў у самой аптэцы. Правізар П.І. Юрцэвіч стала служыў у Лідскім ваеннačасовым шпіталі з 1851 г., *"за бездакорную выслугу ўзаконеных гадоў"* Віленская лекарская ўправа прадставіла яго да наступнага чыну.

У 1871 г. у Лідзе працуе адна аптэка нашчадкаў правізара Зэдлера ў арэндзе ў асэсара Голуба, кіруецца правізарам Шымкевічам[157]. Правізарам дапамагалі аптэкарскія памагатыя, якія на працягу года вучыліся ў правізара на пасадзе аптэкарскага вучня. У паслужным спісе аптэкарскага вучня Я.М. Барана, які падпісаў правізар Лідскай вольнай аптэкі Э.І. Качынскі, указана, што Баран мае *"ўзрост 21 год, вытрымаў экзамен у Суражскай прагімназіі на права паступлення ў аптэкарскія вучні, аб чым яму выдадзена пасведчанне ад 17.12.1885 г. за № 432. У 1886 г. паступіў аптэкарскім вучнем у Шчучынскую вольную аптэку да правізара Горба. У Лідскую вольную аптэку паступіў у 1886 г. і пакінуў яе ў 1887 г. Працуючы ў аптэцы, свае абавязкі выконваў акуратна, паводзіны добрыя"* [158]. Аптэчны склад Якава Барана на рынку існаваў яшчэ ў 1928 г.

У 1887 г. з гадавой справаздачы Лідскага гарадскога лекара бачна, што ў Лідзе дзве аптэчныя лаўкі - Вальфовіча і Эпштэйна, якія, нягледзячы на забарону, прадаюць лекі па рацэптах.

Пасля вялікага пажару 1891 г. новая вуліца Садовая была прарэзана ад Сінагогі да вуліцы Каменскай. На ўсім участку, дзе яна ішла раней быў вялікі пладовы сад, які належаў фармацэўту Юстыну Шымкевічу. За плотам з невялікіх драўляных пралётаў, стаяла аптэка фармацэўта і яго дом. Пасля пажару, фармацэўт страціў сад і прадаў свой участак для забудовы яўрэям. У 1899 г. Шымкевіч атрымаў 35 рублёў за зямлю якая адчужалася ў яго для правядзення Садовай вуліцы[159].

Яшчэ ў 1890 г., за год да "вялікага пажару" ў Лідзе мелася аптэка Льва Стабінскага[160], якую ён выкупіў у Шымкевіча. Праз нейкі час аптэка пераехала на вуліцу Віленскую (аптэка Стабінскага Льва Флaрыяновіча -*Л.Л.*). Пазней яна была прададзеная Ф. Бергману, атрымала назву "Старая аптэка" і пад такой назвай існавала да 1939 г.

У 1894 г. Ліда мела тры аптэчныя крамы, і тры-

мальніка аптэчнай крамы Вальфовіча судзілі за выраб лекаў па рацэптах лекараў, але судом ён быў прызнаны невінаватым.

У 1897 г. у Эпштэйна знойдзены моцна таксічныя рэчывы класу "А", гандляваць якімі ён не меў права, да таго ж знойдзены прыгатаваныя ім лекі, вырабляць якія ён таксама не меў права. А ў аптэчнай краме Вальфовіча было выяўлена нядбайнае захоўванне медыкаментаў, прычым, моцнадзейныя сродкі знаходзіліся разам з іншымі лекамі, некаторыя рэчывы былі сапсаваны з-за дрэннай упакоўкі, і гаспадар наогул не прадставіў дазвол на права адкрыцця сваёй аптэчнай крамы. Міравы суддзя прысудзіў яго да двух месяцаў турэмнага зняволення[161].

**Чыгунка.** У снежні 1912 г. было паведамлена, што Міністэрства шляхоў зносін выпрацоўвае новы статут аб службе на казённых чыгунках. На службу будуць прымацца ўсе падданыя, пачынаючы з узросту 17 гадоў, якія не з'яўляюцца сябрамі нелегальных партый і раней не судзімыя. Жанчыны дапускаліся на службу, але без атрымання імі правоў дзяржаўнай службы. Усе службоўцы былі абавязаны захоўваць службовую таямніцу, быць ветлівымі і пачцівымі ў адносінах з старэйшымі па службе. Тыя, хто праслужыў два гады, атрымлівалі прывілей пастаяннага службоўца[162].

Газета "Лідскае слова" ў двух нумарах надрукавала цікавы артыкул інжынера Г. Грыга, напісаны паводле высноў лідскай павятовай дарадчай па дарожным будаўніцтве камісіі. З-за цікавасці артыкула, я дастаткова падрабязна падам яго змест:

*"Пра важнасць чыгунак шмат напісана. Аднак, пры іх будаўніцтве часта робіцца так, што гарады і вузлавыя станцыі абслугоўваюцца добра, а малыя гандлёвыя пункты не маюць доступу да чыгункі. Часта чыгункі пракладваюць з стратэгічных меркаванняў, а не для гандлёвага ці прамысловага развіцця, і яны не служаць тым раёнам, праз якія праведзены. Такія чыгункі не прыбытковыя і не апраўдваюць сябе.*

*Справа ідзе як раз пра чыгуначную лінію Балагое-Сядлец, якая перасякае Лідскі павет. Служачы скразному транзіту тавараў і ў малой ступені патрэбам павета, яна не спрыяе развіццю прамысловасці і гандлю, а нават знішчае тое, што ўжо было дасягнута раней праз прыватную ініцыятыву.*

*Станцыі гэтай лініі знаходзяцца далёка ад мястэчак, вёсак і маёнткаў, што падвышае кошт дастаўкі тавараў, тым больш што грунтовыя дарогі ўвосень і ўвесну практычна адсутнічаюць. Нешматлікія шашэйныя дарогі не дапамагаюць, бо, напрыклад, наша галоўная шашэйная дарога ідзе паралельна новай чыгунцы. Гандляры мястэчка Васілішкі лепш едуць па шашы 28 вёрст у Ліду, чым 4 вярсты да станцыі Скрыбаўцы.*

*Лесаматэрыялы, галоўны артыкул прыбыткаў нашага павета, гніюць па два і больш гады, чакаючы часу, калі іх можна будзе вывезці. ... і лясныя гаспадаркі не маюць магчымасці гандляваць з прыбыткам. ...*

*У паўднёва-заходняй частцы павета добра расце бульба. У апошні час яна праз порт ў Лібаве пачала прадавацца за мяжу. Але і збыт бульбы абмяжоўваецца тымі ж прычынамі. Пры наяўнасці шляхоў зносін Лябёдская і Васілішская волаці маглі б вывозіць па 300 000 пудоў бульбы. Для сушкі бульбы на экспарт маецца нават адмысловы завод, які аднак не можа прыбыткова працаваць.*

*... Збыт ячменю і жыта абмяжоўваецца патрэбамі 2 бровараў і 1 дрожджава-вінакуранага завода.*

*Урадлівыя ўчасткі зямлі па рэках Лебяда, Касцянёўка і на захад ад іх праз нейкі час могуць ператварыцца ў плантацыі буракоў. Першыя доследы ў гэтай справе далі выдатныя вынікі. Праектуецца пабудова цукровага завода, які зойме пад буракі 1 000 дзесяцін. Для атрымання неабходных матэрыялаў і адпраўкі прадуктаў вытворчасці спатрэбіцца 2 339 вагонаў.*

*У некаторых месцах павета шмат будаўнічага каменю, ён вывозіцца покуль толькі праз станцыю Ражанка. А ў кірунку Васілішак бескарысна ляжаць цэлыя кучы сабранага каменю, з-за адсутнасці дарог яго немагчыма вывозіць у Скрыбаўцы.*

*Усё гэта разам прыводзіць да думкі, што чыгунка, пракладзеная ў патрэбным кірунку, зможа вырашыць гэтыя праблемы.*

*З гэтай мэтай ў 1898 г. абшарнікі Лідскага павета стварылі праект злучэння станцыі Ратамка, Лібава-Роменскай чыгункі, з станцыяй Гародня, С-П. - Варшаўскай чыгункі.*

*Праз нейкі час была пабудавана Балагое-Сядлецкая чыгунка, якая на участку Маладзечна-Ліда прайшла прыкладна па меркаваным абшарнікамі маршруце, аднак на захад ад Ліды, маючы толькі ваенныя мэты, абмінула ўсе значныя населеныя пункты.*

*Каб з карысцю для насельніцтва паправіць гэта і ўзняць дабрабыт павета, лідская павятовая дарадчая па дарожным будаўніцтве камісія прапанавала пабудаваць адгалінаванне чыгункі працягласцю 101,5 вярсты. Яна павінна злучыць прыстань на Нёмане ў Орлі і праз Жалудок выйсці да Скрыбаўцаў, далей на Васілішкі, каля вёсак Арцішкі і Баяры, праз лясныя масівы князя Друцкага-Любецкага, потым праз Астрыну і далей каля казённых уладанняў будаўнічага лесу злучыцца з станцыяй Гародня.*

*Трэба заўважыць, што мястэчкі Жалудок, Васілішкі і Астрына вядуць буйны гандаль хлебам, быдлам і свіннямі. Акрамя таго Васілішкі гандлююць насеннем ільну, а Жалудок і Астрына - коньмі.*

*Праектаваная лінія на ўчастку Скрыбаўцы - Орля дакранецца да лясоў князёў Святаполк-Чацвярцінскіх плошчай 11 608 дзесяцін з штогадовай высечкай у 10 175 куб. сажняў дрэва. Большая частка лесу пойдзе на станцыю Скрыбаўцы, а меншая частка - плытамі па Нёмане. Тут жа маецца 300 дзесяцін казённага лесу з штогадовай высечкай у 35 куб. сажняў.*

*На участку Васілішкі - Астрына праектаваная чыгунка павінна прайсці каля лясных прыватных участкаў агульнай плошчай 6 130 дзесяцін: з іх 4 000 належыць князю Друцкаму-Любецкаму, а 1 500 дзесяцін -*

*Грабоўскаму. Высечаны тут лес да гэтага часу гужавым транспартам вывозіцца ў Ліду.*

*Далей ідзе казённы лес плошчай у 3 000 дзесяцін.*

*На шляху ад Астрыны да Гародні маецца лес князя Сапегі плошчай 5 245 дзесяціны, і 1 524 дзесяціны лесу ляжыць за межамі павета. Штогадовыя высечка - 4 875 куб. сажняў лесу. Чыгунка бліжэй да Гародні зможа абслугоўваць казённыя лясы плошчай у 49 384 дзесяціны і прыватны лес плошчай у 8 506 дзесяцін*[163].

*Супаставім кошт лесу ў гэтых мясцінах з магчымым прыбыткам і заўважым, што зараз гэтыя лясы маладаступныя, бо ўвесь прыбытак з'ядае даставка грузу. Напрыклад, пры кошце кубічнай сажні лесу ў 30 руб. за перавозку яе коньмі прыйдзецца заплаціць 20 руб.*

*У павеце ёсць яшчэ фанерная, мукамольная, вінакурная і папяровая фабрыкі, і таму агульны рух можа скласці 28 511 вагонаў. Пры будаўніцтве па роўным месце паміж водападзелаў, без рэек, стрэлак і рухомага саставу, будаўніцтва 1 вярсты можа каштаваць 25 000 руб.*

*Адсутнасць эканамічнага росту на Лідчыне прымушае звярнуць увагу на гэты праект і дамагчыся асігнавання неабходных сродкаў"* [164].

Дадам, што ад станцыі Скрыбаўцы да Васілішак падчас Першай сусветнай вайны была пабудавана вузкакалейка.

Маленькі артыкул ў "Лідскім слове" ўказвае нам месца, дзе стаяў першы лідскі, яшчэ драўляны вакзал: *"Па дарозе, якая вядзе да старога вакзала, каля вокнаў казённага віннага склада растуць тры дрэвыклёны. У Лідскую паліцэйскую ўправу паступіла ... прашэнне ад загадчыка канторы віннага склада, у якім ён просіць ссекчы дрэвы, спасылаючыся на тое, што "яны сваім ценем перашкаджаюць выконваць работы па разліве пітва і працаваць у канторы, а таксама вільгаццю псуюць дах"* [165].

Да старога вакзала вяла вуліца, якой зараз няма, вакзал стаяў прыкладна там, дзе зараз у былых чыгуначных пакгаўзах знаходзіцца мэблевая крама. На картах да 1915 г. у Лідзе абазначаны два вакзалы - новы, пабудаваны ў 1906 г. (стаяў там жа, дзе і зараз) і стары, які існаваў з 1882 г., з часоў пабудовы першай Палескай чыгункі, што прайшла праз Ліду. Абодва вакзалы былі спаленыя ў 1915 г.

**Трэці казённы вінны склад** - месца захоўвання і разліву моцных спіртовых напояў. Лідскі № 3 казённы вінны склад пачаў працаваць у сакавіку 1897 г. Загадчык Аляксей Іванавіч Даўгоў, на пасадзе з 6 сакавіка 1897 г., праваслаўны; яго памочнік Віктар Георгіевіч Пакроўскі, на пасадзе з 13 сакавіка 1897 г., праваслаўны. Лекар Мікалай Міхайлавіч Падвальнікаў, на пасадзе з 1 ліпеня 1898 г. Машыніст Мар'ян Адольфавіч Федаровіч, на пасадзе з 1897 г. Канторшчык Іван Мечыслававіч Балюкевіч, на пасадзе з 17 сакавіка 1897 г., католік; памочнік канторшчыка Сцяпан Восіпавіч Валасевіч, на пасадзе з 1897 г. Зборшчыкі: Клаўдзій Вікенцевіч Каліноўскі, на пасадзе з 16 ліпеня 1897 г., католік; Людвіг Пятровіч Пятрусевіч, на пасадзе з 27 лістапада 1897 г., католік; Сцяпан Восіпавіч Палтаракевіч, на пасадзе з 16 чэрвеня 1897 г., мусульманін[166].

Гмахі гарэлачнай манаполіі былі пабудаваныя да 1897 г. і захаваліся да нашага часу на тэрыторыі сучаснай дрэваапрацоўчай фабрыкі. З канца 1930-х гг. у іх месцілася другая турма.

**Вулічнае асвятленне**. Ужо ў 1832 г. Ліду па начах асвятлялі 16 ліхтароў, што каштавала гораду 20 срэбных рублёў[167].

Дадатковую пастанову пра паляпшэнне вулічнага асвятлення ў Лідзе гарадскія ўлады прынялі ў 1896 г.[168] На ўтрыманне вуліц, плошчаў, маставых, тратуараў грамадскіх паркаў і асвятленне горада ў 1897 г. прызначалася сума ў 300 руб. Дадаткова, на ўтрыманне і рамонт слупоў і ліхтароў выдзялялася 200 руб.[169]

У 1903 г. было ўстаноўлена 10 новых ліхтароў, столькі ж у 1904 г.[170] Таму ў 1904 г. горад асвятляла ўжо 60 ліхтароў на газе[171].

Вынікам далейшага ўдасканалення ліхтароў на газе стаў газава-напальны ліхтар. Ён уяўляў сабой доўгі цыліндр, які ўнізе заканчваўся шкляным каўпаком з рэфлектарам. Рэзервуар для газы меўся ў верхняй частцы ліхтара. Адсюль паліва па трубцы сцякала ўніз, у выпарнік. Пары газы выходзілі струменем з фарсункі і, змяшаўшыся з паветрам, згаралі ўнутры напальнай сеткі. Пры гэтым сетка распальвалася і давала моцнае святло.

З 1908 г. пастановай збору гарадскіх упаўнаважаных для асвятлення горада ўводзяцца менавіта гэтыя, газава-напальныя, ліхтары[172]. Ужо ў 1911 г. горад асвятлялі 18 напальных ліхтароў[173]. На адзін ліхтар горад аплачваў 25 пудоў газы ў год па 1 руб. 60 кап. за пуд на суму ў 40 руб., ці 720 руб. на ўсе 18 ліхтароў. Ліхтаршчыку-манцёру, які абслугоўваў абсталяванне, выплачваўся добры гадавы заробак у 300 руб. Закупка напальных сетак і спірту для распальвання ліхтароў, а таксама само распальванне ліхтароў кожны вечар абыходзілася ў 1 000 руб. штогод[174].

Абыходжанне з напальным ліхтаром патрабавала добрага спрыту. Перш чым запаліць яго, трэба было разагрэць выпарнік. Для гэтага ў спецыяльны кубак, які знаходзіўся каля выпарніка, наліваўся спірт, які потым падпальвалі праз асаблівую адтуліну ў сценцы ліхтара.

Як жа запальвалі ліхтары? Ліхтаршчыкі не лазілі на слупы, бо ліхтар падвешваўся на металічным кранштэйне, які ўстанаўліваўся на верхавіне высокага драўлянага слупа. Кожны вечар ліхтар спускалі ўніз на тросе пры дапамозе лябёдкі, ён запраўляўся газай, праціралася шкло, а потым ліхтар распальваўся і ўздымаўся на верх слупа. У кожнага ліхтаршчыка былі ключ ад лябёдкі і каляска для перавозкі ёмістасці з газай. Ліхтаршчыкі кожны вечар, у любое надвор'е, у прапахлай газай вопратцы кацілі свае каляскі ад слупа да слупа. Запаліць і пагасіць ліхтары трэба было ў

строга вызначаны час[175]. Гэтыя ліхтары добра бачны на некаторых старых здымках нашага горада.

У 1912 г. дадаткова да існых планавалася ўстанавіць *"8 новых звычайных газавых ліхтароў на слупах на кранштэйнах"* [176]. У той жа год лідскі спраўнік Яўген фон Гротэ дэ Буко закупіў для горада яшчэ 17 самых сучасных на той час напальных ліхтароў рыжскай фірмы "Люкс" [177]. "Лідскае слова" каментавала стан гарадскога асвятлення: *"Сабралі грошы з нашых бедных гараджан і абяцалі, што будзе святло, а потым, аказваецца, калі свеціць месяц - ліхтары не запальваюць, а ў цёмныя ночы ... яны ўсяроўна не гараць, а калі гараць, дык толькі ў некаторых месцах, якія карыстаюцца асаблівымі перавагамі. Узімку, калі на вуліцах слізка, гэта добра адчуваецца нават не надта патрабавальнымі нашымі гараджанамі"* [178].

У наступным, 1913 г. годзе ў Лідзе ўстанаўліваецца яшчэ 8 новых ліхтароў[179]. Аднак не хапае грошай, і лідзяне не задаволены: *"У апошні час шмат хто жаліцца на ... адносіны Гарадской управы да пытання асвятлення. У апошнія 3-4 дні, нягледзячы на тое, што было цёмна, зусім не запальвалі ліхтароў. ... кожны домаўладальнік горада Ліды плаціў за ўсталяваныя ліхтары і спадзяваўся, што ўправа будзе добрасумленна выконваць свае абавязкі. ... тлумачэнні ўправы, што "не хапае спірту, яго не прадаюць у вялікай колькасці, яго няма дзе трымаць" з'яўляюцца ... наіўнымі. І калі наша Гарадская ўправа застанецца глухой да нашых законных патрабаванняў ... дык калі наступяць новыя выбары трэба помніць, што старая ўправа нікуды не годная"* [180].

І толькі са з'яўленнем у 1916 г. Лідскай электрастанцыі, паступова асвятленне горада стала электрычным.

**Пошта, тэлефанізацыя, электрыфікацыя і іншае.** Праз газету Лідская паштова-тэлеграфная кантора звярнула ўвагу *"публікі на тое, што ў апошні час з паштовых скрыняў часта вымаюцца лісты без адрасоў"* [181]. Праз нейкі час адміністрацыя пошты надрукавала абвестку: *"Лідская паштова-тэлеграфная кантора паведамляе, што тэлеграмы якія паступілі для асоб з прозвішчамі, якіх у горадзе шмат: Пупко, Цыгяльніцкі, Шапіра, Гурвіч, Вінер, Палячак, Майшовіч, Каган і інш., дастаўляцца не будуць. У тэлеграме акрамя прозвішча неабходна паведамляць назву вуліцы і № дома. Асобы, якія жадаюць атрымліваць тэлеграмы па скарочаным і ўмоўным адрасе, павінны падаць заяву з паведамленнем пра гэта і аплаціць 10 рублёў ... Спіс недастаўленых тэлеграм: З Варшавы ў Ліпнішкі на прозвішча Кейль, з Эйшышак на прозвішча Нарбут, з Варшавы на прозвішча Бабіс, ... з Пецярбурга на прозвішча Свярдлоў"* [182].

У самым канцы 1912 г. павялічылася колькасць паштовых скрыняў у горадзе. Да трох, якія былі раней, дадаліся яшчэ тры - на Рынкавай плошчы, Каменскай вуліцы каля гімназіі Навіцкіх і на Зарэччы. Каб рэгулярна вымаць лісты, набыта адмысловая паштовая карэта[183].

З'яўленне новых паштовых скрыняў "Лідскае слова" пракаментавала ў рэдакцыйным артыкуле: *"Наш горад узбагаціўся трыма паштовымі скрынямі. Было ўсяго тры, а зараз шэсць. Калі памятаць, як доўга існуюць Каменская вуліца, Рынкавая плошча і Зарэчча, дык прыйдзем да высновы, што тым, хто адказвае за добраўпарадкаванне нашага горада, сталася сорамна перад гараджанамі ... І насамрэч, на працягу гадоў ніхто не падумаў пра неабходнасць усталявання новых скрыняў. ... Гэтыя паштовыя скрыні - сімвал нашай коснасці, нашай абыякавасці да свайго жыцця"* [184].

На пачатку новага, 1913 г. лідзянам было заяўлена пра некалькі інавацый, якія павінны былі ў лепшы бок змяніць патрыярхальнае жыццё горада, наблізіць яго да еўрапейскіх гарадоў.

Па-першае, Лідская паштова-тэлеграфная кантора давяла *"да ведама асоб, якія маюць жаданне абаніравацца* (стаць абанентам - *Л.Л.*) *гарадской тэлефоннай сеткі ў Лідзе, бо ўладкаванне тэлефоннай сеткі ў горадзе прызначана на 1913 г., і на гэта ўжо запрошаны адпаведны крэдыт. Асоб, які жадаюць абаніравацца, але па нейкай прычыне не патрапілі ў спіс абанентаў, кантора просіць як хутчэй заявіць аб сваім жаданні"* [185].

Па-другое, Лідскае гарадское спрошчанае грамадскае кіраванне аб'явіла *"домаўладальнікам г. Ліды, што жадае ўладкаваць у горадзе Лідзе водаправод і электрычнае асвятленне і просіць тых, хто жадае карыстацца вадой і электрычным святлом ... на працягу месяца запісацца ў Гарадской управе. Запіс патрэбны для статыстыкі і тых, хто падпісаўся, ні да чаго не абавязвае"* [186].

Рэдакцыйны артыкул "Лідскага слова" пракаментаваў гэтыя навіны: *"Гарадская ўправа сілкуе нас надзеяй на тое, што ў хуткай будучыні мы, лідскія абывацелі, пачнём жыць жыццём, падобным на жыццё культурных людзей культурных гарадоў. Будзе у нас тэлефон, электрычнасць, водаправод, адным словам, будзе ў нас усё тое, чым ганарыцца XX ст. Аднак мы не ведам, калі гэта будзе, і было бы занадта наіўна думаць, што ўсё гэта з'явіцца ў нас у хуткай будучыні, асабліва ведаючы чарапашую хуткасць развіцця нашага горада. Да гэтага часу ў нас пачатак XIX ст. спрачаецца з XX ст. Абяцаюць нам водаправод, а вадзяны млын - гэты сейбіт заразы і розных хвароб да гэтага часу стаіць непахісна, і гарадскія дзеячы не думаць пра тое, што яго трэба ліквідаваць і такім чынам асушыць наш горад"* [187].

У тым жа нумары відочна знаёмы з інжынернай справай нехта Ф. Ляскоўскі ў артыкуле "Да пытання пра электрычнае асвятленне ў г. Лідзе", прапанаваў скарыстацца энергіяй нашай рэчкі Лідзейкі: *"На першы погляд з'яўленне ў нашым горадзе электрычнага асвятлення малавераготнае. Бо, звычайна ўсталяванне электроўні патрабуе велічэзных грошай - сотняў тысяч рублёў, якія наш горад, які налічвае каля 20 000 жыхароў не зможа знайсці. Самі па сабе крыніцы электрычнага току - дынама-машыны не надта дарагія, але патрэбны яшчэ і салідныя рухавікі, якія*

*павінны мець магутнасць нават да сотні конскіх сіл. Гэтыя апошнія ў дзясяткі разоў даражэй за дынамамашыны. І гэта не ўсё. Для працы рухавікоў патрэбна паліва - мазут ці газа. Як бачым перспектывы не надта прыемныя"* [188]. Таму аўтар артыкула прапануе замест млына, усталяваць на рацэ Лідзейцы гідрастанцыю і такім чынам зэканоміць на рухавіках і паліве: *"Трэба толькі зрабіць ачыстку гарадскога става, які хутка ўсяроўна ператворыцца ў лужыну бруду і рассаднік малярыі, і ўсталяваць новыя вадзяныя турбіны".* Ляскоўскі заўважае, што *"электрычнасць знойдзе самае разнастайнае выкарыстанне ў нашым жыцці: электрычнае асвятленне вуліц (карыстаемся газава-калільнымі ліхтарамі, якія гараць "калі месяц не свеціць" ці ў афіцыйных месцах), у казённых і прыватных установах, тэатрах, клубах, крамах, у гарадскім парку, а таксама ў кватэрах заможных гараджан. ... Трэба нам, жыхарам культурнага горада, сур'ёзна падумаць пра выкарыстанне дармовай сілы прыроды, і тады пытанне пра электрычнае асвятленне ў г. Лідзе можна будзе лічыць вырашаным"* [189].

Дадам, што з інжынернага пункту погляду на такой малой рацэ як Лідзейка нельга мець станцыю дастатковай магутнасці, але гораду ў той час патрабавалася не больш за 100 кВт - першая электроўня, якая з'явілася ў 1916 г. падчас акупацыі, як раз і мела прыкладна такую магутнасць.

Вядома, што ў 1910-х гг. з-за адсутнасці гарадской тэлефоннай сеткі лідскі полк, які тады яшчэ быў раскватараваны па прыватных кватэрах, уладкаваў сабе палявую тэлефонную сувязь. Ці атрымалі лідзяне да 1914 г. тэлефонную сувязь - не вядома, магчыма і атрымалі. На паштоўках часоў першай нямецкай акупацыі бачна, што каля лідскай пошты з'явілася размеркавальная стойка тэлефонных дратоў, а ў 1918 г. лідскі рэўкам сярод іншага, загадаў узяць пад свой кантроль і тэлефонную станцыю[190].

Першая гарадская электроўня з'явілася толькі ў 1916 годзе.

Вялікія праблемы горад меў з-за адсутнасці каналізацыі. Жыхар горада пісаў у "Лідскае слова": *"... аб нашым асенізацыйным абозе. Хто з нас, жыхароў горада, выходзячы пасля працоўнага дня падыхаць свежым паветрам, не затыкаў з агідай ноздры і не ратаваўся праз уцёкі ад "цяжкай артылерыі" ..., якая штовечар праязджае па найбольш людных вуліцах. Няўжо гэта нявіннае задавальненне - шпацыр па нешматлікіх тратуарах, занадта вялікая раскоша для абывацеля, які не мае ні тэатра, ні канцэртаў, ні лекцый, ні якой іншай культурнай забавы, даступнай жыхарам вялікіх гарадоў? А, можа, хто думае, што ў 10 гадзін ужо пара класціся спаць? Даўно пара замяніць наш абоз .. сучасным абозам ... з герметычна зачыненымі ёмкасцю і помпай ..."* [191].

Справа магла вырашыцца праз самадзейнасць жыхароў, напрыклад, у красавіку 1913 г. *"домаўладальнікі Лідскай вуліцы звярнуліся з хадайніцтвам у Гарадскую управу аб пабудове па гэтай вуліцы каналізацыі. У прашэнні яны пішуць пра антысанітарыю, бо на Лідскую вуліцу сцякаецца бруд з суседніх вуліц"* [192].

Але зрабіць каналізацыю да пачатку Першай сусветнай вайны не паспелі, і да гэтай праблемы зноў звярнуліся толькі ў канцы 1930-х гг.

Меліся праблемы і з чысцінёй на вуліцах. Газета пісала: *"Кожны з жыхароў горада ведае, як цяжка падтрымліваць чысціню на вуліцах горада. Нашыя домаўладальнікі не ў стане на свае грошы стала ўтрымліваць дворнікаў і таму для гэтых мэт з цяжкасцю знаходзяць рабочых на адзін дзень, у крайнім жа выпадку сам "барын" бярэцца за мятлу"* [193]. Другі лідзянін заўважаў: *"Ліда цягнецца ў шэрагі вялікіх гарадоў: хоць і мізэрнае асвятленне, але вуліцы падмятаюцца кожны дзень. На жаль, у апошні час з-за дажджлівага надвор'я не хапае працоўных рук, каб прыбраць увесь бруд. Ён збіраецца па абодвых баках вуліц у выглядзе вялікіх куч, якія з'яўляюцца пасткамі для тых, хто шпацыруе вечарам ці ноччу"* [194].

### Штодзённае жыццё

**Паліцыя.** Пасля паўстання 1831 г., на пачатку сакавіка 1832 г. у дадатак да павятовай у Лідзе была арганізавана гарадская паліцыя[195]. Ужо 12 сакавіка 1832 г. выканавец абавязкаў лідскага гараднічага падпалкоўнік Верашчак вырашыў за падтрымку паўстанцаў пакараць каталіцкае святарства і пачаў цяжбу з лідскімі касцёламі. На ўтрыманне *"паліцэйскай каманды"* ў гэты, 1832 г., горад выдаткаў 900 срэбных рублёў[196].

Пры канцы XIX ст. павятовай паліцыяй кіраваў спраўнік. Гарадской паліцыяй кіраваў гарадскі наглядчык, які падпарадкоўваўся павятоваму спраўніку. Напрыклад, у 1894 г. абавязкі гарадскога наглядчыка выконваў Сцяпан Цімафееў[197].

14 красавіка 1887 г. быў прызначаны штат лідскай паліцыі: 2 старшыя з акладам 132 руб. і 10 малодшых з акладам 108 руб. у год. Паліцэйскаму наглядчыку выплачвалася 100 руб., а ніжнім чынам - па 90 руб. кватэрных у год[198].

У 1890 г. на ўтрыманне паліцыі горад выдаткоўваў 1 844 руб., з гэтай сумы заробак - 1 344 руб., абмундзіраванне - 300 руб., наём памяшкання з ацяпленнем і асвятленнем - 200 руб. На наём памяшкання для паліцэйскага наглядчыка г. Ліды за 1889 і 1890 г. - 200 руб.[199].

Нашым галоўным паліцыянтам з 1888 па 1899 гг. быў лідскі спраўнік Сцяпан Мацвеевіч Ляўданскі. За сваю службу атрымаў розныя адзнакі і быў узнагароджаны ордэнам Уладзіміра 3-й ступені[200].

27 кастрычніка 1899 г. губернатар прызначыў на пасаду Лідскага спраўніка былога памочніка Віленскага павятовага спраўніка, надворнага дарадцу Махцэвіча[201]. Пра Аляксандра Ўладзіміравіча Махцэвіча вядома, што ён скончыў Віленскую пяхотную вучэльню і служыў у 107-м Траецкім пяхотным палку (Вільня)[202]. Надворны дарадца Махцэвіч нядоўга быў нашым спраўнікам. Хутка прэса паведаміла: *"Рэзалюцыяй губернскага праўлення ад 18-га лістапада (1900*

*г.) Лідскі павятовы спраўнік, надворны дарадца Махцэвіч з-за пераводу на службу ў Віцебскую губерню выключаны з ліку асоб ..., якія служаць ... у Віленскай губерні"* [203].

Надворны дарадца Мікалай Іванавіч Салаўёў скончыў Уладзімірскую духоўную семінарыю, на пасадзе Лідскага спраўніка з 11 лістапада 1901 г.[204] З прэсы даведваемся, што Лідскі павятовы спраўнік Салаўёў у 1901 г. атрымаў падзяку губернатара за дбайнае стаўленне да службовых абавязкаў[205].

31 студзеня 1905 г. загадам № 14 па Віленскім губернскім кіраванні *"начальнік земскай варты Новамінскага павета* (Мінск-Мазавецкі павет - *Л.Л.*) *капітан фон Гротэ-дэ-Буко, згодна з яго прашэннем, прызначаецца часовым выканаўцам абавязкаў Лідскага павятовага спраўніка"* [206]. З "Памятных кніжак Віленскай губерні" бачна, што з 1906 г. па пачатак 1914 г. ён узначальвае павятовую паліцыю. Назаўжды застаўся ў гісторыі як першы лідар беларускага нацыянальнага руху ў нашым горадзе.

31 студзеня 1906 г. быў вызначаны новы штат лідскай паліцыі: 4 старшыя з акладам 330 руб. і 17 малодшых з акладам 240 руб. у год. Паліцэйскаму наглядчыку выплачвалася 150 руб., а ніжнім чынам па 90 руб. кватэрных у год[207]. У тым жа 1906 г. удаве лідскага паліцэйскага Соф'і Камар прызначана аднаразовая дапамога ў памеры 10 руб.[208]

Як пісалася вышэй, пасля пашырэння Ліды ў 1911 г. колькасць гарадской паліцыі зноў павінна была павялічыцца.

Пасля адкрыцця Полацка-Сядлецкай чыгункі Ліда стала буйным чыгуначным вузлом, горад пачаў хутка расці, узняліся кошты на жытло. Лідскі спраўнік фон Гротэ дэ Буко 17 чэрвеня 1909 г. напісаў рапарт пра тое, што паліцэйскім не хапае прызначаных грошай на арэнду жытла. Таму Лідскі сход упаўнаважаных вырашаў павялічыць кватэрныя выплаты і акрамя гэтага прызначыць 100 руб. на закупку рэвальвераў і шабляў[209]. У выніку да раней выдаткаваных сум горад пачаў даплачваць павятоваму спраўніку 100 руб. і ягонаму памочніку 50 руб. у год. Паліцэйскаму наглядчыку Ліды даплачвалася 60 руб. у год[210].

У канцы 1912 г. Лідскі павятовы спраўнік фон Гротэ дэ Буко арыштаваў на пяць сутак конна-паліцэйскага ўрадніка Івана Грыгаровіча за тое, што той дазволіў сабе на шматлюдным зборы прамаўляць брыдкія словы супраць святара Дакудаўскай царквы Смірнова і прыстава 5 стану Інчыка[211].

Каб умацаваць дысцыпліну сярод падначаленых, Лідскі спраўнік выдаў адмысловы загад, аб чым пісала газета "Беларус" у лютым 1913 г.: *"Ліда. У загадзе павятовай паліцыі спраўнік звяртае ўвагу на тое, што стражнікі паліцыі прымушаюць сялян і крамнікаў даваць хабар і купляць ім гарэлку. Спраўнік папярэджвае, што калі паступіць ад каго такая скарга, дык абвінавачаны ў хабары ўраднік ці стражнік будзе выгнаны са службы без паяснення прычын, а калі будзе даказана, што прымушаў даваць хабар, дык тады будзе аддадзены пад суд"* [212].

Загадам Віленскага губернатара № 163 ад 6 ліпеня 1914 г. звальняецца ў адстаўку па яго заяве *"з-за хваробы, Лідскі павятовы спраўнік калежскі дарадца фон-Гротэ-дэ-Буко. Да часовага выканання абавязкаў Лідскага павятовага спраўніка камандзіраваны старэйшы чыноўнік для асаблівых даручэнняў пры Віленскім губернатары, калежскі дарадца Пешкаў"* [213].

Сумным быў лёс лідскіх паліцэйскіх. Да канца верасня 1915 г., перад уваходам нямецкіх войск у горад, усе ўстановы Ліды былі эвакуяваныя на ўсход. Часовы выканавец абавязкаў спраўніка А.Н. Пешкаў 28 жніўня 1916 г. праз свайго бацьку, генерал-лейтэнанта Н.Н. Пешкава, які ў ліпені 1916 г. быў прызначаны ваенным генерал-губернатарам заваяваных абласцей у Турцыі, арганізаваў распараджэнне № 26086 Дзяжурнага генерала Штаба Вярхоўнага галоўнакамандуючага: *"... камандзіраваць да генерал-губернатара абласцей Турцыі ... Пешкава в.а. лідскага павятовага спраўніка стацкага дарадцу Пешкава, паліцэйскага наглядчыка г. Ліды губернскага сакратара Лявіцкага ..., а таксама 18 пешых стражнікаў Лідскага павета"* [214]. Ці вярнуўся хто з шараговых лідскіх паліцэйскіх дахаты?

**Злачыннасць, здарэнні.** У канцы 1912 г. газета "Лідскае слова" ўзняла праблему хуліганства ў горадзе: *"У апошні час хуліганства з вялікіх гарадоў уварвалася ў нашу Ліду. Штодзённа чутна жальба мірных жыхароў, якія сталі ахвярамі розных зладзеяў - ласуноў, ... якія крадуць варэнне, зладзеяў-зухаў, якія не толькі ўначы, але і ўдзень дакучаюць людзям. Здымаюць з пасажыраў каракулевыя шапкі, крадуць футравыя муфты, футры ..."* [215] У тым жа нумары газета паведаміла, што 10 снежня ў 9 гадзіна раніцы ў Л. Далінскага (бацькі будучага прафесара-кіназнаўцы І.Л. Далінскага), *"калі ён ехаў на рамізніку на вакзал, скрадзена з галавы каракулевая шапка. Злачынца ўцёк"* [216]. У лютым 1913 г. зламыснік на рынку сарваў шапку з галавы Вадэйкі, а 11 лютага на Віленскай вуліцы хуліганы напалі на нейкага Бобліса і нават сарвалі з яго галёшы! У абодвух выпадках хуліганы затрыманы[217]. 14 траўня 1913 г. нейкі зух адвінціў 4 медныя замкі коштам 12 руб. з дзвярэй кватэры камандзіра мясцовага палка[218].

Стаў ахвярай злачынцаў ці быў іх хаўруснікам экспедытар бровара Пупко М. Вайнштэйн: *"3 студзеня ў 4 гадзіны раніцы на станцыі Сарны, калі цягнік адправіўся на Ліду, у піўным вагоне бровара М. Пупко знаходзіўся экспедытар М. Вайнштэйн. У дзверы вагона пастукаўся невядомы, які назваўся кандуктарам цягніка, і Вайнштэйн адчыніў дзверы. Невядомы кінуўся на экспедытара і пачаў душыць яго за горла. У выніку забраў 452 руб., у Вайнштэйна засталося 125 руб. Ад бровара ў паліцыю даслана патрабаванне дапытаць Вайнштэйна, з яго ўзята падпіска аб нявыездзе"* [219].

27 лютага 1913 г. ад бацькі з мачахай збегла 12-ці гадовая дзяўчынка Ганна Пруская. З сабой яна знесла вексаляў і іншых каштоўных папер на 4 000 руб![220]

Здараліся цяжкія злачынствы, якія выклікалі

абурэнне грамадства: *"7 снежня да ўрадніка 21-га ўчастка Пятроўскага прыйшла сялянка мястэчка Беліца Анастасія Ярушэнка і заявіла, што настаўнік Беліцкай народнай вучэльні З. схіляў да ўступлення ў палавую сувязь яе дачку Алену 13-ці гадоў і вучаніц Мар'ю С. (14 гадоў) і К., пакідаў іх пасля ўрокаў у класе і даваў ім за гэта грошы. Паліцэйскае дазнанне пацвердзіла заяву сялянкі. Справа перададзена судоваму следчаму"*. З рэдакцыйнага артыкула "Лідскага слова": *"Становіцца страшна за гэтых маленькіх дзяўчатак, становіцца балюча за прыроду чалавека, які жыве ў век электрычнасці, аэрапланаў ... Мы не ведаем, ці гэта псіхапаталагічны дэгенерат, ці распушчаны чалавек - вынік найнавейшай фармацыі, найнавейшай гнілой літаратуры"* [221].

Пазбаўлены правоў Паўлюкевіч (суджаны за нешта раней і па суду пазбаўлены правоў) у жніўні 1912 г. у публічнай установе (публічным доме) Вайна на Выгане ў запальчывасці і раздражненні прычыніў цяжкую рану шараговаму лідскага палка Жыліну, ад якой той памёр[222]. 19 студзеня 1913 г. той жа Паўлюкевіч у вазніцы земскай пошты Сольца А. Кандрацкага скраў покрыў з футры коштам 30 руб.[223] 7 сакавіка ў судзе слухалася справа аб забойстве ў публічным доме. Паўлюкевіч быў прыгавораны да арыштанцкіх рот на 2 гады і 2 месяцы[224]. Звычайна газета не пісала, дзе знаходзіліся аб'екты, у якіх адбылося злачынства, тое, што згадваецца публічны дом Вайна на Выгане, дазваляе выказаць здагадку, што Вайн у Лідзе недзе меў яшчэ адну гэткую ўстанову. Тым не менш, гэта адзінае згадванне ў прэсе месца, дзе знаходзілася такая спецыфічная ўстанова.

**Пажары.** Пажары былі вялікім бедствам нашага горада. У кастрычніку 1913 г.: *"Уначы 13, гэтага месяца, у Лідзе згарэла каля 20 дамоў у самай густа заселенай частцы горада. Згарэлі таксама тры заезды і шляхецкі клуб. Пажарнікаў тут няма, а якія ёсць, не маюць ні добрай каманды, ні добрага абсталявання. А жыве ў горадзе каля 20 тыс. чалавек. Ёсць прыгожыя крамы, розныя інстытуцыі, школы, нават электрычаства, дык аж ні хочацца верыць, што няма там добрай пажарнай каманды"* [225].

Думаю, трэба расказаць пра пажарную ахову ў нашым горадзе.

У 1832 г. за наём коней са збруяй для пажарных прыстасаванняў і аплату людзям горад плаціў 50 срэбных рублёў штогод[226]. Каштарыс расходаў горада ў 1885 г. паказвае, што для мэт барацьбы з пажарамі горад выдаткоўваў 800 руб. у год. Меўся абоз з пажарнымі прыстасаваннямі[227], ён месціўся каля мясных лавак на Рыначнай плошчы ў адмысловай адрыне, адрыну ахоўваў вартаўнік, якому плацілі 96 руб. у год. За рамонт пажарных інструментаў, вадзяной гарадской гаспадаркі і наём людзей і коней горад штогод плаціў 50 руб.[228] Пасля вялікага пажару 1891 г. за адбудову згарэўшай пажарнай адрыны гарадскія ўлады заплацілі 500 руб.[229] Гэткую ж суму некалькі гадоў горад выдаткоўваў *"розным гаспадарам за адчужэнне ў іх зямлі падчас перапланіроўкі горада пасля пажару ў 1891 г. для пашырэння і правядзення зноў пракладзеных вуліц"* - пры адбудове горада пасля вялікага пажару 1891 г. памянялася нават тапаграфія горада.

Для ўзмацнення пажарнай аховы ў 1892 г. набылі двух коней са збруяй, гэтыя коні стаялі ў новай пажарнай адрыне. Пакупка коней матывавалася *"забудовай горада пасля пажару 2-павярховымі дамамі і адсутнасцю коней для падвозу пажарных прыстасаванняў пры першай дапамозе. Гэта заўважана спадаром начальнікам губерні падчас рэвізіі горада летам 1897 г."* [230].

Сход гарадскіх упаўнаважаных 24 сакавіка 1898 г. дамовіўся з утрымальнікам пошты Сольцам, каб у выпадку пажару ён даваў бы 4-х коней з фурманамі, за што атрымліваў 200 рублёў штогод. Выдаткоўваліся грошы і на рамонт пажарнага абсталявання[231].

5 жніўня 1897 года міністр унутраных спраў Расіі зацвердзіў "Нармальны статут добраахвотнай пажарнай дружыны". І ўжо ў 1899 г. “Памятная кніжка Віленскай губерні” друкуе інфармацыю аб Лідскім добраахвотным пажарным таварыстве. Старшынём таварыства і начальнікам пажарнай каманды стаў надворны дарадца Ігнат Сабаткоўскі (скончыў Кобрынскае духоўнае вучылішча), ягоным намеснікам - Аляксей Копцаў (скончыў Лідскае павятовае вучылішча), загадчыкам маёмасці - ветэрынарны лекар Роберт Рэнерт (скончыў Юр'еўскі ўніверсітэт)[232]. Потым на працягу шэрагу гадоў кіраўнікі таварыства і ягоная структура мяняліся, што лёгка прасачыць па “Памятных кніжках Віленскай губерні” розных гадоў. Пачалі працаваць пажарныя таварыствы і ў мястэчках павета.

На пачатку XX ст. лідская гарадская добраахвотная пажарная каманда мела 4 помпы і 6 пажарных бочак[233]. Згодна з пастановай гарадскіх упаўнаважаных ад 12 лютага 1901 г. горад прыняў на сябе абавязкі штогод выдаткоўваць гарадскому пажарнаму таварыству з 1901 г. 300 руб. на рамонт прыстасаванняў, наём коней і страхоўку добраахвотнікаў ад няшчасных выпадкаў у адмыслова створаным для гэтага Ўсерасійскім таварыстве Блакітнага Крыжа[234]. У 1904 г. для пажарнага таварыства на той жа Рыначнай плошчы будуюцца стайні і памяшканне для вознікаў[235], дзе добраахвотнае таварыства таксама мела свой клуб.

У клубе пажарнікаў праводзіліся розныя культурніцкія мерапрыемствы, напрыклад, у суботу 1 снежня 1912 г. тут адбыўся баль-маскарад[236], *"было шмат масак з якіх найбольшую ўвагу звярнулі на сябе "Маладосць-старасць" і "Ўся Еўропа""*. Клуб меў сваю бібліятэку, але *"... стварыўшы яе, паставілі кропку і больш ёй не займаюцца"* [237].

Гараджане, спасылаючыся на практыку іншых гарадоў, праз прэсу прапаноўвалі абавязаць пажарнікаў падтрымліваць чысціню ў горадзе: *"У вялікіх гарадах і ў Еўропе дзейнасць пажарных каманд звязана з падтрыманнем чысціні на вуліцах. У летнія месяцы, калі ўздымаюцца воблакі пылу, на чыны пажарнай каманды ўзложаны абавязак паліваюць вуліцы і змываць смецце. Пажарная каманда з'явілася ў нашым горадзе амаль што 20 гадоў таму. Гараджане, уба-*

*чыўшы частыя практыкаванні выдатна абмундзіраваных добраахвотных пажарных з сучаснымі прыладамі для тушэння пажараў пад кіраўніцтвам бравага і нястомнага свайго кіраўніка - судовага прыстава Сабаткоўскага, супакоіліся. З тых часоў прайшло шмат часу. Кіраўнікі каманды сталі змяняцца, многія добраахвотнікі пачалі радзей прымаць удзел у практыкаваннях, і ў выніку з добрай пажарнай каманды засталася толькі жменька людзей, у тым ліку 2 - 3 па-найму, з 3 - 4 коньмі і малой колькасцю вогнетушыльных прылад, якія трэба даўно мяняць на новыя ці рамантаваць"* [238].

Кіраўніцтва пажарнай аховы ў траўні 1913 г. дало цікавую аб'яву ў газету: *"Начальнік 3-й трубы Лідскай добраахвотнай пажарнай дружыны запрашае ўсіх сваіх чальцоў прыйсці ў пажарнае дэпо ў нядзелю 2 чэрвеня ў 17-00, каб атрымаць пажарнае абмундзіраванне. Асобы, які не прыйдуць, будуць лічыцца выбыўшымі з 3-й трубы. У той жа дзень у дэпо будзе праводзіцца запіс новых добраахвотнікаў"* [239].

У такім стане Лідскае добраахвотнае пажарнае таварыства праіснавала да 1915 г.

**Лідскія вайсковыя часткі.** У Паўднёвым гарадку, у ноч з 2 на 3-га снежня 1912 г. ветрам была знесена частка даха элінга, убытак склаў 2 000 руб.[240] Падчас рамонту элінга, 8 снежня рабочы П. Кісялёў (з Разанскай губ.) упаў *"з сямісажанай вышыні і зламаў абедзве рукі, нагу і нос. Пасля некалькіх пакутных дзён ён памёр, пакінуўшы жонку і дзяцей"* [241].

У Паўночным гарадку *"Пётр Пескавы, будаваў студню на казарменным участку. Праходзячы каля гмаха афіцэрскага сходу, які яшчэ будуецца, ён, каб падтрымаць памост, захацеў узяць абрэзак бервяна, якое было зафіксавана ў сцяне. ... узняўся па лесвіцы на сцяну і паспрабаваў выцягнуць бервяно, але не ўтрымаў раўнавагі і ўпаў з вышыні. Прычым, тым жа бервяном, якое ўпала, атрымаў удар па галаве, ад чаго памёр у Лідскім шпіталі"* [242].

2 студзеня за ўкрывальніцтва беглага жаўнера 9-й паветраплавальнай роты Е. Яфрэмава арыштавана сялянка С. Кенць. Для арышту жаўнера быў пасланы аддзел стражнікаў[243].

6 лютага на пабудове казённых будынкаў 9-й паветраплавальнай роты з закрытага склада скрадзена 120 пудоў дахавага жалеза[244].

"Лідскае слова" паведаміла: *"У чацвер, 14 сакавіка былі звольнены ў запас жаўнеры 1910 г. На вакзале іх праводзіў ваенны аркестр"* [245].

Пра забойства Пахойкіна паведамляла практычна ўся тагачасная прэса, мясцовая газета не была выключэннем: *"17 кастрычніка шараговы 9-й паветраплавальнай роты Фурман забіў унтар-афіцэра Пахойкіна. Падпрапаршчык дазволіў Фурману адлучыцца з казармаў, а дзяжурны па роце Пахойкін не дазволіў. Фурман пайшоў у горад без дазволу, і Пахойкін паслаў па яго патруль, які вярнуў Фурмана ў казарму. Праз нейкі час Фурман зайшоў на кухню, дзе ў той момант знаходзіўся Пахойкін, і нечакана ўдарыў яго кінжалам"* [246].

**Дадатак 1**

***Міхал Шымялевіч***

**Пра гімназію, якая раней існавала ў Лідзе**[247]

Праектаваная да адкрыцця ў г. Лідзе мужчынская гімназія не з'яўляецца навіной для нашага горада. Тут даўным-даўно існавала сярэдняя навучальная ўстанова, якая падрыхтоўвала моладзь да вышэйшай адукацыі. Калі наканавана будзе ажыццявіцца запаветнай мары лідскіх абывацеляў, то можна будзе сказаць, што гімназія ў Лідзе не засноўваецца ізноў, але аднаўляецца наўзамен тут некалі існаваўшай.

За 28 вёрст ад г. Ліды, па старым Віленскім гасцінцы размешчана малюсенькае мястэчка Веранова. Мястэчка гэта раней звалася Балотным і толькі каля 1740 г. было пераназвана ўладальнікам яго Юзафам дэ-Кампа Сцыпіёнам у Веранова, у гонар сваёй жонкі, дачкі Камянецкага кашталяна Вярэны з Дубровіцы Фірлей (зараз, Воранава, - *Л.Л.*). У 1735 г. сучасны ўладальнік Веранова Ян дэ-Кампа Сцыпіён, яго жонка Тарэза, народжаная Глямбіцкая-Юзафовіч і сын Юзаф запрасілі ў м. Веранава кскс. піяраў, якія заснавалі тут школу. Дэ-Кампа Сцыпіёны на ўтрыманне гэтай школы запісалі пляцы пры рынку ў тым жа мястэчку, фальварак Лапацішкі з вёскай Вяканцы, якая складалася з 8 сялянскіх двароў і 1 пусташы, і капіталы: 5 тысяч злотых пад вэксалем у пана Бяньковіча, 10 тысяч злотых на Ражанскім кагале, 20 тысяч злотых на маёнтку Мерач і 5 тысяч злотых ад сябе. З 1736 г. у Вераноўскай піярскай школе пачаліся вучэбныя заняткі.

З-за інтрыг кскс. езуітаў, якія жадалі манапалізаваць права на народную асвету, у 1738 г. выкладанне ў Вераноўскай школе было спынена. Мясцовыя кскс. піяры абмежаваліся толькі падрыхтоўкай маладых людзей да святарскіх пасад. Толькі ў 1753 г. пасля дамовы піяраў з езуітамі, якая адбылася ў г. Нясвіжы, Вераноўская школа была адноўлена. У Веранове з-за нязначнасці самога мястэчка і аддаленасці яго ад населеных цэнтраў, цяжка было разлічваць на прыліў навучэнцаў, таму піяры вырашылі перанесці школу ў г. Ліду. Праект гэты быў ухвалены дэ-Кампа Сцыпіёнам.

У горадзе Лідзе ў першай палове XVIII ст., на тым месцы, дзе ў наш час размешчана прыходская праваслаўная царква, стаяла хата паноў дэ-Кампа Сцыпіёнаў з гаспадарчымі пабудовамі. Сын заснавальніка Вераноўскай школы Ігнат Сцыпіён перадаў гэтую хату пад памяшканне школы, якая з пачатку навучальнага 1775 г. была адкрыта ў Лідзе. Пасля Ігнат Сціпіён свой пляц запісаў ва ўласнасць Лідскай калегіі піяраў, яны ж атрымалі па запісе ад Лідскага земскага суддзі Юзафа Барымоўскага размешчаны побач другі пляц пад назвай "Шпорцікаўскі". Канстытуцыя 1775 г. пацвердзіла гэтыя набыткі і дазволіла піярам набыць яшчэ адзін суседні пляц, выключыла ўсе гэтыя пляцы з ведання Лідскай магдэбургіі і падпарадкавала іх земскаму праву.

Лідская школа піяраў, ператвораная пасля ў павятовую, была ў ліку лепшых. У 1815 г. тут выкладаліся прадметы: фізіка, французская мова, руская мова, польская і лацінская граматыка, геаграфія і інш. Акрамя першапачатковага фундушу, школа па запісе пана Войцаха Стацэвіча 16 сакавіка 1745 г. атрымала 20 тысяч злотых, забяспечаных на маёнтку Шчучын, за

якія павінна была ўтрымоўваць і выхоўваць аднаго вучня з роду Стацэвічаў, а па запісе пана Тамаша Мігдалы 1 лістапада 1781 г. - 12 тысяч злотых, забяспечаных на маёнтку Несікоўшчына, які належаў Лідскаму харунжаму Юзафу Нарбуту, з абавязкам таксама ўтрымоўваць і выхоўваць аднаго вучня з роду Мігдалаў. Матэрыяльныя сродкі Лідскай школы былі настолькі добрыя, што кскс. піяры набылі маёнтак Пастаўшчыну з вёскай Расьлякі.

На падставе Высачайшага ўказу ад 1 траўня 1832 г., у 1834 г. Лідская школа кскс. піяраў была закрыта, а замест яе заснавана павятовая вучэльня для мяшчан. Паводле Высачайшага ўказу ад 22 лістапада 1835 г. гэтая вучэльня з 1836 г. ператорана ў пяцікласную вучэльню для дваран, якая праіснавала да 1864 г., калі наўзамен яе была адкрыта павятовая двухкласная вучэльня.

У 1842 г. падчас вялікага пажару ў г. Лідзе будынак піярскай школы, а таксама і касцёл, які там жа знаходзіўся, былі знішчаны агнём. Нерухомая маёмасць школы перайшла ў скарб, а фундушовыя капіталы перададзены Віленскай навучальнай акрузе.

**Дадатак 2**

# Карта г. Ліды 1914 г.



**Крыніцы, заўвагі і тлумачэнні**

[1] Лидское слово № 2, 24 ноября 1912.
[2] Лидское слово № 10, 18 января 1913.
[3] Лидское слово № 12, 1 февраля 1913.
[4] Лидское слово № 13, 8 февраля 1913.
[5] Лидское слово № 11, 25 января 1913.
[6] Лидское слово № 14, 15 февраля 1913.
[7] Лидское слово № 15, 22 февраля 1913.
[8] Лидское слово № 16, 1 марта 1913.
[9] Рэклама бровара: *"Піва бровара спадчыннікаў Папірмайстра ў Лідзе вырабляецца з лепшых гатункаў соладу і хмелю без пабочнай прымесі і на здаровай артэзіянскай вадзе. Асабліва рэкамендуем "Двайное" і "Царскае піва" як напоі спажыўныя, выдатнага смаку і светлазалацістага колеру"* - Гл: Лидское слово № 3, 30 ноября 1912.
[10] Лидское слово № 16, 1 марта 1913.
[11] Памятная книжка Виленской губернии на 1892 г. Вильна, 1891. С. 316-317.
[12] Bielarus № 31, 23 кастрычніка 1913.
[13] Лидское слово № 2, 24 ноября 1912.
[14] Лидское слово № 25, 3 мая 1913.
[15] Лидское слово № 26, 10 мая 1913.
[16] Лидское слово № 14, 15 февраля 1913.
[17] Лидское слово № 26, 10 мая 1913.
[18] Виленские губернские ведомости № 61, 2 августа 1900.
[19] Виленские губернские ведомости № 45, 9 июня 1904.
[20] Виленские губернские ведомости № 85, 26 октября 1902.
[21] Nasza Niwa № 13, 30 marca 1907.
[22] Памятная книжка Виленской губернии на 1907 г. Вильна, 1907. С. 157.
[23] Виленские губернские ведомости № 76, 26 сентября 1907.
[24] Памятная книжка Виленской губернии на 1914 год. Вильна, 1914. С. 197.
[25] Жалезны Рыгор. Марыя Навіцкая і першая Лідская жаночая гімназія // Лідскі Летапісец 1998. № 6. С. 13.
[26] Kuryer Litewski № 88, 21 kwietnia (4) maja 1906
[27] Kuryer Litewski № 207, 14 (27) wrzesnia 1906
[28] Прагімназія - агульнаадукацыйная ўстанова ў Расійскай імперыі з праграмай малодшых класаў гімназіі. У прагімназіі мелася чатыры класы, якія адпавядалі чатыром малодшым класам гімназіі.
[29] Жалезны Рыгор. Марыя Навіцкая і першая Лідская жаночая гімназія // Лідскі Летапісец 1999. № 7. С. 14.
[30] Kuryer Litewski № 210, 17 (30) wrzesnia 1910
[31] Другая жонка Ф.Л. Навіцкага - Вера Сяргееўна Навіцкая (па першым мужы Махцэвіч) - вядомая дзіцячая пісьменніца
[32] Виленские губернские ведомости № 63, 11 августа 1912.
[33] Лидское слово № 12, 1 февраля 1913.
[34] Лидское слово № 13, 8 февраля 1913.
[35] Лидское слово № 20, 29 марта 1913.
[36] Памятная книжка Виленской губернии на 1914 год. Вильна, 1914. С. 197-198.
[37] Виленские губернские ведомости № 76, 26 сентября 1907.
[38] Памятная книжка Виленской губернии на 1914 год. Вильна, 1914. С. 198.
[39] Лидское слово № 2, 24 ноября 1912.
[40] Лидское слово № 2, 24 ноября 1912.
[41] У царскай Расіі існавала працэнтная норма прыёму яўрэяў у сярэднія і вышэйшыя навучальныя ўстановы.
[42] Лидское слово № 2, 24 ноября 1912.
[43] Лидское слово № 6, 21 декабря 1912.
[44] Лидское слово № 10, 18 января 1913.
[45] Лидское слово № 17, 8 марта 1913.
[46] Лидское слово № 18, 15 марта 1913.
[47] Лидское слово № 20, 29 марта 1913.
[48] Лидское слово № 23, 19 апреля 1913.
[49] Там жа.
[50] Лидское слово № 24, 26 апреля 1913.
[51] Лидское слово № 24, 26 апреля 1913.
[52] Лидское слово № 27, 17 мая 1913.
[53] Виленские губернские ведомости № 59, 26 июля 1914.
[54] Наша Ніва № 32, 9 жніўня 1913.
[55] Виленские губернские ведомости № 40, 22 мая 1913.
[56] Виленские губернские ведомости № 59, 26 июля 1914.
[57] Виленские губернские ведомости № 59, 26 июля 1914.
[58] Лидское слово № 9, 11 января 1913.
[59] Лидское слово № 13, 8 февраля 1913.
[60] Лидское слово № 7, 28 декабря 1912.
[61] Фрэбелічка - выхавальніца дзяцей дашкольнага ўзросту па метадзе нямецкага педагога Фрэбеля. Фрыдрых Фрэбель (1782-1852) - нямецкі педагог, тэарэтык дашкольнага выхавання, стваральнік паняцця "дзіцячы сад". Фрэбель лічыў мэтай выхавання развіццё прыродных асаблівасцяў дзіцяці, яго самараскрыццё. Дзіцячы сад павінен ажыццяўляць ўсебаковае развіццё дзяцей, якое пачынаецца з фізічнага развіцця. Ужо ў раннім узросце догляд за целам дзіцяці Фрэбель звязваў з развіццём яго псіхікі. Ядром педагогікі дзіцячага сада Фрэбель лічыў гульню. Ён даводзіў, што гульня для дзіцяці - цяга, інстынкт, яго галоўная дзейнасць, стыхія, у якой ён жыве, яна - яго ўласнае жыццё. У гульні дзіця выказвае свой унутраны свет.
[62] Лидское слово № 5, 14 декабря 1912.
[63] Лидское слово № 3, 30 ноября 1912.
[64] Лидское слово № 17, 8 марта 1913.
[65] Лидское слово № 27, 17 мая 1913.
[66] Міланскі эдыкт (лац.: Edictum Mediolanensium) - ліст імператараў Канстанціна і Ліцынія, датаваны 313 годам, які абвясціў рэлігійную цярпімасць на тэрыторыі Рымскай імперыі. Міланскі эдыкт стаў важным крокам на шляху ператварэння хрысціянства ў афіцыйную рэлігію імперыі.
[67] Лидское слово № 25, 3 мая 1913.
[68] Лидское слово № 24, 26 апреля 1913.
[69] Шамрэй К. і др. Бібліятэкі горада Ліды // Лідскі летапісец № 13. С.
[70] Бібліятэчная справа на Беларусі: дакументы і матэрыялы. XIX- пачатак XX ст. Мінск, 2008. С. 117-118.
[71] Маецца на ўвазе станок для пераплёту кніг.
[72] Маецца на ўвазе дыяпраектар.
[73] Бібліятэчная справа на Беларусі: дакументы і матэрыялы. XIX - пачатак XX ст. Мінск, 2008. С. 121-124.
[74] Там жа. С. 126-127.
[75] Там жа. С. 128-129.
[76] Лидское слово № 1, 17 ноября 1912.
[77] Лидское слово № 1, 17 ноября 1912.
[78] Лидское слово № 10, 18 января 1913.
[79] Лидское слово № 18, 15 марта 1913.
[80] Там жа.
[81] Лидское слово № 4, 7 декабря 1912.
[82] Лидское слово № 7, 28 декабря 1912.
[83] Ісак Носелевіч Пупко, "гласный" гарадской думы - Гл: Памятная книжка Виленской губернии за 1885 г. Вильно, 1884. С. 237.

[84] Аўтар, відавочна жартуе, для нас, мясцовых людзей, этымалогія прозвішча зразумелая.

[85] Sefer Lida. Former residents of Lida in Israel and the Committee of Lida Jews in USA. Tel-Aviv. 1970. P. 138.

[86] Лидское слово № 17, 8 марта 1913.

[87] На ўтрыманне паштовых станцый дзяржава прызначала грошы, якія выдзяляліся з земскіх збораў. Гэтыя грошы перадаваліся трымальнікам (арандатарам) паштовых станцый, якія абавязваліся забяспечваць бесперапыннасць ў рабоце станцый, наймаць наглядчыкаў, купляць коней і іншае. Трыманне паштовых станцый было справай прыбытковай, паколькі з грошай, якія выдавала дзяржава, можна было мець працэнты, а апрача таго, на станцыях для падарожнікаў прадавалі напоі, ежу, свечкі і іншае, што таксама ішло ў прыбытак арандатару. Кожныя тры гады ўлады абвяшчалі аукцыён, на якім прэтэндэнты на арэнду прапанавалі свае ўмовы. Перамагаў, як правіла, той, хто згаджаўся на меншую суму дзяржаўнай выплаты. Жырмунскую і Воранаўскую станцыі на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў меў у арэндзе віленскі купец трэцяй гільдыі Арон Лейбавіч Сольц. Упершыню ён узяў у арэнду паштовыя станцыі на Воранаўшчыне ў 1824 г., а ў 1843 г. утрымліваў ужо, акрамя Жырмун і Воранава, паштовыя станцыі ў Лідзе, Радзівонішках і Лапеніках. А. Сольц добра ведаў сваю справу. Аб гэтым можна меркаваць не толькі таму, што ў час заключэння кантрактаў на арэнду ён перамагаў канкурэтаў, а ў 1830-я гады ўвогуле падпісваў кантракты без аўкцыёну, але і па водгуках тых, хто карыстаўся паслугамі пошты на воранаўскай зямлі. Лідскі павятовы маршалак, да прыкладу, хадайнічаў перад губернатарам за правы Сольца мець арэнду без аўкцыёну *"по приобретённому в сем деле общему доверию столь долговременным содержанием станций в полной исправности и только отличном состоянии"*.

У дзень нападу на воранаўскай паштовай станцыі было па адных звестках 50 коней, па іншых - 40. Як паведамляў лідскі земскі спраўнік Альшэўскі ў лісце да губернатара 2 красавіка 1831 г., паўстанцы забралі 35 коней з адной стайні, *"а прочие, стоявшие в другой конюшне, о коих мятежники не знали, забраны самими извозчиками той же станции и выведены неизвестно где в лес. И хотя сделано мною распоряжение об отыскании оных, но и до сих пор отыскать невозможно"*. Пасля росшукаў спецыяльна камандзіраваных у Воранава вышэй згаданага Батвінкі і паручыка гарадзенскай унутранай стражы Васільева выявілася, што з Воранаўскай пошты было забрана 35 коней, ды яшчэ 5 коней, якія прывезлі сюды пасажыраў з Салечнікаў. Апрача таго, паўстанцы перахапілі пяцёрку коней, якія былі адпраўлены з Воранава ў маёнтак Германішкі па патрабаванні гасцяваўшай там палкоўніцы Завалеўскай. Агульную лічбу - 45 коней - пацвердзіў і прыехаўшы ў Воранава Сольц. Апрача коней аддзел Шэлтынга забраў збрую і сёдлы, якія былі на пошце.

Напад на Воранаўскую пошту выклікаў вялікі непакой уладаў. Гарадзенскі губернатар Г.Г. Бабяцінскі 30 сакавіка 1831 г. звярнуўся з лістамі да галоўнакамандуючага Дзібіча-Забалканскага, Намесніка ў Царстве Польскім Вялікага князя Канстанціна, віленскага генерал-губернатара Храпавіцкага і нават Мікалая І. Ён паведамляў аб захопе воранаўскай пошты і пісаў: *"как сим злонамеренным мятежников действием пресечена последняя коммуникация с Вильною, отколь до вчерашнего числа проходили еще эстафеты для отправления в Петербург через Волковыск, Слоним и Минск по причине пересечения всех трактов от Вильни до Петербурга и к Минску…"*. У лісце ён прасіў выслаць у бок Воранава адзін з палкоў дзейнай арміі, каб забяспечыць далейшае функцыянаванне паштовага тракта. *"Донесение сие*, - пісаў Бабацінскі ў лісце да віленскага генерал-губернатара, - *отправляю на удачу через находящегося в Гродне председателя Виленского земского поветового суда Горновского, который предполагает пробраться в Вильну просёлочными дорогами"*. Аднак ужо праз некалькі дзён гэтая паніка змянілася больш цвярозымі дзеяннямі. Земскі спраўнік Альшэўскі, асабіста наведаўшы Воранава, прывёз для забеспячэння спакою 8 салдат з унтэр-афіцэрамі з Ліды, столькі ж было накіравана і ў Жырмуны. Для перасылкі пошты былі мабілізаваны коні ў мясцовых жыхароў. Генерал-губернатар Храпавіцкі ў лісце да гарадзенскага грамадзянскага губернатара ад 4 красавіка 1831 г., патрабуючы неадкладна аднавіць паштовыя зносіны паміж Гародняй і Вільняй, паведаміў, што для аховы Віленскага тракту тэрмінова накіроўвае батальён войскаў, які расквартараваны ў Лідзе, і дзве гарматы. У Воранава таксама былі пераведзены шэсць коней з Лідскай і Жырмунскай станцый і 4 брычкі. У дадатак да расквартараваных раней салдат у Воранава, Жырмуны і Ліду былі дасланыя 25 казакаў, былі павялічаны варты і прыведзена ў баявую гатоўнасць гарадская стража ў Лідзе. Ужо 5 красавіка з Ліды да Вільні прайшла першая пошта, але пакуль што сакрэтных дакументаў і каштоўнасцей у ёй не было. Воранаўская станцыя мела ўжо 10 коней і 4 брычкі. У сувязі з ваеннымі дзеяннямі паштовыя коні выкарыстоўваліся не толькі на Віленскім тракце. *"Через всё военное время,* - пісаў у 1832 г. А. Сольц, - *фельдъегери, курьеры и другие пассажиры разъезжали сверх почтовых по разным партикулярным дорогам, куда надобность указывала"*.

Па звестках А. Сольца, за вясну 1831 г. з паштовых станцый, якія ён арандаваў, былі забраны 143 кані з усёй збруяй, а таксама брычкі, фураж і іншае. Фактычна, паштовыя станцыі на Віленскім тракце далі коней для аддзела паўстанцкай кавалерыі. Не маючы грошай, каб аднавіць работу пошты на арандаваных станцыях, Сольц зрабіў значныя пазыкі і таму ў 1832 г. звярнуўся да ўладаў з прашэннем вярнуць страчаныя грошы за кошт маёнткаў, якія падлягалі канфіскацыі за ўдзел іх уладальнікаў у паўстанні. Князь Талсты, галоўнакамандуючы Рэзервовай арміяй, у адказ на прашэнне Сольца загадаў выплаціць яму ў якасці кампенсацыі за страты 25 тыс. рублёў, але да лета 1832 г. гэтыя грошы яшчэ не былі цалкам атрыманы віленскім купцом. Нарэшце ўлады вырашылі кампенсаваць страты А. Сольца за кошт маёмасці Тышкевіча, якая была канфіскавана за ўдзел у паўстанні. Сольц атрымаў 10 тыс. рублёў асігнацыямі ў чэрвені 1832 г. - Гл: Куль-Сяльверстава С. Я. Палітыка. Культура. Асоба. Нарысы па гісторыі культуры Беларусі. Гродна, 2012. У 1850 г. паштовыя станцыі Радзівонішкі, Ліда і Жырмуны па-конкурсе ўтрымліваў купец, сын Арона Сольца - Вольф Сольц - Гл: Szymielewicz Michal. Dawna poczta i telegraf w ziemi Lidzkiej // Ziemia Lidzka 1939. № 1.; 1939. № 2.

Нафталь Сольц - унук Арона Сольца. Домаўладальнік Нафталь Сольц стала атрымліваў ад дзяржавы за найм памяшканняў для ніжніх чыноў расквартараваных у Лідзе войск 625 руб. у год - Гл: Виленские губернские ведомости № 54, 11 июля 1890.

Нафталь Сольц "гласный" гарадской думы - Гл: Памятная книжка Виленской губернии за 1885 г. Вильно, 1884. С. 237.

[88] Sefer Lida. Former residents of Lida in Israel and the Committee of Lida Jews in USA. Tel-Aviv. 1970. P. 139.

[89] Sefer Lida. Former residents of Lida in Israel and the Committee of Lida Jews in USA. Tel-Aviv. 1970. P. 137.

[90] Лидское слово № 2, 24 ноября 1912.

[91] Лидское слово № 3, 30 ноября 1912.

[92] Лидское слово № 7, 28 декабря 1912.

[93] Лидское слово № 22, 12 апреля 1913.

[94] Каб абысці працэнтную норму, шмат яўрэяў здавалі курс гімназіі экстэрнам.

[95] Лидское слово № 23, 19 апреля 1913.

[96] Лидское слово № 19, 22 марта 1913.

[97] Лидское слово № 2, 24 ноября 1912.

[98] Лидское слово № 5, 14 декабря 1912.

[99] Лидское слово № 14, 15 февраля 1913.

[100] Аршанскі Б.М. (1883-1945) крытык драматург. Нарадзіўся ў мястэчку Гарадок Віцебскай губерні. З 1903 г. удзельнічаў у Бундзе, з 1918 г. - член ВКП(б), з 1926 г. кіраваў яўрэйскай секцыяй Інбелькульта ў Менску, у 1932 г. сасланы на Камчатку. Драма з жыцця працоўных "Ганна" - адна з першых напісаным гэтым аўтарам - Гл: Литературная энциклопедия. Москва, 1934. Т. 8. С. 327.

[101] Лидское слово № 6, 21 декабря 1912.

[102] Лидское слово № 19, 22 марта 1913.

[103] Лидское слово № 22, 12 апреля 1913.

[104] Лидское слово № 23, 19 апреля 1913.

[105] Лидское слово № 8, 4 января 1913.

[106] Лидское Слово № 16, 1 марта 1913.

[107] Лидское Слово № 11, 25 января 1913.

[108] Виленские губернские ведомости № 59, 31 июля 1885.

[109] Виленские губернские ведомости № 54, 11 июля 1890.

[110] Виленские губернские ведомости № 50, 25 июля 1892.

[111] Виленские губернские ведомости № 60, 29 июля 1900.

[112] Виленские губернские ведомости № 68, 29 августа 1901.

[113] Виленские губернские ведомости № 68, 31 августа 1905.

[114] Там жа.

[115] Виленские губернские ведомости № 93, 25 ноября 1906.

[116] Виленские губернские ведомости № 76, 26 сентября 1906.

[117] Виленские губернские ведомости № 51, 26 июня 1910.

[118] Виленские губернские ведомости № 56, 18 июля 1912.

[119] Лидское слово № 13, 8 февраля 1913.

[120] Kuryer Litewski № 282, 7 (20) grudnia 1908.

[121] Долинский Иосиф. Память. Небольшие рассказы о прошлом. Москва, 2000. С. 33.

[122] http://www.lida.info/pervye-kinoteatry-v-gorode-lida

[123] Долинский Иосиф. Память. Небольшие рассказы о прошлом. Москва, 2000. С. 33.

[124] Там жа. С. 34.

[125] Там жа.

[126] Там жа.

[127] http://www.lida.info/pervye-kinoteatry-v-gorode-lida

[128] Трэба сказаць некалькі слоў пра пачынальнікаў кінематаграфічнай справы Манастырскіх, брат Міхаіла Манастырскага - Сяргей з 1914 г. пачаў займацца кіношнай справай ў Гародні і ў 1915 г. адкрыў там кінатэатр "Эдэн". Першы з вядомых Манастырскіх - бацька братоў, Мікалай Манастырскі, з'яўляўся намеснікам гарадзенскага губернскага пракурора і выконваў свае абавязкі ў Навагрудку. Праславіўся тым, што здолеў высачыць і выкрыць банду нейкага Вайнштэйна, якая рабавала мясцовых абшарнікаў, купцоў і гандляроў. За гэтую справу ва ўзросце 36 гадоў атрымлівае чын стацкага дарадцы і праз год памірае ад апалексічнага ўдару. Два сыны - Мікалай і Сяргей засталіся сіратамі. Сяргея ўзяў да сябе ў Пецярбург сваяк, адстаўны генерал. Пасля заканчэння Пецярбургскай Аляксееўскай ваеннай вучэльні Сяргей Мікалаевіч праходзіў службу ў розных гарнізонах, апошнім з якіх быў Ковенскі. Штабс-капітан Манастырскі звольніўся і атрымаў добрую выходную дапамогу, якую выкарыстаў на кінематаграфічную справу. Да таго часу малодшы брат Сяргея Мікалаевіча - Міхаіл дасягнуўшы чыну надворнага дарадцы, таксама выйшаў у адстаўку, пасяліўся ў Сувалках абзавёўся тут ўласнымі кінатэатрам. Ягоны кінатэатр у Сувалках быў добра абсталяваны а сам Манастырскі карыстаўся павагай уладаў і насельніцтва. Гл: Саяпин В. Касатая Т. Гродно: театр, кино, цирк. Гродна, 2011. С. 27-28.; Ивановский Витольд. Штабс-капитан Монастырский и его кинематограф. // Перспектива, 30 октября 2003.

[129] Там жа.

[130] Долинский Иосиф. Память. Небольшие рассказы о прошлом. Москва, 2000. С. 34-35.

[131] Там жа. С. 35.

[132] Виленские губернские ведомости № 45, 9 июня 1904.

[133] Виленские губернские ведомости № 56, 18 июля 1912.

[134] Виленские губернские ведомости № 55, 12 июля 1914.

[135] Лидское слово № 9, 11 января 1913.

[136] Там жа.

[137] Лидское слово № 28, 31 мая 1913.

[138] *"Доктар С. А. Каплан, прыём хворых штодзённа, Віленская вуліцы дом г. Крывабокава"* - Гл: Лидское слово № 1, 17 ноября 1912.

[139] Лидское слово № 1, 17 ноября 1912.

[140] Лидское слово № 9, 11 января 1913.

[141] Лидское слово № 22, 12 апреля 1913.

[142] Виленские губернские ведомости № 55, 14 июля 1890.

[143] Kuryer Litewski № 193, 27 sierpnia (9 wrzesnia) 1910.

[144] Виленские губернские ведомости № 76, 26 сентября 1898.

[145] Виленские губернские ведомости № 45, 9 июня 1904.

[146] Виленские губернские ведомости № 93, 25 ноября 1906.

[147] Виленские губернские ведомости № 55, 12 июля 1914.

[148] Виленские губернские ведомости № 50, 23 июня 1910.

[149] Виленские губернские ведомости № 63, 11 августа 1912.

[150] Лидское слово № 23, 19 апреля 1913.

[151] Виленские губернские ведомости № 63, 11 августа 1912.

[152] Виленские губернские ведомости № 40, 22 мая 1913.

[153] Kuryer Litewski № 134, 16 (29) czerwca 1910.

[154] Виленские губернские ведомости, № 56, 18 июля 1912.

[155] Kuryer Wilenski № 92, 26 kwietnia (9 maja) 1911.

[156] Лидское слово № 23, 19 апреля 1913.

[157] Памятная книжка Виленской губернии за 1872 г. Вильно, 1871. С. XLIV.

[158] Вальчук Э. А. К истории аптечного дела в Беларуси (XVIII век - 1861 г.) // Вестник фармации 2011. 2 (52). С. 17-19.

[159] Виленские губернские ведомости № 59, 31 июля 1899.

[160] Памятная книжка Виленской губернии за 1891 г. Вильно, 1890. Ч. 2. С. 109.

[161] Вальчук Э. А. Особенности развития медико-санитарной помощи и аптечного дела в Беларуси после отмены крепостного права (1861 г. - начало XX века) // Вестник фармации 2011. 2 (52). С. 24.

[162] Лидское слово № 5, 14 декабря 1912.
[163] Лидское слово № 12, 1 февраля 1913.
[164] Лидское слово № 13, 8 февраля 1913.
[165] Лидское слово № 5, 14 декабря 1912.
[166] Памятная книжка Виленской губернии на 1899 г. Вильна, 1899. С. 251.
[167] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гродна. Ф 1. воп. 4. сп. 40. "Смета прихода и расхода денежных средств в гр. Лида на 1832 г.". А. 3.
[168] Виленские губернские ведомости № 68, 31 августа 1905.
[169] Виленские губернские ведомости № 100, 20 декабря 1897.
[170] Виленские губернские ведомости № 45 9 июня 1904.
[171] Города России в 1904 году. С.-Петербург, 1906. С. 75.
[172] Виленские губернские ведомости № 40, 22 мая 1813.
[173] Виленские губернские ведомости № 21, 12 марта 1911.
[174] Виленские губернские ведомости № 40, 22 мая 1813.
[175] Техника-молодёжи 1940. № 06. С. 11.
[176] Виленские губернские ведомости № 56, 18 июля 1912.
[177] Там жа.
[178] Лидское слово № 11, 25 января 1913.
[179] Виленские губернские ведомости № 40, 22 мая 1813.
[180] Лидское слово № 22, 12 апреля 1913.
[181] Лидское слово № 2, 24 ноября 1912.
[182] Лидское слово № 9, 11 января 1913.
[183] Лидское слово № 8, 4 января 1913.
[184] Лидское слово № 10, 18 января 1913.
[185] Лидское слово № 10, 18 января 1913.
[186] Там жа.
[187] Лидское слово № 11, 25 января 1913.
[188] Лидское слово № 11, 25 января 1913.
[189] Так жа.
[190] Федоров И.О. Город Лида в годы установления советской власти (1919-1920) // Ліда і Лідчына: да 685-годдзя з дня заснавання горада : матэрыялы рэспуб. навук.-практ. канф., (Ліда, 3 кастр. 2008 г.). Ліда, 2008. С. 131.
[191] Лидское слово № 3, 30 ноября 1912.
[192] Лидское слово № 23, 19 апреля 1913.
[193] Лидское слово № 14, 15 февраля 1913.
[194] Лидское слово № 6, 21 декабря 1912.
[195] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гродна. Ф 1. воп. 9. сп. 110. "Об учреждении городской полиции в гор. Волковыске, Лида и Слониме".
[196] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гродна. Ф 1. воп. 4. сп. 40. "Смета прихода и расхода денежных средств в гр. Лида на 1832 г.". А. 3.
[197] Памятная книжка Виленской губернии на 1894 г. Вильна, 1893. С. 274.
[198] Виленские губернские ведомости № 76, 26 сентября 1898.
[199] Виленские губернские ведомости № 55, 14 июля 1890.
[200] Памятная книжка Виленской губернии на 1903 г. Вильно, 1902. ч. 3. С. 58.
[201] Виленские губернские ведомости № 87, 6 ноября 1899.
[202] Памятная книжка Виленской губернии на 1900 г. Вильно, 1899. С. 272.
[203] Виленские губернские ведомости № 95, 29 ноября 1900.
[204] Памятная книжка Виленской губернии на 1902 г. Вильно, 1901. С. 262.
[205] Виленские губернские ведомости № 77, 29 сентября 1901.
[206] Виленские губернские ведомости. № 20, 9 января 1905.
[207] Виленские губернские ведомости № 76, 26 сентября 1907.
[208] Виленские губернские ведомости № 92, 22 ноября 1906.
[209] Виленские губернские ведомости № 50, 23 июня 1910.
[210] Виленские губернские ведомости № 63, 11 августа 1912.
[211] Лидское слово № 5, 14 декабря 1912.
[212] Bielarus № 6, 14 lutaho 1913.
[213] Виленские губернские ведомости. № 61-1914. 2 августа.
[214] Виленские губернские ведомости № 9, 10 сентября 1916.
[215] Лидское слово № 5, 14 декабря 1912.
[216] Там жа.
[217] Лидское слово № 14, 15 февраля 1913.
[218] Лидское слово № 28, 31 мая 1913.
[219] Лидское слово № 9, 11 января 1913.
[220] Лидское слово № 16, 1 марта 1913.
[221] Лидское слово № 6, 21 декабря 1912.
[222] Лидское слово № 17, 8 марта 1913.
[223] Лидское слово № 11, 25 января 1913.
[224] Лидское слово № 17, 8 марта 1913.
[225] Bielarus № 31, 23 кастрычніка 1913.
[226] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гродна. Ф 1. воп. 4. сп. 40. "Смета прихода и расхода денежных средств в гр. Лида на 1832 г.". А. 3.
[227] Виленские губернские ведомости № 62, 10 августа 1885.
[228] Виленские губернские ведомости № 54, 11 июля 1890.
[229] Виленские губернские ведомости № 50, 25 июля 1892.
[230] Виленские губернские ведомости № 100, 20 декабря 1897.
[231] Виленские губернские ведомости № 76, 26 сентября 1898.
[232] Памятная книжка Виленской губернии на 1900 г. Вильна, 1899. С. 284.
[233] Города России в 1904 году. С.-Петербург, 1906. С. 75.
[234] Виленские губернские ведомости № 68, 29 августа 1901.
[235] Виленские губернские ведомости № 45 9 июня 1904.
[236] Лидское слово № 3, 30 ноября 1912.
[237] Лидское слово № 4, 7 декабря 1912.
[238] Лидское слово № 14, 15 февраля 1913.
[239] Лидское слово № 28, 31 мая 1913.
[240] Лидское слово № 4, 7 декабря 1912.
[241] Лидское слово № 6, 21 декабря 1912.
[242] Лидское слово № 7, 28 декабря 1912.
[243] Лидское слово № 8, 4 января 1913.
[244] Лидское слово № 14, 15 февраля 1913.
[245] Лидское слово № 18, 15 марта 1913.
[246] Лидское слово № 19, 22 марта 1913.
[247] Лидское слово № 5, 14 декабря 1912.

***Ян Стасевіч***

# НАТАТКІ ПРА БАЦЬКУ

## *Доктар медыцыны Вітольд Стасевіч (1900-1975 гг.)*[1]

Бацьку ўспамінаю часта, вельмі часта. Разам мы жылі 39 год. Пасля яго атрымаў у спадчыну лякарню і невялічкі стол у хатнім кабінеце. Стол служыў бацьку яшчэ перад вайной і прыбыў разам з намі пад час рэпатрыяцыі. У апошніх днях сакавіка 1945 года нас разам са сталом выкінулі з таварнага вагона, у якім ехалі з Ліды ў Кракаў. Вагон раптам стаўся запатрабаваны "для вайсковых мэтаў", і з гэтай прычыны двое сутак мы качавалі на беластоцкім пероне. Аднак перадваенная палітура стала вытрымала і такое выпрабаванне. З нагоды такой выпадковай сітуацыі наша сям'я вымушана засталася ў Беластоку. Спачатку гэта меў быць толькі перапынак перад падарожжам у Кракаў: там нас чакала жытло. Аднак ужо праз некалькі гадзін побыту ў Беластоку бацька знайшоў сяброў з універсітэцкіх часоў, адразу акунуўся ў вір працы і аб далейшым падарожжы ўспаміналі ўсё радзей.

Часта думаю пра бацьку. У маіх успамінах усё цяжэй прыгадаць яго вобраз рэалістычна, таму, верагодна, я болей ідэалізую: злучаю непахісныя прынцыпы справядлівасці з абавязковасцю штодзённых кампрамісаў, талерантнасць і велізарную дабрыню да навакольных. Рысы характару мы атрымоўваем у спадчыну з генамі, аднак акалічнасці, якія ствараюць жыццё, канчаткова фарміруюць асобу. Жыццёвыя абставіны фундаментальна паўплывалі на асобу майго бацькі.

### МОРГІ

У большасці красовых польскіх сямей патрыятызм і рэлігія былі настолькі натуральныя, што пра гэта не выпадала нават прамаўляць. І менавіта гэтыя якасці вынес з бацькоўскага дома на Моргах у Лідзе мой бацька. Сям'я займалася гаспадаркай, гадавала шэсць дзяцей. Мелі даволі шмат гектараў зямлі. Аднак сярод гэтых гектараў дамінавалі забалочаныя лугі па Дзітве, прытоку Нёмана. Бацька часта расказваў пра выезды па сена. Гэта былі конныя выправы гаспадароў і парабкоў з запасамі ежы на некалькі дзён, на працягу якіх касілі і сушылі траву, ставілі стагі, а потым часткамі прывозілі сена ў Ліду. Вялікага дабрабыту ў сям'і не было, аднак існаваў парадак штодзённай сістэматычнай працы. Дамінуючы голас у сям'і належаў бабулі Стэфаніі. Асабліва важным яна лічыла адукацыю дзяцей, што і падтрымлівала нават за кошт прадаваных час ад часу гектараў.



*Доктар Вітольд Стасевіч*

Надзвычай важным эпізодам у жыцці бацькі быў выезд у 1914 годзе ў Яраслаўль у глыб Расіі пад Волагду. Туды ён ехаў пад апекай старэйшага брата Баляслава, капітана расейскай арміі. Неўзабаве пачалася вайна, і Баляслаў вымушаны быў рушыць на фронт ваяваць з немцамі, а пазней - з бальшавікамі, а тым часам 14-гадовы Вітольд застаўся зусім адзін у Яраслаўлі, і вось тут пачалася нялёгкая пара выпрабавання характару і вынаходлівасці, якая доўжылася цягам чатырох год.

Пакінутыя Баляславам рублі скончыліся хутка, і чатырнаццацігадовы хлопчык вымушаны быў зарабляць на жыццё. Знайшоў працу "перапісчыка" на чыгунцы. Жыў пры сям'і чыгуначніка, плаціў за пакой і за ежу. Адначасова вучыўся ў гімназіі, якую скончыў

[1] Jan Stasiewicz. Zapiski o ojcu. Doctor medicinae universae Witold Stasiewicz (1900 - 1975) // Ziemia Lidzka. 2002. № 6 (53).



*Сям'я Стасевічаў*

у 1918 годзе, атрымаўшы сертыфікат. І ўсяго гэтага дасягнуў пад час вайны, у часы адной з самых крывавых рэвалюцый, адзін у цэнтры разбуранай імперыі.

У Ліду на Моргі бацька вярнуўся пасля аднаўлення незалежнасці ў 1918 годзе. Памагаў па гаспадарцы і рыхтаваўся да далейшай навукі. Зацікаўленасць вагалася паміж гісторыяй і біялогіяй. Ідэю адуацыі падтрымлівала бабуля Стэфанія, у той час як дзед Францішак з большай ахвотай бачыў Вітольда гаспадаром на Моргах. Нечакана сертыфікат рускай гімназіі стварыў вялікія перашкоды для распачынання вучобы ва ўніверсітэце.

Гэта было наступнае выпрабаванне і далейшы здабытак вопыту. Без вагання бацька "выгандляваў" з дому каня, і, як добраахвотнік, быў залічаны ва ўланы. Захавалася вайсковая кніжка ўлана Вітольда Стасевіча з запісаным баявым маршрутам 5 палка конных стральцоў: Варшава -Модлін - Плоньск - Млава - Цеханоў - Хэлм - Ковель - Янаў Палескі - Пінск - Камянец - Луцк - Колькі. Пазней ва ўспамінах бацька наракаў, што як сын гаспадара, які добра ведаў коней, ён часта іх пільнаваў у дазоры, у той час, як яго калегі па эскадроне замяняліся ў пяхоце і ваявалі. Пасля заканчэння вайны звольніўся з войска і як былы вайсковец з сертыфікатам аб сярэдняй адукацыі займеў права на першаснае залічэнне ва ўніверсітэт імя Стэфана Баторыя ў Вільні.

Уступны экзамен - гэта двухразовая размова з тагачасным рэктарам універсітэта прафесарам Міхалам Сядлецкім. Пад час першай сустрэчы Яго Магніфіцэнцыя хутка зарыентаваўся ў тым, што галоўнай праблемай выпускніка расійскай гімназіі будзе польская мова і айчынная гісторыя, таму прапанаваў прачытаць амаль 50 кніг (па спісе), галоўным чынам польскіх класікаў. Другая сустрэча - гэта наступны спіс з некалькіх дзесяткаў твораў, але і рашэнне аб тым, што Вітольд можа распачаць новы акадэмічны год навучаннем на факультэце батанікі. Пасля першага семестру бацька перавёўся на лекарскі факультэт.

Заняткі прабягалі хутка. Былі цяжкасці з грашыма, бо дапамогі з дому на Моргах не хапала. Бацька вымушаны быў зарабляць сам. Прыпамінаў пра адзін эфектыўны спосаб заробку. Стаўся "даверaным" кур'ерам лідскіх ювеліраў, пераважна яўрэйскага паходжання, для якіх перавозіў золата і ювелірныя вырабы па трасе Ліда - Вільня - Ліда. Дзякуючы атрыманым за правоз грашам, мог арандаваць у Вільні кватэру і абедаць, часта нават у рэстаране Штраля. Пазней, на чацвёртым курсе, працаваў у якасці малодшага асістэнта ў клініцы псіхіятрыі пад патранажам прафесара Рафала Радзіваловіча і жыў у кватэры пры клініцы на вуліцы Летняй. Так зладжылася, што праз пару гадоў пасля таго, як бацька пакінуў гэтую кватэру, яе заняў мой пазнейшы цесць - прафесар Зыгмунд Канігоўскі. Абодва высветлілі гэты факт праз многа гадоў пазней ужо ў Беластоку.

Пад кіраўніцтвам прафесара Радзіваловіча бацька напісаў доктарскую працу на тэму: "Забабоны на Літве". Штодзённы кантакт з вялікім лекарам, якім быў Рафал Радзіваловіч, зрабіў вялікі ўплыў на бацьку, а праца на працягу некалькіх год ў клініцы дазволіла яму глядзець на людзей з характарыстычным для псіхі-

ятара разуменнем і трымаць дыстанцыю. Хутка пасля абароны дыплома бацька адмовіўся ад працы ў клініцы, выехаў з Вільні і заняў месца павятовага лекара ў Маладзечне. Магчыма, прычынай такой змены была раптоўная смерць прафесара Радзівіловіча ў дрожках па дарозе да клінікі і яшчэ тое, што ў гэты час бацька ажаніўся, а пасада павятовага лекара ў параўнанні з працай асістэнта істотна змяняла матэрыяльны стан.

Маладзечна было кароткім эпізодам навучання практычнай медыцыне. Ужо праз два гады бацька працаваў павятовым лекарам у роднай Лідзе. Гэта быў час надзвычай цяжкай працы. Акрамя пасады ў старостве, звязанай з бесперапыннымі паездкамі ў мястэчкі і вёскі павета, быў лекарам агульнай практыкі, г.зн. супрацоўнічаў са страхавой кампаніяй, быў заняты ў радзе мясцовага самакіравання, у клініцы для працаўнікоў дзяржаўных устаноў, вёў прыём хворых у прыватным кабінеце. На дадатак працаваў яшчэ і судовым лекарам: па рашэнні суда праводзіў ускрыццё. Неабходнае для гэтага навучанне прайшоў у Варшаве.

Помню змест лекарскай сумкі бацькі, якая нейкім дзівам перажыла вайну. Сярод інструментаў, акрамя слухавак і ртутнага апарата для вымярэння ціску крыві, там былі пашыральнікі для носа і вушэй, прыстасаванне да адварочвання павек, малаток неўралагічны, люстэрка ларынгалагічнае, спіртоўка, скальпель, заціск хірургічны, іголкі і ніткі, клізма, акушэрскія шчыпцы, і нават нажніцы для разразання гіпсу. З такім абсталяваннем, апрануты зімой у кажух, валёнкі і буркі, часта ноччу ехаў санямі нават за 50 кіламетраў да хворага вяскоўца. Удзень прымаў хворых пасля пятай гадзіны па поўдні звычайна да дзесяці ўвечары. На працягу пяці гадоў бацькі мелі ўжо два дамы ў Лідзе: адзін перажыў вайну служачы "домам для генеральскіх удоў" у часы савецкай рэспублікі. Купілі таксама і аўтамабіль “Фіят” на восем асоб, кіраваць якім бацька наняў шафёра. Бацька не быў прыхільнікам матарызацыі і таму да хворых і надалей ездзіў дрожкамі або санямі. Аўтамабіль служыў для паездак за горад, часцяком на возера ў Залессі.

**ВАЙНА**

Пад час першай савецкай акупацыі бацькоўскія заняткі адрозніваліся ад перадваенных. Дасканалае валоданне расейскай мовай палягчала жыццё. Частку нашага дома заняў маёр з аэрадрома, які знаходзіўся паблізу. Аказалася, што погляды цешчы маёра далёкія ад афіцыйных: не гледзячы на тое, што магла выславіцца недабранадзейнай, часцяком хадзіла ў царкву і нават да касцёла.

Пастаянна існавала пагроза "высылкі" на ўсход, бо мы знаходзіліся ў спісе на высылку, і толькі патрэба горада ў лекарах адтэрміноўвала вываз. У чэрвені 1941 года вывезлі нашых дзядоў з Моргаў і дзядзьку Баляслава з сям'ёй. На той час дзеду Францішку было 70 год, і ён меў запаленне мачавога пухіра. Дзеда пахавалі на Алтаі. Рэшткі сям'і пасля вайны рознымі шляхамі вярнуліся ў Польшчу. Мы трымалі спакаванымі рэчы, але апошнія дні чэрвеня 1941 года прынеслі ў Ліду змену акупанта.

Перад акупацыяй Ліду разбамбілі немцы, была спалена амаль уся вуліца Сувальская, дзе знаходзіўся дом бабулі Паўліны. У тыя дні мы яшчэ жылі разам з мамай і сястрой на Сувальскай, бо бацькі баяліся "высылкі", як і бамбавання цэнтральнага раёна горада, дзе знаходзіўся наш дом. Зрэшты, бацька стаўся хірургам у паспешліва арганізаваным шпіталі ў будынку лідскай гімназіі. І вось падчас дапамогі раненым і абгарэлым пасля бамбавання, да бацькі падышоў нейкі лідзянін - добразычлівец і ветліва паінфармаваў: " Пан доктар, Вы толькі не хвалюйцеся, але ў горадзе гавораць, што пана дачка згарэла на Сувальскай". Аб тым, што можна пакінуць шпіталь не было і мовы, і толькі праз некалькі гадзін бацька даведаўся, што мы сапраўды былі ў цэнтры пажару, аднак па шчасці змаглі ацалець.

Першы кантакт з немцамі быў драматычны. Салдаты з перадавой часткі Вермахту затрымаліся ў нашым доме па вуліцы 11-га Лістапада і знайшлі ў гаражы рэшткі савецкай амуніцыі. Бацьку паставілі да сцяны. І каб не прысутнасць дзядзькі Вільгельма, які акурат завітаў да нас, і яго беглае валоданне нямецкай мовай, дайшло б да трагедыі. Дзядзька здолеў пераканаць немцаў, што тут жылі савецкія лётчыкі, і амуніцыя засталася пасля іх. Далейшыя "стасункі" з немцамі былі ўжо лепшымі. Бацька ў той час выконваў абавязкі ардынатара аддзялення інфекцыйных хвароб лідскага шпіталя, гэта стварала карысную пазіцыю ў стасунках з немцамі. Паўсюдна была вядома іх боязь перад распаўсюджаным тады плямістым і брушным тыфам, ну і іншымі інфекцыйнымі захворваннямі. Бацьку запрашалі да хворых немцаў, як толькі з'яўлялася падазрэнне на тыф. Ён ездзіў нават на строга ахоўваны аэрадром да кожнага хворага з высокай тэмпературай. Ніколі не згаджаўся ехаць нямецкім аўтамабілем, заўсёды кіраваў сваімі дрожкамі - гэта абараняла ад расстрэлу партызанамі як "чырвонымі", гэтак і "белымі".

Медыцынскую дапамогу ад бацькі атрымоўвалі ўсе: сяляне з блізкіх і далёкіх вёсак (у якасці падзякі прывозілі нам масла, яйкі, сала), гаспадары (з маёнтка ад Гаўі рэгулярна прывозілі мяшок мукі), розныя ахвяры вайны, захварэўшыя ў падарожжы праз Ліду, і, нарэшце, партызаны розных фармацый. З АК-аўцамі праблем не было. Бальшыня з іх былі далёкія або блізкія знаёмыя, асобы, якія жылі або хаваліся ў знаёмых дамах. Насамрэч бальшыня палякаў ў ваколіцах Ліды была больш-менш звязаная з АК. У апошні год акупацыі нават у самой Лідзе можна было сустрэць партызан, апранутых у даваенныя вайсковыя мундзіры. Бацьку надаралася ехаць у лес сярод ночы заўсёды з абавязковай лекарскай сумкай. Радзей былі кантакты з "чырвонымі", але і яны мелі месца. Зазвычай гэты былі перавязкі, сшыванне ран або і шпіталізацыя з дыягназам: "Тыф плямісты, да назірання".

Час ад часу ў доме начавалі "барадачы". Гэта былі розныя людзі, якія праязджалі праз Ліду. Ім давалі начлег і хлеб з салам на дарогу. Прыходзілі ў прыцемках і выходзілі на досвітку, калі ў доме яшчэ спалі. Мы з сястрой называлі іх "барадачамі", бо першы з іх

меў буйную чорную бараду. Бацька ніколі не хацеў ведаць, хто яны і куды ідуць. Наш дом даваў ім пачуццё пэўнай бяспекі, таму што суседнія дамы займалі немцы. Бацька, як лекар інфекцыйных хвароб, успрымаўся суседзямі з некаторай перасцярогай, але адносна прыязна. У апошні год акупацыі візіты "барадачоў" скончыліся. Нас прымусілі перасяліцца ў малую двухпакаёвую кватэру, дзе мы без перапынку ваявалі з прусакамі.

Пераход фронту праз Ліду мы перачакалі ў Талакоўшчыне ў сваяка Казіміра Сегеня. Бацька яшчэ за месяц да набліжэння фронту хадзіў пехатой у шпіталь у Ліду штодзённа прыблізна 15 км. Горад занялі рускія і нашу кватэру таксама. Нам парадзілі нават не пачынаць гаворку аб вяртанні кватэры, мэблі, бо новы арандатар - працаўнік НКУС. На пачатку 1945 года бацьку арыштавалі. У тую самую ноч трапілі ў вязніцу і іншыя лідскія лекары, сярод іх і сябар бацькі доктар Баляслаў Дзічканец, пазней - нязменны ардынатар тэрапеўтычнага аддзялення ў Граёве. Прычына арышту не была вядомая. Некалькі тыдняў штодзённа вяліся допыты і бясконца пісаліся біяграфіі. Неспадзявана бацьку вызвалілі. Прычыніўся да гэтага адзін з "барадачоў", які начаваў у нашым доме падчас нямецкай акупацыі, і які цяпер займаў высокую пасаду ў Менску. Яго дапамога аказалася эфектыўнай, бо ў гэты час доктара Дзічканца і іншых лекараў выслалі за Ўрал. Пакінуўшы вязніцу, бацька неадкладна напісаў прашэнне аб рэпатрыяцыі. Праз два тыдні легальных і не зусім легальных захадаў удалося атрымаць чвэрць таварнага вагона ў "цягніку" на Польшчу і выехаць у кірунку Кракава, які быў для нас канчатковай станцыяй.

### ПАСЛЯ ВАЙНЫ

Савецкія салдаты, якія сказалі нам выгрузіцца праз "полчаса" на беластоцкім вакзале, вызначылі, дзе будзем месціцца да канца жыцця. Быў дождж. Бацька пакінуў нас у абломках панішчаных аўто паблізу перона, а сам пайшоў у горад. Там хутка знайшоў калегаў з універсітэта: др. Уладзіміра Занкевіча і др. Ежы Галоньскага - шэфа службы страхавання. Ужо праз пару дзён бацька працаваў раённым лекарам, а трошкі пазней - кіраўніком спецыялізаванай клінікі на вуліцы Легіёнавай (цяпер будынак не існуе). Часовае жыллё мы атрымалі ў дзіцячым доме на вуліцы Гарэшкавай.

Такім чынам працягвалася далейшае працоўнае жыццё майго бацькі. Заўсёды ён меў некалькі пасад, аднак ніколі не траціў непасрэдны кантакт з хворымі. У якасці раённага лекара на хатнія візіты ездзіў дрожкамі. Зранку прымаў тэрапеўтычных хворых на Легіёнавай, дзе заўсёды быў тлум пацыентаў. Пасля таго, як др. Анісімовіч выехаў у Гданьск, бацьку прапанавалі пасаду лекара ваяводства (начальнік аддзела здароўя ў ваяводскім кіраўніцтве). Ад гэтага часу два разы на тыдзень ездзіў у павятовыя гарады, дапамагаў з нуля арганізаваць тэрапеўтычнае лячэнне. Даваенны вопыт павятовага лекара аказаўся бясцэнным. У вялікім ваяводстве: ад Сувалак да Ломжы праз кароткі час бацька ведаў усе медычныя цэнтры, усе клінікі, нават стан лячэння хворых у аддзяленнях шпіталя. Ён усталяваў не толькі знаёмства, але і сяброўскія зносіны з бальшынёй лекараў ваяводства. Адначасова, каб не траціць стасункі з хворымі, некалькі разоў на тыдзень вёў прыём хворых на фабрыцы плюшу ў якасці фабрычнага лекара. Меў прыватную практыку дома. Гэтай формы заробку не любіў. Аднак грошы былі патрэбныя. Менавіта ў гэты час сястра пачала вучобу ў варшаўскім універсітэце, у той час як заробкі ваяводскага лекара былі смешна нізкія.

У тую пару ў ваяводскім лекарстве адбывалася многае. Амаль у кожным павеце будавалі ці адбудоўвалі шпіталі і клінікі, і энтузіязм жменькі лекараў быў падвышаны. Гэтай дзейнасцю кіраваў аддзел здароўя, які налічваў меней за 10 асоб, у тым ліку і кіроўцаў некалькіх аўтамабіляў. Добра памятаю ўсіх, таму што бацька заўсёды святкаваў свае імяніны дома і ладзіў гасціну для ўсіх работнікаў аддзела за адным сталом. У сваіх стасунках з адміністрацыяй бацька найперш кіраваўся метадам лагічнага пераканання, а не забароны. Дзякуючы руплівай працы, быў дасягнуты шэраг поспехаў: спраўна дзейнічала сетка адраманТаваных бальніц. Таму, некалі выказаны погляд, што на Беласточчыне да ўзнікнення акадэміі была пустэча, няпраўдзівы і выклікае вялікі жаль. Лічба практыкуючых лекараў у той час была ў 80 разоў меншая, чым цяпер!

Малаверагодна, што будзе знойдзены адказ на пытанне аб тым, хто першы прапанаваў будоўлю Медычнай Акадэміі ў Беластоку. Гэта магла быць ініцыятыва групы беластоцкіх лекараў: рэктар Келяноўскі ў сваіх ўспамінах называе майго бацьку "стваральнікам" ідэі паўстання Акадэміі. Без сумневу, асновай прадпрыемства было актыўнае прасоўванне гэтай ідэі перад тагачасным міністрам здароўя др. Ежы Штахлеўскім, беластаччанінам з паходжання. Акадэмія магла быць заснаваная як для задавальнення агромістых патрэб паўночна - ўсходняй Польшчы ў кваліфікаваных спецыялістах, так і для ўцягвання медычнага беластоцкага асяроддзя ў навуковыя сферы. Пазней вырашальнае значэнне меў энтузіязм першых навуковых супрацоўнікаў вучэльні. Бацька цалкам аддаўся будоўлі акадэміі, стараўся як мага лепш дапамагаць першаму рэктару АМБ, прафесару Тадэвушу Келяноўскаму. Першы пакойчык з шыльдай "Акадэмія Медычная ў Беластоку" месціўся ў ваяводскім аддзеле здароўя на вуліцы Міцкевіча, а першым працаўніком адміністрацыі з утрыманнем на "аднаразовых выплатах", якая займалася пераважна карэспандэнцыяй, была мая мама - мгр. Марыя Стасевіч, выпускніца ўніверсітэта Стэфана Баторыя ў Вільні, пазней шматгадовы папячыцель навуковай бібліятэкі АМБ.

У першых гадах дзейнасці акадэміі бацька неаднаразова атрымоўваў прапановы змены працы, звязаныя з пераходам у міністэрства здароўя. Заўсёды выказваў ветлівую, але аргументаваную адмову, адмаў-

ляючы па-віленску: "Для мяне вялікі гонар і пашана атрымаць ад пана такую прапанову, але я як чалавек даваенны, беспартыйны, які штодзённа адмаўляе пацеры, буду зусім непрыдатны на гэтай пасадзе". Бацька не хацеў пераязджаць з Беластока, да якога паспеў прырасці. Меў тут мноства сяброў, найбліжэйшымі былі др. Антоні Талочка, дацэнт Уладзімір Занкевіч, у нашым доме часта бывалі прафесар Вітольд Славінскі, асістэнт з кафедры батанікі віленскіх часоў маёй мамы, прафесар Тадэвуш Келяноўскі, прафесар Тадэвуш Дзяржыкрай-Рагальскі, прафесар Тадэвуш Янкоўскі. У выніку настойлівых намаганняў бацька змог звольніцца з аддзела здароўя. Ён наладзіў стасункі з медычнай акадэміяй і пачаў працаваць у якасці выкладчыка ў 2-й клініцы тэрапеўтычных хвароб у прафесара Якуба Хлябоўскага. Адначасова займаў пасаду намесніка дырэктара па тэрапіі ў ваяводскім шпіталі імя Енджэя Снядэцкага. Бальшыня клінік акадэміі тады знаходзілася ў гэтым шпіталі, а кіраваў імі доктар, а пазней дацэнт Адам Даўгерд, якога бацька выключна высока цаніў і паважаў. Дзелячы разам з дырэктарам адзін стол, бацька заўсёды выконваў ролю пасярэдніка ў шматлікіх спрэчках паміж кіраўнікамі клінік і дырэкцыяй шпіталя. Нават у сітуацыях абсалютна безнадзейных ён мог знайсці кампраміс. З усімі заставаўся ў добрых адносінах пры любых канфліктных справах.

Пад час працы ў клініцы стаўся экспертам міністэрства здароўя па справах арганізацыі аховы здароўя: некалькі год выконваў абавязкі спецыяліста на Беласточчыне. Два дні на тыдзень працаваў у Варшаве: выкладаў на курсах паслядыпломнай адукацыі (павышэння кваліфікацыі), таксама працаваў у Гданьску: Гданьскае ваяводства павінна было стаць узорным. З гэтай нагоды анекдатычнай падаецца рэакцыя бацькі на спробу ўганараваць яго талонам на аўтамабіль. Адказ бацькі быў наступным: "Калі ласка, два разы перад вайной я станавіўся шчаслівым - купляючы і прадаючы аўтамабіль, а цяпер я замала зарабляю, каб утрымліваць шафёра". Вярнуўшыся дадому пракаментаваў: "Раз вазьму талон на аўтамабіль - і ўжо да канца жыцця буду залежны ад яго".

Доўгі час спалучэнне працы ў клініцы і шпіталі, правядзенне дзейнасці "эксперта", частыя паездкі ў Варшаву станавіліся немажлівымі, таму бацька скарыстаўся з прапановы рэктара і прыступіў да стварэння факультэта арганізацыі аховы здароўя ў Акадэміі. Атрымаў пасаду намесніка прафесара і кіраўніка факультэта. Свае абавязкі ў шпіталі выконваў надалей, зважаючы, што толькі непасрэдны штодзённы кантакт з хворымі санкцыянуе займацца тэарэтычнымі пытаннямі арганізацыі і кіравання. Супрацоўнікамі бацькі на факультэце сталі др. Станіслава Карпіньская, др. мед. Ян Карбоўскі. У першыя гады існавання факультэта бацька многа часу прысвячаў справам навукі: адпрацаваў праграму навучання студэнтаў, якую з невялікімі зменамі прынялі ў іншых медычных акадэміях Польшчы. Надалей выкладаў на курсах падвышэння кваліфікацыі: вялікая група лекараў пасля вучобы атрымала I і II ступень у арганізацыі аховы здароўя. Цесна супрацоўнічаў з аналагічным факультэтам у Варшаве і медычным інстытутам у Любліне: быў чальцом навуковай рады інстытута. У гэты час апублікаваў некалькі навуковых прац. Дзве з іх - сумесна з прафесарам Станіславам Легяжыньскім.

З часам кіраўніцтва факультэтам стала руцінай. Час падзяляўся паміж шпіталем, лекцыямі і практыкай, выездамі на розныя паседжанні, сімпозіюмамі, трэнінгамі. Помню свой экзамен па арганізацыі аховы здароўя. Калі запытаў у бацькі, ці павінен здаваць іспыт у аднаго з асістэнтаў, пачуў: " Не будзем рабіць з гэтага камедыі". Экзамен бацька прымаў у мяне і яшчэ двух калег. Я атрымаў чатыры.

У перыяд перад магістратурай бацька выглядаў стомлена ад заняткаў і меней, чым раней быў зачараваны працай. Гэта магло стацца пад уплывам шматгадовага падвышанага ціску крыві. Акрамя таго, бацька многа разоў наракаў на занадта вялікую палітызаванасць вучэльні і тых дысцыплін, якія выкладаў. Таксама скептычна ацэньваў што раз большую колькасць лекараў, якія праходзілі спецыялізацыю па арганізацыі аховы здароўя. Лічыў, што большая частка з іх ставіцца да спецыялізацыі, як магчымасці падняцца па лесвіцы кар'еры. З гэтай прычыны болей энергіі аддаваў заняткам сацыяльным. Напрыклад, быў старшынём у кіраўніцтве Чырвонага Крыжа, быў адным з заснавальнікаў некалькіх беластоцкіх аддзелаў навуковых таварыстваў, кіраўніцтва і арганізацыі, гігіены і іншых.

Пасля выхаду на пенсію вёў даволі памяркоўны стыль жыцця. Многа чытаў: пераважна сваю ўлюбёную польскую і расейскую класіку. "Войну и мир", "Воскресение" перачытваў па некалькі разоў, заўсёды ў рускім арыгінале. Вельмі любіў перачытваць Віктара Гюго, Сянкевіча і Пруса. Да канца жыцця цікавіўся падручнікамі інтэрнатуры па меры іх з'яўлення. Шпацыраваў; заўсёды з парасонам, які адначасова служыў як кіёк. Стараўся трымаць "фасон". Калі здаралася неабходнасць спыніцца, бо меў перамежную кульгавасць, прыпыняўся перад выставай, як бы меў да яе цікавасць. Заўсёды сцвярджаў, што лекарам нельга выказваць сваю слабасць. Дома ставіўся з павагай і прыязнасцю да нявесткі Ані (ці не з большай, чым да мяне). А ўнучка Ася спадарожнічала яму на шпацыры. Пасябраваў з трохгадовым праўнукам Яцкам.

Канец жыцця патрабаваў цярпення. Некалькі апошніх месяцаў быў вымушаны правесці ў ложку, бо зламаў шыйку сцегнавой косткі. Мужна пераносіў жахлівыя атакі болю і праявы надмернага ціску (гіпертэнзіі). Заўсёды ўсміхаўся людзям, якія прыходзілі яго адведаць. Перад кожным візітам прасіў свежую піжаму. Апекавалася бацькам мама. Была выдатная. Нават дасведчаная медсястра не магла б зрабіць гэтага лепей. Пра смерць бацька ніколі не гаварыў. Думаю, што так ён нас аберагаў. Памёр ясным кастрычніцкім ранкам.

*Пераклад Галіны Лаўрэш.*

**Ежы Путрамант**

# ПАЎВЕКУ

## *Вайна**

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

### Вясна, лета, восень

Вясна ў Куйбышаве была д’ябальскі кароткай. У красавіку яшчэ маразы. Першага траўня сонца. У канцы траўня гарачыня, страшныя вятры, пыл, зелень ужо пашарэла.

Паромам ездзілі на пляж на тым беразе. Рэчка цудоўная. Горад за ёй вырастае, і ўжо не відно яго слабасцяў, бачыцца толькі размах, высокія дамы, высокія таполі, маляўнічыя драўляныя дамкі на абрывістым беразе.

Летам прыехалі Ванда з Карнейчуком. Атрымалі месяц адпачынку. Здаецца, былі на размове ў Сталіна, які прасіў іх пра нешта на тэму вайны. Сядзелі месяц пад горадам, амаль нябачныя, абое страшна працавалі.

У выніку Карняйчук зрабіў п’есу “Фронт”, нейкім чынам адлюстраваўшы вясенняе харкаўскае наступленне, што закончылася страшнай паразай. Сутнасцю п’есы ёсць супрацьпастаўленне саманадзейным, крыклівым, бяздумным генералам новых кіраўнікоў, якія патрапяць вырачыся шаблону ў імя вышэйшага сэнсу: непазбежнасці перамогі. Праблема вельмі цікавая, важная, у той час пякельна гарачая. У Чырвонай Арміі хапала генералаў, якія выслужыліся падчас грамадзянскай вайны, але не разумелі яе розніцы з вайной сучаснай, тым часам дзякуючы сваім заслугам доўга яшчэ кіравалі і звычайна вельмі высока. “Фронт” ігралі тады на многіх сцэнах, і ён безумоўна спрычыніўся да змены стылю кіраўніцтва, якую ў тым годзе праводзілі ў арміі.

Ванда зрабіла “Вясёлку”. Вялікая аповесць на працягу аднаго месяца! Была гэта першая аповесць пра нямецкую акупацыю. Напісаная без асаблівага доседу, затое з велізарным запалам. Яе хібы вынікалі з поспеху: была расцягнутая. Вядома, калі няма часу, пішацца хутка, але расцягнута. Бо больш часу забірае скарачэнне, а не пісанне. Довад: сучаснае.

Але кіжка таксама адыграла велізарную ролю. Зрабілі з яе фільм, які абышоў увесь свет. Зрэшты і кніжку пераклалі на дзясяткі моваў. Вядомасць Ванды звязана з гэтай кніжкай і фільмам як найцясней.

Прыйшла восень. У адну з нядзель пайшлі мы з Грэгары і Рафалоўскім на далёкі шпацыр. Восень была прыгожая, нагадвала нашую. Неба ясна-блакітнае. Залатыя таполі над Волгай. Патрапілі ў “Парк культуры і адпачынку”, закладзены, як здаецца, некалькі гадоў таму назад вышэй ад горада. Наваколле цудоўнае, памеры вялікія. Трохі псавалі выгляд розныя павільёны, ужо досыць абадраныя, розныя гіпсавыя піянеркі з прывітальна паднятымі рукамі, якія таксама ўжо рассыпаліся. Нікога ў парку! Нічога дзіўнага, увесь горад працуе, нядзель няма!

Толькі мы, восень, дрэвы, сонца, гэтыя руіны. Ходзім як бы па рэштках загінуўшай культуры. Нічога не здарылася падчас гэтага шпацыру, але той настрой, неба, залатыя таполі памятаю, хоць пра столькі рэчаў больш важных не засталося ў галаве ні следу.

У рэдакцыі мы перажылі грозную трывогу. Карэктарскія памылкі трактавалі ў той час з вялікай падазронасцю: ці не палітычны падкоп. Таму карэктуру рабілі па некалькі разоў, і акрамя спецыяльных карэктараў кожны з нас праглядаў гранкі.

І вось аднойчы нехта заўважыў у выдрукаваным ужо накладзе страшную рэч. У апошні момант далі ў нумар апублікаваныя якраз адказы Сталіна на пытанні замежнага карэспандэнта. І вось у прозвішчы Сталіна акурат трапілася памылка!

Усіевіч прыняла гераічнае рашэнне: друкаваць нанава сапсаваную ўнутраную “чацвёрку”. А потым уся рэдакцыя сядзела цэлы дзень, адкідвала ўнутраныя старонкі і ўкладвала свежа надрукаваныя. Некалькі тысяч накладу мы зрабілі нумар за нумарам.

Недзе ў той час памёр раптам наш лінатыпіст, Ёчыс. Быў гэта стары знаёмы Ванды і Бранеўскай, суўдзельнік барацьбы СПН (Саюза польскіх настаўнікаў) супраць санацыйнага камісарскага ўрада. Хавалі яго на мясцовых могілках за горадам. Памятаю пагорачкі поўныя крыжоў і надмагілляў амаль без дрэў.

Маю фатаграфію саратаўскага радыёмітынгу. Злева першы сядзіць Юльян Брун. Стаіць каля яго Ёчыс. Пасля яго смерці паказаў гэта іншым: глядзіце, па чарзе, як на здымку. Пасля Бруна - Ёчыс! Потым прыблізна на чатырнаццаць гадоў пра тое забыўся. Аж у студзені 56 - Грош! Якраз Грош на здымку наступны...

### Рэха Сталінграда

Восень зноў пачыналася фатальна. Немцы дайшлі да Каўказа. Пад Сталінградам ішла страшэнная бітва. Часам адтуль прыязджалі людзі, распавядалі.З Саратава прыехала частка польскай радыёрэдакцыі. Ужо і там адчуваўся жар...

*Пераклад з польскай Станіслава Судніка паводле **Jerzy Putrament. “POL WIEKU. Wojna.”** (Том 2 тэтралогіі), Czytelnik, Warszawa, 1962.

Мы разумелі значэнне той бітвы. З раніцы першае - гэта былі зводкі. Былі пастаянна нядобрыя. Контрнаступленне пад Ржэвам правалілася. Няцяжка было зразумець, што і вераснёвыя савецкія ўдары паміж Донам і Волгай не прынеслі палёгкі абаронцам горада. Зноў немцы пачыналі падавацца неперáможнымі.

Дзіўная гісторыя здарылася ў звязку з Бранеўскай. Мы часта сустракаліся ў Усіевіч. Іхні даўні суразмоўца, Прушынскі, захварэў і выехаў з Куйбышава. Сядзелі ўдзвюх і медытавалі над сітуацыяй на фронце. Было гэта 22 кастрычніка. Бранеўская раптам зрываецца: закладаемся, што на працягу месяца адбудзецца нешта страшна радаснае! Усіевіч заклад прымае.

Ідзе месяц. 6 лістапада - чвэрць стагоддзя Кастрычніцкай рэвалюцыі ў такіх смутных акалічнасцях! Ідзём на ўрачыстую частку. Даклад чытае Вышынскі. Потым, бадай, ці не прапрэм'ера шастаковічавай ленінградскай сімфоніі. Нічога не разумею ў музыцы, а між тым і ў мяне скура мярцвее, калі пачынае нарастаць той марш драўляных палачак...

Назаўтра прамова Сталіна. Зноў чуем адну фразу для запамінання: будзе свята і на нашай вуліцы... Ніхто не памятае, што леташняе прадказанне не спраўдзілася, што той "годзік" прынамсі мінуў...

Ужо зіма. Тут жа перад святамі прыйшоў мароз, потым сыпнула снегам. Вострыя вятры са стэпаў, перамёты на вуліцах, якія вядуць да Волгі.

Дваццаць другога лістапада. Сядзім у халодным пакоі нашага "Нацыяналя". Раптам адзываецца гучнагаварыцель. Урачысты голас Левітана, таго самага, які папярэджваў у Маскве пра налёты. Цяпер гаворыць вольна, грунтоўна.

"В последний час" - "З апошняй хвілі":

Звесткі пра акружэнне арміі Паўлюса.

Свята на нашай вуліцы. Мы шалелі ў рэдакцыі. Асабліва трыумфавала Бранеўская - выйграла свой заклад за некалькі хвілін да тэрміну. Дазваляла сабе намёкі на тэму ўласнай повязі з надпрыроднымі сіламі. Можа, гэта і праўда.

Цяпер два з паловай месяцы мы жылі Сталінградам. Былі яшчэ прыступы неспакою: калі Маншэйн рушыў з паўднёвага захаду і дайшоў аж да Кацельнікава.

Але якраз у тую хвілю адбыўся другі па чарзе савецкі ўдар з-над Дона на Растоў, пагражаючы самой базе наступлення Манштэйна. Не толькі спроба вызвалення фон Паўлюса правалілася, але немцы пабеглі з усяго Паўночнага Каўказа.

У мяне захавалася карта, якую я сам рабіў у той час. Дзень у дзень занатоўваў на ёй вызваленыя мясцовасці. Пісаў артыкулы са стратэгічнымі аналізамі. Уся аперацыя падавалася мне закончаным творам стратэгічнага мастацтва, параўнальным, калі гаварыць пра абдумванне цэласці, з сімфоніямі ці вялікімі аповесцямі. Толькі пазней удзельнікі баёў расказалі, колькі ў тым - як ва ўсякай вайне - было імправізацыі і якіх нялюдскіх высілкаў вымагаў кожны крок той сапраўднай ваеннай сімфоніі.

Калі пачалося дабіванне арміі Паўлюса, мы здавалі сабе справу, што лёсы вайны вырашаныя. Гэта значыць - мы ні хвілю не сумняваліся, што Гітлер будзе разбіты. Можа, пару дзён, уцякаючы з Масквы, мяне наведваў кашмар мажлівасці перамогі Гітлера, але і тады я яму супраціўляўся...

Цяпер падавалася, што гэта канец. Я цалкам сур'ёзна разлічваў на крах гітлераўскай імперыі. Памылка мая палягала на недаацэнцы той вобласці, у якой працаваў, г зн. прапаганды. Разлічваў цяпер, што кожны немец зразумее непазбежнасць паразы і таму адмовіцца падпарадкоўвацца...

Тым часам яны не зразумелі. Дакаціліся да вяртання ў рэйх, а перад вачыма іх мільгала надзея перамогі.

Канешне, выдатна арганізаваная паліцэйская сістэма таксама адыграла ў тым сваю ролю. Хутчэй дзівосным у той антылюдскай нямецкай вытрымцы падаецца мне ўдзел рэсурсу не Гімлера, а Гебельса. Але і тая вытрымка пачынала хістацца.

Недзе ў лютым заскочыў да нас на пару дзён Галан. Пасля нашага выезду з Саратава і ён адтуль рушыў, здаецца, як франтавы карэспандэнт. Быў цяпер на лініі трэцяга па чарзе савецкага ўдару - з-пад Варонежа.

Распавядаў, як гэта выглядала. Стаяла тут венгерская армія. Здаецца, нямецкае кіраўніцтва само пачало адварот з-за савецкіх наступленняў на поўдні. Але ў ходзе таго адвароту аказалася яна пад савецкім ўдарам.

Былі там страшныя снягі. Дарогі - гэта былі амаль тунэлі паміж велізарнымі белымі сценамі. Галан бачыў месца, дзе адступаўшыя калоны дагнала група савецкіх танкаў. Звярнуць з дарогі было немагчыма. Гэта была адна каша - аўтамабіляў, вазоў, коней - і людзей...

Першы раз пад Сталінградам немцы пачалі масава здавацца ў палон. Датуль ў савецкай статыстыцы захоўвалася прапорцыя палонных і забітых - як адзін да дзесяці. Цяпер абедзве тыя лічбы зраўняліся, і нават першая пачала пераважаць.

Цяпер пасля Варонежа ў палон пайшлі дзясяткі тысяч венграў. Савецкі бок быў заспеты знянацку масавасцю з'явы, не падрыхтаваны быў да яе памераў. У існых лагерах ваеннапалонных узнікла цесната. Распавядалі, што цэлыя дывізіі, напрыклад, румынскія, складвалі зброю над Донам і ішлі пад кіраўніцтвам уласных афіцэраў у палон - не пад савецкім канвоем, бо не хапала людзей, а толькі з праваднікамі.

**Цяжкая і радасная зіма**

Вялікае псіхічнае расслабленне. І перад тым не бракавала нам гумору, але быў ён часта вісельны. Цяпер па-просту вярнуліся да свядомасці нармальныя, людскія страхі, прадбачанні і мары.

Новы Год быў досыць вясёлы. Сустрэлі яго ў нейкай абсалютна незнаёмай расейскай сям'і, потым былі ў некага з працаўнікоў Інфармацыйнага Бюро.

Адразу потым новая хваля марозаў. У "Нацыяналі" не працавала ацяпленне. Можна сабе ўявіць, як

пачуваешся ў пакоі, калі за акном даходзіць да 49 градусаў марозу.

Выратаваў мяне Грэгары. Знайшоў у тым жа гатэлі цяплейшы куточак і пакінуў наш пакой. Таму я браў яго матрац і накрываўся ім зверху ўсіх коцаў (байкавая коўдра) і плашчоў. Было нават цёпла, толькі той пад'ём...

З гатэля раз на пару тыдняў нас спрабавалі выкінуць. Пачыналіся тэлефанаванні Ўсіевіч, і нас пакідалі да наступнай аказіі. Бо гатэль перастаў быць гатэлем, усё было занята такімі напаўсталымі жыхарамі, як мы.

Абедалі мы ў нейкіх сталоўках. Нейкі час я еў два абеды што дзень, бо атрымаў другі "пропуск" у сталоўку пісьменнікаў. Потым супакоіўся, было задалёка, калі глядзець на якасць тых абедаў.

Мы атрымлівалі шмат хлеба - апрача нармальнага карткавага - яшчэ дабаўкі з улікам працы ў рэдакцыі, сяброўства ў Саюзе пісьменнікаў, яшчэ, бадай, нечага. Праз нейкі час нешта парушылася з дастаўкамі. Акрамя чорнага хлеба давалі толькі чырвоную ікру. Гэта страшная рэч, ікра, калі яна - не закуска, але ўсё...

Грэгары захаваў пропуск у "Гранд", дзе ў рэстаране сталаваліся дыпламаты. Прыносіў часам пару канапак...

Дыпламаты! Я не выносіў гэтай прафесіі. Яшчэ перад вайной радзіўся ў мяне кароткі, але страшна пагардлівы верш на гэтую тэму. Тут бачыў іх у першы раз на ўласныя вочы.

Такі, напрыклад, амбасадар тагачаснай Балгарыі! Як вядома, Балгарыя далучылася да Гітлера, але вайны Савецкаму Саюзу не аб'явіла. Ад часу да часу моцна бэсцілі яе ўрад у "Праўдзе". Але гэты амбасадар сядзеў сабе ў Куйбышаве.

Неяк іду па вуліцы больш-менш з прыватнай забудовай. З ладнага доміка выходзіць нейкі насуплены тып з чорнымі брывямі. Ледзьве выйшў - некалькі зявак, якія стаялі сабе тут і там, адразу рушылі за ім, можа пяць метраў ззаду. І так ідуць, ён наперадзе, нахілены, рукі трымае за спіной, з-пад ілба глядзіць на кожнага сустрэчнага. Яны ззаду, цалкам недвухзначна аглядаюць кожны яго крок, кожны рух рукой, пагляд.

Хвіліну не разумею. Каля дома таблічка. Якраз амбасада балгарскага цара.

Пасля ад'езду Прушынскага перарваліся кантакты рэдакцыі з "лонданцамі". Зрэшты выхад андарсаўцаў з Савецкага Саюза ў акрэсе бітвы за Сталінград звёў ролю "лонданскай" амбасады да вельмі сціплых "рэпрэзентацыйных" абавязкаў.

Увесь наш дзень уласна займала рэдакцыя. Мы сядзелі ад рання ў нашым высокім пакоі. Вярбоўскі сварыўся з Лямпам за кожны знак прыпынку свайго артыкула. Бранеўская шапталася пра нешта з Усіевіч. Ендрыхоўскі выпісваў лічбы на шматку паперы. Я праглядаў "Вялікую Савецкую Энцыклапедыю"... Канешне, гэта ўсё "ў хвілях вольных ад заняткаў".

"Саўінформбюро" арганізавала шахматны турнір для сваіх працаўнікоў. Мы бралі ў ім удзел. Неяк прыйшоў сам грасмайстар Ліленталь, венгр, эмігрант, рабіў з намі сеанс адначасовай гульні. Вельмі хутка я сваю партыю прайграў, хоць уласна атрымаў з рук таго ж Ліленталя пасведчанне прысуджэння мне III шахматнай катэгорыі (о, невысокая ступень).

Я наогул то цікавіўся шахматамі. Уласна ў Куйбышаве быў арганізаваны шахматны чэмпіянат СССР. Хадзіў на той чэмпіянат, бачыў д'ябальскі маладога высокага рыжага Смыслова, прыстойнага літоўца Мікенаса, круглатварага Алаторцава. Углядаўся ў інфармацыйную табліцу. Не ўмеў і не ўмею аналізаваць шахматныя партыі, ацэньваць сітуацыі, прадбачыць пераможцаў. Шахматная партыя разглядаецца мной як мініяцюрная драма, калі паўтараў партыі чэмпіёнаў, стараўся не глядзець, хто выйграў, каб перапетыі драмы трымалі мяне як найдаўжэй у няпэўнасці...

Недзе перад зімой прыехалі ў Куйбышаў некалькі працаўнікоў польскай рэдакцыі саратаўскага радыё на чале з Ежы Панскім. Іх часова размясцілі ў нейкай клубнай зале. Панскі са сваёй мілай, у два разы ніжэйшай за яго жонкай атрымалі прывілеіванае месца: на сцэне. Яго прыезд развязаў пэўны таварыцкі клопат: аказаўся чацвёртым для брыджа.

Больш маляўнічым за яго быў трэці: шахматны грасмайстар Левенфіш. Быў гэта адзіны вядомы мне жыхар Краіны Саветаў, які намагаўся гуляць у брыдж. Ішло ў яго з цяжкасцю, з усёй практыкі меў трохі гульні ў вінта, яшчэ перад рэвалюцыяй. Гаварыў, канешне, па-польску, паходзіў з Любліна. Быў страшна нярвовы, чуць што, адразу крычаў. А што пра гульню паняцце меў вельмі смутнае, тое "чуць што" было гарантавана.

Мы сядзім на сцэне, тусклая лямпачка над столікам. Поўна шырмачак, за імі храпуць дзейныя польскія працаўнікі куйбышаўскага радыё, а тут гэты Левенфіш крычыць:

- Як пан ходзіць? За каго пан мяне мае?
- З-пад караля не ходзіцца, грасмайстар...
- Як гэта не ходзіцца, у нас заўсёды...
- Але тут брыдж, грасмайстар...
- А, то выбачаюся.

**Канец Куйбышава**

Мусіла быць ужо вясна, калі мы рушылі з Куйбышава. У кожным разе Волга рушыла перад намі. Памятаю хмуры ранак. Іду вуліцай, паралельнай рацэ - і праз кожныя некалькі дзясяткаў метраў ударае ў мяне хваля шумоў і скрыгатаў - якраз мінаю вулачкі, якія збягаюць да Волгі. Сыходжу ўніз. Гіганцкая рака поўная ў асноўным акруглых кавалкаў крыг. Усё гэта віруе, скрыпіць, сутыкаецца паміж сабой, у галавакружным тэмпе ляціць уніз. У галавакружным - даслоўна. Дастаткова на гэта даўжэй паглядзець, і ўсё пачынае круціцца ў вачах.

Некалькі нумароў таму назад мы змясцілі ліст аднаго з чытачоў, Т. В.*, які заклікаў тых, хто не ўцёк, да стварэння польскай дывізіі, якая б разам з Чырвонай Арміяй узяла б удзел у дабіванні гітлерызму.

Праз пару тыдняў пачалі прыходзіць новыя

* Альфрэд Тадэвуш Вісліцкі, пазнейшы афіцэр I дывізіі.

лісты. Ініцыятыва Т. В. знайшла шырокую падтрымку. Мы друкавалі тыя лісты спачатку без каментароў, але ў сталай, што раз больш абшырнай рубрыцы.

Сама ідэя мела ўжо свае прэцэндэнты. У шэрагах Савецкай Арміі змагалася пару латышскіх дывізій. Сфармавана літоўская дывізія, куды ў санітарны батальён былі накіраваны Ежы Стахельскі і яго жонка, Ірэна Дзявіцкая, якія пасля ўцёкаў з Вільні трапілі ў гарадок Мензялінск у Татарскай АССР, а цяпер як віленцы былі мабілізаваныя ў гэтую дывізію.

З другога боку ў СССР была сфармавана чэхаславацкая частка, адразу, здаецца, батальён, потым брыгада. Яна якраз цяпер узяла ўдзел у баях пад Харкавам. Тут зноў немцам удалося затрымаць залішне далёка высунутыя савецкія аддзелы, якія змагаліся ўжо пад Днепрапятроўскам. У сакавіку 43 года было апублікавана першае пасля лістапада непрыемнае камюніке - пра здачу Харкава, а потым Белгарада. На шчасце гэта не мела ніякіх больш сур'ёзных вынікаў. Быў гэта толькі эпізод, які закончыў выдатную зімовую кампанію, распачатую пад Сталінградам.

Так, але аналогіі з тымі нацыянальнымі аддзеламі не былі простыя. Латышскія і літоўскія - гэта былі войскі, якія складаліся з савецкіх грамадзян і нічым акрамя нацыянальнасці пераважнай часткі жаўнераў не адрозніваліся ад іншых аддзелаў Чырвонай Арміі. Чэшскія - гэта, наадварот, былі аддзелы чужыя, падпарадкаваныя свайму эміграцыйнаму ўраду, які сядзеў у Лондане.

У нашым выпадку справа была нялёгкая. Быў эміграцыйны лонданскі ўрад, меў яшчэ сваю амбасаду ў Куйбышаве, але яго стасункі з савецкімі ўладамі былі што раз больш нацягнутыя. Ніхто з нас, зрэшты, не лічыў яго за "свой" урад і ні ў якім выпадку не жадаў сабе мець з ім дачыненні.

У гэтай фармальна нялёгкай сітуацыі вялікую - хоць не па сваёй волі - дапамогу справе фармавання Першай дывізіі, а потым Першай арміі аказаў спачатку Андарс, потым увесь лонданскі ўрад.

Вывад арміі Андарса з Савецкага Саюза, быў непазбежнай уступнай умовай хоць якіх мараў пра польскія фармаванні - левыя, народныя - у Савецкім Саюзе. Андарс вельмі прыймальна аказаў нам гэтую паслугу. Канешне, не прадбачачы яе вынікаў. Але на лішак здольнасцяў прадбачання ніхто з "лонданскіх" дзяржаўных мужоў не мог паскардзіцца.

Довад: другі іхні стратэгічны кірунак - Катынская справа. Я не маю ніякіх асаблівых матэрыялаў па той справе, але нават дзіця мусіла разумець усе імплікацыі, якія ўтрымлівала пазіцыя лонданскага ўраду, які дэ факта прымаў на веру сведчанні боку, які з ім ваяваў, і адкідваў сведчанні свайго саюзніка.

Не памятаю дакладных датаў. Ва ўсякім разе недзе ад сакавіка 43 года падзеі пайшлі хутка. Яшчэ ў Куйбышаве мы атрымалі знянацку першы нумар "Вольнай Польшчы". Яшчэ быў нехта з лонданскай амбасады, убачыў Бранеўскую і з'едліва працадзіў, тыкаючы пальцам у падзагаловак "Орган Саюза польскіх патрыётаў":

- Можа, прафсаюза?

А яшчэ перад тым, на самым пачатку "Новых гарызонтаў", мы друкавалі звесткі пра ўзнікненне ў краі Польскай рабочай партыі, пра паседжанне Краёвай нацыянальнай рады, пра дзейнасць Народнай гвардыі, а потым Народнай арміі. Гэта было вельмі далёка, звестак мы мелі мала, прыходзілі яны са спазненнем, былі скупыя. Маючы пэўнае паняцце пра гітлераўскі тэрор, калі раздумваў пра тых невядомых мне людзей, якія гэта ўсё там рабілі, адчуваў цалкам канкрэтна, як мне дрыжыкі хадзілі па спіне.

Прызнаюся: я не ўмеў у той час уявіць сабе ўсе, такія блізкія перспектывы разрастання гэтых яшчэ сціплых сілаў. Таксама і ў "Саюзе польскіх патрыётаў" адразу не разгледзеў яго буйнай будучыні на працягу найбліжэйшых месяцаў.

Па просту першая рэакцыя была чыста прафесійная: як часопіс зроблены. Не падаваўся мне добрым. Сапраўды быў больш жывы за наш, хутчэй газетны, але ўжо на самым пачатку ўдарала мяне яго залішняя ўрачыстасць. Адразу ў тым была толькі спецыфіка яго галоўнага рэдактара, бо пры наступным, Ежы Барэйшы, вельмі ажывіўся. Але наогул ўрачыстасць, ба, гэта здаецца неўнікальны атрыбут усялякай улады, незалежна ад ладу...

Незадоўга пасля гэтага прыйшло рашэнне - увесь часопіс вяртаецца ў Маскву. Падарожжа арганізавалі дасканала, без "цяплушак" і перасадак. Недзе ў красавіку 1943 года мы зноў убачылі Маскву.

**Зноў Масква**

Быў гэта іншы горад, чым каля двух гадоў таму назад, суровы, з заціснутым поясам. Крамы голыя, рэстараны пазамыканыя, у кіёсках толькі газеты. Амаль усё было на картачкі. Толькі на Горкага прадстаўніча шчэрыў вітрыны вялікі "Кактэйльхол", як стаяла на шыльдзе. Каля яго вялізарныя чэргі. Сам гэты факт дзейнічаў узнёсла. Аднаго дня стаў і я.

Чакаў гадзінку. Потым чарговую дзясятку ўпусцілі ў сярэдзіну. Тут чыста, цёпла, пры бары прыстойныя дзяўчаты. Можна было замовіць, што хочаш. Гэта значыць, адзін з больш, чым дзесяці гатункаў кактэйлю. Потым другі, трэці, здаецца, аж да паўтузіна. Дасціп палягаў у тым, што не было ніякіх закусак. З сабой прыносіць таксама было нельга. Таму людзі пілі тыя пару кактэйляў і выходзілі, як гаворыцца, на брывях.

Выпіў адзін і выйшаў, хутчэй расчараваны. Не быў той кактэйль добрым, хоць быў д'ябальскі аўтэнтычным.

У той час з харчамі і ўсякімі матэрыяльнымі выгодамі было вельмі кепска. На тым фоне здарылася гісторыя, расказаная Вандай, будучы сваёй сучаснай версіяй казкі "Сезам, адчыніся".

Адзін савецкі пісьменнік змясціў у прэсе вельмі добрае апавяданне. Праз пару дзён выклікаюць яго ў Крэмль. Ідзе да сакратара Сталіна, не вельмі ведаючы, трэсціся са страху ці з радасці.

Але сакратар прымае яго добра.

- Ваша апавяданне вельмі спадабалася гаспадару, - кажа. - Даручыў мне паразумецца з вамі, даведацца, як вам жывецца, у чым можна вам дапамагчы.

Пісьменнік дзякуе. Жывецца яму, от, як на

вайне.

- Гаспадар даручыў вас прэміяваць, - гаворыць сакратар і ўручае пісару канверт.

- Ну, а наогул? Як жывяце? Як з харчаваннем?

Пісьменнік паўтарае: як на вайне. Сакратар бярэ блакноцік, нешта піша.

- Вось аднаразавы пропуск у “закрыты размеркавальнік” (“магазін за жоўтымі фіранкамі”). Ідзіце туды...

Пісьменнік у захапленні выбягае з Крамля. У свой пакой у гатэлі “Масква” склікае найбліжэйшых прыяцеляў. Потым бяжыць у “размеркавальнік”.

Заходзіць і вачам сваім не верыць. Там усяго па горла. Кансервы, мяса, птушка, слодычы, садавіна. Ужо кіруецца туды, калі бачыць... працёр вочы... цэлая сцяна ў каньяках.

Нясмела падходзіць.

- Ці можна бутэлечку?

- Калі ласка, - гаворыць прадавачка.

Бяжыць з квітком у касу. Напаўдарогі спыняецца, задумваецца, вяртаецца:

- А дзве?

- Калі ласка

Робіць крок - і новая думка працінае яму свядомасць.

- Прабачце, а тры?

- Але, калі ласка, хоць бы дзесяць...

- То, калі ласка, шэсць!

Хапае тыя шэсць бутэлек, прыцiскае да чэрава, бяжыць у гатэль “Масква”. Заскаквае ў пакой. Прыяцелі цярпліва чакаюць. Вывальвае ўсе бутэлькі, глядзіць на іх з гонарам. Яны без захаплення:

- А закуска?

Хапаецца за галаву. Пропуск аднаразавы...

Мы з Грэгары пасяліліся ў гатэлі “Гранд”, прыбудоўцы “Масквы”. Акно выходзіла на Манежную плошчу. Пакой быў вялікі, добры, выгадны. Калі Грэгары лятаў па бібліятэках, я сядзеў у пакоі і нават намагаўся пісаць аповесць.. Мела гэта быць нешта ў родзе далейшага працягу “Рэчаіснасці”, са Стахам Максімовічам у галоўнай ролі. Я думаў пра яго часта, што з ім сталася? Ніякіх звестак хоць пра каго з краю. Як адцятае сякерай, усё дарагое, што на тым баку...

Але гэта не была “Рэчаіснасць”. Пісалася цяжка. Не ўмеў зрабіць плану. Нарэшце застапорыўся пасля некалькіх старонак...

Рэдакцыю размясцілі пры “Дзяржлітвыдаце”. Прыйшло пару новых працаўнікоў. Саюз польскіх патрыётаў пачынаў набіраць арганізацыйныя формы. На Марасейцы праз квартал за плошчай Дзяржынскага, паўстала “абшчажыцe”. Калі б палічыць яго жыхароў, го, го...Жыло там з дзесяць ці дванаццаць сямей у дзесяці пакоях...

**Ёсць рашэнне...**

Вясна была ранняя і сонечная. На фронце дзеянні замерлі, але ў палітыцы набралі тэмп. Абвешчана аб разрыве дыпламатычных адносінаў паміж Савецкім Саюзам і ўрадам Сікорскага.

А мы ўжо некалькі тыдняў чакалі на вынік прановы савецкім уладам у справе стварэння дывізіі.

Васемнаццатага красавіка мы былі вечарам у Ванды. Яна жыла ў тым самым “Урадавым доме” на Серафімовіча, што і Ўсіевіч, толькі ў іншым блоку. Сядзелі, размаўлялі пра глупствы, было нудна.

Раптам тэлефон. Ванда выходзіць у суседні пакой. Чуем яе адказы па-расейску: “Так, так..., так... Заўтра а першай. Так. Разумею. Ну, так, канешне. Разумееце, што гэта для мяне значыць...”

Вяртаецца. Змянілася. Мае твар збянтэжанага дзіцяці.

- Ёсць рашэнне.

Маўчым з паўхвіліны. Устаю, хістаюся, падыходжу да яе, цалую ў шчаку. Нас пачынае агарнаць пранізлівая радасць. Выходзім з кружэннем галавы як пасля п’янкі.

На наступны дзень канешне п’яныя і нявыспаныя. Зноў у Ванды. Дыскусія на тэмы нібы канкрэтныя. Як з назвамі званняў? Ёсць такія, якія лічаць, што павінны застацца “яфрэйтары” і “старшыны”, бо “статут Чырвонай Арміі...” Наогул, мы яшчэ не ведаем праўнага статусу гэтай дывізіі. Я гарлапаню за “старшага шарагоўца” і “старшага сяржанта”. Грош бароніць “старшыну”. Большасць за яго.

Справа прысягі. Такая самая дыскусія, і таксама розніца думак.

Зноў тэлефон. Невядомы размоўца пытае Ванду, ці не лепей было б, каб дывізія была палітычна падпарадкавана СПП?

Дыскусія гасне. Праз хвілю тыя ад “старшыны” становяцца зацятымі прыхільнікамі “старшага сяржанта”...

Ужо пару дыдняў курсавалі сярод нас весткі пра нейкага высокага афіцэра з арміі Андарса, які адмовіўся ад выезду на Блізкі Ўсход. Ванда нарэшце робіць невялікі прыём. Прыйшло “іх” трое. Высокі, лысы, трохі падобны да Рыдз-Сміглага палкоўнік Берлінг. Нізкі, дабрадушны паручнік Юшкевіч. Нарэшце пані Марыя Міка.

Адразу настрой выключна строгі. “Абодва высокія бакі” аглядалі адзін другога з зацікаўленасцю, але і на дыстанцыі. Потым трохі выпілі - і ўсё паправілася, і рэшту ночы правялі як на нармальным інтэлегентным прыёме.

Вярталіся на світанні. Масква ў гэтую пару найпрыгажэйшая. Газоны каля крамлёўскіх муроў зялёныя і свежыя. Можа абаяльнасць таго ранку спрычынілася, каб пра новых знаёмых гаварылі як найлепей...

Потым пару тыдняў падрыхтоўчых работ. Адразу зрабіўся вакол нас тлум. Я не заўважыў, як апынуўся далёка ззаду за іншымі. Аказалася, што акрамя “Гарызонтаў” тут ёсць яшчэ колькі польскіх асяродкаў, часта значна больш сур’ёзных за нас. Не схаваю, быў вельмі пакрыўджаны лёгкасцю, з якой мяне аднеслі да “несур’ёзных”, “неўраўнаважаных”, “істэрыкаў”. Пераглядаю цяпер пару нататак з тых дзён і даходжу да высновы, што аднак было ў тым нешта слушнае. Толькі, што многія, аднесеныя ў той час да “сур’ёзных”, акзаліся на справе толькі надутымі.

*(Працяг у наступным нумары.)*

# *Найбольш значныя гістарычныя выданні апошняга часу*

У выдавецтве “Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі”, г. Менск, выйшла кніга “Францыск Скарына - чалавек свету” ў трох частках. Частка 1. 128 ст. Наклад 500 асобнікаў.







У Менску ў выдавецтве “Беларусь” выйшла кніга Анатоля Клышкі “Францыск Скарына, альбо Як да нас прыйшла кніга”, 160 ст. Наклад 1300 асобнікаў.




У выдавецтве “Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі”, г. Менск, выйшла кніга “Спірыдон Собаль і вытокі магілёўскага кнігадруку”, 248 ст. Наклад 800 асобнікаў.







У выдавецтве “Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі”, г. Менск, у серыі “Асветнікі Беларусі” выйшлі кнігі “Ефрасіння Полацкая, Кірыла Тураўскі, Францыск Скарына”, 72 ст. Наклад 1200 асобнікаў.
“Сымон Будны, Васіль Цяпінскі, Ігнацій Пацей”, 72 ст. Наклад 1500 асобнікаў.




У Менску самвыдатам выйшла кніга “100 асобаў Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі”, 232 ст., наклад 299 асобнікаў.




У Менску ў выдавецтве “ARCHE” выйшла кніга Аляксея Кібіня “Ад Ятвязі да Літвы. Палітычныя і сацыякультурныя трансфармацыі ў басейне Верхняга Нёмана ў X - XIII стагоддзях”, 336 ст., наклад 750 асобнікаў.



**Калона Святога Рафаіла ў двары Жырмуны Лідскага раёна.**
*Здымак прадстаўлены А. Колышкам, 2016 г.*